ЯНКА БРЫЛЬ

# Вячэрняе

Лірычныя запісы і мініяцюры

*Мінск*
*«Мастацкая літаратура»*
*1994*

# СВАЕ СТАРОНКІ

*Да творчай аўтабіяграфіі*

*Сабраныя пад такою назвай запісы, пачынаючы з 1977 года, друкаваліся ў перыёдыцы, уваходзілі ў мае кнігі, у найстражэй прасеяным мною выглядзе — у трохтомнік «Выбраных твораў».*

*Тут прапануецца тое з запісаў, што ў пераважнай большасці ў свой час не пабачыла свету з меркаванняў, ад аўтара незалежных.*

## 1956

Работа гэта ці не, няхай сабе невялікая, але добрая, справа ці не, што я сяджу ў глухой нарачанскай вёсцы і, пакуль навокал ідзе барацьба за хлеб, перакладаю яшчэ адну кнігу на мову, якая — згодна меркавання многіх — асуджана самім жыццём на ціхую, натуральную смерць?..

Хочацца верыць, і веру, што справа, якую раблю, патрэбная. Нашу цярплівасць мужыцкую і нашу светлую веру падтрымаў нядаўна Ленін, голас якога ў гэтым пытанні камусьці трэба было хаваць ад народа. Днямі прачытаў «К вопросу о национальностях или об «автономизации» і цяпер, разам з многімі, чакаю пленума ЦК партыі па нацыянальным пытанні, пленума, які, бясспрэчна, павінен быць ленінскім. І гэтае пытанне, гэтая справа запушчана за апошнія гады, як запушчана была сельская гаспадарка.

Рыхтуючы «Избранное», сям-там зняў, выцер «культ асобы» (радасна, што ў мяне яго параўнальна мала!). У запісах — больш, асабліва ў жалобныя дні. І нельга сказаць, што я быў няшчыры тады. Не буду выціраць або вырываць

старонкі, прысвечаныя Сталіну. Шкада, што знішчыў іншыя выказванні, спалоханы правакацыйнай балбатнёй «сяброў», калі — у 1949 годзе — перапісваў, прыводзіў у парадак старыя запісы, дзе былі сённяшнія, цвярозыя думкі пра культ асобы, якія знаёмымі, маімі былі ўжо даўно.

* * *

У нашым літаратурным асяроддзі пануе атмасфера затхлай абыякавасці да лёсу сябра-пісьменніка, да лёсу літаратуры ў цэлым. Чаго варты быў адкрыты партыйны сход з дакладам Пестрака. Даклад гэты бюро рэдагавала датуль, пакуль у ім не засталіся, як аб'екты нападу, толькі тры чалавекі, якіх хвараблiва ненавідзіць дакладчык, па якіх ён з асалодаю патаптаўся... А на тых, каго з даклада бюро «прынцыпова» выкрасліла, толькі бурчаў з аглядкай, не называючы імён, стрымліваючы свой рэвалюцыйны пафас. Большасць маўчала, а некаторыя «ў асноўным згаджаліся з добрым, грунтоўным» дакладам. Броўка з вышыні свайго старшынства напаў на Адамовіча: «Закрэсліванне ўсёй (!) беларускай паэзіі!..» Бо той не пахваліў яго ў адным сваім артыкуле...

Адамовіч піша пра «Крыніцы» Шамякіна, слушна, тактоўна гаворыць пра белетрыстычную павярхоўнасць, якая сапраўды пагражае здольнаму пісьменніку. Хадкевіч невядома з якіх меркаванняў выступае ў абарону Шамякіна. Кіслік хлёстка лупцуе Хадкевіча. Шамякін і Хадкевіч лічаць сябе пакрыўджанымі. А Пестрак з усёй сур'ёзнасцю і тут, і там заяўляе, што цяпер, пасля яго даклада, уздымецца, і вось узнялася «бальшавіцкая прынцыповасць». Нудны, дробязлівы хаас, дзе найвыразней звініць струна: «Не чапайце толькі мяне!»

І ўсё крычым, таксама нудна і пошла, што з кожным новым творам... робім крок наперад у развіцці беларускай літаратуры.

А разумныя, сапраўды таленавітыя людзі стомлена маўчаць.

* * *

Пажылы, сімпатычны капітан «Победы» расказваў у музычным салоне пра наш вакол'еўропны шлях і з тонкім украінскім гумарам па-бацькоўску крытыкаваў пасажырскія непаладкі.

Перад гэтым старая «класная служыцельніца» Гардзееўна расказвала нам з Максімам[1] гісторыю свайго, вельмі нялёгкага, жыцця. Адзін сын, дый той інвалід вайны, адзін унучак, дый таго пакінула маці. З кошыка ў ванным пакоі старая марачка выняла скрыначку ад купленай мною ў дарогу аўтаручкі («это Бореньке») і хатні кавалак галандскага сыру, які пры тутэйшых харчах здаўся мне лішнім. Вучыся, вучыся і дурнем памрэш!.. Я зноў выкінуў той састарэлы сыр, які яна палажыла ў каюце на тумбачцы, а Гардзееўна потым спыталася, куды ён падзеўся і ці можна яго ўзяць... Мы ўжо наеліся, а старая кажа нам:

«Сынкі, глядзіце здароўя, бо як ты здароў, дык ты патрэбен і партыі, і радзіме. А мне вось шэсцьдзесят адзін год, член партыі з дваццаць пятага года, і ўсё працую, каб пракарміць сяк-так сям'ю, каб хоць трошкі падмацавалася пенсія!..»

* * *

Перакладчыца — наша смаленская дзяўчына, былая паланянка, што выйшла замуж за галандскага хлопца, таксама палоннага, і абгаландзілася настолькі, што ўжо на роднай мове гаворыць горш, чым па-галандску, і цыгарэтку пакурвае з еўрапейскім фасонам. Спачатку трохі насцярожвае тое, што вось чалавек і наш, як кажа, а на радзіму не вяртаецца. А потым аказваецца, што муж вельмі добры чалавек, была маладая, закахалася. Цяпер падала дакументы — «прашуся ў родную краіну, на Смаленшчыну». У Амстэрдаме, калі мы на катэрах плавалі па гавані, паміж магутнымі докамі і караблямі, перакладчыца наша, Марыя Іванаўна, зусім па-галандску перагуквалася са сваім мужам, рабочым, які махаў ёй з натоўпу чумазых сяброў,— быў абедзенны перапынак, і рабочыя глядзелі на караван нашых катэраў. Развітваючыся з намі, смалянка казала: «Да наступнай сустрэчы, таварышы, і не тут, а ў нас, у Савецкім

---

[1] Максім Танк.

Саюзе...» Перакукуе, відаць, начная зязюля, перацягне свайго галандца да нас.

Словам, складаная справа — жыццё, і добра, што мы ў апошні час пачалі больш цвяроза разбірацца ў яго складанасці. Вось і сюды прыехалі, гуляем па капіталістычным захадзе, не баючыся заразіцца...

## 1957

Два дні гасцяваў у мяне Федзя Янкоўскі, друг Валодзі Калесніка: чыталі яго кнігу беларускіх прыказак. Прыемна было, што дапамагаю добраму хлопцу ў добрай справе, хоць пасля гэтага дні два стракацела ад прыказак у вачах і ў галаве.

Узяў адрэдагаваць Карпюкоў зборнік, таксама з жаданнем дапамагчы хлопцу выйсці з пэўнага тупіка, у якім яго трымае выдавецтва, а пасля ўвайшоў усмак. Будзе добры пісьменнік, а тым часам, пакуль друкуецца шмат лухты, яго трымаюць у чорным целе.

Тут, у Каралішчавічах, было па-ранейшаму добра. Зрэдку толькі псавала настрой «сабачая філантропія»: развялі столькі сабак, што хапіла б на цэлую вёску, а кормяць іх нашы паны і пані з такой любасцю (маслам ды піражкамі), што сорамна перад простымі людзьмі. Стамляе таксама сыты, часты харч і аднастайнасць вечароў, з картамі і папяросамі. З прыемнасцю вярнуўся дахаты.

...Новая кампанія літаратурных рэваншаў, якія на стары лад прыкрываюцца «ідэйнасцю», ідзе, здаецца, на спад. Нельга ўсё-такі наступаць на варожую, замежную ідэалогію са старымі, аджыўшымі відамі зброі, а тут, у барацьбе з Дудзінцавым і яго сімпатыкамі, здорава папахвае той самай «тэорыяй бесканфліктнасці» і лакіроўкай, якія мы апошнім часам так дружна і нават самаахвярна адпявалі. Гэты стары душок даволі выразна чуваць быў і на секцыі, дзе абмяркоўваўся раман Броўкі.

* * *

«Устами младенцев...»

У доме творчасці знялі са сцяны партрэт Сталіна. Застаўся толькі цвік. Насупраць, на другой сцяне,— партрэт

Леніна. Пяцігадовая дзяўчынка глядзіць на Ільіча і кажа:
— Гэта таварыш Ленін.— Азірнулася на пустую сцяну: — А бываюць і Сталіны.

* * *

Чытаю апавяданні П. Галавача, сумяшчаючы рэдагаванне са знаёмствам з гэтым цікавым, так дзіка і незаслужана выкінутым калісьці з жыцця і з літаратуры, чалавекам і пісьменнікам.

Ледзь не стаў галоўным рэдактарам БДВ. Падкупілі «высокім даверам». А потым гэты давер пахіснуўся: тыя самыя, што ўгаворвалі мяне, перадумалі, параіліся і не асмеліліся на такі незвычайны эксперымент з беспартыйным. Дырэктар Матузаў, «як змыцканы», паведаміў мне пра такое рашэнне «біс». Я пару дзён таксама часткова адчуваў сябе «змыцканым». Як гэта ўсё ж такі несалідна! Нельга сказаць, што я вельмі перажываў: перамагала і радасць вызвалення ад непатрэбнай нагрузкі, і свядомасць, што не я паступіў брыдка, а са мною... Словам — воля і праца зноў мае.

* * *

На футболе (БССР — Бразілія) сядзеў за нямецкай маладзёжнай дэлегацыяй. Гледзячы на гэтую сытую, культурную моладзь, пасланцоў «нашай», дэмакратычнай Германіі, да болю неадчэпна ўспамінаў тых маладых немцаў, якіх у пушчы і на палях расстрэльвалі ўлетку сорак чацвёртага...

* * *

Глядзеў нядаўна ў кіно «Чалкаша» і «Мальву». Крыўдна, балюча і злосць на Горкага за яго адносіны да селяніна, якога вякамі лічылі карміцелем,— адносіны аднабокія, грэблівыя і няправільныя...

* * *

На фоне цудоўнага лета — тоўстыя дачныя задніцы на пляжы, за таўшчыню якіх заплочана вельмі дорага: народны пот, а часамі і кроў. Хацеў бы я памыляцца, але многія з гэтых чарвей столькі карысці і прыносяць чалавецтву, краіне, што пераганяюць хлеб на г., свята ўпэўненыя, што ў гэтым іменна іх вялікая вартасць...

* * *

«Сынок» напіўся, пагнаўся за «любімай» дзяўчынай; яна схавалася ў чужую кватэру; ён стукаўся датуль, пакуль не выйшла на стук паўпад'езда. «Аддайце маю дзяўчыну!..» Старому камуністу: «Ведаем, як вы змагаліся!..» На камсамольскім бюро ў інстытуце апраўдваўся: «Паколькі я нармальны мужчына, а не імпатэнт (19 гадоў), дык я павінен узяць ад жыцця тое, што мне належыцца. Хочаце — выключайце з камсамола: паглядзім, што з гэтага атрымаецца...»

Бацькі гэтага «Пячорына», кожнае па-свойму, тлумачаць, што гэта цяпер такая моладзь, што яна, бедная, не ведае, куды ёй імкнуцца, што яе не «цягне да класікі» і г. д.

Другі такі сынок, апрануты, вядома, па апошняй модзе, напіўшыся, падышоў да міліцэйскай будкі і пачаў салапіць язык паставому, лаяць яго. Той ціха пазваніў сябрам, хлопцы ціха падышлі і «наклеілі» «Пячорыну», колькі ўлезе. Крычаў: «Я буду скардзіцца!..»

* * *

Выйшаўшы з партызанскай пушчы, Ж. К. быў чыстым, наіўным хлопцам. Працаваў рэдактарам райгазеты. На баранавіцкім вакзале паважаны работнік абкома, знаёмы, папрасіў яго апекавацца ў дарозе п'яным сябрам, яшчэ больш важным работнікам. Гэта быў усемагутны Ф. Р., памочнік сакратара ЦК Гарбунова. У вагоне ён хапаў дзяўчат і жанчын за грудзі, патрабаваў гарэлкі. Дома, у кватэры, загадваў жонцы цалаваць яму рукі, з цесця-калгасніка, што начаваў праездам, садраў коўдру: «Самагону прывёз?!» А хмель прайшоў ужо ў дарозе.

* * *

У Сіняўцы, у Валодзевага[1] хроснага, пакуль смажылася рыба і потым, за чаркай, шмат гаварылі пра партызанскія справы. Павел Арсенавіч[2] са слязьмі ў вачах расказваў, як акружаны атрад сядзеў у забалочаным гушчары, а малы дзіцёнак, галодны, бо ў маці прапала малако, плакаў і нельга яго было супакоіць. Бацька, плачучы, пытаўся: можа, яго... забіць, бо ўсіх выдасць?.. А ўсе абурыліся і пачалі збіраць, што ў каго было — якая крошка для маці на малако малому...

* * *

У вёсцы няма амаль ніводнага без старой або новай мянушкі. Рыгорка П. пазней за ўсіх пайшоў у калгас. Таму, што ён адкалоўся, яго празвалі Ціта (1949 год). Цяпер Ціта рэабілітаваны. Рыгорка таксама стаў калгаснікам, але касцы ўсё роўна кажуць: «Выйшаў і Ціта — пакасіць для апяціта!»

Неяк Ціта і яшчэ адзін вясковы мудрэц, Пеця Б., сустрэліся ў Мінску, у магазіне, вечарам з нейкім, як горда кажа Рыгорка, «работнікам ЦК па паліцічаскай часці». Ён пачаставаў іх чамусьці бутэлькай віна і цукеркамі (400 грамаў), ці нават шакаладам, і раіў заставацца на працу ў Мінску, у якасці рэдакцыйнага «канфіскатара газеты номяр тры, які паследні чытае газету». «Номяр яго ціліфона ёсць у мінскім анальфабэце».

Пасля гэтага мудрацы пайшлі начаваць да Колі П., які працуе кладаўшчыком на трактарным. Той сказаў: «Не бойцеся, ён на вас аддаў 18 рублёў, а на службе дапіша да гэтых 18 нуль і палучыць з касы 180!..»

А побач з гэтай ганарлівай цемрай — моладзь, якая працуе і вучыцца ў вячэрняй школе.

* * *

Былы партызан, ненармальна няраслы С., трынаццаць гадоў пасля выхаду з пушчы раптам чамусьці расказаў мужчынам на вячорках пра сям'ю, якую ён калісьці замардаваў,

---

[1] Уладзімір Калеснік.
[2] П. А. Жалезняковіч, першы сакратар Карэліцкага РК КПБ.

на котлішчы якое, толькі новую хату зрабіўшы, ён жыве. Развітаўся, пайшоў адзін дахаты і ноччу павесіўся ў хляве...

### 1958

Брыдка мне за той час, калі не быў у партызанах, а ўсё пісаў, вельмі хацеў быць пісьменнікам... А за той, калі сядзеў у «Раздавім фашысцкую гадзіну»? «Заклікаў палкім словам»?..

* * *

Грамадаўскі герой, беларускі пасол у польскім сейме — стары Павел Крынчык многа гадоў адсядзеў у нашых турмах ды лагерах, а цяпер, рэабілітаваны, жыве ў Слоніме, у малой хаціне, трымае казу і ўсё сварыцца з жонкай. Прыехаў у Мінск, «пахлапатаць, каб тэлефон паставілі».

— Навошта ён табе? — пытаецца вясёлы сябар, таксама былы падпольшчык.

— Як навошта? А раптам хто-небудзь пазвоніць?..

Піша, заяўляе, бегае, злуецца...

— Напісалі б вы лепш успаміны,— параіў я яму.

— Правільна, трэба. Але ж няма калі з-за грамадскай работы!..

* * *

Раённы начальнік, падвыпіўшы ў гасцях:

— У мяне будзе толькі той працаваць, хто працуе на мой аўтарытэт. А не — прэч!..

Калі яму запярэчылі — пачаў спасылацца на рэспубліканскія аўтарытэты.

* * *

Ярэмічы. Лета 1941 года. Паліцаі змушалі старую, хворую яўрэйку ўзбірацца на тэлеграфны слуп... Вясковыя хлопцы, што яшчэ ўчора, здаецца, былі звычайнымі, спакойнымі, нявіннымі рабацягамі.

Яўрэйская дзяўчына, што раней вучылася з Колем Б., прыбегла да яго, хаваючыся ад гвалтаўнікоў-паліцаяў.

«Каб яшчэ хто людскі прапанаваў такое, а то... Не, лепш ужо мне памерці!..»

## 1959

У Ленінградзе праглынуў «Несвоевременные мысли», і Горкі, з яго «памылкамі», стаў мне яшчэ бліжэйшы, больш поўны, жывы і вялікі.

## 1960

Чаму я з нейкім скепсісам, недаверам, нават як быццам непрыязню адношуся да герояў?.. Сам я не быў ні героем рэвалюцыйнага падполля, ні героем вайны, цяпер таксама вельмі далёкі ад гераізму ў працы. Патрэбна толькі скромнасць, прызнанне праўды за праўду, факта за факт — і ўсё стане на сваё месца. Калісьці я пісаў, здаецца, так: як бы нізка ні трэба было апускацца, шукаючы цвёрдага грунту для фундаменту,— трэба апускацца, бо гэта і глыбіня, і самы надзейны пункт апоры — тая самая скромнасць.

Дом Франка́, яго помнік, дзе мы паклалі кветкі. Вянкі на магілы Галану, Канапніцкай, Гаўрылюку, Тудору. Глыбокая сцежка ў свежай белі, па якой мы ішлі доўгім гужам у шчырым, урачыстым маўчанні. Музей украінскага мастацтва (якая цудоўная рэч — «Мама ідзе»!..). Два канцэрты самадзейнасці. Родная мова на вуліцах, у магазінах, у кватэрах. Сустрэчы і знаёмствы з украінскімі пісьменнікамі і навукоўцамі. Усё гэта вельмі хораша гаворыць пра жыццёвую сілу, культуру ўкраінскага народа, пра жывучасць яго мовы, пра вялікія традыцыі, пра непахіснае пачуццё нацыянальнай годнасці, гордасці, якая нават сям-там, у таго-сяго пераходзіць у нацыяналізм...

У нас многа любві да рускай мовы, культуры, моцнае пачуццё братняй і інтэрнацыянальнай дружбы, аднак,— нам варта і трэба было б павучыцца ва ўкраінцаў, як трэба паважаць саміх сябе.

Чытаючы Гандзі, думаў, што не вельмі трэба і абурацца на простых людзей, якія ўпарта, з пакалення ў пакаленне, лічаць працай толькі працу фізічную, што стварае матэрыяльныя вартасці, корміць і адзявае.

* * *

Начаваў у інтэрнаце[1], у сімпатычнага ўсё-такі Алёшы Карпюка. Шасціпавярховы пісьменніцка-студэнцкі бардак, дзе днямі, як расказвалі хлопцы, адзін будучы інжынер чалавечых душ спраўляў «юбілей» — святкаваў пяцісотую перамогу над тымі жанчынамі, што ходзяць сюды жыраваць.

Не дзіва, што сапсуецца, апашлее, апусцее тут не адзін, нават з таленавітых.

* * *

Недалюбліваў я Сіманава, як выскачку, кан'юнктурыста, вяльможу, як чалавека, які крытыкаваў мяне за «Быстранку», не чытаўшы яе, і за іншае недалюбліваў... А вось прачытаў «Живые и мертвые» і пераканаўся, што гэта пісьменнік, што многа чалавеку дае праца і скромнасць, калі да яе вярнуцца...

* * *

Здаецца, тып жанчыны — бязлітаснай эгаісткі, што закахана ў самую сябе нават і тады яшчэ, калі ўжо ўся прыгажосць паблекла ды завяла. Досыта пакруціўшы светам, яна села на якар, прысмакталася да добрага, сумленнага і паэтычнага працячка, як Т. ці С., якіх я добра ведаю. Пад вечар трэба было ісці на нейкі банкет, што яна вельмі любіць, а тут уранні прыходзіць з вёскі тэлеграма: памерла мужава сястра. І яна не сказала мужу, каб не сарваць вясёлага вечара, з-за чарачкі ды вальсіка, а потым апраўдвалася, што не хацела яго хваляваць... Нядрэнная, вельмі нядрэнная прычына для таго, каб крыкнуць: «Сука!» і разысціся, але ж ён дараваў і нават лічыць яе «верным другам і спадарожнікам жыцця...».

[1] Інтэрнат Літаратурнага інстытута ў Маскве.

* * *

Дзядзька расказвае пра смаленскіх бежанцаў, што ў галодны пасляваенны год выдатна агітавалі ў Заходняй супраць калгасаў. «А хрысцяцца, браток, да самых каленяў...»

* * *

На сваім месцы быў наш механізатар Топчу, эканаміст Шахбазян і яшчэ сёй-той. А маскоўскія дамачкі ад мастацтвазнаўства і эстрады прыкметна і цярпліва ныллі. Увечары, застаўшыся адны, у нумары[1], мы з Піменам[2] ледзь не падохлі з рогату, прыпамінаючы іх мяшчанска-курыны спалох на пункце штучнага абсемянення, і наогул увесь гэты дзень, калі не пусты, дык вельмі рэдзенькі,— з двума бессаромнымі быкамі на фоне акіяна, над якім мы перліся сюды праз многія тысячы кіламетраў. Смех малады, вясковы, ад зямлі.

* * *

У Таронта яны сустрэлі нас ледзь не ў аўтобусе, якім мы прыехалі з Фестывалю, вадзілі-вазілі па горадзе з яго небаскробамі і кітайскім раёнам — у цэнтры, з яго зялёнінай, азёрамі, сажалкамі і бясконцымі катэджамі — на ўскраінах. Яны нас — рускія, беларусы і валынцы, што таксама лічаць сябе рускімі, як і беларусы,— прымалі ў сваёй федэрацыі чаркай віна і родным словам. У магазіне савецкай кнігі вельмі прыемна было ўбачыць свае, на рускай мове, і падпісваць іх людзям з нейкім зусім новым, небывалым пачуццём. Мяне тут трохі ведаюць, па «Забалоцці» перш за ўсё, можа, таму, што яго перадрукоўвалі ў газеце «Вестник». Цікавыя, сімпатычныя людзі — Акулевіч, Ясны, Краўчук... Быў у Акулевіча дома, у чысценькім катэджыку, дзе нас сустрэла гаспадыня, беларуская яўрэйка. Яна толькі што вярнулася з турысцкай паездкі ў СССР, і іменна тут, за акіянам, своеасабліва прыемна было пачуць ад яе пра Слонім, Кракотку... Познім вечарам знайшлі мы амаль усю нашу групу ў рэжысёра Белáя, які толькі што паставіў (па-

---

[1] Запісана ў Манрэалі.
[2] Пімен Панчанка.

англійску) «На дне» і рыхтуецца ставіць «Мёртвыя душы». Энглізіраваныя беларусы, дзеці сялян-эмігрантаў — вусаценькі тэнар Цехановіч і яго пружанская Алена, што з беларускай дзяўчынкі стала канадскай артысткай і ледзі з маленькім, зусім ужо англійскім Сашкам.

Наогул, забягаючы наперад, у Палерма, можна сказаць, што вельмі дзіўна, нават вусцішна глядзець на тое, як «міжкантынентальны англасакскі шавінізм» засмоктвае не толькі нашых беларусаў, не толькі непакорных украінцаў, але нават і рускіх, нягледзячы ні на багатыя традыцыі, ні на шчодрую дапамогу з Радзімы... Няўжо ім, канадскім беларусам і ўкраінцам, таксама дзіўна і вусцішна глядзець, бываючы ў нас, як руская стыхія засмоктвае і Украіну і Беларусь? І няўжо такі жаль — абавязкова нацыяналізм? Права дужага — ясна, але ж у нас была сацыялістычная рэвалюцыя!.. І вельмі крыўдна чуць ад рускага таварыша: «А што, ты не мог бы адразу пісаць па-руску? Навошта потым перакладаць?..» Асабліва складанае гэта пытанне для таго, хто і вельмі любіць Расію, рускую мову, літаратуру, і вельмі хоча быць самім сабою, сынам свайго народа, яго дастойным песняром.

А ўкраінцы — малайцы! На жаль, не змог пабываць у іхнім выдавецтве, але і Палерма хопіць для самага сапраўднага захаплення.

Помнік Тарасу. Зямля з Чарнечай і тры вярбы, прывезеныя сюды з Украіны галінкамі. Музей — таксама жывы напамінак пра Кіеў, плюс — арыгінальнае: подпісы сотні імя Шаўчэнкі, зробленыя ў альбоме хлопцамі перад выездам у Іспанію, і прылады працы, хатняе начынне першых украінскіх эмігрантаў у Канадзе. На тэрыторыі Шаўчэнкаўскага парку (раўніна з рэдкімі пакуль што дрэвамі) — безліч машын («Як овэц!» — гаварыў Краўчук), на якіх сюды з'ехаўся, спраўляць пікнік, рабочы ды фермерскі люд — украінцы, беларусы, рускія. Вялікая эстрада, з якое мне давялося вітаць дарагіх суайчыннікаў па чарзе, на трох мовах, эстрада, на якой пасля цікава, весела і неяк па-інтэрнацыянальнаму здорава, патрэбна выступаў Дж. Эндзікот, з якой, у заключэнне, міла спявала трыо гуцулак... (Супакойная, звычайная маладзіца, бабка-агонь і самая маладзенькая — чарнавокая красуня. Пасля, на банкеце, яны нас, Пімена і мяне, ох як соладка расцалавалі на развітанне...) Цікавая мітусня ў зямляцкім натоўпе. Просьба — ледзь не па Гогалю, як Добчынскі ці Бобчынскі: «Калі будзеш, браток, пісаць у газету, напішы, што бачыў мяне.

Брату майму будзе вельмі цікава!..» Пільнасць, якою мы былі акружаны: «Не гаварыце, таварыш, з тым, што загаворваў з вамі,— гэта дэпіст і сволач». (А пасля Мацыевіч казаў, што няпраўда.) Урачысты банкет, дзе разумна і весела тамадзіў сімпатычны Джон Вір (Іван Вэвюрскі, даследчык і перакладчык Шаўчэнкі на англійскую мову), дзе выступалі прагрэсіўныя пісьменнікі Канады — старэнькі паэт Макдональд, з вершам, і калека Картэр, дзе мой Пімен таксама дастойна, а на дадатак яшчэ і дасціпна сказаў беларускае слова, а мне давялося спяваць, па просьбе слухачоў, «Ты, белая бярозанька» — упершыню ў жыцці перад мікрафонам. У заключэнне, пасля трыо «Верхавіна», мы ўсёй залай, больш за шэсцьсот чалавек, спявалі трохі зацяганую, нават затупаную кірзавымі ботамі «Распрагайце, хлопцы, коней» і вечна хвалюючую, велічную, як малітва-гімн, «Реве та стогне».

Таронта, Палерма... Тут, на другім, далёкім кантыненце, мы адчувалі сябе як дома.

* * *

Пасля Ніягары пайшлі (у акне аўтобуса) тыя ж, што і ў Канадзе, прыгожыя катэджыкі з гаражамі, выдатныя дарогі, даволі часта — «прыгнечаныя» негры ў шыкарных аўтамашынах, то гарадок з бляскам рэкламаў, то інтэрнацыянальная лясная зеляніна, то белы Езус на крыжы, над шэрым статкам помнікаў без крыжыкаў над імі...

Пайшлі і добрыя думкі, хоць бы, напрыклад, такая:

Адзін, сапраўдны, патрыёт бачыць усё добрае ў людзей і думае, як гэта павучыцца, пераняць, зрабіць у сябе яшчэ лепш. А другі (як многія палякі) — каб мелкадушна разлюбіць і апляваць сваё.

Успаміналася жывая гутарка ў гасцях у Краўчука,— пра нашу вялікую маральную перавагу і пра наша часовае адставанне ў дабрабыце, у выгодах побыту. Думалася пра абмежаванасць, правінцыяльную, хутарскую затхласць і проста шкоднасць той «благонамеренной» маны, якой мы, па нейкай інерцыі, яшчэ ўсё даём не толькі месца, але і прастору на старонках нашага друку, у нашым чыстым эфіры. Не трэба! Праўду трэба, суровую і ясную праўду, бо яна працуе на нас!..

* * *

Потым быў самалёт Буфало — Дырбарн, то ў навальнічных хмарах, то над імі, то над азёрамі, то над палямі... Гутарка з Ч., пляменніцай Гольдэнвейзера, і з «офицером для удовольствия», як назвалі жанчыны аднаго з нашых гідаў, містэра М., відаць, шпіка № 1. Гутарка — то пра рускую літаратуру XVIII стагоддзя (Божа мой, якая каша ў галаве гэтага эрудыта!), то пра Л. М. Талстога і талстоўцаў — з пункту гледжання сваячкі тых, што з ім і з імі, талстоўцамі, сустракаліся...

Дарэчы, наконт кашы ў галаве эрудытаў прыйшлося пераканацца другі раз. Першы раз, едучы з фермы ў Манрэаль, даволі доўга і востра спрачаліся на літаратурныя тэмы — Пімен, я і абодва гіды. М. не толькі лепш за Р. гаворыць па-руску, ён і больш адукаваны. Сімпатычны інтэлігент, маскоўскі прафесар Панамароў, выказваў сваё недаўменне, як быццам наіўна, але і правільна: «Ведь он же просвещенный человек, как он может быть сыщиком?!» А гэты «просвещенный человек», з шыкам дэманструючы нам перавагу прадстаўніка «свабоднага свету», паказаў такую тэндэнцыйнасць ацэнак і блытаніну поглядаў, што больш нам на гэтыя тэмы не хацелася гаварыць.

* * *

Ад тэлевізара, які Пімен са смакам круціць кожны вечар,— апроч рэкламнай тузаніны, якой густа праслойваецца кожная кінакарціна, апроч культу поўхі і пацалунка, апроч вясёлай і дасціпнай мультыплікацыі,— ад тэлевізара пойдзе за мной, прычапіўшыся да памяці, просценькая, але бойкая, напорыста вясёлая мелодыя віргінскай кадрылі, якую вытоптвалі ды вытрэсвалі тонкія дзецюкі і гнуткія дзеўкі ў шырачэзных спадніцах. Пойдзе — як тое югаслаўскае пакрыкванне ў польцы — іў! іў! іў! — якое нашу ды да розных спрытных дзяўчатак прыстасоўваю вось ужо больш за год, як многа іншых мелодый, што надоўга і неяк па-блазенску прыліпаюць да памяці.

* * *

Ноччу, на 86-м паверсе, гід Р., паказваючы нам фота сваё трохгадовай дачкі, выглядаў чалавекам, паміж якім і намі — таўшчэзны слой непатрэбнага, іхняга, пылу.

Ён, Р., папрасіў мяне, другі раз пасля Таронта, падпісаць яму другую маю кнігу (там «На пороге зрелости», тут «Избранное»), што я і зрабіў,— на гэты раз без лішняй асцярожнасці.

* * *

Былая падпольшчыца, што за свае перакананні сядзела ў панскіх турмах, цяпер — нягледзячы што яўрэйка, а можа, іменна таму — працуе ў калгасе свінаркай.

Калі дачка яе выходзіла замуж, цешча падарыла зяцю на вяселлі трохтомны Марксаў «Капітал».

Калі ж пасля дачка, дырэктар школы, прыязджала неяк да яе, каб паскардзіцца маме на цяжкасці, тая суха сказала ёй: «Влейся в коллектив». Дачка, плачучы: «Мамачка, дык я ж у ім і так ужо задыхаюся!..»

* * *

Учора, прылёгшы пасля абеду з «Жыццём пратапопа Авакума», заснуў (пачалі мы ўставаць раней), а прачнуўшыся,неяк вельмі ж моцна, ярка да болю і жаху адчуў:

Што ж гэта было б, і ці варта было б жыць на свеце, каб не было ў мяне маральнай апоры, веры ў перамогу дабра, святога жадання служыць людзям творчай працай!..

* * *

Божа мой, да чаго чалавек апускаецца... Той самы Крапіва, якога мы вельмі хацелі б называць сумленнем беларускай літаратуры, разам з другімі паважанымі людзьмі, Лыньковым і Глебкам, працягнулі з ЦК у акадэмікі... так і хочацца сказаць: таварыша Г.— іменна «Г» з кропкай.

Таварыш Б., таксама з кропкай, расказваў нядаўна, як таварышу Г., калі ён быў вялікім начальнікам, некаторыя

перакладчыкі Леніна на беларускую мову падсоўвалі ў шуфляду стала падарунaчкі, тысяч дзесяць — пятнаццаць, таксама як стары багацей падсоўвае ў стол сваёй б. шакаладку...

## 1961

Карэліцкі раён, якім я па-зямляцку горда казыраю ў гутарках з сябрамі-літаратарамі, які лічыцца адным з лепшых у вобласці, нават у рэспубліцы,— наш раён «у прарыве». Пагніў лён, дохнуць парасяты, няма подсцілу, мала кармоў, два гады не давалі грошай на працадзень... Ну, а п'янства, дзікае і няспыннае п'янства многіх старшыняў, бухгалтараў, брыгадзіраў? А безадказнасць, з якой і людзі вучацца ад некаторых начальнікаў ставіцца да таго, што марнуецца народнае, іхняе дабро? Не абагналі 15 га бульбы (на дрэніраванай зямлі, каля самай вёскі!) — ну і што ж, чорт яе бяры. Пагніло — ну і што ж. Апошні год арэнды і панскі дзень да вечара!..

І Павел, ад якога я прывык набірацца энергіі, ледзь не плача, расказваючы, як брыдзіў ды лаяў яго сакратар абкома, як пагражаў выключэннем з партыі, судом... Дзіўна і дзіка — Жалезняковіча выключыць з партыі!.. І ці выхад гэта? Не, як не выхад і тое, што разанскі сакратар абкома атруціўся. Як многа мы робім лішняга шуму, як шмат ураштурмаўшчыны ў той час, калі трэба ціхая, напорыстая планавая праца.

Добра... не, не добра, а можна пра ўсё гэта гаварыць так сабе таму (і гавораць многія), хто не нясе адказнасці за непаладкі і за свае словы. А нам, хто адказны перад народам за кожнае сваё слова, хочацца ва ўсім разабрацца як след, як найлепш. Можа, не на маю гэта галаву? Можа, хопіць з мяне «чувства добрые лирой пробуждать», «сеять разумное, доброе, вечное»? Але ж мы, калі на добры лад, павінны разбірацца больш за многіх — і раённых, і абласных... Адна пацеха — нялёгка гэта для ўсіх, за выключэннем, відаць, верхаглядаў ды кан'юнктуршчыкаў.

* * *

Між іншым, сёння, прачнуўшыся ў 6 гадзін, ад курантаў па рэпрадуктары, па-новаму, з новай — і больш балючай — свежасцю думаў над Мішавай фразай з яго неадасланага

пісьма Ігнату[1]: «Ваня весь погряз в тщеславии...» Убачыў я той пачатак пісьма гадоў са тры ці больш і, вядома, пакрыўдзіўся. Аднак, было яно! Не толькі ў 1955 годзе перажыў за меншы, чым мне раней намецілі, ордэн, але яшчэ ў 1949 годзе,— што не ўзнагародзілі як літаратара і — яшчэ больш смешна — як партызана!..

Было і ёсць. І не значыць, што не будзе. І не быў я ніколі, як Міша кажа, radzieckim świętym[2], тым больш без штодзённай пільнасці, барацьбы з самім сабою.

* * *

Два дні ў Загоры. «Візіт пашаны» Віліце. Выпіўка (двойчы і прыстойна), карты, песні і гутарка. У Колі[3] чытаў заўсёды смачнага Паўстоўскага, нарысы.

Аддаў даніну і сваёй бядзе — думаў востра, балюча пра сваю нікчэмнасць. Што гэта — хвароба, можна было б пераканацца і па тым, што апоўначы я, прачнуўшыся на засланай кажухамі канапе, як адрэзаў — перастаў думаць пра ўсю чарнату, аддаўшы ёй чарговую даніну крыві.

Пісаць сеў не таму.

Можна зрабіць такую замалёўку з натуры, назваўшы яе «Учарашні дзень».

Учора, вяртаючыся ад Віліты, апоўначы зайшлі ў клуб, на танцы. Як толькі я прысеў на лаве каля маладзіц, прататып майго Гаўруся Каляды (і трошкі, з бацькам і балалайкай, Міхася Ждановіча), Арцёмаў Павел падышоў да мяне, нагнуўся зверху п'янавата-расчуленым позіркам і кажа:

— А калі мы, Ванька, выбачай, ды пацалуемся?

Пацалаваліся. І ён пачаў:

— А памятаеш, што я быў пры Рыч-Шміглым? Голы, босы і проставалосы. А цяпер у мяне двое валёнкаў, дзве пары ботаў і добры кажух. Во! І сын мой ужо татка, і дачушкі — мамкі... Чатыры ўнукі! Чатырыжды дзед Савецкага Саюза і чампіён свету па танцах!..

Зноў схіліўся нада мною.

— А як там, Ванька, мядзведзі, га? Ніколі не забудуся!..

Ён павярнуўся да мужчын, што ўжо сабраліся каля нас:

---

[1] Браты Я. Брыля: Міхаіл (1914—1966) і Ігнат (1900—1960).

[2] Савецкім угоднікам *(польск.)*.

[3] Сястра Я. Брыля Уліта, па-мясцоваму Віліта (1896—1975), і брат Мікалай (1910—1970).

— У мяне яшчэ калені былі падраныя, калі мы з Ванькам у цырк у Мінску хадзілі. І Павел Арцёмаў сядзеў каля генерала! Во! Усё, брат Ванька, добра ў мяне, аднаго толькі і не хапае — бабы. Яна старая, сівенькая, пад коўдрай ледзьве знайду... Я тут з харошай публікай танцую, а яна мне коўдру грэе. Не нагрэе ўжо. Сам, вярнуўўшыся, грэю...

Былы бядняк. Яскравы прыклад таго, што далі савецкая ўлада, калгас пераважнай большасці людзей у нашай вёсцы. Учарашні дзень нашай сапраўднасці, пра які я (часамі трохі авансам) пісаў у калгасных замалёўках і ў «Забалоцці». Прыемна, радасна, што я тады не ілгаў, верыў, любіў — з усімі «вытекающими последствиями»: і Сталінская прэмія, і выхад за мяжу рэспублікі, нават Саюза, і паводка ўсякай чарнаты, якой аблівалі мяне ўсе, хто быў сяк ці так закрануты маім поспехам.

Хлеб, боты, валёнкі, кажух, добра ўладжаныя дзеці, новая хата, электрычнае святло і іншае — які гэта харошы ўчарашні (беручы па-журналісцку) дзень нашага калгаса!..

Мне трэба бачыць яго заўтрашні дзень, я хачу верыць, што ён будзе харошы.

Але...

Праклятае «але»! Сённяшні дзень перашкаджае мне бачыць заўтрашні. Сёння ўжо два гады не плочана людзям грошай на працадзень (з'ела тэхніка, а лён пагніў), на фермах няма подсцілу, корму — лёгенька — хопіць толькі да красавіка, а цялят калгас павінен закантрактаваць па плану... 600. П'яныя брыгадзіры. Адзін, ён жа старшыня таварыскага суда, цягае недарослых дзяўчатак (пазаўчора, прыйшоўшы да малатарні, засталі яго з 17-гадовай на саломе). «Галоўны» камуніст у нашым Загоры рэгулярна гоніць самагонку. Старшыня, які быў добры дзесяць гадоў таму назад, калі трэба было і паганяць, цяпер адстаў ад свайго калгаса і крыўдзіцца, што партарганізацыя (35 чалавек) не слухае яго. А ў партарганізацыі таксама зашмат прыдуркаў і лайдакоў, несумленных і нават па-анкетнаму з цёмнай душою.

Адзін з трыццацітысячнікаў, былы дырэктар СШ, студэнт, афіцэр, здзіўляецца, за што білі Кулакоўскага з яго «Дабрасельцамі». Бледная, кажа, нявінная рэч... Так, цяжкавата без крытычнага рэалізму! І не хацелася б называць яго — усюды і катэгарычна — днём учарашнім.

* * *

Пара ўжо мне канчаць з тым, што мне нібыта сорамна бывае за сваю панскую работу, сорамна — перад людзьмі цяжкай працы. Адкрыта трэба, свабодна. У многіх тых, каго я часамі саромеюся, як блазен ці як чалавек не на сваім месцы, дзеці тым часам ужо не меншыя «паны». Нешта ў гэтым ёсць такое мужыцкае, калі грубасцю, нібыта гумарам прыкрываюць сапраўдную сутнасць з'яў. Як той наш «камуніст»-самагоншчык, што глядзіць у загорскім клубе хвалюючы, глыбокі фільм і каменціруе яго ўголас, самаздаволена, дурнымі, але «смешнымі» рэплікамі: «Ну, тут яму і хана!.. От дзе даў лататы́!.. Па мордзе ёй, правільна!..» — і яшчэ лепш.

* * *

У вялікім, утульным клубе калгаса «Новае жыццё» семінар, на якім старшыні калгасаў, аграномы, брыгадзіры трактарных брыгад і звеннявыя па кукурузе слухалі двух шэфаў — вучоных з сельгасакадэміі, прафесара і кандыдата. Адзін гаварыў пра цукровыя буракі, а другі, менш цікава, пра кукурузу. Менш цікава было і літаратару, і самой аўдыторыі. Адны, менш інтэлігентныя, проста спалі; другія, больш жыццярадасныя ці маладыя, шапталіся ды хіхікалі; былі і такія, што за шырокакажушнымі спінамі сяброў-старшыняў чыталі «Раман-газету».

* * *

Панадзіліся мужчыны ўвечары ў «дурня» гуляць. Першы раз было цікава, другі — так сабе, а ўчора — цяжка. Міжвольна ўспомніў пра адносіны Горкага да мужыкоў, якіх (адносін) я дагэтуль не разумеў. Не магу ўжо, здаецца, і я расчульвацца кожным з іх, што мне так падабалася ў Талстога, не магу не думаць, што цемра застаецца цемрай, і няма ёй апраўдання сёння, калі ўжо, як казаў адзін старшыня калгаса на сходзе, «господзь Бог бедных на́ хрэн паслаў». Савецкая ўлада, калектывізацыя ліквідавалі беднасць, даюць культуру... А яны сядзяць пад яркай лямпачкай Ільіча, пад'еўшы, а ўсе непаголеныя, брудныя, харкаюць на падлогу, лаюцца... Потым адзін кажа: «А знайдзі ты ча-

лавека, якому падабаецца калгас?» «Няма, не знойдзеш»,— кожны па-свойму, але аднолькава згодна адказваюць усе шэсць чалавек — былыя бедняқі, серадняқі і адзін «несостоявшийся» кулак.

А я ўспамінаю, як гаварыў адзін з сяброў палону, начуючы ў мяне: «Я часта чую па радыё, як Янка Брыль адабрае калгас...» Хто паверыць у шчырасць хлопца з «багатай сям'і»? «Хітрыць, зарабляе»,— гаварылі многія. А той, каго я зачапіў, як адмоўнага прататыпа, капаўся і капаецца пад «хітрага сабаку». Цяпер — «хітры», а тады, калі быў не такі, як усе, «чортведама чаго шукаў, жывучы на такой, браце, гаспадарцы» — называлі хто дзіваком, а хто і проста «святым дурнем».

Трэба толькі праўду пісаць, не быць староннім назіральнікам, не пісаць тады, калі трэба было б ілгаць.

* * *

У ляснога хутараніна Л. часта прыпыняліся партызаны. І печкі іхнія там былі, і лаўкі. І жонку Лаўрыкаву нават цягалі. Пасля вайны свякроў яе скардзілася быламу камісару:

«Яе калісьці хлопцы шпанскімі мушкамі апаілі і валачылі, хто колькі хацеў. А мой дурань урэзаўся і ўзяў, бо ж і багатая яшчэ была. Але дзяцей не было. Ездзілі, ездзілі партызаны, а потым іхні начальнік, М., узяў ды забраў яе ў Л. Падзякаваў нам за ўсё. Яно, вядома, крыўдна, але ж ажаніўся мой хлопец з другою і вось хоць дзеці ёсць, як ва ўсіх добрых людзей...»

Учора ў прыёмнай райкома спаткаўся я і пагаварыў з тым самым М. Успомнілі партызанскае, гаварылі трохі пра беларускую літаратуру, бо ён калісьці вершы пісаў, а цяпер, кажа, піша нейкія ўспаміны. Потым зайшлі да Паўла ў кабінет. І вось тут я ўбачыў даволі яркі вобраз чалавека, які здорава апусціўся, а жыць лягчэй — хоча. Стаіць каля сакратарскага стала, а не сядзе, гаворачы, як камуніст з камуністам, як партызан з партызанам,— стаіць у ліслівай позе і, проста кажучы, просіцца. Просіць заступіцца перад дырэктарам школы, які не хоча трымаць яго нават на палавіне стаўкі, дзяжурным прадоўжанага дня, бо невук наш М., завала і п'яніца. Пяцідзесяты год пайшоў таварышу, і «хворы на лёгкія», просіць дапамагчы атрымаць персанальную пенсію. «Рублёў з пяцьдзесят — мне і хопіць»,— гаворыць і паўтарае. І за гэтай «сціплай», яшчэ на

старыя грошы як быццам, а не на новыя ўжо, за гэтай «сціплай» лічбай стараецца схаваць нясклёпістую хітрасць. Ды яшчэ і ўсміхаецца жалю варта...

Вахлак, што так ды сяк хаваўся за партбілетам, падмацоўваючы свой аўтарытэт сякімі-такімі партызанскімі заслугамі. І чалавечай годнасці — ні крышку. Сакратар пытаецца ў яго: «А як жа гэта ты адбіў чужую жонку?» Ён толькі хіхікае ў адказ. Наконт рэспубліканскай пенсіі сакратар кажа, што для гэтага трэба мець асобыя заслугі, и ён надзімаецца: «У мяне ж чатыры ордэны!» «Якія?» Аказваецца, «Чырвоная зорка» і тры медалі. Сакратар смяецца з яго, і сам ён смяецца таксама: «Усё роўна ж урадавыя ўзнагароды!..»

Я сяджу збоку, і мне ўжо сорамна, што разам з ім зайшоў, што слухаю ўсё гэта, што даў яму свой мінскі адрас і прасіў заходзіць.

А чалавеку, здаецца, хоць бы што...

Пакуль успамінаў пра гэта і садзіўся запісваць, думаў, што нягожа, відаць, узяць жыццё чалавека ды так вось лёгка навесіць на яго літаратурны ярлык?..

А цяпер вось думаю пра другога слізняка з партбілетам, пра пажылога настаўніка С., з якім мне трапілася сустрэцца ў Турцы. Выключаны гадоў шэсць таму назад з партыі за падхалімскую падтасоўку бюлетэняў на выбарах нялюбага актыву сакратара райкома партыі, ён доўга ездзіў па інстанцыях (між іншым, пырскаючы слінай і на нас: «Вось камуніст як пакутуе, а беспартыйныя, сякія-такія, пануюць!..»), ездзіў, хадзіў, пакуль зноў не ўбіўся ў авангард... І вось, у настаўніцкім пакоі, калі я сказаў, што зайду да Валі П., ён зноў жа пырснуў: «Только там не соблазните ее...»

Запісваю дзярмо гэтае таму толькі, што ўсю дарогу з Турца быў незадаволены сабою. Трэба было і мог бы словам даць па саплях пашляку, а я нават нібы разгубіўся і штосьці прамямліў, замест таго каб хоць шапку яму на вочы насунуць... Старое гэта за мною, хоць часта, нават і вельмі часта бывае інакш,— скажаш нешта завостра і каешся.

* * *

Дайшоў да Рахметава, да яго гутаркі з Верай Паўлаўнай, да гутаркі Чарнышэўскага з «проницательным читателем» і... ніяк не цягне больш да рамана. Не памагае ні абаяльнасць аўтара, ні яго мудрасць. Мастацкі твор павінен быць мастацкім.

* * *

«Если страшно от сильного пожара, то надобно бежать туда и работать, и вовсе не будет страшно».

Выпісваю гэта з Чарнышэўскага («Што рабіць?»), думаючы, што вось і я прыехаў сюды, дзе мяне многія, здавалася здалёк, ненавідзяць,— прыехаў, прыгледзеўся зблізку і бачу, што гэта — не так, што больш рабілася ў маім уяўленні.

* * *

Дрэнна, непрыемна і крыўдна хваліцца тым, што над табою злітаваліся, цябе пашкадавалі.

Адчуў гэта ўчора, калі расказваў Колю пра тое, як аднёсся да мяне зімой 1951—1952 года, калі вырашалася справа з прэміяй, Зімянін. Што знайшоўся разумны, высакародны чалавек, які выратаваў мяне з ямы паклёпу — гэта вельмі прыемна, і я яму вельмі ўдзячны, але хваліцца гэтым (ах, які я таленавіты, што ажно ён мяне пашкадаваў!..) — не вельмі хораша і не вельмі прыемна.

* * *

Румяны здаравіла, былы партызан, а цяпер п'яніца, злодзей, які пабываў ужо ў турме, пазычыў у другога партызана, калекі і добрага хлопца, грошай. Прайшло багата часу, і той, за чаркай, напомніў яму пра доўг.

— Ты мне глядзі,— абурыўся даўжнік,— а то я табе пакажу доўг. Я партызанам быў і партызанам застаўся!..

І праўда — можа паказаць... Прагналі яго за п'янства з пажарнай. Дык ён таго, што быў пастаўлены на яго месца — маладога хлопца, ні ў чым антыпартызанскім ніколі не замешанага,— пры дапамозе кучкі сяброў прыдушыў, даў наглытацца з выхлапной трубы, завёўшы ў гаражы машыну, а тады пасадзілі яго за руль, а руку, каб не было слядоў іхніх пальцаў, аблілі бензінам і абсмалілі... Нават і дзверы кабіны забыліся зачыніць. І ўсё сышло. На экспертызу ў вобласць (ці ў раён) паслалі сэрца і лёгкія задушанага, і там прызналі, што гэта ад бензіннага, бачыце, перагару...

Не дароўваецца толькі грэх «против духа свята». У ру-

мянага здаравілы такіх грахоў няма — член партыі, юнаком пайшоў у партызаны. А да таго ж яшчэ ўсё зроблена чыста...

* * *

Малады, энергічны старшыня калгаса, былы настаўнік, скардзіцца на «цяжкую вёску»:

— Пры Польшчы яны — самі хваляцца — былі бараць-бітамі, падпольшчыкамі. А цяпер на свята сцяг не вывесяць. Хіба каб забараніў яму другому — тады б вывесіў!.. Панавучваліся на сходах гудзець з закрытым ротам. Гудуць і не пазна́еш, каторы... У тры-чатыры гадзіны ночы будзе табе стукаць у акно: «Прыд-ся-даяцель, заўтра машына пойдзе ў Карэлічы?» Прыйдзе ў праўленне, прычэпіцца, як гразь, біцца лезе, лаецца, а скажы яму слова — напішуць калектыўна і ў райком, і куды хочаш вышэй. А даў аднаму па саплях — пачалі трохі больш паважаць... Паміж молатам я і кавадлам.

* * *

Такая простая, здаецца, арыфметыка: удосталь подсцілу — многа гною, многа гною — добра зародзіць зямля, будзе подсціл і г. д. Кругам. А подсцілу няма. Думаў сам і гаварыў з іншымі: ад чаго? Многа зямлі ідзе пад лён, кукурузу, цукровыя буракі. Салома не збіраецца як след: падонне пасля стагоў, бурты, дый так усюды. Вельмі многа скаціны. А іншае?..

* * *

Партызанская вёска. Калгасныя яслі. У клубе чытаецца выступленне Хрушчова пра бабовыя. Мясцовы філосаф і ўгоднік, былы партызан, камуніст:

— Трэба каля ясляў пасеяць бобу, каб малыя па садах не лазілі!..

Рогат. Так вось і адгукнуліся на пастанову.

* * *

Часамі быць толькі самім сабою, беларускім пісьменнікам, і то — подзвіг. Аднак паводзіны свае — разумнае рашэнне рабіць галоўнае, на ім канцэнтраваць увагу — не хочацца лічыць філасофіяй баязлівасці. Бо я не памятаю самога сябе без любві да Расіі, да рускай мовы, літаратуры, не памятаю сябе беларускім нацыяналістам, хаця даўно і сам, і назаўсёды вырашыў, што кожная бочка павінна стаяць на сваім уласным дне.

* * *

Аўтобус Магілёў — Мінск спыніўся ў Беразіне. Доўгачаканае сонца, шэрыя домікі над ракою і ў новай, з залацістых дошак, прыбіральні бязлітасны надпіс наконт таго, што тут (дата) была... устая́ка прадаўшчыца (імя і прозвішча) з магазіна №... Сумна. «Уездная звериная глушь!..» Ці толькі тут гэта? Ці ўсё гэта тое, што выходзіць гноем наверх?..

* * *

Два вялікія выпрабаванні — славай і паклёпам. Нялёгка іх пераносіць. І проста яны не праходзяць, не пакідаючы следу. Дый ці праходзяць?..

Моцнае і сталае пачуццё тугі па сапраўдным чалавеку. Пазнаеш, захапляешся, потым пазнаеш бліжэй — расчараванне і зноў туга...

* * *

З прыемнасцю прачытаў у Салаухіна: «Нет ничего хуже, дичее и гаже, когда человек бьет другого человека».

Амаль заўсёды, калі думаю, што чалавека крыўдзяць — да болю выразна і міжвольна, не розумам, а сэрцам станаўлюся на баку слабейшага. Цяпер нават часта ўяўляю пры гэтым, што пакрыўджаны кожны родны мне чалавек. Не думаю, што гэта баязлівасць, бо я сам сабе неаднойчы давёў, што не вельмі баязлівы. Часцей думаю, што гэта сла-

басць, хвараблівасць. А даваенны «крытык» К. сказаў бы проста, што гэта сентыментальнасць...

Не! Бо я з маленства не любіў, калі б'юць чалавека.

* * *

Чытаю «Жажду жизни» І. Стоўна — пра Ван-Гога, пра нас, пра абавязак перад людзьмі, пра шчасце несці гэты абавязак. Ёсць штосьці вышэй за смерць, і недарма — думаў, чытаючы,— людзі шукалі Бога, неба, вечнасці.

Між іншым, чакаючы аўтобуса ў Турцы, слухаў гутаркі пра паступленні ў ВНУ. О, усемагутны хабар, як ён увайшоў у наш побыт! Проста людзі не хочуць, и можа, і не могуць паверыць, што хтосьці не можа ўзяць хабар з-за сумленнасці.

І не дзівіся, не крыўдуй, што не вераць, не хочуць паверыць, што ты пішаш не за грошы, а па абавязку.

* * *

Абапал дарогі — жыта і кукуруза на спецыяльна ўгноенай зямлі: каб з райкомаўскай ды абкомаўскай машыны здавалася, што яны тут усюды добрыя.

Бачыў у Смаргонскім раёне.

* * *

Прачытаў пахвалены Адамовічам раман Аксёнава «Звездный билет». Многа добрага, цікавага, свежага, але сапсавала ўсю справу гісторыя кахання Дзімы і Галі — выпрабавання гэтага кахання чужым ложкам. Так і не могуць нашы літаратары дазволіць, каб чалавек пакахаў і сам пачаў сваю каханую,— гэта павінен зрабіць нехта трэці, а ўжо тады можна яе падняць ды страсянуць, як чужую пасцілку, ды радавацца, што цяпер ужо наша каханне будзе надзейным, правераным. І як гэта проста, як лёгка робіцца! І як гэта ўжо абрыдла і ў літаратуры і ў жыцці!..

* * *

Мікола Засім.

Прыкра стала ад майго нарачанскага запісу пра ягоную смерць. Я не лгаў тады, але ж гэта было і лішне жорстка, нялюдска.

Перачытаў, як быццам новымі вачыма, Калеснікаву прадмову да апошняй Засімавай кнігі, перачытаў, а некаторыя прачытаў упершыню вершы з гадоў акупацыі. Перачытаў яшчэ адзін мой запіс, зроблены пад гарачую руку, пасля нашай брэсцкай сваркі ў сакавіку 1954 года. Знайшоў яго пісьмо да мяне, у якім ён, назаўтра ж, прасіў прабачэння. Падумаў пра сваю паметку на канверце: «Без адказу»...

Так, ён мяне моцна абразіў калісьці сваім «падазрэннем»; так, ён мне потым моцна нахаміў; так... яшчэ адно так... А ўсё ж я з сапраўднай чалавечай прыемнасцю пагаварыў бы з ім сёння пра ўсё гэта — шчыра, бязлітасна шчыра і добра. Але яго няма.

Маленькай іскрынкай вечнага здаецца мне цяпер той факт, што я ўзняў пытанне перад саюзам пра выданне таго «Выбранага», дзе Валодзева прадмова.

І добра, што мы — і сябруючы — можам вось так, як у гэтым выпадку Валодзя, цвяроза глядзець на тыя справы і з'явы, якія аднаму ці другому не вельмі падабаюцца.

Вырваць старонку з запісам — лягчэй, чым вырваць з памяці. Дык няхай жа будзе і гэтая старонка: няхай камусьці, хто будзе (можа?) чытаць гэта, будзе вядома, што былі ў мяне не толькі хвіліны настрою, але і роздум з дыстанцыі часу.

Зрэшты, што гэта я?.. Запіс гэты патрэбен перш за ўсё мне самому. І гэта, здаецца, важней за ўсё. Для мяне. Для маёй прыгоднасці да жыцця.

* * *

Шэсць выступленняў у Гродне. Казалі — добра, дый самому было часамі прыемна гаварыць, што думаеш. І нялёгка, і заўсёды хвалюешся, і не ведаеш, здаецца, што ж ты тут будзеш гаварыць, не ведаеш — ужо за два-тры крокі ад трыбуны.

А на сустрэчах, калі пісаў па кнігах аўтографы, падыходзілі жанчыны-полькі і шэптам прасілі напісаць ім па-польску... Няўжо і мы будзем так прасіць калісьці?.. І каму гэта

трэба — такая лінія «зліцця» за кошт слабейшага?.. Колькі добрых людзей робіць гэтую справу з сур'ёзнасцю і пачуццём адказнасці не менш шчырым і сумленным, чым тады, калі ўзводзіўся сталінскі культ!..

Пра ўсё такое думаў яшчэ і яшчэ раз, з зайздрасцю прачытаўшы «Немцаў» Кручкоўскага. Зайздрасць не проста «добрая», «творчая», а зайздрасць зацюканага правінцыяла — беларускага пісьменніка, якую ён адчувае і да рускіх і да палякаў, і да ўсіх тых, што не адчуваюць, як з-пад іхніх ног абсоўваецца грунт, на якім яны хочуць — зусім законна — стаяць...

* * *

Учора былі нанесены дзве чарговыя раны майму нацыянальнаму пачуццю, а трэцюю — нанёс сабе я сам. У бухгалтэрыі літфонда БССР мяне папрасілі заяву напісаць паруску, каб ім было лягчэй чытаць... І я напісаў, а потым многа і балюча думаў пра тое, што многае мы робім самі, што самі мы вахлакі. І гадка было на душы, і думалася, што трэба не быць абыякавым да пытанняў, якія толькі мы, відаць, лічым няважнымі.

**1962**

Як я быў бы рад і ўдзячны сам сабе цяпер, каб не спаліў у 1949 годзе тое са сваіх запісаў, што тады лічылася, а сёння ўжо не лічыцца крамолай!.. Са страху — за дзяцей, за жонку, за сябе? Усё гэта можна зразумець, але нельга апраўдаць.

* * *

Чытаю Луначарскага «Талстой і наша сучаснасць». Спыніўся на словах: «Наше миросозерцание находится на огромном расстоянии от Толстого». Сама сабой узнікла думка: а чаму толькі тое ці тое?.. У Талстым ёсць многа station... станоўчага і многа адмоўнага, што можна ўсім і па-ўсякаму крытыкаваць. У нас (асабліва ў нашай практыцы) ёсць таксама, разам са станоўчым, многа адмоўнага, што нельга, нават

«злачынна», ва ўсякім выпадку, небяспечна крытыкаваць глыбей і раней, чым гэта дазволена.

А ёсць жа цудоўныя людзі, якія ідуць недзе пасярэдзіне, збоку ад афіцыйнай праведнасці, правяраючы «законныя праўды», праўды «текущего момента» праўдамі вышэйшага парадку, праўдай сумлення, праўдай чалавечнасці. Спачатку іх не слухаюць, прымушаюць замоўкнуць, а потым, калі ўжо «афіцыйная праўда» заблытаецца ўшчэнт, як з культам Сталіна, бяруць іх праўду і кажуць: «Гэта не вы былі правы, а мы цяпер правы!..» І пачынаюць зноў, «па дыпламатычнай сцежцы», адхіляцца ад высокіх нормаў чалавечнасці.

* * *

Успомніў словы Танка: «Найбольш каяўся тады, калі не паслухаў самога сябе».

* * *

Што хлеб — гэта хлеб, па-сапраўднаму можна даведацца, толькі адчуўшы голад. Што гераізм — гераізм, а герой — герой, даведацца можна з жыватворчай нізіны скромнасці.

* * *

Не перад газетнай, уяўнай радзімай, а перад сапраўднай, народнай я вінават не ў тым, у чым мяне сёй-той хацеў бы абвінаваціць.

* * *

45 — узрост, калі будучыні ўжо амаль няма, а можна жыць толькі сённяшнім днём.

* * *

Перачытаў учора «Ты мой найлепшы друг» і прыкра стала, што калісьці, адзінаццаць гадоў таму назад, трэба было сёе-тое прыдумваць, каб паказаць, на што мы часамі ішлі.

Выдумка тая — замест бунту, збівання мяне прыкладам і імітацыі падрыхтоўкі да майго расстрэлу — я заступіўся за Пшэрву і залп, якога ў сапраўднасці не было; паход са звязанымі рукамі, а нас можна было гнаць і так: у «Зязюленьцы» — перанясенне маіх уцёкаў з 1940-га ў 1941-шы,— выдумка тая здаецца цяпер балюча лішняй, асабліва калі падумаць, што людзям усё гэта здавалася поўнасцю аўтабіяграфічным, на мяжы (у «Сонечным зайчыку») самахвальства і, як плявузгаў П., «маскіроўкі сапраўднасці».

Трэба будзе яшчэ раз прайсціся па апавяданнях, адсунуць іх ад сябе, максімальна пазбавіць рысаў аўтабіяграфічнасці і першае зрабіць больш натуральным. А па ідэі добра.

Чысціць сябе ніколі не позна.

* * *

Пазаўчора, калі мы ігралі пасля абеду ў карты, убачыў, як дзяўчына-падлетак нясла знізу, па сходах, цяжкі абярэмак адпрасаванай пасцельнай бялізны. Шкада зрабілася яе, нібы сваю, і падумаў:

Яна вось бачыць нас «паноў савецкіх»[1] і не падумае нават, што ў душы аднаго з іх з'явілася пачуццё да яе, як да роднай. Шкада, што яна так і не даведаецца пра гэта. А што ж рабіць, калі нельга інакш? Не сказаць жа мне ёй пра гэта. А пачуццё маё не прападзе: я выкажу недзе яго і, магчыма, яна, а не яна, дык другая сустрэне шчыры парыў (odruch, як кажуць палякі) душы і, можа, цёпла стане ёй, як пры сустрэчы з блізкім?..

Важней за ўсё — правільна думаць і адчуваць, не шкадуючы самога сябе дзеля праўды, бачачы сваё месца ў нашым жыцці, сваю работу, свой абавязак і сваю віну.

* * *

Перад ад'ездам сюды хваліўся А. Л., што пішу раман на вялікую, агульначалавечую тэму. «А як жа ён называецца?» «Дзе твой народ». «Ну, дык якая ж гэта агульначалавечая тэма?..» Праўда! Значыцца, праўдай гэта будзе — сумнай і горкай праўдай для мяне,— калі я звяду да афіцыйнай

[1] Запісана ў Доме творчасці.

вузкасці. Глядзелі ўчора тэлевізар, слухалі з сімпатычным і мала яшчэ вядомым мне прафесарам Яругіным выступленне Смірнова («брэсцкага») пра гераізм нашых людзей у дні вайны. Удзельнік абароны Ленінграда, камуніст, матэматык з еўрапейскім імем, прафесар наш раптам павярнуўся да мяне і пачаў:

— Ну і навошта ён ілжэ: «На такія подзвігі здольныя толькі нашы савецкія людзі»!.. Навошта гэтая вузкасць, якая так ужо ўсім абрыдла? Вось мне расказалі ў адным райцэнтры пра такі выпадак. Прыгналі вялікую групу савецкіх палонных. Палкоўнік, немец, гаворыць обер-лейтэнанту: «Вазьміце роту салдат, там, за горадам, ёсць вялікі яр — ліквідуйце гэтую банду».— «Гер обэрст,— гаворыць той,— я страляю толькі ў баі, а гэта безабаронныя людзі».— «Дык што, расстраляць вас разам з імі? Што вы на гэта скажаце?» — «Усё, што я меў сказаць, я сказаў». І чалавека расстралялі. Што гэта — не гераізм? А хіба мала было такога? І хіба гераізм нашых людзей паменшае, калі мы будзем гаварыць пра гераізм другіх?..

Я расказаў прафесару пра тых італьянцаў, што расстраляны былі ў Глыбокім. Стары вельмі зацікавіўся, усцешыўся. «Я раскажу пра гэта моладзі, перад якою буду днямі выступаць!.. Абавязкова раскажу!» І згадзіўся са мною ў тым, што Смірноў, следам за ўсімі цяпер, паслаўшы праклён «культу Сталіна» — сам гаворыць у тым жа духу: вузка, тупа, мелка і, у выніку, бескарысна.

Такога трэба баяцца, калі мы не хочам марнець у затхлай старызне мінулага з яго шалёным «трыццаць сёмым годам».

Глядзелі потым фрагменты фільмаў «Ленін у Кастрычніку» і «Ленін у 1918 годзе» (у перадачы пра Шчукіна), дзе вельмі выразна адчулася афарбоўка сталінская, бо недарма ж карціны рабіліся ў той час. Ленін нібы апраўдвае Сталіна: «Мы недастаткова жорсткія!..», а Горкі паказаны такім сабе «благочестивым дурачком».

Цяжка, ох як цяжка слухаць расказы рэабілітаваных і наогул сведак таго часу — пра «суды» і лагеры...

* * *

З галаўным болем, але ж і з добрым настроем пісаў уранні, калі прыехаў мілы Валодзя Караткевіч, прывёз даўно абяцанае віно... Добра пагаварылі і раптам пацалаваліся

двойчы — ад радасці жыцця, работы нашай і нашай даўняй ужо дружбы.

Пасля Куляшоў чытаў свой, тут напісаны, цыкл санетаў. Радасна было за нашу асмейваную, зацюканую мову, за тое, што на ёй пішуцца такія рэчы, што будуць, на радасць людзям, пісацца і лепшыя! Добра, нечакана добра, неяк пасвяточнаму хораша было мне ў даўно не адчуванай сапраўды пісьменніцкай атмасферы. Таму і запісваю гэта, пры лямпе, перад сном, вярнуўшыся з далёкай, самотнай праходкі — па шашы, пад гоман жаб і перасвіст салаўёў.

* * *

Захоўваць сябе ў тыя дні — нават «захоўваць для вялікіх спраў» — не заслуга, а хутчэй злачынства, са скідкай на несвядомасць. Праўда, у гады акупацыі я думаў не пра захаванне самога сябе (былі, вядома, адхіленні і ў гэты бок, але такія думкі не былі галоўнымі),— я проста не мог так вось адразу перарабіцца з пацыфіста ў савецкага патрыёта. Я рад быў, што ўжо «не трэба забіваць», пакуль жыццё не прыперла да сценкі, не паслала да тых, што забівалі, пераходу ў стан якіх я быў так рад.

* * *

Галактыка... Бясконцае, бязмежнае неба... Жыццё без канца і пачатку....

Пазаўчора, здаецца, слухаючы такую гутарку, успомніў, што я яшчэ хлапчуком зжахаўся ад думкі, што няма ўсяму ні канца, ні краю. «Бог стварыў неба і зямлю...» А хто ж стварыў яго?..

Пачатак майго атэізму.

* * *

Калі я не быў толькі самім сабою, не кіраваўся толькі сваімі прынцыпамі, а па-сяброўску прыліпаў да каго-небудзь іншага,— і ў палоне, і ў вайну, і пасля вайны,— тады я нібы раззбройваўся і з начытанага, узброенага ясным светапоглядам будучага, а потым і сапраўднага пісьменніка ператва-

раўся ў наіўнага вясковага хлопца, што ў дружбе бываў бязвольным пераймальнікам. Адсюль бывалі і памылкі, якія прыкра ўспамінаць...

* * *

Страшнае, балючае прадчуванне вялікай бяды — для дзяцей, для самога сябе, нейкія жудасныя выпрабаванні, што будуць. Я гатовы іх сустрэць і мужна загінуць за родную справу, але ж мне страшна за тых, каго я пусціў на свет, найбольш — за сына. Было днямі жывое адчуванне жаху: усіх іх няма, а я адзін застаўся!.. Такою меркай мераю міжвольна пакуты людзей: гляджу малюнкі пра зверствы СС і адразу ўяўляю маіх на месцы тых, што называюцца чужымі... Бяру сябе ў рукі, кажу, што гэта — нервы, супакойваю сябе тым, што б ні здарылася са мной, з маімі роднымі — не будзе тое чымсьці найгоршым, чаго не бывала з людзьмі... Яно адыходзіць, а потым вяртаецца. І ад уяўлення нават становіцца так цяжка, што разумею народнае, «хоць разарвіся з жалю»...

* * *

Цэлая група бездараў, на чале з «былым чэкістам», В., «новым Бэндам», як называюць яго маладыя, намагаюцца абвінаваціць двойчы пакаранага і рэабілітаванага Бярозкіна ў сіянізме, нацыяналістычнай групаўшчыне (усё гэта не проста так, а намёкамі), давесці ўсё гэта не ўдаецца, у рэзалюцыі сходу гэта сяк-так запісваюць, а паклёпнікаў «отпускают с миром», нават не кажучы ім: «Иди и более не греши»... Яны — сігналяць. Яны сігналілі і калісьці!..

* * *

Да 70-годдзя Сталіна быў падрыхтаваны выдатны падарунак: інкруставаны партрэт самога бацькі з самым звычайным подпісам: «Вялікаму... ад беларускага народа». У самы апошні момант адзін з адказных таварышаў праявіў пільнасць і падняў гвалт: «Што ж мы робім?» На недаўменне менш пільных ён сказаў: «Ад беларускага народа — вы па-

думалі, што гэта азначае па-руску?!» За ноч было пераробле-
на: «Великому... от белорусского народа».

* * *

І ў Камсамольску, і ў яго «спадарожніках» — у Сонечным (гарадок у глыбокай зялёнай даліне і будучае волава) і ў Амурску (новенькі гарадок над ракою і грандыёзнае будаўніцтва хімкамбіната) — усюды думаў пра веліч і трагічнасць нашага часу. Калі ж мы спалучым афіцыйнае, адкрытае з сапраўдным, што часта схавана ў змрочнай і крывавай глыбіні, якую да нядаўняй пары лічылі больш надзейнай, чым краты і замкі, якую хавалі ад народа, ад чалавецтва, нібыта нават дзеля будучага шчасця, з-за нейкіх вельмі высокіх меркаванняў. Думалася таксама і пра нашых маладзенькіх літаратурных занудаў, што нездаволеныя амаль усім, апроч свае таленавітасці,— сюды б іх прывесці, каб паглядзелі, колькі станоўчага ў нашай рэчаіснасці, колькі тоіцца ў ёй натхнення. А з другога боку — я не толькі сам думаў, успамінаў раней пачутае ад тых, што многае перажылі, але і тут, ад слаўных людзей, будаўнікоў жыцця, чуў такія рэчы, што дапаўняюць агульнавядомае, знешне ўра-патрыятычнае, сапраўды, грунтоўна станоўчае глыбокім трагічным падтэкстам. У невялічкім краязнаўчым музеі і цесна і пасвяточнаму шумна, урачыста сабраліся «первостроители» Камсамольска. Ім уручаліся ганаровыя граматы, пра іх мужнасць успаміналі яшчэ раз заслужана добрым словам. А старажылы — часамі нават і без пытання, самі — ужо не шэптам, не баючыся малазнаёмага, гавораць, што на камсамольскі патрыятызм у будаўніцтве «горада маладосці» прыходзіцца не больш дзесяці працэнтаў, а рэшта — менш армія, а больш — ахвяры «культу асобы», на касцях якіх узведзены амаль усе былыя новабудоўлі.

«Гаглідзе не баяўся сакратара крайкома... У генерала Пятрэнкі памерла жонка, дык ён зрабіў ёй мармуровы маўзалей, каля якога дзень і ноч стаяла варта...»

Людзі мерлі без ліку, злоўлены ўцякач тры дні ляжаў застрэлены — на страх другім. Ні віны, ні суда. Людаедства. І гэта — у палавіне XX стагоддзя, пасля Талстога і Леніна!.. І песня — адна з найбольш праўдзівых песняў пра «карыфея ўсіх часоў і народаў»:

... Мы здесь, в тайге, о вас не забывали,
Нам снилась та далекая пора —

Вы здесь из искры пламя раздували...
Спасибо вам: я греюсь у костра!..

Калі ж яна будзе ў нас гаварыцца — уся гераічная і жахлівая праўда нашай гісторыі? І як шмат ужо зроблена ў сэнсе разняволення гэтай нестарэючай, непераможнай праўды!..

* * *

Мілы, сентыментальны Дзіма Кавалёў, пры нашай выпадковай сустрэчы ў Маскве, напісаў у маім блакноце некалькі слоў сваёй далёкаўсходняй сяброўцы Юліі Шастаковай. Я перадаў ёй гэтую пісульку ў аэрапорце, дзе нас сустракала група хабараўчан. Пасля яна, расказваючы мне пра нашых землякоў на Далёкім Усходзе, перадала здзіўленне свае дачкі: «А навошта яна наогул, гэтая беларуская мова?..» Праўда, Шастаковай хтосьці з яе сяброў сказаў: «Юлія Аляксееўна, не разводзьце расавай тэорыі»; праўда, тут можна зрабіць скідку на бабскую балбатлівасць, але ж як дыхнула адразу тым самым вялікадзяржаўным — агромністым, цяжкаботым і п'яна-нахабным — шавінізмам, які мы адчувалі дома так часта і так балюча. І як жа гэта хапае нахабства і слепаты мадэрнізаваць, проста прыстасоўваць гэты імперскі шавінізм да... камунізму, нават і пачынаць той камунізм з найбольшым поспехам ад гэтага?! У «Дружбе народаў» я так і сказаў у гутарцы з загадчыкам аддзела крытыкі: «Ну што гэта мне за праблема — на якой мове хоча пісаць асецін Агаеў?..» Сумна гэта ўсё, дзіка. І таму так прыемна сустрэць сапраўднае — ад вялікай рускай душы, ад сапраўднай рэвалюцыйнасці, ад сапраўднай дружбы народаў.

* * *

Дні былі такія, што нават пачатага, папярэдняга запісу не змог закончыць. Бясконцыя выступленні, сустрэчы — радыё, тэлебачанне, завод, рэдакцыі...

Найцікавейшая сустрэча — прыход да нас, у нумар, старога Усевалада Нікanоравіча Іванова, яго расказы пра

Кітай («Нам бы іхняга канфуцыянства пабольш!..»), пра дружбу з Рэрыхам, трохі пра сваю эміграцыю, пра ваўкавыскае маленства ў бабуліным маёнтку... Эрудыт, бывалец, аўтар многіх кніг («Пісьменнік я, на жаль, непапулярны...»), моцны, нястомны рабацяга, якога і старасць не бярэ.

Як заўвага да канфуцыянства:

Была ў Кітаі «страва», якую забаранялі нават пры гаміндане. У круглым стале дзірка. Пад яе падвязвалі малпу так, каб вытыркала цемя. Пасля яго ссякалі роўна са сталом і — з жывой галавы, пад крык беднай істоты — лыжачкамі выядалі мазгі...

... Ноччу Сярожа Грахоўскі ўсхвалявана і страшна расказваў мне ў нумары пра свае семнаццацігадовыя нявінныя пакуты... Ці можа вярнуцца такое?.. Калі б і вярнулася, ужо не магло б хіба быць такім жахлівым,— з выяданнем жывых мазгоў народа...

* * *

Ціхі Буг каля заставы. Глядзеў на Польшчу, як нядаўна глядзеў на Кітай цераз Амур. За Бугам — беларуская вёска, куды цяпер цёткам дазволена хадзіць да сваякоў. Такі самы лазняк і жаўранкі, і добра, што гэта граніца дружбы: не так адчуваецца недарэчнасць граніц, хоць ёсць і тут недарэчнасць — калі сапраўдная дружба, дык навошта граніца?

Граніца — хутчэй у Кобрыне, дзе культ душыцеля Касцюшкаўскай волі — Суравоў, які не мае нічога супольнага ні з нашай, ні з польскай інтэрнацыянальнай будучыняй, сучасным імкненнем да яе (калі яно — не словы толькі, а імкненне)...

* * *

Сёння зноў любуюся Беларуссю: Белаазёрск — Івацэвічы — Слуцк...

Абапал шашы два помнікі: рускім салдатам, што грамілі паўстанцаў 1863 года — чорны металічны крыж з расяццем (І Н Ц І), а паўстанцам — велічны помнік, цяпер зганьбаваны свядомымі ці несвядомымі нашчадкамі царызму. Бабы казалі, што ланцугі, якімі быў апаясаны помнік, аддзіралі трактарам... Зрэшты, і тых, і гэтых трэба

правіць, і тым, і гэтым трэба думаць пра будучыню міру, якой не спрыяе захапленне крывавым мінулым.

Жыва ўявіў пасля, едучы, дэфіляды, што адбываліся тут, пры польскім помніку, з удзелам ветэрана паўстання, што плакаў ад захаплення, і маладога ўланскага афіцэра, брыдкаслова і блядуна, які ўмеў быць таксама прыгожа-фанабэрыста патрыятычным... Кожнаму сваё? Так мы не дойдзем да ладу, так нам будзе капец,— гэта ўсё больш ды больш становіцца рэальным, непазбежным...

* * *

...На плошчы перад старажытным замкам рассеўся праваслаўны сабор, рассунуўшы гісторыю народа тоўстым жандарскім задам царызму[1].

* * *

Чытаў у «Литгазете», часткова чытаныя раней у «Дніпры», фрагменты з дзённіка Даўжэнкі. Гаварылі перад гэтым з Адамовічам пра смеласць Даўжэнкі, яго чалавечае хараство і пра жаль ягоны, што марна згінула дваццаць гадоў жыцця.

Ці ў аднаго яго?! Я таксама пасля «Марылі», «Зладзеяў», «Жывога і гнілі» пісаў для «Вожыка» замалёўкі «Дзеля сапраўднай радасці» і шчыра думаў, дурань, што і так вучуся, мацней станаўлюся на ногі... Што ж, радавацца, што ў мяне не дваццаць, а дзесяць гадоў прапала? Малая радасць,— там былі залатыя гады, куды лепшыя сілы, мноства якіх пайшло на барацьбу са сталіністамі тыпу двух К. і П. і «иже с ними»... Дый не столькі гэта была часамі барацьба, колькі горкае вар'яцтва самотных пакут, «неотразимых обид», якія здарава патрапалі нервы. Ды што тут скардзіцца — мне яшчэ пашанцавала, калі не лічыць змарнаванага часу, змарнаваных сілаў (нават пра «Забалоцце» ўжо часта думаю з болем і агідай), калі толькі радавацца, што і цябе не пасадзілі праверадыя паклёпнікі, большасць якіх і сёння думае, што ваюе «за партыю»...

---

[1] Запісана ў Таліне.

* * *

Чытаючы Салжаніцына, радасна было за простага чалавека, за доўгачаканы ўздых, за вялікую літаратуру, да якой мы пачынаем — праўдзівасцю — набліжацца.

Чытаючы Экзюперы, радасна было за чалавека наогул. Так пісаць!

У Поля Элюара цудоўныя радкі:

> Не в одиночку мы движемся к цели,
> а вместе с любимыми.
> Понимать научившись любимых,
> мы научимся всех понимать.
> Люди полюбят друг друга,
> наши дети будут смеяться
> Над черной легендой о человеке,
> который был одинок.

**1963**

Сустрэчы з выбаршчыкамі. Многа нудна-фармальнага, але ж былі і сустрэчы, знаёмствы з добрымі людзьмі, з незнаёмымі і мала знаёмымі мясцінамі, былі добрыя гутаркі пра «злобу дня» — кукурузу, траваполле, рэарганізацыю. Шмат людзей думае добра, цвяроза, але гавораць толькі «нізам-понізам», адкрыта, гучна — галасуючы за ўсё, што ідзе па загаду, зверху.

* * *

Намёк, які трэба расшыфраваць. Як я адчуваў сябе на першай сесіі, у ролі «члена ўрада», у ролі апарата для паднімання рукі і пляскання далоньмі. Пагана адчуваў, было няёмка і сумна, асабліва пасля таго, як на паседжанні камісіі па культуры нейкая фіфа-настаўніца выскачыла з першым пытаннем: «А что же будем делать с белорусским языком»...

**1964**

Карпюк спецыяльна пайшоў у «Литгазету», прарваўся цераз прыёмную Барабаша, паглядзеў на яго праз прыадчыненыя дзверы і сказаў: «Я толькі хацеў паглядзець

на чалавека, які паўстае супраць Салжаніцына...» Ведаючы іх абодвух, Карпюка і Барабаша,— смешна.

* * *

Ёсць ужо не толькі «падпольная літаратура» (чытаў «Заполночь» Ул. Карнілава), але і «падпольнае мастацтва». Глядзеў учора фотарэпрадукцыі з малюнкаў Мазурава «1937 год». Асабліва ўразіла «Тату судзяць» (уяўляю свайго малога каля ног дарослых) і партрэт Сталіна — крэтын у цемры... А колькі ж яшчэ крэтынаў робіць сваё!..

* * *

Малады, але вядомы ўжо ўкраінскі паэт расказвае пра сёлетні голад у іхнім сяле на Кіеўшчыне:

— Хлеб прывозяць раз у тыдзень, а чакаць яго каля сельмага збіраюцца кожны дзень. Мой стары служыў у царскім флоце «вперед смотрящим». Цяпер сядзіць на печы і цікуе ў акно, ці не ідзе хто з хлебам. Глядзіць, глядзіць дый засне...

## 1965

Чытаю рукапіс Н. Перкіна «Записки окруженца». Ужо не першы такі матэрыял. І ўжо не ўпершыню падумаў:

Апроч усіх фашысцкіх зверстваў — адной з прычын жахлівага лёсу палонных чырвонаармейцаў была і тая прычына, што іх, палонных, у пачатку вайны было вельмі многа, мусіць, нават для немцаў нечакана многа, і не было куды з імі падзецца, цяжка было іх уладзіць больш-менш «па-людску»...

Гэта — не мой гнілы аб'ектывізм, а горкі, ганебны факт нашай гісторыі.

* * *

Нарэшце сабраўся пачытаць газеты за 1939—1941 гг.

Дваццаць шэсць год яшчэ не споўнілася, а як відаць усё, нават з такой далечыні!

Хоць віктарыну аб'яўляй: каму належыць гэтая фраза? І сапраўды, калі і хто гэта сказаў:

«Различие в режимах не может мешать совместной активной борьбе за мир».

А гэта:

«...Дружба народов Германии и Советского Союза, скрепленная кровью, имеет все основания быть длительной и прочной».

Першае — Гітлер, другое — Сталін. Вось табе і «Führer weist, was er tut»[1]. Вось што такое палітычная фраза!

Трыумф сталінскай мудрай палітыкі, фота людзей — толькі з усмешкамі, і толькі недзе на пятай старонцы, нібы між іншым, скупыя паведамленні пра... пачатак тое вайны, другой сусветнай, што забрала ў нас 20 (калі толькі дваццаць!) мільёнаў жыццяў!..

* * *

...Чым бліжэй мне было — па запылена-шэрых старонках «Известий» — да даты 22.VI.1941, тым усё страшней рабілася. Нібы я ведаў тое, чаго ніхто не ведаў... Нават не ў мінулым часе адчувалася, а — да поўнай, здаецца, ілюзіі — у цяперашнім!..

* * *

Рэдактар газеты, брудны пашляк і кар'ерыст, які ў 1956 годзе пасля вершаў Панчанкі пра прыстасаванцаў крычаў: «Пара саджаць!..», прыбег аднойчы ў сваю рэдакцыю і ў хваляванні паведаміў, што яго, нарэшце, прымацавалі да «закрытага размеркавальніка». «Няўжо ж мой унучак павінен піць парашковае малако!..»

Радуйся, беларускі народзе,— ён будзе піць натуральнае!..

* * *

Учора была ў нашым клубе сустрэча з настаўнікамі рэспублікі, выкладчыкамі беднай беларускай мовы. Яны не пагаджаюцца са становішчам, мы — таксама, і гэта

[1] «Фюрар ведае, што ён робіць».

добра, гэтага трэба больш. Бо лішне ж у нас жабрацкая псіхалогія! Гаварыў пра гэта ў сваім выступленні.

...Адзін з настаўнікаў, беларус з заходніх абласцей, расказваў, як ён у мінскай сталоўцы загаварыў, заказваючы абед, з касіркай на роднай мове і касірка здзівілася:

— Вы пісьменнік?

* * *

18—20 мая ездзіў з Аўрамчыкам і Грахоўскім па Лідчыне. Выступалі ў школах, гутарылі з калгаснікамі, выпівалі і спявалі з настаўнікамі. Успаміналіся радкі Вялюгіна: «Беларусь, Беларусь — ні канца і ні краю...» Прыгожая, працавітая, мнагалюдная Беларусь. У тым сэнсе, што многа харошых, цікавых, цудоўных людзей. І верыцца, што мова наша жыве!.. Зноў бачыў, у новых вобразах, веліч народнага подзвігу і пакут. Калі мы ўскладалі звіты школьніцамі вянок каля помніка расстраляным жыхарам балотнай вёскі Леснікі, глядзелі самотны помнічак па расстралянай сям'і — і проста на агародзе... Калі дырэктар школы паказваў у настаўніцкім пакоі сляды ад куль бандыцкіх на чыстых, пафарбаваных пасля гэтага дзвярах... Тут, у гэтым светлым пакоі, ужо ў свабоднай Беларусі, пасля выгнання гітлераўцаў, «акоўцы», «белапалякі», як называў іх з нянавісцю рахманы і талковы старшыня калгаса,— стралялі нашых людзей, актывістаў...

* * *

Партызанскі сын расказвае, як адзін з партызанаў, камуніст, калі ўжо выйшлі з лесу, пазнаў у паліцэйскай хаце сваю шафу. Сам паліцай уцёк з немцамі, засталася жонка і чацвёра дзяцей. Партызан пастраляў іх. Недастрэлены хлопчык, з прабітымі шчокамі, перапоўз цераз дарогу, і бабы палячылі яго.

Цяпер ён, выхажаны ў дзіцячым доме, працуе рабочым. Каб напісаў успаміны маленства — як урастаў у нашу сапраўднасць!..

* * *

Цяжкая вясна 1953 года. Аграном з вобласці чытае ў падмаладзечанскім калгасе лекцыю, як рыхтаваць на корм салому са стрэх.

Пытанне з месца:

«А што, таварыш, рабіць, калі ў мяне хата пад шыферам?..»

* * *

У нас «цэнзуры няма»... Мне проста параілі (гаварыў па міжгароднім тэлефоне з К.) зняць з рускай кнігі тры запісы «пра культ». З мае згоды іх здымуць, і кніга пойдзе ў друк. А паспрабуй не згадзіцца — не пойдзе. Згадзіўся. Падумалася: вязу вялікі і вельмі дарагі мне воз садавіны, і вось даводзіцца з таго воза даць тры яблыкі таму, хто прапускае, каб ён прапусціў. Правільна, але горка. Асабліва горка стала і было адразу...

* * *

Учора, калі хадзілі ўвечары па горадзе, гаварыў Скрыгану, як я разумею адставанне нашай літаратуры ад жыцця. Самому сабе чалавек ілжэ найменш, у гутарках мы, у параўнанні з нядаўнім часам, куды больш смелыя, праўдзівыя, а вось пісаць — пішам па-ранейшаму «тое, што трэба». Калі не поўнасцю, дык часткова. І «праўда» літаратуры разыходзіцца з праўдай жыцця настолькі, што і чытач плюецца, і самому моташна ад палавіны праўды, чвэрткі яе, васьмушкі і шаснаццаткі... Азірнешся назад, на сваё «Забалоцце», і горка, цяжка!..

...Век пражывеш — разумным становішся. Каб яшчэ раз пачынаць ад пачатку, дык вунь як лепш пражыў бы. А тут не вернеш былога, хоць сам сябе, як вёска кажа, за сраку ўкусі...

* * *

У падзямеллі Кіева-Пячорскай лаўры быў упершыню. За многімі чучаламі стаяць вялікія імёны. Мне непрыемна ўсё гэта, «противоестественно». І думаецца міжволі, што ўсе маўзалеі — справа таксама рэлігійная, як і ўсе культы асоб.

* * *

Пытаюся ў брыгадзіра:

— Чаму ў цябе, браце, коні такія худыя?

— А што ты хочаш? Конь у нас, як і калгаснік,— у паследнюю вочарадзь!..

* * *

Немец не вельмі цікавы. Гаворыць, як ён пусціў цягнік на цягнік, як там «зрабілася вялікая куча» з нямецкіх салдат, а мне чамусьці не вельмі верыцца, неяк нават няёмка і сцішнавата глядзець на яго, бяззубага, сухашчавага выпіваку. Пазней, у раённай рэдакцыі, сімпатычны хлопец Д., які найлепш ведае гэтага Рыфера, усміхнуўся на той цягнік і сказаў, што не верыць, што немец тады прыпісаў сабе гэты подзвіг, а цяпер тым больш, калі ордэн далі, ды кватэру даюць, ды ў газетах пішуць... Для прапаганды, можа, хопіць і яго (быў сувязным, застаўся сам тут), але барацьба саміх немцаў супраць свайго фашызму выглядае ў гэтай канкрэтнасці кволенька... Смешна, як ён гаворыць «па-руску», падпіраючы нямецкімі словамі («Мой баба immer[1] гаўкае: не пі!..»). Непрыемна, незразумела, як ён увайшоў у каларыт нашых люмпенаў — з трэцяй жонкай, з п'янствам, з брудам у хаце.

* * *

Чытаў дзённік былога партызанскага ўрача, сшытак, запісаны то простым, то хімічным алоўкам, сшытак, які

---

[1] Заўсёды, увесь час.

пабачыў многае, як і яго гаспадар. Пабачыў, пачуў, а запісаць не здолеў. Знайдзі ў яго той сшытак упаўнаважаны асобага аддзела ці іншае начальства — было б хлопцу за крытыку іх п'янак ды блядства як вытрымаць, а друкаваць такія нататкі, на жаль, нельга: дробна, неглыбока, лішне асабіста.

* * *

Да Баранавіч з дому ехаў з сям'ёй (маладыя бацькі і дзяўчынка), якая вяртаецца з цаліны. Сёе-тое цікава расказвалі. Ну што за натура ў беларуса! Вось пабыў наваельненскі лапцявоз тры гады ў Казахстане і ўжо гаворыць, як шмат там было ў яго не качак, а «уцей». І вось застанецца зноў дома, у сваёй глухамані, і гэтыя «уцей» з імі застануцца, можа, а то і напэўна, назаўсёды. Дзіўная, гадкая, страшная здольнасць да асіміляцыі.

* * *

Далей бы мне куды-небудзь ад нашага асяроддзя, ад тарбахватаў, гаўнюкоў і сабак, суседства з якімі, думкі пра якіх раздражняюць да немагчымасці. На сесіі (21—22 г. м.) сядзелі побач з Піменам, акумуліруючы адзін аднаго гэтым раздражненнем. Цяжка. І вельмі непатрэбна, бо не памагае працаваць. І не відаць, каб атмасфера ў нашым саюзе палепшылася, каб прыйшло сумленнае, разумнае кіраўніцтва, каб хоць трохі змяніліся норавы. Бо нават і некаторыя маладыя ўвачавідкі псуюцца.

* * *

Мая бедная польская мова! Тут[1] толькі жыва адчуваю, што я — вясковы хлопец пасля сямігодкі, і па-польску начытаны, потым польскі салдат і палонны, які апошнія дваццаць гадоў вельмі мала гаварыў з палякамі. Таму і выступіў я ўчорą на трох мовах — спачатку па-польску, як госць, потым па-руску, як кіраўнік савецкай дэлегацыі,

[1] Запісана ў Варшаве, на першым міжнародным з'ездзе перакладчыкаў польскай літаратуры.

і, нарэшце, па-свойму, як прадстаўнік зямлі, што «і вам, і нам, і ўсяму свету дала Міцкевіча, які маю родную мову любіў...».

Казалі, што атрымалася добра. Апладысменты былі асабліва дружныя на слова беларускае.

Пра тое, што мала ведаюць нас, беларусаў, і ў такім плане:

Японцы толькі што пачалі перакладаць палякаў з арыгінала (раней перакладалі... з рускай мовы). Дзяўчына-шведка, узварушліва нязграбная, высокая студэнтка, расказвала, што Швецыя не ведае польскай літаратуры. Народы вялікія, спрадвеку незалежныя, а не маюць узаемных кантактаў. Дык што ўжо казаць пра нас, беларусаў, з нашай пакрыўджанай мовай, з нашай воляй, што магла б, у сэнсе культурнай аўтаноміі, быць куды большай.

* * *

Толькі што вярнуўся з Масквы. Самая кароткая паездка — дзень. Думаў, выязджаючы з дому, што пабуду два, але ўпершыню не захацелася нікуды ісці, ні з кім сустракацца, а пацягнула дамоў, захацелася цішыні для працы. Гэта адно мне толькі і трэба. А я па-ранейшаму не ўмею шанаваць свой час, жыву, як казаў мне калісьці Калеснік, рассеяна.

Як нешта от сабе, нібы несур'ёзнае, нават нерэальнае, не маё, сустрэў мінскае абранне канадскім прэзідэнтам і маскоўскае — віцэ-прэзідэнтам. А калісьці здавалася б... Ну, цяпер мы ўжо ў іншай стадыі самалюбства. Не памятаю, запісаў гэта ці не, але гаварыў пра гэта часта,— як Коласу, на яго 70-годдзі, чаплялі пяты ці шосты, здаецца, ордэн Леніна. Глядзеў стары, скасавурыўшыся, і хваляваўся, відаць, менш, чым хвалюецца малады чалавек, калі хтосьці на ім прышывае гузік. А паспрабуй не то што не даць яму ордэн, а даць трохі меншы — бяда!.. Я вось таксама добранькі, высакародны, пакрыўджаны, а ўчора браў у Маскве білет без чаргі. Дэпутат, слуга народа... А пажылая жанчына цярпліва стаяла ў чарзе, я зірнуў на яе і падумаў, што вось, можа, якраз яна слуга — і сама служыць, і мужа ці сына, а то і абодвух разам аддала ў вайну... Было мне сорамна? Было. Але ж не настолькі, каб стаць за ёю і пастаяць.

Вось што хацелася запісаць яшчэ. Ад'язджалі пазаў-

чора ад Мінска. Рускі хлопец, ну, малады мужчына, нядрэнны, відаць, чалавек — і на працы, і дома, і наогул,— а ўсміхнуўся і паведаміў мне ледзь не з палёгкай:

«Ну, вот, наконец-то не надо будет больше слышать белорусского языка...»

Да чаго ж яны ўсё-такі сталі адкрыта нахабнымі! Нахабства мацнейшых, каму не пагражае кара і сорам за гэта. Не толькі гэты, як потым, калі ён атрымаў ад мяне разоў некалькі пад дыхлю, аказалася — абмежаваны чалавек, прасцяк, але ж і людзі інтэлігентныя. У Кактэбелі, абедаючы разам за сталом, драматург Любімава спыталася ў мяне, ці ёсць у нас у Мінску беларускія школы. Кажу, што няма. І яна мне, беларусу, беларускаму пісьменніку — спакойна так, культурна — кажа:

«А это и правильно. Будут лучше говорить по-русски...»

Божа мой, якая мілая, тонкая, асвечаная многімі імёнамі агіда! Дружба, узаемная любоў... І самае балючае, што спасылаюцца яны на нашых, а нашы вахлакі — ну, што за нацыя такая! — без пачуцця ўласнай годнасці, без энергіі... Анталогію выдаем, апавяданні збіраем ды абмяркоўваем, дык рэдкалегію не збярэш, а сабраўшы — не пагаворыш па-людску. Слова праўды не скажа, не пагаворыць сур'ёзна, як быццам робіць не для сябе. «Апошні год арэнды...» І сапраўды — быць беларускім пісьменнікам — подзвіг.

Ну, вось табе і цішыня для працы... Ці ўцякаць куды, ці тут трэба навучыцца не паддавацца нашаму пошламу асяроддзю.

* * *

Нейкі працэс, на ўзроўні нюрнбергскага. А збоку, каля сцэны, на падлозе сядзіць — ці сведка, ці абвінавачаны — абняўшы аберуч калені, палажыўшы на іх старэчую, трохі лысую, трохі астрыжаную галаву — Хрушчоў. У стылі Кафкі — столькі пакуты ў яго выглядзе і паводзінах (раз-поразу круціць галавой), столькі дзікага ў гэтым ад нашай дзікасці, што я ажно прачнуўся.

Другі сон. На вялікім, чысценькім кужэльным палатне ляжаць вялізныя, румяныя, гарачыя боханы хлеба, якія толькі што выняла з печы мая гаспадыня!..

Таксама ажно прачнуўся.

* * *

У кнізе «Zygzagiem i po prostu» Ендрыхоўская піша, як на віленскай плошчы каля касцёла Пятра і Паўла літоўскія нацыяналісты ў першыя дні вайны па-зверску распраўляліся з сем'ямі чырвоных камандзіраў, забівалі жанчын і дзяцей... Страшная сцэна!

Пішу і думаю, што ў выпадках, «патрэбных» нам, мы гаворым пра чалавечнасць. А як адчувалі сябе, напрыклад дзеці польскіх асаднікаў у суровую зіму 1939—1940 года, калі іх хапалі начамі і везлі з цёплага дома чортведама куды?.. А дзеці нашага Валодзі?..[1] А колькі іх было такіх?

* * *

Пераглядаю «Полымя» за год, вылоўліваю нячытаныя рэчы.

Чытаў Янкоўскага пра культуру, народнасць мовы і рады быў, што я — беларус. А ў наш час гэта сапраўдная, вострая радасць.

Усё-такі праўда, што арыштаваны новы раман Салжаніцына, як раней Гросманаў. Думаў з трывогай пра свае запісы... Успамінаецца Таўлай: «Я сам і пасядзець магу, а вершам часу шкода...» Паэт іх падганяў у людзі, а тут іх, творы таленавітых, сумленных пісьменнікаў, зусім знішчаюць. Гэта горшы варыянт, чым **фізічна** знішчаць пісьменнікаў, творы якіх пасля культаўскага ліхалецця хоць часткова часамі, а ўсё ж засталіся.

Праўду казаў Талстой: рэальна наша — толькі сапраўднасць. Хоць і нялёгкая яна, а трэба жыць.

Ну, буду канчаць добры, патрэбны артыкул мілага Сцёпы Александровіча пра Багушэвіча, з якім таксама добра, радасна быць беларусам.

## 1966

Страшна бачыў у сне свайго хлопца: яго не было цэлыя суткі, і я яго не шукаў, а ён прыйшоў і кажа, што ўчора быў у «цёці Марыі, заключоннай», яна напаіла яго гарэлкай

---

[1] Брат Я. Брыля Уладзімір (1899—1938), расстраляны па рашэнні «тройкі».

і ён валяўся ўсю ноч на двары. Я намагаўся быць спалоханым, засмучаным, але не быў ім па-сапраўднаму і, прачнуўшыся, думаў пра дзяцей.

...Нялёгкая справа — быць бацькам!.. У нейкай сувязі ўспомніў пра Хадановіча ў труне — пачарнелыя рукі і твар, амаль увесь у бінтах, на які мне, стоячы побач, у апошняй варце, цяжка было зірнуць, і самае... ну, не страшнае, а што і выклікала гэты запіс — мёртвыя ногі ў малых, вастраносых і металічна бліскучых модных туфлях, ужо не скажаш — бездапаможна, а абыякава расстаўленых. Перада мною, у нагах нябожчыка, таксама не звёўшы ногі ў модных туфлях «на смірна», стаяў мілы Міхась Стральцоў. Мы штосьці думалі кожны і, можа, калі-небудзь, як не самі мы, дык хто-небудзь даведаецца, што мы думалі. А побач, у радзе сваякоў, сядзела маці забітага і маўчала...

* * *

Другое — рэха нядаўняга закрытага партыйнага сходу, адкуль і да нас, грэшных (а нас больш за 200 млн.), прасочваецца тое, што чыталі пра Кітай. З жахам думаю пра тыя сорак мільёнаў галодных, беззямельных (без месца на зямлі), якіх кітайскі ўрад хоча пусціць цераз нашу граніцу без усякай зброі — «па сваё»... Чым і як мы іх будзем не пускаць?.. І як не думаць пра тое, што ім, кітайцам, сапраўды цесна, а ў нас да чорта дурное зямлі, нарабаванай царызмам?.. Толькі вялікае, мудрае рашэнне можа ліквідаваць такі канфлікт, толькі адзіная чалавечая сям'я калі-небудзь пазбудзецца такіх супярэчнасцей. А пакуль што? Пакуль што я нават запіс гэты баюся рабіць, каб не палічылі мяне здраднікам... Цяжка!

* * *

Кажуць, што здымуць ці ўжо знялі з «Нового мира» Твардоўскага. Думаў, што калі, не дай Бог, зробіцца так — трэба было б напісаць яму пісьмо пра мае даўнія, за некалькі апошніх год, пачуцці да яго, чалавека, якому належыць — потым — помнік з традыцыйным надпісам: «Благодарная Россия». Я ўдзячны за прадмову да Буніна, за слова пра Пушкіна, за вершы пра маці, за Салжаніцына,

за... Многа гэтых «за» ён заслужыў апошнім часам. Цяпер (калі і сапраўды ёсць такі дурны, шкодны загад) найбольш адпаведны для мяне момант сказаць яму слова любві і пашаны, не думаючы, што гэта будзе адно з многіх слоў, што ён і не заўважыць гэтага, што ён мне не адкажа. А найбольш адпаведны момант таму, што ён не палічыць маю любоў за аўтарскі падхалімаж да рэдактара. Хоць, зрэшты, гэта — глупства[1].

* * *

Запісваю тое, што ўчора ўвечары падумалася пра маё «Забалоцце». Як мне міжвольна стала балюча ад той ілжы дзеля racji stanu,[2] якую я гарадзіў, браў штурмам, заплюшчыўшы вочы, дабіваўся газетнай праўды і лірычнай лёгкасці. «За Мінскам (ці пад Мінскам) былі, калгас выдатны бачылі...» І ён іх, маіх герояў, пераканаў у перавазе калгаснага ладу. Як гэта мелка! А сам я да таго часу бачыў адзін калгас пад Мінскам, Валодзькаў, калі мы, я і Паслядовіч, суправаджалі групу гродзенскіх аднаасобнікаў, гасцей «Савецкага селяніна». Было ў тым калгасе і добрае, але больш было прыгараднай ды пацёмкінскай паказухі. Нельга было не верыць у гаспадарскую радасць старшыні калгаса, які паказваў нам выдатнае жыта і добры статак. Але ж памятаецца і тое, як Фясько, рэдактар газеты, падвыпіўшы за багатым калгасным сталом, прызнаўся мне на вуха: «Гэты стол каштаваў мне 5 тысяч». Было і добрага многа,— і гэта я кажу не ў апраўданне самому сабе,— добрага ў нашых мясцінах, у нашых маладых калгасах. І я быў шчыра рады яму, пісаў пра гэта шчыра. Але ж было і вельмі шмат такога, пра што маўчаў, бо маўчалі тыя, каму я верыў. А па вёсках Заходняй хадзілі з торбамі ўсходнікі і ў хатах хрысціліся на іконы і маліліся ўголас: «Каб вам, людзі добрыя, не дажыць да таго, што ў нас!..»

Словам, сёння я гатовы да грунтоўнага растлумачэння, чаму аповесць мая — слабая, дрэнная. Я толькі моцна адчуў учора боль ілжы, боль віны перад праўдай жыцця.

---

[1] Дурное, шкоднае збылося. І я паслаў тэлеграму:

«Дорогой Александр Трифонович! Давно и глубоко уважаю Вас и от души желаю Вам всего наилучшего.

*23.11.70*

*Янка Брыль*».

[2] Racja stanu — інтарэсы дзяржавы *(польск.)*.

* * *

У Талстога ёсць пра радасць сабачкі, якога гаспадар пачасаў за вушамі. Дурман не толькі пахвалы, але проста «высокого общения» з начальствам дзейнічае на чалавека адмоўна, аслабляе яго волю і самастойнасць.

Нават і я — маю права на гэтае «і я» — адчуваў сябе трохі, як той сабачка, седзячы на гутарцы на самым высокім узроўні. «Маю права» — таму, бо магу ўсё-такі цвяроза глядзець на рэчы, магу аналізаваць з'явы і асобы больш незалежна і сумленна, чым некаторыя, дый многія з маіх калегаў. Дурман гэты прайшоў вельмі хутка. Дый там я не вельмі паддаўся яму, не віляў. І думалася: як жа паводзяць сябе тыя службісты, што ходзяць туды адны і гавораць у больш «інтымных» абставінах, што за гэткае пачэсванне за вушамі гатовы не толькі найвышэйшаму, але і самаму маленькаму інструктару нагаварыць вернападданай лухты — колькі ён хоча ды яшчэ і з коптарам...

Культ асобы пачынаецца ад пят, а не канчаецца ён у нас — аніяк.

* * *

Учора вячэраў з двума гасцямі, адзін з якіх, сімпатычны мне чорнарабочы вайны, перамогі над фашызмам, расшчыраны чаркай, расказаў, як у Германіі, улетку сорак пятага года, яго судзілі. І цяжка мне стала ад гэтага расказу, ажно запісваю, каб нейк расквітацца з гэтым цяжарам, балючым і складаным...

У хлопца немцы — не проста фашысты, уласаўцы, паліцаі і немцы, а іменна нямецкія салдаты — замардавалі ўсю сям'ю. Дзеўка, што ацалела нейкім цудам, расказвала, як яго старая маці крычала ад перадсмяротнага жаху, а маленькая дачка супакойвала яе, сваю бабулю:

— Бабка, не крычы!..

(Успомніў зноў, пасля ўчарашняга, як глядзеў у нейкай кінахроніцы: маці забіта, а маленькі в'етнамчык плача рукамі, бо кадры нямыя, трасучы імі ў святым, капрызным пратэсце...)

І вось гэты хлопец, якому было ўжо дваццаць дзевяць гадоў, насіў у простай душы столькі нянавісці і прагі помсты, што яму мала было разгрому вермахта, капітуляцыі. Ён расказвае, як ехаў на «студэбекеры», адзін у машы-

не, і на дарозе Дрэздэн — Берлін дагнаў калону бежанцаў, што вярталіся з поўдня на поўнач. Пехатой, у калясачках, з нейкай маёмасцю.

— Я азірнуўся — нікога няма. Ну, думаю... І пачаў іх ламаць!.. Потым мяне даганяе на «вілісе», ён трубіць. Я ўцякаю. У гараж прыляцеў, паставіў машыну...

(Мне нібы хочацца, ды я баюся, як кашчунства нейкага, спытацца пра кроў на скатах...)

— ...Выйшаў, іду, бачу, яшчэ тры малыя, гадоў па чатырнаццаць, купаюцца ў купальні. Цаглінаю пазабіваў...

(Мне трэба, мусіць, пратэставаць, я адчуваю, што на гэтым канчаецца мая ранейшая сімпатыя да гэтага чалавека, але я маўчу. Мне толькі вельмі ярка ўяўляюцца тыя хлапчукі,— як заўсёды цяпер,— праз майго хлапчука, які вельмі любіць купацца...)

— ...Арыштавалі тады мяне, кажуць, што на дарозе я задушыў восемдзесят шэсць чалавек. «Душыў,— кажу,— і буду душыць!» «Не,— кажуць яны, з асобага аддзела,— цяпер ужо мы табою зоймемся». Судзілі мяне паказацельным, разам з нейкім сяржантам, што зарэзаў у бойцы таварыша. Далі мне дзесяць гадоў.

— І што?

— Адвезлі потым трохі ды выпусцілі. І тады ўжо я ездзіў вось так,— змяіць ён карэлым пальцам па палітуры стала,— нават іхняй іголкі не зачапіў.

Я не хачу, не магу, здаецца, не маю права ад сябе каменціраваць гэтую бездань жаху. Мне ўспамінаецца другі чорнарабочы вайны, перамогі, што здабывалася не ў беленькіх пальчатках. Былы партызан, пасля франтавік, што граміў Германію, хадзіў цераз Хінган, што мае права лічыцца, як гаворыць яго быстрая жоначка, сапраўдным Іванам, які на сваім карку вынес вайну. Іван прыйшоў — не сам прыйшоў, а жонка прывяла — да дэпутата, земляка, таварыша па брыгадзе, прасіць памагчы з кватэрай. Працуе зноў жа на самым нізе, рабочым халадзільніка, а не якой-небудзь вялікай ці моднай новабудоўлі. Дзеці растуць і вучацца нядрэнна. Асабліва старэйшы хлопец. Урокі рабіць лазіць у паграбок пад домам, дзе яму бацька правёў святло, лямпачку над столікам. Бо ўсё яшчэ стаіць Іван у чарзе на кватэру.

— Я цябе, браце, не турбаваў бы, але баба не дае дыхнуць...

Ён нават усміхаецца вінавата.

Слова за слова і расказаў мне выпадак.

— У Германіі тожа было. Ідзем мы з лейтэнантам і чуем: наверсе ў доме крычаць. Узбеглі мы, здаецца, аж на чацвёрты паверх, глядзім, а гэта наш адзін, здаецца, старшына. Немцы, стары і старая, крычаць, а ён ужо адабраў у іх малую — дзевачку гадоў са тры ці з чатыры — і нясе да акна, каб выкінуць. Я падляцеў ды ахнуў яму аўтаматам, прыкладам па галаве. Што ж ты, сукін сын, робіш?.. Што ж табе гэтае дзіця зрабіла?.. А тады яшчэ лейтэнант яго паставіў ды па мардах...

Я — з гэтым, толькі з гэтым Іванам!

А таму Івану, што называецца інакш, я дарма не сказаў усяго, што думаў, слухаючы яго расказ. Бо ён жа мне ўсё расказаў. Нібы спавядаючыся, каб палягчэла.

Дарога Дрэздэн — Берлін цяпер пралягае ў дэмакратычнай Германіі. І абапал яе недадушаныя «студэбекерам», таксама як і бацькі трох забітых цаглінай хлопчыкаў, памятаюць, калі не **толькі,** дык **перш за ўсё** сваю крыўду. Як зямляк мой і многія з нашых — сваю. Колькі ж трэба, каб мы падняліся вышэй, мы — людзі, насельнікі Зямлі, якая ўжо знята намі з вышыні сарака тысяч кіламетраў?

...Расказ Іванаў стаяў у маёй памяці на чарзе два гады. І сёння зразумела ўжо, чаму я не мог яго запісаць[1].

* * *

Шкада стала нашу мілую вясковую малечу, якую трохі прывучаць да роднай граматы, а потым адсаджваюць ад яе, адрываюць — нялюдска...

* * *

Калі мне ўчора сястра ставіла тысячу і адну баньку, весела ўявіў Танка, магутнага рагатуна,— як ён ляжыць пад банькамі і рады, што гэта вельмі цікава малым, якія спалохана і здзіўлена акружылі ягоны ложак...

---

[1] У скарочаным з-за цэнзуры выглядзе запіс гэты быў надрукаваны толькі ў «Новом мире». № 4 за 1968 год.

* * *

Старая кадра — К. выступае ў Ташкенце, на адкрыцці нашай дэкады:

— Таварышы ўзбекі, давайце разам павучым нашых пісьменнікаў пісаць! Каб памагчы ім у выкананні пяцігадовага плана!..

Тая ж кадра слухае на нашым пісьменніцкім з'ездзе выступленне аднаго са старэйшых літаратараў — аж рот разявіў ад цікаўнасці. Прамоўца радуецца, як дружна, хораша ідзе моладзь у беларускую літаратуру, а начальнік — гэта відно па ягоным выглядзе — думае:

«І спраўся тут з гэтай заразай, паспрабуй яе асіміляваць...»

* * *

Намёк:

Добры хлопец, з прыгожай ваеннай біяграфіяй, аднак ці ж даваць яму за гэта, як забаўку для красавання, як падарунак,— лёсы людзей, раён, вобласць, рэспубліку?..

* * *

Важная дама «зверху» прыйшла на пісьменніцкі сход.

— Прабачце,— кажуць ёй,— гэтае месца занятае.

— Нічога, прыйдзе таварыш — пасадзім.

Запахла падтэкстам...

* * *

Касцёл распісаны італьянцам. А на сцяне — партрэт Сыракомлі. Падлічыў яго гады — толькі сорак! — і стала нібы зайздросна, сумнавата, што вось мала пажыў калега, а добры след застаўся. Не тут — у жыцці. А тут, у Нясвіжы, бачыць яго прыемна па-асабліваму. І ўспомніўся жупранскі касцёл — Багушэвіч. У адным часткова, у другім поўнасцю пачатак нашага станаўлення. Перамога — не поўная, барацьба павінна ісці і расці. Каб не ўмерлі. Бо сумна, цяжка і дзіўна — быць не самім сабою на сваёй зямлі.

* * *

Гэта ўжо наша, новае — прадстаўнікоў савецкай улады большасць (бадай, што большасць) народа лічыць панамі. Гаварылі ж мне мае выбаршчыкі: «А што нам за розніца, які пан будзе ў нас дэпутатам?..» Імкнецца ж амаль кожны калгаснік паслаць на вучобу, у горад сваіх дзяцей, каб яны не капаліся, як бацькі, у гнаі, а «пажылі, як людзі»...

* * *

Што такое наша (мая?) «публіцыстыка»? Жаданне падагнаць жыццё пад газетную праўду, апраўдаць, падперці вернападданымі фразамі пэўную смеласць, якую дапусціш, не думаючы пра нездавальненне начальства.

Вытрасаў яе, распратакую публіцыстыку, з «Быстранкі», цяпер прачытаў «Апошнюю сустрэчу» і таксама буду вытрасаць. Усе падпорачкі, усю маскіроўку, якая там сабралася, пакуль рэч пралезла ў друк. Цяпер, можа, пралезе і так?..

* * *

Барацьба з культам асобы па-ранейшаму (да XXII з'езда): помнік Леніну к Першамаю пафарбавалі, а Сталін так і застаўся аблезлы.

* * *

Простая, сціплая, акуратная. Ходзіць — наскамі танных туфляў усярэдзіну. Гаворыць з наведвальнікамі і па тэлефоне толькі па-руску. А потым чую: «На афторнік мястоў уже нет». Бедная беларуска. Бедная Беларусь.

* * *

Якое ўсё-такі трэба мець вялікадзяржаўнае нахабства, каб гаварыць нам, беларусам, што вывучэнне нашай роднай мовы ў нашых школах перашкаджае нашым дзецям вывучаць мову рускую!..

* * *

Раней я думаў так:

Калі б беларусу **дазволілі** быць беларусам, які гэта быў бы цудоўны беларус!..

Днямі, на сесіі Вярхоўнага Савета, слухаючы, як здорава рэжуць некаторыя кіраўнікі па-беларуску, нават не проста з паперкі, а так сабе, адрэдагаваў свой ранейшы горкі «афарызм» наступным чынам:

Калі б беларусу **загадалі** быць беларусам... і г. д.

## 1967

Пімен ужо, а я, здаецца, таксама ўжо не дэпутат. Першы вечар было балюча, думалася пра недавер, пра радасць ворагаў, пра «козни» Б. і яго памагатых. Не вельмі прыемна і цяпер. Пакуль што. Бо ўжо адчуваю свой **галоўны настрой**, думаю, што гэта заганяе мяне ў самога сябе. А што хто скажа — не так і важна, не так і страшна. Зрэшты, у вачах многіх нашы шанцы, наш чалавечы, пісьменніцкі аўтарытэт яшчэ павысіцца, нам павераць, што і мы маглі «истину царям с улыбкой говорить».

У саюзе — горка[1]. Але дэзерціраваць наогул, а тым больш цяпер — нельга.

Калі б мяне **там** спыталіся, як я ўспрымаю «адстаўку», можна было б адказаць па-народнаму: «Бог даў, Бог і ўзяў». Бо пад другую мудрасць я не падыходжу — мне нельга сказаць было: «служы пану верне, а пан табе перне»,— я заўсёды стараўся быць самім сабой, імкнуўся быць перш за ўсё чалавекам. Як Федзя кажа: «Заявы ж ты на гэтую пасаду не падаваў».

Увайсці б зноў у добры рабочы настрой. Здаецца, увайду, бо ёсць сёе-тое пачатае.

* * *

Гартаў «Літературный щоденник», толькі што куплены ў кіёску на Крашчаціку. Знайшоў сябе: «Аўтар аповесці «У Забалоцці днее», адзначанай Дзяржаўнай прэміяй...»

[1] Я. Брыль быў у той час сакратаром праўлення СП БССР.

Вось так яно і ідзе — пішы ці не пішы, уключай ці не ўключай гэтую рэч у збор твораў. Сумна.

* * *

Выбралі ва ўсесаюзнае праўленне. 422 — «за», «супраць» — 5. І вось непрыемна думаю пра гэтых пяць галасоў... Ці ад самалюбства, ад раздражнення думаю пра тых,— з нашай дэлегацыі,— каго ўяўляю ворагамі, ці ад маёй даўняй наіўнай упэўненасці, што мяне павінны любіць усе, што трэба, каб любілі... Хоць сам я выкрасліў чалавек дваццаць, а то і больш. Хоць не магу я і далей не быць самім сабою: трохі прынцыповым, настойлівым, а трохі заразай і гарачкай...

Ды што ўсё гэта азначае ў параўнанні з тым, што прыемна было пазнаёміцца з Траяпольскім, Круціліным, Бондаравым, што вельмі прыемна было прачытаць «Ракавы корпус» Салжаніцына?!

Складаная жывёліна — чалавек.

* * *

Ранняя раніца высокага хвалявання і думак — другая частка рукапісу[1]. Добра! Рад, што набліжаюся да глыбіннай сапраўднасці нашай літаратуры, азіраюся на пройдзенае і думаю, што трэба яшчэ больш змагацца за самога сябе, і ніколі гэта не позна. За таго самога сябе, які даўно пачаў імкнуцца да святла, сам блытаўся, паддаваўся часамі палітычнай модзе, зноў ажываў, браў сябе ў рукі і — калі думаць пра вынікі — сёе-тое рабіў і зрабіў, і павінен зрабіць.

* * *

У большасці пісьменнікаў колькасць ордэнаў сведчыць пра ступень іхняй прыручанасці.

А потым бывае і атупенне: у аўтабіяграфіі — творчай, для кнігі — стары, адносна паважаны чалавек дае нашчадкам грунтоўны пералік сваіх урадавых узнагарод.

---

[1] «Раковый корпус».

* * *

Два дні пасля пазаўчарашняга заключнага канцэрта фестывалю мастацкай самадзейнасці прыкрае, да агіды нуднае адчуванне... Ад брэсцкага «хору рускай (!) народнай песні»... ці як ён там называецца, і ад усяго канцэрта, дзе за два вечары, [redacted] сарака нумароў праграмы... шэсць нумароў беларускіх...

Некаму ж гэта патрэбна!.. Не толькі сваім прыдуркам ды падхалімам.

І нічога гэтае «рускае» не мае агульнага з сапраўдным рускім, якое я люблю — усё жыццё.

* * *

Думалася (каля помніка Карамзіну[1]), што пісьменнікі XIX стагоддзя ў сэнсе міжнародных сувязей, свабоды падарожнічання былі большымі, як ні дзіўна, інтэрнацыяналістамі за нас, сучасных пісьменнікаў, ленінскай воляй пакліканых быць патрэбнымі працоўным і прагрэсіўным людзям усяго свету... Нават цяпер, калі са скрыпам, праз тугое горла афіцыйнага дазволу, сяму-таму можна — часцей, праўда, не тым, каму трэба было б — выехаць за мяжу, хоць зашпіленым на ўсе гузікі дэлегатам, хоць у наіўным турысцкім натоўпе... А што было нядаўна, у сталінскім мяху народаў?..

* * *

Што адбываецца з пісьменнікам пасля таго, як ён напіша штосьці смялейшае? Яму даюць па галаве. Спачатку ён, аглушаны, проста разгубіцца, а потым пачне мітусіцца,— намагаецца пераканаць чытача (а больш тым часам думае пра крытыка ды выдаўца) у сваёй поўнай лаяльнасці, у добрых намерах свае рэчы. І, не набыўшы неабходнага для працы спакою, пачынае правіць, кідаючыся ад адной крайнасці да другой...

Я стараўся цяпер, з дыстанцыі часу, у спакоі пасля буры, што даўно адышла для гэтай рэчы, узяць у другі, больш

---

[1] Запісана ва Ульянаўску.

стройны кампазіцыйны варыянт і тое вартаснае з варыянта першага, што не павінна прапасці, што павінна служыць задуме твора.

Галоўнае тут не тое, што скажуць крытыкі, у якой ступені мадэрнізацыі «Быстранкі» яны мяне абвінавацяць,— справа ў тым, каб твор і застаўся тым творам, які быў задуманы і напісаны ў 1953—1954 гадах (складаны час не толькі для літаратараў: пераход ад сталінскай стабільнасці, «яснасці» да XX з'езда), але каб я вярнуў у яго тое, што хацеў сказаць і што мне цяжка было сказаць (надрукаваць) у той час.

Дзве нянькі (сем нянек), а малое без носа. У пісьменніка нянек хапае. Яму не нос, а часта душу вымаюць.

А як у нас для аўтара робяцца яго няўдачы — гэта ўжо іншая тэма...

...«На Быстранцы», «Апошнюю сустрэчу» і сёе-тое іншае я правіў як належыцца. А прызнання такога ў «Думах у дарозе» не зрабіў. Ранавата? Каб не напсаваць самому сабе?.. Важна, важней за ўсё, што паправіў і што прайшло, надрукавана,— як быццам цэнзар і не чытаў, а прапусціў так...

* * *

Сніў учора Твардоўскага. Даволі прыемна. Праўда, гасцінны гаспадар (у яго дома) потым некуды знік, а я пабыў у яго адзін і... прачнуўся. Падумаў адразу: і сню я цябе, відаць, таму, што недзе там мой рукапіс чытаецца, а я, як ні здаюся сам сабе спакойным, усё-такі хвалююся, чакаю... І апусціўся вось — праўда, у сне — да паводзін беднага, ветлівага сваячка. Мужчына, якому пяцьдзесят, здаецца, што і сталы, і недурны, не апошні, але заражаны жаданнем славы...

Ранішняя пошта прынесла мне вестку не з «Нового мира», а ад рэдактара мініяцюр у «Советском писателе». Милейший С. Л. піша, што з маёй «по-настоящему хорошей книги» трэба выкінуць ажно чатыры старонкі, дзе пра культ.

Уздыхнуў я, як конь перад цяжкай дарогай,— зноў пачынай ваяваць...

* * *

Учора па службе быў у N., на яго юбілеі. Сумота страшная ад пашахоніі. Хоць і думалася, што ў кожнай, хоць і найменшай, ячэйцы — сваё жыццё: са сваімі нявіннымі, мілымі дзецьмі, гаспадарлівай жонкай, ціхай цёшчай, заслужаным цесцем ці братам, мноствам сучаснай моладзі... Яшчэ раз, пасля Ларчанкавага юбілею, падумаў, што добра зрабіў, адмовіўшыся ад святкавання свайго. Колькі непатрэбнай, нуднай маны, фальшу! Тым больш — пры такой беднасці, як учора. Хоць на сталах — румяныя смажаныя парсючкі, хоць сам імяніннік наіўна радасны, падрыхтаваны да гэтай падзеі — з тостамі ды экспромтамі, што пахнуць як залішне загадзя падрыхтаваныя салаты... Беднасць духоўная, з яе смяяцца не грэх. А можа, і грэх?.. Не ведаю. Але ад суму таго, як чужы, я ў першым перапынку развітаўся з гаспадарамі і ціха паехаў дахаты. І ад суседкі свае за сталом, адукаванай пляменніцы юбіляра, што ва ўсёй беларускай літаратуры прызнае толькі гумар (па-сямейнаму, ад дзядзькі?) і кажа: «Как вы ни старайтесь — все равно он, белорусский язык, умрет...»

Ці гэта мы — такая нацыя, ці гэта нашы дабрадзеі так апрацавалі нашу інтэлігенцыю?..

Аднак жа нічога не зробіш — кратацца трэба. Свой абавязак мы выканаем.

* * *

Трэба сёння рабіць, што трэба. Вось кончу гэты запіс і буду рыхтаваць тэзісы нашай гутаркі ў ЦК — пра зноў і зноў новыя праявы вялікадзяржаўнага шавінізму. Калі мяне туды не запросяць — трэба дапамагчы Максіму як найлепш выказаць тое, што мы павінны выказаць. Калі ж пайду і я — буду самім сабою. Хай расце мая слава «беларускага нацыяналіста», што дайшла ўжо і да Масквы...

## 1968

Сумна і горка было ад гвалту, які зрабілі над маім IV-ым томам чыноўнікі. Што мне скажа, чым мне паможа Пілатовіч? Напісаў яму добра, з неабходным пачуццём грамадзянскай і пісьменніцкай годнасці.

Дзіўна і гадка ісці да людзей, якія проста будуць калечыць цябе, тваё адзінае слова — без усякага права, без усякага толку, а ты глядзі і не чакай разумення, спагады... Як гэта перадаць?..

* * *

Ох, мой чацвёрты том!.. Учора быў у Пілатовіча. Цуд не адбыўся, справу ён вырашыў... службова, паклікаўшы Марцэлева. І ясна стала, што ў «калектыве», якім прыкрываўся Матузаў, удзельнічалі не толькі выдавецтва і камітэт па друку...

Сёе-тое прыйдзецца выкінуць. Але ж не каюся, што напісаў пісьмо: гэта патрэбна не толькі мне. Трэба, каб нашага брата больш паважалі. Ці навучацца?..

Прыемна было пачуць з Масквы, па тэлефоне, што там мініяцюры ўжо выйшлі. То там, то сям, а не ляжаць у рукапісе. А далей будзе відно. Не адзін жа я адчуваю тым часам «новы подых свабоды слова...».

* * *

Цэлы дзень — і калі рыбу лавіў з хлапчукамі, і калі хадзілі з Нінай[1] па цудоўных ваколіцах, і цяпер, на захадзе сонца, слухаючы польскае радыё,— пагана на душы ад гвалту, які зрабілі над маім чацвёртым томам, прымусіўшы зняць тое, што здаецца патрэбным... З гэтым нельга пагадзіцца, хоць я і быў учора задаволены, што сёе-тое ўратаваў, «рэдагуючы» карэктуру з самім дырэктарам выдавецтва, і што яшчэ раз паказаў, што нас павінны паважаць.

* * *

Мне начхаць на таго, хто ціхенька піша на мяне даносы, дзякуючы якім павышаецца пільнасць начальства, закліканага «памагаць» нам пісаць добрыя кнігі. Хоць і крыўдна, балюча. Нічога, калі-небудзь выдам і тое, што цяпер знята, выпраўлю тое, што пакалечана «праўкай». (Так, як зрабіў, дзякую Богу, з «Быстранкай», «Апошняй

---

[1] Жонка Я. Брыля.

сустрэчай», з некаторымі апавяданнямі, з раманам.) І рад я, што мне начхаць...

А таму пісаку радасна, што хоць так вось адпомсціў мне за тое, што я, хочучы быць прынцыповым, недзе або пакрытыкаваў яго, або перашкодзіў яму пралезці ў саюз...

Вось як яно ўсё добра,— абодва мы па-свойму радыя, літаратура наша ідзе... далей наперад, і начальству нябрыдка есці свой хлеб...

* * *

Дагэтуль яшчэ ўсё хочацца запісаць тое, што міжвольна, сэрцам падумалася ў **той дзень**[1]: а ты яшчэ абураўся, дзівак, за сваю карэктуру!..

* * *

На сустрэчы з фінамі ў таварыстве дружбы. Хтосьці з нашых з шаблоннай гордасцю паведамляе, што адзін з заводаў выканаў план года на паўтара месяца раней. Вясёлы, моцны фін пытаецца:

«І што, рабочыя тады адпачывалі?»

У падтэксце гэтага пытання ён хавае штосьці сваё, а я думаю, што́ лепш: выкананне ці «перавыкананне»...

* * *

Простая цётка, малапісьменная, нават з багатай сям'і (зямлі было многа, але з-за ўдова-сіроцтва ладу не было, і не былі яны па-сапраўднаму багатыя, толькі петавалі «без атхлані»),— цётка гэтая ўспамінае:

— Яшчэ пры тым калгасе, у саракавым годзе, знайшла я бумажнік з грашыма і ўсякімі спраўкамі...

Аказалася, што згубіў яго старшыня калгаса, былы падпольшчык, будаўнік новага, вякамі чаканага жыцця. Аддала яму ўсё. Паабяцаў паўлітра. А потым, замест гэтага, высмеяў на людзях, на сенажаці, што... дурная:

— Трэба было грошы забраць сабе, а дакументы падкінуць. Так робіцца.

---

[1] Маецца на ўвазе дзень увядзення «братніх» войскаў у Чэхаславакію.

Во — торжество победителя!..

Успамінаюцца тыя героі вайны, партызаны, што вось ужо дваццаць пяты год абкрадаюць любую радзіму, з чыстым сумленнем... члена партыі, які калісьці ўсё аддаў... гатовы быў аддаць. Вось праблема. Залішне глыбокая, каб можна было надрукаваць.

* * *

Чытаў «Размышления» Сахарава. І радасна было, што такія людзі ёсць, што яны не толькі думаюць і адчуваюць, але і робяць штосьці, каб лягчэй было дыхаць.

**1969**

Пазаўчора прачытаў брашуру з 1932 года пра «класавую барацьбу ў беларускай літаратуры». Ад прававернасці Галавача і Салагуба стала сумна і цяжка... Што яны думалі — толькі праз пяць год, самі апынуўшыся ў ролі абвінавачаных таксама ці яшчэ больш прававернымі! Страшны час!..

* * *

Няўжо яму па-сапраўднаму хочацца, каб нашы літаратуры наблізіліся, каб яны, палякі, не думалі, што наша літаратура — «фальклорная з'ява», не вартая іхняй увагі? Бо як дагэтуль, дык найзаядлейшымі антыбеларусамі з'яўляюцца якраз палякі з «крэсаў», «вялікія знаўцы» Беларусі, накшталт Фэдэрэцкага, Путрамента і ім падобных, што нават і сёння, сацыялістычным «półgębkiem»[1], не саромеюцца выказаць да нас пагарду былых паноў да былых парабкаў. А што думаюць? А як гаварылі б у іншых умовах?

* * *

Тыдні два таму быў званочак з аддзела кадраў таварыства дружбы і роспыты пра Валодзю, брата: дзе ён быў

---

[1] У вёсцы кажуць: на паўгубы, прыглушана.

арыштаваны, адкуль узяты. Сёння ўжо не хапае таго, што я пісаў у анкетах дагэтуль, перад паездкамі ў Канаду, ЗША, Індыю?.. Відаць, і дакументы таму спазніліся ў Маскву, а то, можа, і не пасылаліся туды?

Новые веяния?..

* * *

У Салаухіна: «Ты, брат, лысеешь».— «Если это не будет влиять на написание книг, то мне наплевать».

Калі мне будзе пісацца — пляваў я на «меры», якія прымаюцца па выхаванні ці перавыхаванні мяне начальствам.

* * *

Жонка звярнулася да мяне па-руску, і я адказаў ёй на гэтай мове. Якую люблю даўно. Якая воляй шавіністаў — залівае наша жыццё, выжывае нашу родную мову. Якая міжволі ўваходзіць і ў наша жыццё, у жыццё найбольш свядомых нацыянальна... І я — здаецца, як ніколі, ясна адчуў, што я — пісьменнік народа, заціснутага на працягу гісторыі паміж двума мацнейшымі народамі, носьбіт і, у нейкай меры, творца той мовы, якой было, і ёсць, і будзе вельмі нялёгка ў цясноце паміж дзвюма моцнымі, выдатна распрацаванымі мовамі. Мне гаварылі ўжо, і неаднойчы, што ў рускай мове, калі б я пісаў па-руску, мне было б лепш, мяне ведалі б і цанілі б куды больш... Я ем свой горкі хлеб па святым сваім абавязку, я не здраджу яму, бо проста не змагу, але ж як мне часамі — і часта — хочацца адпачыць ад свайго служэння, ад свайго падзвіжніцтва, адчуць ад чытача тое, што адчуваюць у сваім нацыянальным асяроддзі мае калегі палякі, рускія, немцы і ўсе тыя іншыя літаратары, не ўсе лепшыя за мяне, для каго няма пытання мовы, няма пакутаў, болю, смутку за яе...

Толькі б мне выказаць гэта так ясна, каб зразумелі, што гэта — не «нацыянальная абмежаванасць», а здаровае нацыянальнае пачуццё. Зрэшты, людзям, асепленым шавінізмам, і іхнім лакеям нічога, відаць, не давядзеш... Зрэшты, бяда мая, наша — ужо ў тым, што я думаю, як мне давесці, што я маю права любіць сваё...

* * *

Айзік Платнер, вярнуўшыся з лагера, казаў пра свае без пары, чысценька пабялелыя валасы:

— Гэта мая душа навонкі выйшла.

* * *

То светла-стракаценькі, па-сучаснаму, то старамодны, як Мінск ці Кіеў сталінскай пары, то змрочны па-даваеннаму, часамі са слядамі куль на сценах, што сяк-так ацалелі і адбудаваны,— вось і Берлін, «сталіца ГДР», як пішацца тут на дарогах. Многа зроблена, многа робіцца, але ж і многа яшчэ слядоў той малацьбы, што адбылася тут... дваццаць чатыры гады таму назад. Дзе была гітлераўская рэйхсканцылярыя — роўнае месца, парослае травіцай, але райхстаг — на тым баку і над ім — не чырвоны сцяг...

Ці не зашмат нашага непрадуманага ўмяшання ў нямецкую дэмакратыю, у іх сацыялізм, а з іх боку — ці не зашмат сляпога, непатрэбнага пераймання? Пакуль што не вельмі бачу ўласна Нямеччыну, новую ва ўсёй яе самастойнасці.

* * *

Складаная справа — не толькі вызваляць іншыя народы, але і ўплываць на іх прагрэс. Складаная справа — называцца носьбітам новага, маючы не толькі Леніна, але і Сталіна, з усім тым, што ідзе за гэтымі імёнамі. Многа трэба і мудрасці, і цярплівасці, і паслядоўнасці — на ўсю глыбіню, без зрываў у звычайны нацыяналізм.

* * *

«...Ён пісаў на платдойчы, і гэта, на жаль, нельга належным чынам перакласці на іншую мову. Толькі да немцаў, дый то не да ўсіх, даходзіць гэты цудоўны гумар».

Дрэнна гэта, хоць немцаў — і наогул, і тых, што разумеюць той ці іншы платдойч — і нямала, дрэнна, калі б іх было нават у сто разоў больш. Яшчэ горш, калі са-

праўдны талент праяўляецца на мове, якая не толькі вядомая нямногім, але і сярод гэтых нямногіх заціскаецца знешнімі сіламі, звужае кола свайго ўздзеяння на розумы і сэрцы тых, каму яе належала б любіць і берагчы.

І справа тут не толькі ў горычы зганьбаванай нацыянальнай годнасці малога або прыгнечанага народа — шкада, што голас яго не выходзіць, не выйдзе на прастору агульначалавечага, не дадае туды свайго, пазбаўлены гэтага шчасця.

Але ж і «двухмоўнасць» яшчэ аднаго Айтматава — не выхад. Трохі бліжэй да выхаду тое, што робіць Друцэ, добра перакладаючы сам сябе. Калі няма, напрыклад, Дзімы Кавалёва.

Наогул, штораз, то ўсё больш — і тут вось таксама — адчуваю высокае, вельмі сучаснае значэнне і культурнага, таленавітага перакладу, і ведання замежных моў.

* * *

Вельмі недурная, але па-свойму наіўная фраў М., пацешна гаворачы па-руску («он напустил ■ бутылку воды»), расказвала, як яна праходзіла месячную рэдактарскую стажыроўку ў Маскве і адтуль ездзіла ў Загорск, у лаўру. Бабы хадзілі па царкве з мяхамі хлеба. Недаўмявала добрая, шчырая фраў, навошта гэта тым бабам было... А мне няёмка ёй праўду сказаць.

* * *

Вельмі важна гэта — для самога сябе і для іншых усё больш ды больш праясняць думку пра неабходнасць, непераможнасць, адзіную правільнасць, адзіны сэнс жыцця — тое, што некаторыя ў нас называюць «абстрактным гуманізмам». Мяне больш ніколі не будзе, ніколі ў мяне больш не будзе магчымасці сказаць тое, што я думаю, што ў мяне найважнейшае, найшчырэйшае. І не толькі ва мне яно, не толькі яно маё.

Наша фраў Фішар расказвае, што Рытар, наш сівы, вясёлы шафёр, калі яны ехалі да нас з Берліна ў Дрэздэн, гаварыў, што добра было б зрабіць сусветны плебісцыт: хто за вайну, хто супраць. Марным, зусім нерашаючым быў бы працэнт тых, хто яе хоча.

* * *

Нам трэба пачынаць ды пачынаць. І ў ГДР ніхто нас не ведае. У Нямеччыне напісана адна толькі кніга пра Беларусь, «Weissruthenien» Энгельгарта, прыбалтыйскага магната, які, дарэчы, выдаў пасля вайны ў Заходняй Германіі «Weissruthenische Heimatlyrik»[1] Максіма Багдановіча, як быццам у добрых перакладах. Нарысы па беларускай літаратуры, выдадзеныя ў нас, здаецца, у 1951 годзе, на думку Р., зроблены нібы спецыяльна для таго, каб адварочваць ад нашай літаратуры. З прабеламі і новая гісторыя, асабліва — савецкі перыяд...

Нас не ведаюць. Што там немцы або палякі (казаў Жакевіч, што беларускую літаратуру лічаць у Польшчы «нечым от сабе фальклорным»), калі і рускія арыентуюцца ў нашай літаратуры дрэнна і ставяцца да яе пагардліва.

Вось чаму трэба даражыць тымі, хто нам сумленна спрыяе, трэба пастаянна змагацца за лепшае дома, дзе і «преуспевающих» хамаў, і самалюбівых дурняў, і спекулянтаў, і шкоднікаў, добраахвотных і арганізаваных — ажно залішне на нашу слабасць, на нашы «ўмовы росквіту».

* * *

Да смерці ўдараны Бярозкін і «торжествующая» бяздарнасць і подласць — А. А ўвечары прачытаў у царадворца пры ўсіх Грыбачова: «Стоит ли об этом говорить сейчас, когда **по общему мнению**, в развитии нашей литературы **быстро** активизируются здоровые тенденции?»

Дык вось яно — як гэта называецца!..

* * *

Здаецца, што ўпершыню так востра адчуў недарэчнасць граніцы... Каб пагаварыць з харошымі людзьмі **пра адно** для ўсіх нас або каб пабачыць п'яную нікчэмнасць, так пасвойску падобную да нікчэмнасцей нашых,— трэба было такое доўгае, важнае, тугое афармленне майго (нашага) выезду сюды, у Польшчу, такая ласка і такое хваляванне...

---

[1] Weissruthenien — «Беларусь», «Weissruthenische Heimatlyrik» — «Беларуская лірыка пра радзіму».

* * *

Што за карысць з такіх нарад, як і гэтая, яшчэ адна? Адзін толькі вывад заўсёды напрошваецца: трэба працаваць. Адна карысць: пазнаванне невядомай ці малавядомай зямлі, горада, знаёмства з новымі цікавымі людзьмі. У гэтым выпадку — Літва, Вільнюс, літоўскія калегі. (Які харошы вечар быў, калі мяне, разам з латышамі, прымалі ў «Саюз добрых сэрцаў»!..) І яшчэ адно адчуванне: няёмкасць, сорам ад таго, што я так мала ведаю, што мы так мала ведаем тых, да каго прыязджаю (прыязджаем), так ганебна мала ведаем творчасць сваіх таварышаў. З якімі нібы сябруем...

Так я і выступіў. Коратка.

* * *

Маладога ды ранняга зацвярджаюць на самым высокім бюро. Стаіць ён перад начальствам у такім чырвоным напружанні, што, здаецца, каб крыкнуў яму: «Лажысь!» — адразу пляснуўся б на дыван, не паспеўшы нават штонебудзь падумаць. Гэта работнік!..

* * *

Член партыі з 1937 года. Гэта насцярожвае таксама, як дата смерці — 1937...

**1970**

Да Баранавіч ехаў са знаёмым кінааператарам. Пра час пасля XX з'езда ён сказаў: «перыяд паветра».

Перыяд паветра — вось што патрэбна нашай літаратуры, як і ўсяму жыццю, як мне.

* * *

З акна аўтобуса Карэлічы — Мінск:

Мірская бойня. Які дзелавы, гаспадарскі быў падыход: маладых вязем да сябе на работу, а старых бацькоў, каб

не было лішняй марокі, трэба застрэліць. І зробяць гэта самі аўтахтоны, паліцаі. Вось у такі вясновы, з жаўранкавым небам, ранак. Толькі трохі раней, калі дзень пачынае маліцца...

* * *

Гаворку пра ўчарашні вечар хочацца пачаць з канца — з цудоўнага канцэрта. Якое зазнайства: нават і мне, ад затузанай ды выпетранай Беларусі, хочацца сказаць пра казахаў: **нават** у іх тут **усё сваё**, свая літаратура, культура, да таго ж сур'ёзная, свая музыка, свае песні, свае выдатныя выканаўцы. **Нават** у іх мы, беларусы, павінны вучыцца, як любіць і адстойваць сваё. Любіць то мы любім, а вось адстойваць не ўмеем. Ці, можа, нам яшчэ цяжэй, чым ім? Ва ўсякім выпадку — я ў Казахстане, я быў учора на — паўтараю — цудоўным **казахскім** канцэрце, дзе выступалі выдатныя артысткі і артысты, нават і тыя, што з украінскімі або рускімі прозвішчамі — таксама **казахскія.**

* * *

Салаўкі.

На ўсё прыдатныя: і на святасць, і на катаванне, і на адпачынак...

Усё ўспрымаецца праз 1937 год, пачынаючы ад хлопчыка на Петразаводскім вакзале («сын канвойніка»: з аўтамацікам), пачынаючы ад расказаў пра Кем, дзе водгулле расстрэлаў было звычайнай, штодзённай справай, і некаторыя бацькі звычайна тлумачылі дзецям, што адбываецца там, дзе страляюць.

* * *

На Салаўках пазаўчора думаў, здзіўляўся па-дзіцячы: як гэта і чаму ластаўкі знайшлі Салавецкія выспы, ляцелі туды, не спыніўшыся на кантыненце?..

Тут, у Кемі, цяпер, адвячоркам, пахне старымі дошкамі старадаўні Успенскі сабор, ляжаць у траве магутныя валуны, расце ў агародзе маладзенькая лістоўніца. Чуваць шум паро-

гаў на шырокай Кемі. Дашчаныя тратуары ў буйнай крапіве, па якіх так прыемна ідзецца.

Трава расце, і сонца свеціць, і дзеці гуляюць над ракою. І ні пры чым яны да тых лагерных расстрэлаў, пра якія нам расказваў у Петразаводску выкладчык Р.

Прыгнешся — процьма, цэлы горад валуноў на водмелі. Белыя качкі. Пліскі. І малыя рыбакі. І несціханы шум парогаў.

Марская чаіца. А там, куды шуміць рака,— Белае мора і Салаўкі, якія ўжо не загадка.

* * *

Карэльскія сябры — пісьменнікі, відаць, не вельмі, а хлопцы, здаецца, добрыя. На сустрэчы з намі яны свабодна гаварылі пра страты, якія нанёс ім 1937 год, пыталіся ў нас здзіўлена, як гэта мы (!) выдалі Кочатава і пахвалілі гэты раман у «Немане»...

...Зноў усплываюць у памяці словы Ігната[1], які капаў Беламорскі канал: «Одет, обут, накормлен». Так ён пісаў адгэтуль, і так гэта добра было б зрабіць назвай адпаведнага твора!.. Успомніўся і верш яго пра маленькага сына, некалькі радкоў, дзе от сабе вершык узняўся — ад тугі і болю — да таленавітасці. Падумалася думкамі яго, яго тугой адчулася: ах, якая ж ты вялікая, родная зямля, і як жа далёка можна завалачы чалавека па пакуту!..

* * *

Зноў успомніў маладзенькую жоначку Васіля Сухамлінскага, смерць якога, зусім нечаканая, днямі ўразіла мяне вельмі. Першае іх дзіця яна нарадзіла на допыце (або пасля яго) у гестапа. Дзіця забілі галоўкай аб вугал і выкінулі на сметнік, і яна стаяла перад акном, абедвума трымаючыся за краты, гледзячы на той сметнік... Потым ёй выкалалі вочы (а можа, асляпілі як-небудзь больш па-сучаснаму), каб не бачыла і гэтага... Такі шлях да пакутлівай смерці.

Ён, муж яе, вярнуўся з франтоў, працаваў настаўнікам

---

[1] Брат пісьменніка Ігнат Антонавіч, праваслаўны свяшчэннік, у 1931—1933 гг. адбываў тут «перавыхаванне».

пачатковых класаў — і тады, калі заслужыў сваю славу, бо вельмі любіў дзяцей, несмяротнасць жыцця.

Гэта — пра фашызм.

І не магу не думаць, што на допыце, толькі ўжо не ў гестапа, нарадзіла першае дзіця яшчэ адна светлая душа — Вольга Бяргольц. Яна расказвала мне гэта ў снежні 1954 года, тлумачачы новаму знаёмаму, чаму яна так дзіка п'е. А ў вайну яна аказалася вельмі патрэбнай у блакіраваным Ленінградзе, а потым напісала сваю цудоўную прозу.

* * *

Едучы з Янам Гушчам з Навагрудка, горка з ім паспрачаўся з-за нашага Верасня і іхняга Zaolzia, паміж якім ён ставіць знак роўнасці. («Нашы паэты не праслаўлялі Заользя так, як вы свой верасень...») А потым, гаворачы з Максімам па тэлефоне, сказаў: «А колькі ў нас польскіх сяброў, што думаюць па-марксісцку правільна, а не зрабілі для нас, беларусаў, нічога. У той час, калі «блытанік» ці проста шчыры чалавек Гушча, дзісненскі фальварковец, якому верасень 39-га прынёс смерць бацькі ў нашай турме, ссылку і адарванасць ад родных мясцін, за два гады зрабіў анталогію нашай паэзіі і кніжку Багдановіча. Напачатку бывае слова, але застаецца справа».

* * *

Уранні зайшоў у маленькі касцёл на Placu Trzech Krzyży, паслухаў слова з кнігі пра Іова, з Евангелля ад Лукаша — як паэзію. А потым, калі малады ксёндз пачаў папулярна ды на сучаснай мове тлумачыць бабулям trwogę Matki Boskiej przed niepokalanym poczęciem[1] — я выйшаў ад смешнай нудоты.

* * *

Быў беларускі хлопец з-пад Нясвіжа, наш вясковы цясляр, от сабе циляпень, які, увайшоўшы ў хату, раней чым прывітацца — шморгаў носам і выціраў яго ад губы сподам

[1] Трывогу Багародзіцы перад бязгрэшным зачаццем.

далоні, а сам наіўна, нават хораша ўсміхаўся... Блакітнавокі, даволі прыгожы і сардэчны хлопец Валодзя Ж. Разам былі мы калісьці ў войску, на фронце і ў палоне.

Сёння ён пазваніў мне, дачуўшыся па радыё, што я ў Варшаве, і вось я толькі што ад яго прыехаў. Былі ўспаміны. Сёе-тое і пра мяне ў палоне, што мне хацелася, каб ён сказаў пры сведках. Чыстая кватэра, бойкая «пані дому», ветлівая дачка, чорны пудзель (за 4000 зл.) на акне, нават прыемная гутарка пад лёгкую чарачку. І прыкрае, да сцішнаты прыкрае адчуванне: як жа ўсё-такі лёгка асімілюецца беларус!.. Так і не змог я збіць яго на родную мову, і не настойваў вельмі, хоць і прыкра было гаварыць з ім папольску, нават сам-насам...

Так і цягаюць нас — то на ўсход, то на захад. «У Аргенціне круглы год свежая фрухта», як казала нам баба на камвольным камбінаце. «Што там мова, абы народу быў хлеб», як кажа наш мудры прэзідэнт...

## 1971

Заглянуўшы ў папку з газетнымі выразкамі, убачыўшы там маю «публіцыстыку», саракавых і пяцідзесятых гадоў, стала і горка і брыдка... Хто сказаў, што мы мала пісалі? Мы пісалі, я па сабе мяркую, многа, але вельмі многа напуста, верна, слепа, натужна «дапамагаючы партыі і народу», часцей за ўсё шчыра стараючыся верыць у тое, што пішам, гаворачы агульнай, штампаванай мовай бяздушнай газетчыны, і трэба здзіўляцца той, жалю вартай, працавітасці, цярплівасці, з якой усё гэта рабілася, і той жывучасці, якая не дала нам пры гэтай нагрузцы на душу, пры гэтай самумнай навале пустаслоўя заглохнуць, засохнуць тым крыніцам, што ўсё-такі сяк-так прабіліся наверх сапраўдным словам, што неяк апраўдваюць нас, даюць нам права лічыць саміх сябе слугамі народа хоць часткова...

* * *

Магнітагорск. Зноў жа думкі пра тых пакутнікаў, што побач з «легальнымі» будаўнікамі працавалі тут як нявольнікі. Пра іх не гаворыцца нават так, як гаварылі нам калісьці ў Камсамольску — зусім не гаворыцца, хоць імя ім — легіён.

* * *

Справа не ў тым, што — як нам кажуць — трэба паказваць сучаснасць, а ў тым, што мы абавязаны паказваць яе так, як гэта **сёння трэба**, у рамках сёння дазволенага... І ніяк не могуць таварышы, начальнікі над літаратурай, зразумець, чаму не загоніш ды не заклічаш да гэтага самых таленавітых...

* * *

Пасля ўчарашняга выступлення Яўтушэнкі[1] сённяшні яго піжамна-паласаты гарнітур выклікае ў маёй душы толькі вясёлы, добры смех. Няхай сабе! Зашмат у хлопца пафасу, зашмат дзівацтва, але ж і сказаў ён найлепш, у той час, калі мы амаль усе (дый усе) душымся нашай асцярожнасцю, а то і проста баязлівасцю, чакаем лепшага часу для смеласці, для сумленнасці...

Ён, Яўтушэнка, напомніў мне сёння другое «цяжкае дзіця», Валодзю Караткевіча, хоць у іншым... калі не маштабе, дык раскрыцці.

* * *

Кіруючая дамачка не проста важна апладзіруе, а па даўняй і моцнай прывычцы разважліва, размерана ды акуратненька працуе такім чынам — іменна **працуе**.

* * *

Дванаццаць новых запісаў пра жахі мінулага. Бабкі з папрабіванымі галовамі,— адна з сотні, з дзвюх соцень, адна з тых, каму не папалі ў патыліцу правільна. Былыя дзеці, ужо даўно дарослыя, што ў час расстрэлу ўпалі неяк пад маму або старэйшую сястру і не зайшліся пад трупамі, як многія іншыя дзеці, якіх пасля, хаваючы, даставалі з-пад трупаў «без аніводнае раначкі». Мужчына, трактарыст, якому **тады** было пяць год, які ацалеў пад

[1] На ўсесаюзным пісьменніцкім з'ездзе.

мамай, цяпер ужо старэнькай, побач з якою ён сядзіць перад намі. Маладая кабеціна «ў добрым целе», якой тады было шэсць. Пяцёра дзяцей ад розных бацькоў. Сама на сене, стагуе, старэйшыя з ёю, сын і дачка, а тройка малых замкнулася ў хаце і паслухмяна сядзяць. Калі мы потым, як маці вярнулася, зайшлі, яны — «як на выстаўцы» — глядзелі на нас з печы. Сын ужо дарослы і разумее, відаць сваю маму-пакутніцу, і тады пакутніцу, і потым, і цяпер, жанчыну слабую і добрую. Праўда, калгас зрабіў ёй хату (яшчэ не дарабіў: жывуць у той палавіне, што будзе кухняй), але праўда і тое, што зарабляць сваёй малечы хлеб звычайнай «палявой» калгасніцы, якую да таго ж не любіць брыгадзір, з якое кпяць,— нялёгка. Пра жах свайго тады яна расказвае адразу са слязьмі, больш плачучы за старэйшых жанчын.

* * *

І яшчэ адзін не саромеецца, што перш за ўсё баяўся за самога сябе.

Дзядзька расказваў, як пад пахай у яго, недастрэленага, заплакаў таксама толькі ранены, сынок, а немец (ці паліцай) пачуў, падышоў і пачаў цягнуць малога. «А я сваю руку паслабляю, паслабляю, як быццам я нежывы...»

Такое чуваць было ў расказах і іншых. Ніхто з тых, што нам тут расказвалі, не ўзняўся да гераізму, якога «патрабуе наша літаратура».

І партызаны таксама не ўздымаліся. Каля Васілевіч[1], як бабкі-пакутніцы ўчора расказвалі, яны ляжалі на ўзлеску і толькі глядзелі, баючыся аказацца.

Амаль усе гавораць, што стралялі не немцы, а свае. Немцы толькі камандавалі, начальнікі, а радавыя часамі і чалавечнасць праяўлялі, пра што людзі расказваюць амаль са свежым здзіўленнем.

* * *

...Ляснік-беларус, хутар якога стаіць за Котрай, у літоўскім лесе. Дзеці прыроды ў «міжрэспубліканскай зоне». Браканьеры і самагоншчыкі. Няўлоўныя. Прыйдзе літоў-

---

[1] Вёска на Слонімшчыне.

ская міліцыя: «Я беларус», прыйдзе беларуская: «Я літовец». Сам ідзе са стрэльбай, а баба загоншчыцай. Лось. Дзік. Аднойчы яго дома не было, прыйшло сем літоўскіх міліцыянераў, а баба замкнулася ў хаце і крычыць: «Не лезь, бо засяку! У мяне тут гасударсцвеннае імушчаства!..» Тры вядры чарніцаў. Пакрычалі, пастукалі браты-літоўцы і пайшлі... Муж пачаў хадзіць да суседкі, дык лесніччыха, у парадку папярэджання, спачатку набіла суседцы морду, потым падпаліла хлеў, а нарэшце — і хату. Так і выжыла суседзяў.

...Лясы, лясы. Тут, відаць, партызаніў Алёша Рылько. Я думаў пра яго, цьмяна ўспамінаючы яго расказы.

...Баба (на тры гады маладзейшая за мяне!..), што жыве, жыла, гадавала дачку на хутары, які стаіць каля братняй магілы, дзе ляжыць уся вёска...

* * *

А хто запіша пакуты тых бабулек, маці і жонак, родныя і блізкія якіх гінулі ад іншых нелюдзяў? Як Надзя нашага Валодзі чакала ноччу на марозе следчага, а потым становілася перад ім у снезе на калені... Як Якубава маці вазіла падаянку свайму старому,— пасляваенным перапоўненым, п'яна-зладзейскім цягніком, спадарожнай машынай,— як яна чакала чаргі, а пасля пачула ад нейкага, што сёння сядзіць на сытай пенсіі: «Можешь больше не приезжать: подох!..» Як... Як... Тысячы і мільёны такіх **як,** родныя, блізкія якіх рэабілітаваны пасля, у пераважнай большасці пасмяротна. А смерць іх якая была?..

І як яшчэ сонца не пацямнела, як мы можам радавацца чамусьці, быць наіўнымі аптымістамі?

* * *

Да помніка (зараслага бур'яном), калі мы глядзелі яго, падышла старэнькая бабка, ужо на дзевятым дзесятку, у лапціках і шэрай, як пясок, нібы маскіровачнай, **пад вечную галечу,** вопратцы.

— Пахавайце мяне тут, каля гэтага помніка. Дачку зажыгацельнай пуляй забілі, сыны на фронце пабіты. Крэпка мне жаль дзяцей. Рабіла ўсё, пакуль магла, а цяпер пала макам...

* * *

Бабка Параска добра ўспамінае немца, які пашкадаваў яе малых дзяцей і аддаў ёй, хаваючыся ад свайго начальства, валá.

«...Каторая тут твая óкса? Бяры ды ідзі».

«...Паліцэйскія былі гады найгоршыя. Вунь той кацюга, Бутылка. А немец кажа: «Як будзем у шапках уцякаць — усіх паб'ем, а як без шапак — некалі будзе...»

Разважаючы пра прычыну нашага разгрому ў сорак першым годзе:

«Свае вінаваты: пусцілі. Тут вайна пачалася, а тут ужо яны і прыйшлі. Нябось у Маскву або ў Ленінград не пусцілі...»

* * *

У вёсцы Крынкі сухашчавы, энергічны і талковы Мікола Коцур, што ўцёк з палону з Полацкага лагера. Амаль на змярканні засталі мы яго з запрэжаным канём на двары.

«...Маладзіца выцягнула куфар у кусты і схавала ў гэтым куфры дзяцей. А яны не ўседзелі там, павылазілі. І паліцаі іх пабілі.

Немцы ідуць па вуліцы ды цыгарэткі кураць, а б'юць людзей паліцэйскія, нашы...»

Што гэта?

* * *

Не прыдумаеш нічога такога страшнага, чаго б ужо не было ў жыцці.

Бабуля крыкнула на немцаў-карнікаў: «Без'языкія вы!» І яны ёй выразалі язык, адрэзалі грудзі. Сямідзесяцігадовай жанчыне.

Другая цётка расказвала (у вёсцы Горваль):

Скуб хлопец курэй, якіх яны, карнікі, настралялі. А немец-кухар яму: «Уцякай! Табе засталося цвай мінуты жыць». Угаварыў, а той потым зноў сумняваецца, «дык ён яму яшчэ і нагой пад сраку даў, а хлопец — у кукурузу».

* * *

Успомнілася.

Сям'я, дый вёска, што не спазнала ў вайну вялікай бяды. У годзе нешта сорак сёмым баба зашывае малому яго школьную, афіцэрскую сумку і ледзь не весела кажа:

— Парвалася. Хутчэй бы ўжо зноў каторыя беглі!..

* * *

Трасучыся па бясконцых ямах, думаў, што «еўрапейцы», злосныя на такую дарогу, прыязджалі ў вёскі яшчэ больш азвярэлыя.

І другое,— наколькі горш выглядалі палешукі тады: і менш заможнасці было, і менш культуры.

* * *

Партызанскія сем'і гінулі менш, бо яны, толькі пачуўшы пра набліжэнне карнікаў, уцякалі ў лес, а тыя, што спадзяваліся, як «нявінныя», ацалець,— гінулі больш.

* * *

Умный, положительный русский железнодорожник і наша, утрох з лейтэнантам, гутарка ў купэ. Лейтэнанціка, што едзе ў Талін, трывожыць думка, узятая з дому, ад старэйшых: як там з «эстонскім нацыяналізмам»?..

На маё пытанне (каб падмацаваць тое, што я гаварыў лейтэнанту сам) чыгуначнік, які салідна перакусваў, сказаў: «Я там пражыў дваццаць сем год і нічога такога не бачыў. Залежыць, хто які чалавек».

Па-нашаму: **як да чалавека.**

* * *

Яшчэ адно «між іншым»: чытаючы ўчора Чукоўскага пра Пастарнака, успамінаў гісторыю з яго Нобелеўскай прэміяй і пахаваннем, і прыемна было, што я тады ані на

момант не паддаўся «стадному чувству», і цяпер, бліжэй, глыбей пазнаўшы і пазнаючы гэтага сапраўднага пісьменніка, мне няма ў чым каяцца.

* * *

Інфармацыя, чорт яе забяры!.. Учора, на праходцы з Радавым і Расляковым, і перад гэтым — за сталом, такога дзярма наслухаўся, што каб свайго настрою на душы не было,— хоць плюй ды лайся... Не дай мне, Божа, так старэць — жуючы бяззуба смярдзючую злосць на другіх, усіх без разбору!..

Адно толькі хочацца запісаць — як Маркаў Ніліну гаварыў:

— А ведь смешно, Павел Филиппович, что я на вас смотрел когда-то снизу вверх, лет семь тому назад...

Як тупеюць людзі на высокіх пасадах! Можна паверыць у гэтую гутарку чыноўніка з майстрам, ведаючы трохі і іншых такіх чыноўнікаў ад літаратуры.

* * *

Учора слухаў фізіка Льва Арцімовіча. Знешне падобны на Міхаіла Святлова: хітраваты, разумны і добры прышчур, але яшчэ сімпатычнейшы. Просты, шчыры і сумленны.

Найбольшая небяспека: неадпаведнасць росту тэхнікі і маральнасці людзей. Калі сёння жахлівыя сродкі знішчэння знаходзяцца ў распараджэнні дзяржаў, дык заўтра іх можна будзе пакласці ў кішэню кожнаму нягодніку. Наш тэхнічны прагрэс можа нас і задушыць.

На будучыню чалавецтва ён глядзіць песімістычна. Навуцы трэба свабода. Вучонымі павінны кіраваць вучоныя. Цяпер, ён кажа, так у нас і ёсць, у адрозненне ад сталінскіх і хрушчоўскіх часоў.

У гэтым спачатку быў толькі падтэкст, намёк на наша, літаратараў, становішча. Пасля ён пачаў гаварыць выразней: вялікіх пісьменнікаў у нас у XX стагоддзі няма, палітыка задушыла літаратуру, а вялікі пісьменнік павінен гаварыць што́ і я́к ён хоча. А то — «квадратна-гнездавы сацрэалізм»...

Ён не выступаў, а толькі адказваў на пытанні. Апроч «намёкаў» былі і канкрэтныя «дробязі». «Што мне вам, мала-

дым нарысістам, пажадаць? Чым пісаць няпраўду — лепш зусім не пісаць». «Калі з «Нового мира» пайшоў Твардоўскі, я перастаў выпісваць гэты журнал».

...А што ён гаварыў бы, калі б яму трэба было быць пісьменнікам? Чакаць, пакуль зменіцца час? Гэта — не выхад. Чалавек, бясспрэчна, цікавы, сумленны, але ісціны ў яго — толькі частка. А сёння гэта вельмі многа — гаварыць тое, што думаеш і хоць бы думаць правільна.

* * *

Твардоўскаму далі прэмію. Учора, дзе я даведаўся пра гэта, на абедзе ў Прыляжаевай, Федзін глыбакадумна сказаў: «За несколько стихотворений...» А Віталій Озераў: «Хорошо, что он сам еще узнает об этом». Ужо не можа ні пісаць, ні гаварыць — розум працуе, а выказаць нічога немагчыма. Федзін: «Он же физически такой сильный мужик...» Стары, фіктыўны кіраўнік СП і малады, энергічны, па-новаму, па-сучаснаму, у параўнанні са старым, культурны,— абодва яны гавораць, у застольным «благочестии» і элегантнасці, з культурай паліцэйскіх чыноўнікаў вышэйшага рангу, не «посвящая» іншых у нячыстыя таямніцы свае службы...

* * *

Прафанацыя — Кажэўнікаў побач з Твардоўскім[1],— гэта невыпадкова, гэта палітыка загладжвання, «абы ціха», і гэта блізарукая, сляпая кпіна, здзек з сапраўднай літаратуры, пародыя на змычку ідэйнасці і майстэрства.

* * *

Памёр Твардоўскі. Нават і плачуць у друку не тыя або не так, як трэба плакаць па гэтым паэце і чалавеку...

---

[1] У пастанове аб прысуджэнні Дзяржаўнай прэміі.

## 1972

Сын мае пляменніцы, мужчына ўжо (неўзаметку) трыццацігадовы, вырашыў вярнуцца з Расіі ў Мінск. Цяжка з прапіскай — зайшлі з мамай да мяне. Абы як зачапіцца. Дзеці будуць у бабы, у вёсцы. Але ж таксама там доўга не могуць быць — старэйшаму трэба ў школу. «Дык там жа школа ёсць»,— кажу яму. «Вы знаете, дядя Ваня (дзедам мяне з ветлівасці не заве),— она там белорусская, не хочется детей калечить...» «А жонка твая адкуль?» — пытаюся, падумаўшы, што яна, можа, руская. «Ды з нашай вёскі, наша»,— умяшалася яго маці.

З гэтым ідуць да сваяка — беларускага пісьменніка!

Не хочацца думаць, што будзе...

Цяжка нават уяўляць сябе такім жа нармальным літаратарам свайго народа, як які-небудзь англічанін, паляк ці наш эстонец,— у тым асяроддзі, якое гаворыць на тваёй мове, якому ты патрэбен, як свой...

Падумалася ўчора: а ці не ў гэтым часткова прычына і майго не пісання? Адна з прычын?..

* * *

Дакараю сябе, што вельмі мала гаворым з сынам пра найважнейшае. І ўспамінаю, у апраўданне, што бывала такое і з братам, ёсць і з дочкамі. Праўда, ёсць у яго і пашыраецца, паглыбляецца свой **свет адзіноты**, непазбежны і, відаць, неабходны кожнаму, але ж вось і сумую я па ім, і думаю, што трэба нам быць бліжэй. Хоць — гора наша! — і паміж намі расце ўжо моўны бар'ер: яму ўсё цяжэй гаварыць са мной па-беларуску. А што дасі яму побач з Талстым, Дастаеўскім, Чэхавым, у свет якіх ён акунаецца, і як паставіш яго супраць магутнай плыні асіміляцыі?.. Унучка кажа «тата», але і «тату» гэтага забяруць у яе ў яслях, куды яна днямі пайшла...

Гаўнюкі мы — а як жа сваё захоўваюць іншыя?

* * *

Кончыўшы Карскага («Белорусы. Введение к изучению языка и народной словесности»), не ўстрымаўся, выпісаў:

«В таком состоянии оказалась белорусская народность

и ее язык на пороге XX столетия, когда приняты меры к окончательному сравнению ее с господствующими классами населения».

Скажам па-ленінску: «Гм! Гм!..» Гісторыя — у іншай форме — паўтараецца. І так жа горка гэта, а сутыкаешся з такім, у розных праявах, амаль кожны дзень.

* * *

Божа мой, колькі тут трэба жэрці!..[1]

Учора былі ў цясніне Рапіт, дзе нізам шуміць па каменні рака Кафірніган, на схілах гор цвітуць ружова-бэзавым цветам міндалевыя дрэвы, а пад небам зіхцяць снегавыя вяршыні. Была харошая гутарка ў машыне: Мірзо Турсун-задэ (дома ён глядзіцца лепш, цікавей), Баруздзін і новы для мяне Еўдакімаў. Былі харошыя гутаркі на прыпынках — з харошымі хлопцамі нашымі (Аскоцкі, Бітаў, Тэракапян) і таджыкамі (Канаат, Раджаб, Сейтулаеў). Быў паэтычны, чысты і зоркі, відушчы настрой, калі належна адчуваецца ўсё — і тое, хто ты, і тое, што табе трэба. На чарговым дастархане, над ракою, хапіла б, здавалася, свежага агурка, памідора, ляпёшкі і шклянкі баржомі, а тут — процьма ўсякага мяса, зеляніны, кіслага малака, зялёнага чаю, шурпы, лапшы, плову, яблыкаў, вінаграду і каньяку!.. Усё такое смачнае, гаспадары такія гасцінныя, што дзіву даешся пасля бясконцага сядзення: колькі ж можна нарэшце чалавеку з'есці? А так жа было і ўчора, і пазаўчора. А пасля гэтага цябе амаль без перасадкі вязуць у госці, дзе дастархан — у новай некранутасці і з новым націскам гасціннасці... Учора думаў, што наогул ніколі яшчэ ў жыцці не быў так паскудна набарабанены. Як ты ні асцерагайся.

...«Збіраюць на вясельны туй, а потым расплочваюцца з даўгамі, седзячы на ляпёшцы з вадой, а мы ўсё гэтыя туі апісваем!» Так гаварыў адзін з таджыкаў на нашым «круглым стале».

Шафёру Турсуна, службоваму, трыццаць адзін год, у яго чацвёра дзяцей і бацька-пенсіянер (20 рублёў), а сам ён на рукі палучае 85.

А колькі туяў бачыць, возячы начальства!..

А ўсміхаецца так прыязна.

---

[1] Запісана ў Душанбе.

* * *

Няўжо чалавек абавязкова павінен быць прымацаваны да нейкай царквы, партыі, стаяць у нейкай загародцы, хадзіць у нейкім прыводзе, няўжо яму нельга проста быць чалавекам, які мае права думаць і рабіць тое, што ён лічыць правільным, найбольш чалавечным? Няўжо 220 мільёнаў беспартыйных — не члены партыі па сваёй адсталасці ці па нязгодзе з нашай палітыкай? Даўно я гаварыў калісьці пра сваю пазіцыю ў гэтым сэнсе: у мірныя дні сумленна працаваць для Радзімы, а ў дні вайны — змагацца і, калі трэба, загінуць за яе. Няўжо гэтага мала? Няўжо гэта такая вялікая, недазволеная раскоша — самому думаць, што правільна, а што не, самому вырашаць, зверяючы правільнасць сваіх рашэнняў з самым найвышэйшым, цераз галовы інструктараў і сакратароў?.. У кожным выпадку — я іншым ужо не стану. Толькі б рабіць не горш, чым рабіў.

* * *

Расію, рускіх тут, у Балгарыі, вельмі любяць. Аднак «другой роднай мовы» — няма. Ад гэтага ў такой пашане слова, песня, ад гэтага тут лягчэй быць пісьменнікам, чым у нас.

* * *

Сярод мноства прарускіх помнікаў ды помнічкаў ледзь што не спадзяваўся сустрэць і помнік... Міхалкову (бачыўся з ім у Сафіі) — таксама ў знак удзячнасці, якое ён тут можа дамагчыся. Штосьці падобнае чуў і пра Салаухіна («его величество»). Даніна бярэцца? За плевенскую ды шыпкінскую кроў, за вызваленне ў сорак чацвёртым?.. Разбэшчаныя ўвагай баре. А тут ім, падобным ды прападобным, рускі шавінізм свабодна і «сладко», кажучы па-балгарску, здаецца... прагрэсіўным, усё ж пераклікаючыся (для мяне) з тым прагрэсам, які нёс палякам Сувораў, які таксама расчульвае рускіх у Кобрыне, якога нашы «сундуки» паказваюць, мацуючы дружбу, і польскім дэлегацыям.

* * *

Каб выратаваць свае сем'і ад смерці, партызаны, пяцьдзесят чалавек, прыйшлі з лесу са зброяй і здаліся. Іх пастралялі, а сямейнікі засталіся.

Першы такі выпадак. На Полаччыне.

* * *

Маленькая, рухавая, згорбленая бабка. Бедная хата, у якой найбагацейшай, найжывейшай дэталлю бялее дзіцячая калыска. Прыязджала дачка з унучкай.

Лясная вёсачка Зарэчча, да якое мы дабіраліся па страшэнным бездарожжы. Яшчэ адно жахлівае адкрыццё, яшчэ адзін пункт супраціўлення і юдоль пакутаў, якія мы ўваскрашаем — для трывогі людзям.

Многа красы, мала багацця. Старое, старое, якога трэба пазбывацца, бо брыдка...

«Не немец, а свой — харошы такі — як даў мне прыкладам у грудзі...» Гаворыць пра ўсё гэта нібы абыякава. Рукі — тонкія, худыя, далоні чорныя з сярэдзіны, загарэлыя, вузлаватыя, як клешні, учэпістыя і спрацаваныя. 17 рублёў пенсіі за мужа і сына, што загінулі. І драпаецца бабка ў мае дзверы, шукаючы — «а можа?» — дапамогі...

* * *

«Мы — з хамута». Так кажуць пра сябе тыя жанчыны, якія пасля вайны самі ўпрагаліся ў плуг.

* * *

У канторы калгаса. Расказвае нестарая жанчына, рахункавод. Хвалюецца, міжвольна лазіць рукой па лічыльніках, стукае лінейкай. Лічыць на пальцах — пры нашым выключаным магнітафоне,— каго ў вёсцы забілі. Іван, Сцяпан, Даніла... А за імёнамі для яе — **жывыя людзі.**

* * *

Дачка бабулі, якую мы не патрывожылі каля бальніцы, з якое тую везлі дахаты, у адной машыне з маладою парадзіхай. І дачка ўжо старая, незамужняя, пяцьдзесят дзевяць гадоў. Нервова мацае па стале каравымі, учэпістымі пальцамі. Стол — пад клятчастым абрусам.

«Большанькае і меншанькае, пяць гадкоў...» Так гаворыць, сурова і пяшчотна, пра дзяцей, якіх забівалі.

* * *

Дурное, ідыёцкае патрабаванне: каб дзеці ды бабы не давалі партызанам есці... Прычына біць, знішчаць.

* * *

Яўрэйскія могілкі каля Суража. Побач з сумотай помнічкаў — брацкая магіла: яўрэі і партызанскія сем'і, больш за тры тысячы чалавек. Недарэчны надпіс на помніку: «Вечная слава героям...» А ў шэрай сумоце мноства помнічкаў — вялікі чорны помнік нейкаму Кацу.

* * *

Кот з'есць мыш і азіраецца, куды яна падзелася. Так у нас з беларускай мовай... Школы пазакрывалі, і пачаўся «натуральны працэс» пераходу на «другую родную мову».

Успомнілася, як нябожчык Р. Кісялёў на праглядзе заключнага канцэрта рэспубліканскай алімпіяды мастацкай самадзейнасці здзіўляўся, што няма — амаль зусім няма — беларускіх нумароў. Здзіўляўся... міністр культуры!

* * *

Сакратар райкома па ідэалогіі, сімпатычны І., прызнаўся мне, што піша работу пра партызанскі рух на Клічаўшчыне (па адукацыі ён гісторык), але ў абкоме яму хтось-

ці там сказаў, што на гэтым, калі ён апублікуе сваю працу, закончыцца яго партыйная кар'ера...

Не парушайце зацверджаных, акасцянелых схемаў!..

* * *

Інвалід на двух тупых пратэзах. Моцны мужчына. Расказвае, як ён, хворы тыфам, быў у палоне, як дапытвалі і як уратаваўся. У лазню, дзе яны паміралі, чакаючы смерці, забіць іх прыйшлі два немцы. Забралі верхнюю вопратку, пастаялі, успёршыся на вінтоўкі, пагаварылі паміж сабой, а потым адзін сказаў па-руску:

«Будете помнить, что француз — хороший человек».

І пайшлі. На якой мове яны паміж сабой гаварылі, ён не зразумеў. А я дарма падумаў спачатку, што і «французам» тую вопратку не варта было забіраць: гэта рабілася імі для маскіроўкі.

З Эльзаса яны, з Латарынгіі?

* * *

«...Стары чалавек, якога моцна збілі, абапёрся на карову і стаіць,ісці не можа...»

Чаму ж яна — жанчына, якой тады было васемнаццаць гадоў,— расказвае пра такое і горшае, непасрэдна сваё гора і, як і іншыя, усміхаецца?..

А ў самое ногі былі адмарожаныя. Паказала, што і цяпер яны без пальцаў.

Немец паказваў ёй, як уцякаць: «Дзе камрад — не бяжы, а дзе каровы — ты туды».

* * *

Часта думаецца пра недаразвітасць вельмі многіх дзяцей, у тым сэнсе, што з іх — пры іншым павароце лёсу — можна было б зрабіць нешта куды большае, чым яны ёсць.

Зноў успомніў гэта, калі мы назаўтра, у Красніцы, праслухалі расказ пакутніцы Князевай і Валодзя, ужо ў дарозе, сказаў, захоплены душэўнай прыгажосцю гэтай жанчыны, што з яе была б выдатная настаўніца. Была б...

А цяпер яна — пры хворай, таксама недастрэленай маці і зробленым некім сынку (маці-адзіночка ці пакінутая жонка — не пасмелі ў яе спытацца),— цяпер яна працуе ў брыгадзе, свабодную сваю прафесію акрэсліўшы вельмі проста і дакладна: «куды пашлюць...»

Процьма такіх людзей — «недаразвітых» — знаёмых і ўбачаных за век толькі табою адным. І жывуць, пражываюць жыццё такімі, як ёсць, і толькі па іхніх задатках можна меркаваць прыблізна, што з іх было б, каб абставіны жыцця склаліся для іх больш прыхільна. Ды што там здагадвацца, меркаваць, калі гэта відно на прыкладзе, скажам, многіх у нашым Загоры,— калі параўнаеш бацькоў, сфармаваных да Верасня, і дзяцей, якім савецкі лад даў магчымасць развіцца.

А што — каб не было такіх вось многіх «недаразвітых», хто рабіў бы «чорную» работу, неабходную не толькі для развіцця іншых, але наогул для існавання людзей? Цяпер жа амаль кожны, хто закончыў хоць як-небудзь школу, лічыць, што не яму працаваць на зямлі, і прэцца ў горад ці на «чысцейшую» работу дома. Не простая гэта справа — раўнамернае, усебаковае развіццё ўсіх людзей, развіццё ў іх свядомасці, вартай таго грамадства, якое мы — хто ўмоўна ды цьмяна, а хто і іранічна ці цынічна — называем камуністычным, нашай будучыняй.

* * *

«Гэта няпраўда, што пішуць яны так, як ім загадваюць: яны пішуць так, як самі ўяўляюць тыя загады, а ўяўленне, на жаль, у іх не вельмі моцнае».

Заўважыў гэта ў «Szpilkach», у «Zmyśleniach»[1] Брудзінскага, і адразу ўспомніў Шолахава — яго «загады сэрца»...

* * *

Енісей.

Капітан нашага «Рубінштэйна», сціплы, ледзь не сарамлівы Мікалай Мікалаевіч. Нас з Адамовічам папрасілі на сустрэчы ў салоне расказаць пра нашу працу над «Памяццю»[2], а капітан пачаў пасля пра лагеры:

[1] «Zmyślenia» — «Прыдумкі» *(польск.)*.
[2] Папярэдняя назва кнігі «Я з вогненнай вёскі...».

— Вазілі мы сюды калісьці тысячамі, а вось адгэтуль — нікога...

Мы ўжо за Палярным кругам. Тая самая вялікая, сур'ёзная вада, чыстае неба і тундра замест тайгі. Бераг — «тэрасамі»: ад паводак. І ўспамінаецца, як учора капітан, зайшоўшы ў нашу каюту, зноў гаварыў пра красу паўночнага ззяння:

— Стоишь, окоченеешь, а глаз оторвать не можешь...

Гэта яму — за чыстае сэрца, такое бачанне красы.

На досвітку была Курэйка, дзе Сталін зрабіў мясцовай бабе сына, які ўжо ў шасцідзесятых гадах, набуяніўшы недзе, пачаў абараняцца сваім паходжаннем. Позна. А было і зарана.

Зусім па-новаму думалася ўчора пра генія ўсіх часоў і народаў — як пра чалавека, што так глыбока стаў нечалавекам. Я толькі адчуваннямі дакрануўся да таго, што перажывалася тымі, каго калісьці вазілі сюды інакш, чым едзем мы.

* * *

На берагах Волгі былі шкілеты цэркваў, ■ тут — цэлых пасёлкаў, пакінутых людзьмі... Тайга — пустыня, у якой можна нават знайсці (з самалёта, адхіліўшыся ад курсу) цэлы манастыр, які існуе па-за часам і прасторай, не ведаючы пра рэвалюцыі і войны.

Пра гэта расказваў нам капітан.

...Над вечным спакоем вады і зялёніны абапал яе, пад чыстым небам — пусты павільён, у якім была «ўвекавечана» хата, дзе жыў калісьці Сталін. «Хату расцягнулі на куратнік» (штурман казаў), а з п'едэстала трактарам сцягнулі ідала. Калісьці тут пасажырскія судны спыняліся на дзве гадзіны — абавязковая экскурсія.

Наш рогат: ён узыходзіць са шлюпкі на палубу з мехам гуркоў на плячы...

* * *

...Зноў Коля С.[1] Ён «будаваў» Нарыльск, а ў мяне тут люкс, верталёт... «Цэлы дзень ідзеш побач з возам сена. Па

[1] Герой эсэ «Уступленне ў рэквіем».

калені ў сцюдзёнай вадзе...» (Гэта, відаць, не тут.) Цяпер мне з ім пагаварыць бы!..

* * *

Лаўлю сябе на тым, што не мне гаварыць такое, што гэта непатрыятычна, але думаю — думкі такія самі лезуць у галаву.

Столькі праліта крыві за гэты Калінінград, за гэтую зямлю, а гаспадарым мы тут — «не вельмі»... Асабліва нудна, прыкра адчуў сябе на «барахолцы». Прастора, пасля сяк-так прыбраных руінаў парослая бур'яном, з усіх старон тырчаць вялізныя цагляна-металічныя шкілеты магутных кірхаў, а тут — квадрат зямлі, заліты асфальтам і прадаецца-купляецца рознае і сапраўды барахло — ад маленькага «пупсіка» да крадзенага вайсковага кажуха... Сыплюць людзі з трамвая, і думаецца: няўжо каб у магазінах усё было і тады было б тое самае выходнае ныццё, сумныя, дробязныя «перажыткі капіталізму»? А для многіх гэта працяг працоўных будняў — дзень адпачынку, і фізічнага, і духоўнага...

Як ні ездзім вакол — на трамваі, на тралейбусе, на таксі,— заўсёды амаль пасярэдзіне свету тырчыць разбіты сабор, каля сцяны якога ляжыць Кант.

* * *

Чытаю пра Рэрыха. Люблю такія кнігі. І даўно. Успомнілася, як у суровы, страшны час акупацыі, у цёмным, ізаляваным ад роднага і ад усяго свету Загоры ці ў такіх жа Маласельцах, начуючы ў Мішы, чытаў Крапоткіна, Герцэна, дарэчы, думаючы, што раблю тое, што трэба.

І другое думаецца, чытаючы. Пра веліч рускай культуры і пра нашу горкую беднасць. І цяпер ніводнай кнігі няма пра ніводнага — пра Скарыну, Каліноўскага, Купалу, Багдановіча... І не відаць, хто мог бы яе зрабіць для той жа серыі «Жизнь замечательных людей». А што будзе далей? Замест нацыянальнай культуры — у сапраўдным, сучасным значэнні гэтага слова і паняцця — застанецца шматпуддзе помнікаў Купалу і Коласу — як успамін?..

* * *

Іграе і пяе мясцовы літоўскі ансамбль. Шэсць юнакоў, прыгожых сваёй шчырасцю. Слоў песень не разумею, але і гукі іх, сплеценыя з гукамі музычных інструментаў, слаўна напамінаюць і велічны Нёман у соснах, і свежую раллю на ўзлеску, каля надрэчных сядзіб, і акуратныя дамы вясковай вуліцы за ракой, куды я хадзіў адвячоркам, і паром, які і мяне адтуль перавёз, і сцежкі над абрывамі, і наш цеплаходзік — з вадою і супраць быстрай вады, і старадаўні даміканскі касцёл на высокім беразе, з манастырскай турмой у сутарэнні цяперашняй (часова) школы... Словам — усё напамінаюць, што я пабачыў тут, у Друскеніках, за пяць даволі рухавых дзён. Значыцца, ёсць народнае ў гэтых песнях, штосьці ад той гаючай сувязі з родным, што мы ніяк, ніяк не можам выказаць дакладна, да самай глыбіні, і што мы павінны выказаць, каб яно загучала належна ў вялікім хоры агульналюдскай сям'і, не толькі ў нашай савецкай.

Гэтым хорам у пэўнай меры здаецца мне двухтомнік савецкага апавядання, які я чытаю вось ужо некалькі дзён, сям-там з высокім хваляваннем, думаючы пра тое, што трэба рабіць і мне, і радуючыся, што і мой шчыры голас камусьці ў гэтым хоры пачуецца.

* * *

Не запісаў увечары прыкрага, горка-агіднага ўражання ад «национальной гордости»... не «великоруссов», а нашых беларусаў.

Некалькі дзён таму назад былая красуня, худзенькая юрыстка-яўрэйка, у шчырай гутарцы «паміж інтэлігентамі» гаварыла Ч. і мне, што хутка сюды, у Літву, будзе прыслана значна больш рускіх, «чтобы растворить этих противных националистов». На маё абурэнне яна адказала, хітранька баронячыся: «Напрасно вы, Иван Антонович, никто так, кроме вас, не думает».

Што ж, «яўрэі заўсёды ўсё ведаюць». Я і сам неяк чуў, што так маецца быць. Для ўмацавання дружбы народаў?..

А ўчора нашы беларусы, ідучы са сталовай пасля сытай вячэры, мне, беларускаму пісьменніку, высмейвалі нашу родную мову... Што мы за нацыя?.. А нехта ж па гэтым халуйскім смеху робіць вывады пра «дабравольны пераход»,

пра «дзве родныя мовы», з якіх адна, беларуская, ужо ледзь-ледзь сям-там трымаецца.

Сцяпан Алейнік, адпачываючы ў другім санаторыі «Белоруссия», у Сочы, зрабіў Кастрычніцкі даклад... на беларускай мове. Ён рагатаў, расказваючы мне пра гэта, а адзін з нашых шакіраваных тады, былых вяльможаў гаварыў мне другім разам пра тое самае ЧП: «Напрасно он это! Да что, они ведь все националисты...» Такім чынам і ўкраінец быў беларускім нацыяналістам.

А што ўжо было б сказана пра гэтыя мае разважанні?..

* * *

І. Мерас, «На чем держится мир».

Спала з немцам, каб выпусціў з гета яўрэйскага хлопчыка, якога яна ратавала. Родны сын рос у чужой, мнагадзетнай сям'і сіратою, а яна, як роднага, палюбіла сынка сваіх гаспадароў. Родны сын быў больш падобны на яўрэя, чым хлопчык-яўрэй. Бацька яе хлопчыка, паліцай, прызнаў сваім хлопчыка-яўрэя, а роднага, удвух з немцам (другім, радавым, не камендантам) застрэлілі. Пры ёй. А яна, маці, што спала з немцам-камендантам за чужое дзіця, не пайшла ў ложак з паліцаем, якога раней любіла, які быў бацькам яе дзіцяці,— не пайшла за гэтае дзіця. І не кінулася на такога бацьку хоць з кіпцюрамі, каб разам з сынам загінуць. Тут, да роднага, любві было менш, чым да чужога. Бо ён яўрэй?..

Якая схема! Як яны любяць, — і героі, і аўтар,— каб іх любілі выключнай любоўю! Які непрыемны дух звышчалавечасці,— «Nur für Juden!..»[1].

* * *

Спачатку фашыст, а потым нацыянальнасць.

Гэта — да таго клопату, які мы будзем мець у сваёй кнізе з паліцаямі, уласаўцамі, «народнікамі», пра якіх нам па ўсёй Беларусі гаварылі часамі больш, як пра немцаў... Умелі, сволачы, дзяліць і нацкоўваць.

---

[1] «Толькі для яўрэяў!..» *(Ням.)*

* * *

Можа, парагатаць і з таго, што пра мяне, супраць мяне так многа напісана паганага «туды, куды трэба», што ажно двое з тых, «каму трэба» вырашаць, савецкі я пісьменнік ці несавецкі, вымушаны былі, у розны час, але на тым самым службовым узроўні, прачытаць увесь мой чатырохтомнік?

Пачуў пра гэта днямі ад таго, каму яны давяраюць і хто часамі не ведае, давяраць мне ці не.

* * *

Яшчэ раз — пра значэнне дэталі. Калі тут дарэчы, прыстойна так сказаць — у адносінах да чалавека, які пакутуе.

Здаецца, у Леаніда Валынскага («Новый мир», гадоў дзесяць ці больш таму назад), было праўдзіва, з рэдкай праўдзівасцю напісана, як пачынаўся для нашых нямецкі палон.

Маёр, наш афіцэр, афіцэр наогул, якому, як толькі ён, на полі бою, трапляе ў палон, адразу ж загадваюць разуцца. І ў гэтым, пакуль дойдзе да пакутаў большых, можа, і смяротных, пра што ніхто спачатку не думаў,— першая абраза, першая крыўда, несправядлівасць, пачатак усяго, што нёс Савецкай Арміі фашысцкі палон.

## 1973

Марцалеў стукае алоўкам па стале, калі сярод кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў, якіх ён прымае ў ЦК, пачнецца якое-небудзь ажыўленне. А сярод іх Танк, Панчанка, Мележ... Колькі разоў хацелася сказаць яму:

— Э, на каго ты стукаеш?!

Чытаю артыкул Валодзі Калесніка пра Танка і думаю:

«Божа мой, і навошта паэтаў прызначаць старшынямі, намеснікамі старшыняў?! Знарок, каб нашкодзіць літаратуры?..»

* * *

Каб маглі з'явіцца Талстой, Дастаеўскі, Чэхаў — павінна была існаваць самастойная Расія.

Праўда, Міцкевіч і іншыя з вялікай польскай літаратуры з'явіліся ў Польшчы паняволенай, **аднак** — даўно народжанай і моцнай незалежнасцю.

Як жа тут, паміж гэтымі дзвюма дзяржавамі, было не быць беларускаму **толькі фальклору?..**

* * *

Учарашняя гутарка на палубе з Сяргеем Круціліным. Ці гэта нізавая злосць ды горыч ад пэўных няўдач, ці гэта справядлівы гнеў у нас (ён пачаў) на фальш і цынізм, якіх хапае і тут, у справе найважнейшай? Другое, вядома. Колькі тут едзе тых, замест каго трэба было б пасланць літаратараў, мастакоў, архітэктараў, перш за ўсё — маладых. А тут або праз меру заслужаныя, або ўсюды спрытныя, для якіх гэта толькі адпачынак з тоўстым кашальком ці жыраванне за кошт народны. Сумная нарада ў Осла і вузкія прыёмы, то ў гарадах, то на караблі — вось і барацьба за мір... Ёсць, ёсць і большае, сапраўднае, аднак нягоднае лезе ў вочы само, і мы на яго не вельмі відушчыя...

* * *

Учора ўсёй сваёй, блізу трохсотасабовай, масай мы наваліліся на 50—60 шведскіх абаронцаў міру і ў плошчыяме пачалі ім гаварыць (па паперках) свае доўгія, для ўсіх аднолькава казённыя прамовы, спяваць эстонскі «казачок» ды польскі «Dom rodzinny...» І пры чым тут, калі па-сапраўднаму, барацьба за мір? Прарвала нават маскоўскага кінаапаратара, што есць за нашым сталом, і ціхага рабочага-грузіна, майго суседа па каюце. Апаратар гаварыў пра нудоту пісьменніцкіх з'ездаў і папоўства маркавых, а тут пра латышскага цяльпука Б., які ў нас усю дарогу служыць папом міру, і з паперы, і без паперы часамі — таксама аднолькава нудна. Можа, хлопец ён і нязгоршы, толькі пастаўлены ў такія ўмовы. Як і кожны з маркавых. Няма літасці толькі для тых, што самі робяць такія ўмовы, гоняцца за імі, «кіраўнікамі» плаваюць паверсе...

У тых жа шведаў, відаць, не толькі бядней з гэтым, але і шчырэй, а ў нас добрай форме, як і ў многім іншым, не адпавядае змест.

Смешнае і прыкра-смешнае, што ўсюды здараецца. Наш Б. прамаўляе перад шведамі на пірсе, а з сандалета тырчыць праз падзёртую шкарпэтку голы вялікі палец. А ездзіць таварыш з мілай жоначкай. Можа, таму гэты палец тырчыць, што няма тут домработніцы?

На вечары-мітынгу, дзе, дарэчы, добра спявалі шведскія хлопцы, пад гітару і пад скрыпкі, з'явіўся п'яны, ціхі вар'ят з мокрымі смярдзючымі калошынамі, усё садзіўся то паміж намі, мужчынамі, то паміж Damen або Раñ. Усім урачыста дзякаваў за выступленні. Мы яго намячалі прымаком нашай кіруючай «Акуліне» (баба па палітычнай частцы, Аэліта). А для таго, каб рагатаць з гэтага, у нас ёсць запас назіранняў і злосці.

А колькі тут, сярод нашых людзей і цікавых, і з добрымі магчымасцямі, як яны маглі б выступіць! У тым ліку і сярод літаратараў, калі б іх не засланялі свае маркавы ды акуліны.

Што да выступленняў, і не толькі ў Гдыні, на якую я маю сякое-такое права і дадзеныя, але і ў іншых месцах мог бы сказаць што-небудзь і я. Няблага, людзі казалі, атрымалася ў мяне ў Гамбургу. Але ў Ростаку, дзе я хацеў перадаць немцам нашу маленькую анталогію гэдээраўскага апавядання і звярнуўся з такой прапановай да «Акуліны», яна мне губаста буркнула ў адказ: «Ни-ка-кой самодеятельности!..»

Выступленні — няхай сабе, а ўжо ў літаратуры без «самадзейнасці» мы бачым, што выходзіць.

...А што ён бачыў — кінааператар, таўкучыся пры вярхах? Здымаючы таксама, як яны прамаўляюць і пішуць. Бачыць, а гаварыць асмельваецца толькі пад чаркай. Стыль нашага часу — хвіга ў кішэні.

* * *

Апошняе «мимолетное видение» нашай «Акуліны» (апошні штрых — муж працуе ў ЦК КПСС). Пакуль мы стаялі, ад дажджу пахаваўшыся з чамаданамі пад застрэшша ленінградскага марскога вакзала, і чакалі якога-небудзь транспарту — наша панурая кіраўніца праехала каля нас у «рафіку», седзячы побач з шафёрам, а машына была запакавана, ажно праз вокны відно, чамаданамі і скрыня-

мі — знаёмымі, бо я іх бачыў на палубе, каля трапа. І не было аніякай таможаннай праверкі — ні на яе, ні на ўсіх спекулянтаў... І ваяваць з такімі акулінамі — усё роўна што паравоз ці самазвал рукамі затрымліваць. Калі рыба загніваецца з галавы, дык з галавы яе і трэба «лячыць», бо «лячэнне» знізу бывае вельмі нячаста, а ў нас яго і наогул няма.

«Вось работа для вашага брата»,— казаў мне сімпатычны ленінградзец, муж мае зямлячкі, калі мы з ім гаварылі пра нашы беды ў шырэйшым ды глыбейшым вымярэнні.

Я адказаў яму: «Калі вы будзеце такое друкаваць».

І мы смяяліся. Нават смешна ўжо, як пасля плачу бывае.

* * *

«Як не пашанцуе зрання, дык яно ўжо так і да змяркання»,— казала нам цялятніца Аксеня П. Жанчына нестарая, сорак гадоў, такія ў горадзе яшчэ галовы мужчынам марочаць, а гэтая столькі ўжо гора перажыла. Такое жахлівае маленства: падлеткам, пасля вызвалення, было не надта соладка, а потым муж, «бабнік і п'яніца», які, нарэшце, павесіўся, пакінуўшы ёй трое дзяцей, з якіх аднаго трэба было аддаць у дом інвалідаў. А дачка старэйшая, Галя, мілая дзяўчына са скрыўленым пазваночнікам, працуе ў мінскім атэлье. Яна нам, Галя, паказвала хаты, не баючыся гразі. Такая ж, відаць, сардэчная, як і мама, якая плакала, відаць, упершыню так многа расказваючы пра сваё жыццё.

* * *

Баба смяецца, што дождж сёння такі, увесь дзень, «бо п'яніц дэпутатамі выбіраюць».

Выбары — дзень спецыяльнага п'янства. Ці гэта нам так пашанцавала?

* * *

Тут, на Лагойшчыне,— яшчэ раз моцнае, агіднае пацверджанне таго, чаго мы «не хочам падкрэсліваць» — вайна па сутнасці грамадзянская. Процьма паліцыі, падзел вёсак

на тых і тых, жорсткасць жахлівая, ажно пытаешся: адкуль яна такая? І думаецца, што тут і быў якраз працяг «класавай барацьбы» з усімі яе «адхіленнямі»...

* * *

У сельсавеце мы пачалі гаворку пра вёску Разліцце, «бесперспектыўную».

Старшыня сельсавета, маладая жанчына, з тых, што можа аблаяць («валявая!»), учарашніх пакутніц-бабуль назвала... лодырамі. «Яны нам нічога не заяўлялі». А паспрабавала б другая «заявіць» — больш да яе не пайшла б...

Успомнілася іншая «валявая»: слонімская, сакратар райкома партыі па ідэалогіі, якая, калі мы расказалі ёй пра нялёгкае жыццё Жэні Б. маці-адзіночкі, весела сказала нам — траім старэйшым за яе мужчынам, пісьменнікам:

— Яна слабая на перадок?..

* * *

Загадчыца дзіцячай бібліятэкі. Сімпатычная, спакойная, але хвалюецца — і ад успамінаў пра страшны дзень у іхняй вёсцы, і ад таго, што трэба гаварыць на роднай мове, ад якое яе — між іншым, калісьці найлепшую ў гэтым сэнсе студэнтку — амаль зусім ужо адвучылі.

* * *

Чорнаму не пакінулі нават назвы роднае вёскі: «Тимковичи»... Перад выпускным вечарам школа прыйшла ў музей. Успамінаючы сваіх дзяцей: Андрэі — у гарнітурчыках, у большасці купленых да гэтай даты, і Галі ды Наташы — у белых, як падвянечных, сукенках. Настаўнік, амаль зусім чыста гаворачы па-беларуску, расказвае ім, як навічкам, пра Чорнага, а на заканчэнне паведамляе, што Іра, дачка пісьменніка, прыязджала сюды з сынам («Яны купілі «Жыгулі»), і што яна «добра гаворыць па-беларуску», і сын яе — о, радасць якая! — хоць і малы, а таксама...

Зноў думалася — і там, у Цімкавічах, і тут, у Капылі,

учора над возерам — пра Чорнага. Якога пісьменніка змарнавалі!

«Biada ludom, co swoje mordują proroki!..»[1]

* * *

У калгасным доме адпачынку.

Таварыш чакіст (сам так гаворыць пра сябе) у гэтым годзе выйдзе на пенсію. Вудзіць рыбку і сушыць яе, насіляўшы на нітках на верандзе. Адпачываючы пасля абеду, расказвае, як удзельнічаў у раскулачванні тут, у Заходняй, у 1951 годзе.

У хаце падлога земляная, на ямах, удава і трое дзяцей: дзяўчына-камсамолка, працуе ў магазіне прадаўшчыцай, і хлопчыкі-блізнюкі, гадоў па дзесяць. Калі сказалі ёй, каб збіралася, баба павалілася на зямлю, галосячы, а хлапчукі схапіліся ў запечку біцца за чаравікі — каму абуць іх, бо адна пара на двух. У хляве быў парсючок. Дапамагалі таварышы жанчыне так: парсючка аддалі суседу, а ў таго ўзялі трохі сала ды кумпяк, каб ёй было з дзецьмі на дарогу, бо чалавек той якраз закалоў свайго.

— А за што ж вы яе? — пытаецца кацельшчык.

— Сігнал быў, што муж яе пры панах быў правакатарам.

— Няхай ён быў, ну, а яна, а дзеці чым вінаваты?

— А што ты хочаш ад нас? Мы — слугі народа, у нас быў загад!..

Як той Befehl[2], якім апраўдваліся нямецкія ваенныя злачынцы.

* * *

Некалькі дзён пад цяжкім уражаннем ад могілак на Чыжоўцы.

Ямы каля ямаў, аркестр налазіць на аркестр, танная пошласць вянкоў, прамоў...

Калі мы вярталіся ад магілы беднага Валодзі Нядзведзкага, збоку я заглянуў у яшчэ адну труну, ужо на людскіх плячах, знятую з машыны. Блатное слова ўспомнілася:

---

[1] «Гора народам, якія знішчаюць сваіх прарокаў!..» З верша Адама Міцкевіча «Да рускіх сяброў».

[2] Загад *(ням.)*.

«жмурык». І той, яшчэ адзін,— з разяўленым ротам, у кветках,— не даваў мне спакою доўга...

У вёсцы пахаванне бывала рэдкай падзеяй, з могілкамі вясковымі звязана нейкая таямнічасць, краса. А тут — «прамысловасць» нейкая, спешка, стандарт. Як з будаўніцтвам — абы-як, абы сабраць пад дахам тых, што ўцякаюць з вёскі ў горад. І таму такая сумота і холад...

* * *

Удвая больш раёнаў, адпаведна — больш начальства. Сапраўдных злачынцаў шукаць было нялёгка, а план трэба было выконваць і перавыконваць...

У блакаду Налібоцкай пушчы карнікі ўзялі двух дзядзькоў паказаць дарогу ў далейшыя вёскі, а ім пасля — па дваццаць пяць гадоў...

Траім дзяўчатам было семнаццаць, шаснаццаць і пятнаццаць гадоў. Як яны там ведалі тую нямецкую мову пасля сямігодкі! А карнікі ўзялі іх за перакладчыц. Для каго? Там жа іх, карнікаў, больш было не немцаў. «Для ночы» ўзялі, павазілі пяць дзён па вёсках і адправілі ў Нямеччыну. А вярнуліся яны адтуль — адной далі дваццаць пяць, другой дзесяць, а наймалодшай, якую **тады** старэйшая сястра ўзяла з сабою — пяць гадоў — па году за дзень! — «за антыкалгасную агітацыю»...

«Быў час, была эпоха!..»[1]

* * *

Зноў прыгадаўся той начальнік, што можа так сабе што-небудзь забракаваць, не пусціць... Як, для прыкладу, той маскоўска-цакоўскі Мяленцьеў, што забракаваў у «Раман-газеце» Адамовіча, «Хатынскую аповесць».

Проста так — возьме і забракуе, не пусціць. І нічога яму не зробіш.

---

[1] Запісана пры чытанні ў КДБ архіўных матэрыялаў для кнігі «Я з вогненнай вёскі...».

* * *

Двойчы было прыкра:

Калі не пазнаў ля газетнага кіёска, што стары, які лез без чаргі па цыгарэты,— інвалід вайны з кіёчкам, а я яму зрабіў заўвагу толькі як курцу.

Другі раз — сёння ў магазіне, калі маладзенькая прадаўшчыца тройчы «не пачула» маю просьбу, бо абслугоўвала літоўцаў, і я ёй выгаварыў за нацыяналізм[1].

Смешна гэта і горка — беларусу быць рускім вялікадзяржаўным шавіністам, якім яна мяне напэўна палічыла.

А той стары ўзяў ды ціха пайшоў ад кіёска, не купіўшы цыгарэт, а я яму здаўся, відаць, такім жа здаравенным грубіянам, які днямі самому мне нізашто нагрубіў у чарзе па ёлачныя цацкі.

* * *

Заўвагі найвышэйшага начальніка на палях даклада, які яму напісалі:

«Здесь я должен поразмышлять». «Здесь у меня должно быть теплее». «Здесь нужны какие-то интересные детали».

І падпольныя дакладчыкі будуць думаць далей. Нічога не зробіш — і ім не хочацца сыходзіць з арбіты.

Добра ўжо тое, што адзін з іх, даўні знаёмы, вышаптаў гэта мне.

* * *

Назву вёскі Іконы, на Барысаўшчыне, па загаду самога прэзідэнта, што заязджаў туды, змянілі на Іканы, з націскам на «і». Барацьба з рэлігіяй? Чым маліцца на іконы, лепш ікаць ад гарэлкі.

**1974**

Гэта страшна — адчуць сябе сярод мноства людзей чужым, адзінокім.

---

[1] Запісана ў Друскеніках.

Я адчуў гэта ўчора, калі ў марозным прыцемку «гадзіны пік» ішоў па праспекце.

А натоўп — чарга па што-небудзь?.. Проста балюча, як толькі ўбачыш... Якая адчужанасць, гатовая ў любы момант успыхнуць варожасцю...

* * *

У асяроддзі літаратараў з гэтага быў бы дружны смех, а тут — за юбілейным сталом у багатым вясковым доміку — дырэктар мінскай сярэдняй школы, чалавек пажылы ўжо, сямейны, з цікавым мінулым чытае не жартоўную, а сур'ёзную «паэму» пра юбіляра, графаманскую бэрсаніну, з якое толькі смяяцца, а ўсе яго слухаюць і апладзіруюць з поўнай павагай... (Успомнілася зноў, як Пястрак гаварыў, што проза Гурскага нагадвае тых гліняных катоў і дываны з лебедзямі, што прадаюцца на Камароўскім рынку.) І толькі потым, пасля багатага і агрэсіўнага збоку гаспадароў застолля, я ў электрычцы даведаўся ад гэтага «паэта», што юбіляр сам папрасіў яго напісаць «паэму», у той дзень, калі прыязджаў запрашаць яго. Паэму пра юбілярава жыццё, якая павінна легчы на стол магутным пірагом.

— Ну, дзе ж я мог паспець за тыдзень? Што мог — зрабіў,— скромнічаў таварыш.

Барыс Л., яўрэй-інжынер, дык той хоць можа неяк амаль па-дзіцячы непасрэдна, весела радавацца, калі штосьці рыфмуецца, больш і не патрабуючы, глытаючы толькі сямейнае захапленне. І толькі патрыярх роду, дзядзька Мірон, мог мне шаптаць сваім сіплым басам пра мужа пляменніцы:

— Дурак Борис, он имел бы копейку, но не хочет...

А гэты, аўтар доўгай юбілейнай оды («...не прятался он у сподниц горячих вдов и молодиц...»), не толькі гаварыў пасля пра гэтую сваю ледзь не другую спецыяльнасць з поўнай сур'ёзнасцю, але і пра літаратуру наогул (пра Быкава, скажам), гаварыў талкова, не толькі выклікаючы прыхільнасць да сябе, але і наводзячы на здзіўленне,— як гэта можна цвяроза разбірацца ў тым, што напісалі іншыя, а самому тым часам сур'ёзна гарадзіць лухту?..

* * *

Зноў у архіве КДБ.

Вёска Вярхі Ельскага раёна. Лета 1942 года. Дзяды і бабы вынеслі стол у канец вёскі, з караваем і соллю на рушніку сустрэлі карнікаў,— каб гэтым, можа, уратаваць сябе і дзяцей. Чалавек каля сотні. А карнікі іх, па камандзе обер-лейтэнанта (які цяпер працуе ў заходнеберлінскай паліцыі), прыперлі паўкругам да сцяны адрыны, дзе іх сустрэлі, і — з адлегласці 3—4 метры! — пакасілі з аўтаматаў і вінтовак. Пратакол кажа, што «вся стена была изрешечена». А потым усе карнікі — славечанская паліцыя, радавыя немцы і латышы, за выключэннем таго обер-лейтэнанта — за рукі, за ногі пасцягалі трупы ў адрыну і падпалілі.

* * *

Мы напружана працавалі, Адамовіч, Сёмуха[1] і я, калі мне пазванілі: выступіць па радыё, яшчэ раз гаўкнуць на Салжаніцына, прычым — неадкладна!.. І неяк вельмі ж проста і неадкладна я адмовіўся, не бачачы ў гэтым подзвігу і дагэтуль. Несалідна гэта — так доўга пераконваць саміх сябе ў тым, што паступілі правільна, прымушаць людзей брахаць ужо не на страх, а на брэх. І не тых дапускаць, што самі гэтага прагнуць, а «правяраючы лаяльнасць», «перавыхоўваючы» непрыручаных.

* * *

К., якога я нават вельмі прасіў быць рэдактарам рамана, выкрасліў з яго тое месца, дзе Руневіч — упершыню перад партрэтам Сталіна. Спаслаўся на «галоўную рэдактуру», а потым я даведаўся, што тут не «галоўная рэдактура», а «место было завопрошено»... карэктарам. І яны да гэтага падключаны.

Адразу пасля атрымання весткі я пры сустрэчы паплакаў у камізэльку Ніліну. І Павел Піліпавіч пацешыў мяне тым.

---

[1] Сёмуха Васіль — паэт-перакладчык, тут рэдактар кнігі «Я з вогненнай вёскі...».

што побач з яго апавяданнем у «Новом мире», якое я яму пахваліў, было яшчэ два, якія зарэзала цэнзура.

— Мудро говорил Кербабаев,— сказаў ён.— «Сензур у нас нет. Правильно пишешь — нет сензур, неправильно пишешь — есть сензур. Я пишу правильно — у меня нет сензур...»

* * *

Філосаф, работнік ЦК КПСС, а можа, і праўда «падпалкоўнік»:

— Хватило бы вам и 10 %. Это все выдумка интеллигенции.

10 % — гэта для беларускага ў планах нашых выдавецтваў, а «выдумка интеллигенции»... наша мова.

Дык вунь ажно адкуль яно ідзе!..

З цвярозай асцярожнасцю я адказаў яму:

— На эту тему лучше говорить с утра.

У сэнсе — праспіцеся. Бо вячэралі мы з віном[1].

* * *

Пасля граната, які на хаду па алеі непрыстойна сарваў наш шахцёр, фінікі на пальме былі для яго завысока. Спалучэнне прастаты з новай, сучаснай якасцю — самаўпэўненай развязнасцю «гегемона».

## 1975

Дастаеўскі. «Бесы»:

«Человек несчастлив потому, что не знает, что он счастлив».

Гэта я ўжо чытаў даўно, у загорскім адрыўным календары, і сустрэў цяпер як знаёмае, нават неяк усцешана.

А гэта гучыць як прароцтва:

«Все они, от неумения вести дело, ужасно любят обвинять в шпионаже».

---

[1] Запісана ў Іспаніі.

* * *

Лепш ужо адкрыты, шчыры капіталізм, з яго супрацоўніцтвам з народнай уладай, чым такія «марксісты», што едуць у Кракаў на адпачынак, каб там патаемна адмольваць, выспаведваць свае, «неабходныя для кар'еры», грахі.

Пан Г. у кракаўскім аддзяленні «паксу», расказваў мне пра такіх «зусім без выразнай пазіцыі», але праўдзіва.

* * *

Думаў здалёк[1] пра бедную Беларусь, што так і не ўмее, так і не можа быць сама сабой, хоць і не горшая — ні мовай, ні талентамі, ні шчырай душою — за іншых. (Нават пісаць такое як быццам баюся.)

* * *

Смоляр[2] у Ізраілі як быццам піша пра... «антысемітызм» у партызанах.

А мне ўспамінаецца, як нас на нейкі час перавезлі былі з «Камсамольца» ў «25 беларусаў», у атрад імя Будзённага. Кухар, калі мы рэдакцыйным гуртам прыйшлі да катла: «Гэтаму хлопцу дам, а гэтаму жыдку — не». Мне і Смоляру. Ён адышоўся, лёг пад сасною і плакаў: «Котелок супу, е. т. м.!..» А я пайшоў да мясцовага камісара. Вусаты настаўнік гісторыі Лукашэвіч, з якім я потым рад быў сустракацца (першы раз пасля вызвалення — на стагоддзі Міцкевіча, калі ён, Лукашэвіч, быў старшынёю калгаса), загадаў тады паклікаць таго кухара і сказаў яму пры мне:

«В первую очередь, самого густого, жирного, и еще по котелку свежего молока три раза в день! Ты знаешь, что это люди вредной профессии?..»

Такі антысемітызм я памятаю.

Памятаю і тое, як ён, Смоляр, крычаў на другога яўрэя, Мар'яна: «Што, без цябе не было каму ехаць у раён, трапіць там на засаду?» І сёе-тое іншае. А такі ж цвёрдакаменны быў камуніст!..

---

[1] Запісана ў польскім гарадку Картузы.
[2] Гірш Смоляр (1906—1993) — яўрэйскі публіцыст.

* * *

Сястра вядомага партызана, і сама сувязная, красуня «выйшла» (па-ваеннаму) за камісара брыгады. Добры чалавек, якога мы паважалі больш за ўсіх іншых начальнікаў. Ад'ютант, чаркес Хачукоў, запрагае сівую, у яблыках, камісарскую Лізу. Потым з зямлянкі выходзіць злосна заплаканая камісарша, садзіцца на воз і — паехалі, пагрукалі па карэнні. Камісар стаіць каля свае зямлянкі, я — каля нашай, разведчыцкай. Я нашмат маладзейшы за яго, кадравага афіцэра з акружэнцаў, ён ведае, што я пішу, і ён мне кажа:

— Видал, Ваня, третий раз потрошить повезли.

Яна паехала ў яўрэйскі сямейны лагер, рабіць аборт.

І сама была не такая бяскрыўдная. Ідзе пасяджэнне штаба міжрайцэнтра, начальства ў нас — з пяці брыгад, з самім Царуком на чале. А яна зварыла на вогнішчы абед і гукае ў прастору:

— Саш-ша, иди иску-шай!

За трэцім разам ён адгукаецца са штабное хаты:

— Мне некогда, здесь заседание штаба!

— А чтоб ты там лопнул вместе со своим штабом!..

Пасля вызвалення, ужо ў райцэнтры, на брыгаду прыслалі трохі партызанскіх медалёў. Што там яна гаварыла свайму камісару сам-насам — можна здагадвацца па тым, што яшчэ і на ганак выйшла следам і прасіпела:

— Помни, е. т. м., если ты дашь мне вторую степень!..

Неўзабаве да камісара прыехала з Расіі жонка з малымі і папрасіла лясную вон. Нешта праз год я бачыў на Камароўцы, як яна, паліняла красуня, прадавала нейкі салатавенькі світэр.

Ці мы калі-небудзь будзем пісаць пра партызаншчыну ўсё?..

## 1976

Сын вельмі хацеў быць афіцэрам і стаў ім, а потым яго прывезлі з кітайскай граніцы ў цынкавай труне, і бацька сядзіць цяпер перад хатай на лаўцы — так недалёка ад магілы свайго адзінага...

...І яшчэ адно, пра што маўчым:

Малады таксіст, сонечным ранкам везучы мяне ў Каралішчавічы, расказваў, як ён з яшчэ адным салдатам і лей-

тэнантам суправаджаў калісьці з Чэхаславакіі ва ўкраінскае сяло таксама цынкавую труну. Як маці салдаціка (так жа іх здаўна называюць у народзе), галосячы, «лезла біцца» да лейтэнанта: каб адкрылі тую труну, каб зірнуць не праз шкло акенца, [illegible] на ўсяго,— што з ім зрабілі...

* * *

Прыстойная жанчына, жонка паважанага чалавека, з усмешкай:

— Наша атамная на іх — калі ласка, толькі каб іхнія на нас не падалі — за гэта мы змагаемся.

І стала агіднай.

* * *

Старэнькая Вільдэ[1] ў маскоўскім Доме літаратараў глядзіць з'ездаўскую выстаўку кніг савецкіх шматнацыянальных аўтараў на многіх замежных мовах. Кажа мне, калі павіталіся:

— Як хораша, праўда? І сняжынка ж адна на адну не падобныя. А дурны маскаль хоча, каб усё было толькі бела, толькі аднолькава...

І ўсё гэта ёй вельмі ясна.

## 1977

Наколькі лепш адчуваў бы сябе беларускі пісьменнік, калі б ён чуў навокал (не толькі ў вёсцы або ў сваім саюзе) родную мову, калі б, пішучы на гэтай мове, можна было думаць, што ўсюды ці хоць у больш-менш лічаных краінах нехта ведае, вывучае яе, ма́е слоўнікі, каб слова наша даходзіла да замежнага чытача не праз рэшата рускага перакладу, а сваім уласным гучаннем. Каб мець такія правы, як гэты Фюман, якога свабодна перакладаюць з нямецкай на рускую, або які-небудзь не лепшы за мяне рускі калега, якога перакладаюць з арыгінала, бо мова яго — не «дыялект», як гаварыў пры мне пра нашу адзін, нават прыязны, польскі русіцыст, а паўнапраўная еўрапейская мова...

---

[1] Ірына Вільдэ (1907—1982) — украінская пісьменніца.

* * *

А няўжо народу, чалавецтву, людзям патрэбен яшчэ і мой голас — пры наяўнасці процьмы добрага і выдатнага, што днямі я па-новаму ўбачыў, даводзячы да ладу сваю бібліятэку. Адразу ж, толькі прачнуўся я, згадаўся жаўранак: няўжо ён задумваецца над тым, ці патрэбен каму-небудзь яго спеў? Проста пяе з неадольнай патрэбы.

* * *

Калі шукаць апраўдання таму, што мала напісана не толькі за апошнія дзесяць гадоў, але і наогул, дык трэба прыгадаць не толькі тое, колькі я сам перакладаў і рэдагаваў чужога, але і тое, колькі я працаваў над перакладамі майго іншымі — і аўтарызуючы (працэнтаў на 30—40, а то і на ўсе 50 дапрацоўваючы пераклад), і робячы ўсю тэхнічную работу пры падрыхтоўцы перавыданняў, і чытаючы карэктуры. Гэта датычыцца перакладаў і рускіх, і ўкраінскіх, і польскіх.

А ў актыў мне ў нашых умовах — не толькі ў Саюзе, але і ў Беларусі — лічыцца адно арыгінальнае, адзін чыстаган.

Дык што гэта — неразумнае марнаванне сіл і часу, няўменне выкарыстоўваць яго належным чынам ці яшчэ і іншае — ненармальнае становішча беларускага пісьменніка дома, у сваім народзе, дзе з кожным годам, напорыста і паслядоўна робіцца справа асіміляцыі?.. Цяжка, і ніхто не ведае пра гэта, апроч нас саміх.

А такі Н., якога я пачаў заўважаць і любіць па творах, гаворыць, выступаючы ў Валгаградзе, што ёсць толькі руская літаратура, а ўсё іншае — Гамзатавы, Айтматавы...— «зроблена намі, рускімі»... І гэта не толькі яго шавіністычная саманадзейнасць, але і глыбінная палітыка.

* * *

Захоплена даводзіць, што Пушкін геніяльны, а Ясенін вельмі таленавіты — гэта не вельмі цяжка. А потым ён пераходзіць на пасрэднага сучасніка, пасрэднасць якога так выразна відаць у вершаваных цытатах, пераходзіць

з тым самым захапленнем і апломбам, і адразу кідаецца ў вочы, які ён абмежаваны крыкун, гэты «преуспевающий» крытык. Праўда, «преуспевание» яго ўмоўнае, залежнае ад займаемай пасады (дырэктар выдавецтва), але і яму, і жонцы дастаткова, хапае, каб быць самаўпэўненымі, самаздаволенымі,— усёй сям'ёй, з дачкой, зяцем, унукамі.

Смешна. Калі б усе масквічы былі так магутна чараватыя, дык сталіцу нашу вельмі нялёгка было б пракарміць.

* * *

Паранены партызан хаваецца ў маёнтачку Лісіцкага — тэма.

І дзікая панская самотнасць, ізаляванасць ад наваколля, і чалавечнасць, і антыфашызм, які ён, стары пан, бачыць у нялюдскіх справах (расстрэлы яўрэяў і іншае), і шляхецкая Беларусь, што адыходзіць у гісторыю (дэкламаванне старым Лісіцкім Багушэвіча, «Гутарак» і іншага).

Пра самотнасць, ізаляванасць. Я ў іх адчуў яе на нейкіх дзесяць год раней, калі з панічом Лёлікам ехаў аднойчы з лесу. Апошні сын у вялікай панскай сям'і, юнак, які вярнуўся з настаўніцкай семінарыі, каб ратаваць ужо не маёнтак, а жыццё — ад звычайнай беднасці, звычайнага голаду, які маскаваўся былой фанабэрыяй.

Ці быў у іх герб? Напэўна ж быў які-небудзь. Як у Путраманта, як у Дзяржынскага. Першы з гэтых двух сам сабе яго шукаў і ў сваім «Półwieku» паказваў чытачу, не абціраючы ад фамільнага нафталіну, а другому той несмяротны герб ахвотна і радасна знайшлі біёграфы, якім і ў Народнай Польшчы гэта — ах як імпануе! Вялікі рэвалюцыянер, друг самога Леніна — і як жа тут можна без герба? Не з чэрні — са шляхты — у гэтым асаблівы смак.

Зрэшты і наш, савецкі барын Катаеў у сваім «Кладбище в Скулянах», па-старэчы занудліва шукае сам сабе і дэманструе нам сваіх дваранскіх продкаў.

* * *

Карл Лібкнехт, з пісьма сыну: «Рядом со мной все грохочет, гремит,— против нас выпущены все силы ада. **Я не буду стрелять...»** Чалавек, што быў мужным, у рэйхстагу выступаў адзін супраць усіх. З пісьма жонцы: «Унтер-офи-

цер недоволен. Я бранюсь с ним, но не очень злобно, так как он добрый парень, хотя очень ограниченный и чересчур боязливый. Я заявляю ему, что стрелять не буду, даже если прикажут. Пусть меня расстреляют...»

Вайна і чалавек, як асоба. Той, што ўсвядоміў яе злачыннасць.

А каб Леніна, як Лібкнехта, у акопы — страляў бы ён ці не? Пацыфізм?..

* * *

Ад старонак Леніна, дзе ўсё так ясна, лагічна, неабвержна, вяртаешся ў наш час, дзе так многа нявырашаных пытанняў, якія зноў жа, як і яму тады, нам трэба вырашаць самім. Вайна з Кітаем — як яе назваць? Пра якую грамадзянскую вайну можна думаць пасля атамнай? Як асобе, вызваленай, разумнай асобе з адным непаўторным жыццём паводзіць сябе ў будучай бойні — не тэарэтызуючы здалёк, а апынуўшыся ў акопе, як Лібкнехт?

А самае страшнае сёння — усенароднае п'янства і ўсенародная абыякавасць?.. А жывучая і ў марксізме рэлігійная спадчыннасць — культ асобы, у неглыбокім сваім падтэксце бяздумна цынічны, абыякавы да лёсу рэвалюцыі, да яе заваёў і ахвяр, панесеных за яе?..

* * *

У чым філасофія ваеннай (ці антываеннай) прозы Быкава і чаму я сяды-тады быў і ў нечым застаюся з ім нязгодным? «Дажыць да світання», «Яго батальён» — ці гэта ўжо стомленасць ад спеву на адзін матыў, ці тут у пэўнай меры агалілася штосьці з таго, з чым я нязгодны? Праўда пра вайну — так. І ўсё? А калі вайна не свяшчэнная, калі нас штурхануць на іншую?..

* * *

Розных адценняў чырвань, жаўцізна, зеляніна кляновых лістоў (у вазачцы пад бярозу) на фоне чыстага шкла, за якім і чыстае неба, і сонечная зеляніна, і зіхатлівае мора — жывы асенні вітраж.

І хуліганістае: неймаверныя зады ў спартыўных портках — хоць ты вазьмі ды мелам пішы на іх: «Хозяйство Икса», «Хозяйство Игрека»... Як на ваенных «студэбекерах» было. А наша маці сказала б, па-народнаму: «Во дзе сракі панаядалі!.»

* * *

Другі раз пасля 1952 года быў у доме-музеі Астроўскага. Не растлумачыш нікому, што мне бывае неяк няёмка ад сустрэчы з ім, амаль заўсёды. Сёння падумаў: так вось калісьці стваралі святых угоднікаў... І разумею, што гэта сорамна, так думаць, але — думаю. І пра яго паслядоўнікаў думалася, пра тых, што таксама былі пакутнікамі, высакароднымі, гарачымі людзьмі, але таленту не мелі нават і такога, і таму так шкада іх бывае, і так няёмка пры іх...

...Што прыкра, дык гэта здымак Астроўскага на ложку,— у зашпіленым кіцелі, з ордэнам. Для фатаграфавання, нібы ён так, пры такім парадзе, і заўсёды ляжаў...

* * *

С. А. расказаў, што ім было проста загадана не запрашаць на тэлебачанне Адамовіча, Быкава, мяне і... п'яніцу N. Прыгадалася з расказаў Ж. і іншых заходнебеларускіх падпольшчыкаў, як у турме палітычным падсаджвалі крымінальных. І перадачу ў семдзесят другім годзе па «Я з вогненнай вёскі...», заказаную нам і ўжо гатовую, знячэўку, нібы з-за вугла, няўдала і груба сарвалі — таксама па загаду зверху. І з Адамовічавай карцінай «Хатынь, 5 км» — тое ж самае. «Если хотите давать, то уберите Брыля»... Трэба гэта — каб дурань сядзеў наверсе, бервяном валіўся пад ногі? Будзе такое і яшчэ? Вядома ж, будзе. «А ты, сіраціна, жыві!»

Заканамернасць нейкая, як быццам абавязковая: за савецкую ўладу змагацца... з савецкай уладай, з яе адказнымі прадстаўнікамі, якія павінны былі б дапамагаць нашаму руху наперад. Разнавіднасць іх і няспыннае папаўненне. Жывеш і не ведаеш, які **сціпля́к** заўтра ці паслязаўтра стане тваім начальнікам, будзе га́дзіць, а потым знікне, і ўсе як быццам толькі што ўбачаць, якое гэта было дзярмо.

* * *

Маё першае ўражанне ад Яшына было вясёлае, з пачутага — як ён зайшоў у рэдакцыю «Савецкага селяніна» і з парога прадставіўся: «Аляксандр Яшын. «Алёна Фаміна». Нібыта толькі што быў адзначаны Сталінскай прэміяй. Потым прыйшлі «Рычаги» і наша знаёмства ў Мінску, у аэрапортаўскім рэстаране, пасля нейкай нарады. Я шчыра хваліў «Рычаги», а ён абараняўся ныццём: «Да вот же не печатают». Потым «Вологодская свадьба», уражанне ад якое мне псавала мазня з устаўной скіўіцай. Потым — прыгожа выдадзеная «Угощаю рябиной». Сапраўднае, але здавалася перахвалена наўздагон (як гэта несмяротна модна!).

Таленавіты і — яшчэ адзін — «несостоявшийся».

У кожнага з нас бываюць свае «Рычаги» і няма права хоць бы пункцір пакінуць замест таго, што выкінута ў тэксце. Гладка... Нават кругі не разышліся.

* * *

З рукапісу былой шматгадовай пакутніцы[1]:

«...Как условна грань между высокой принципиальностью и узколобой нетерпимостью, как относительны все человеческие системы взглядов и как, наоборот, абсолютны те страшные муки, на которые люди обрекают друг друга».

* * *

Суворавец, якога не пусцілі (па тэлефонным званку) пабачыцца з маці, што памірала, а пусцілі толькі тады, калі — па поўнай форме — прыйшла з яго дому тэлеграма «з пацверджаннем факта», не застаў яе, прыехаў з пахавання і падаў заяву аб выхадзе з вучылішча:

«Не хачу, каб вы тут з мяне зрабілі такога, як вы самі, звера».

І адпусцілі, бо ён «бунтаваў» усю роту.

---

[1] Я. Гінзбург. «Крутой маршрут».

1978

Прадмова да рускага зборніка выбраных вершаў Івана Драча: нібы той самаўпэўнены, балбатлівы маскоўскі ментар Сураўцаў робіць на фоне аўтара самадзейна-мастацкую гімнастыку. Хоць ты скажы яму, як дзед Талаш опернаму дырыжору: «Адыдзіся, што ты тут размахаўся!..»

* * *

Малады інструктар райкома гаварыў суседу, маладому пісьменніку:

«І ўсё роўна мы будзем жыць лепш за вас».

Хто «мы» і хто «вы» — каго менш, каго больш? А людзі ж бачаць — і бліжэйшыя, і далейшыя,— якая бездань, як яна пашыраецца паміж новай «нікчэмнай меншасцю» і большасцю, дзеля якой рабілася рэвалюцыя...

* * *

Чамусьці хвалю гаспадыні З. М., што тая — добры доктар, добрая жанчына. А гаспадыня — хітра ўсміхаючыся сваімі чорнымі ды быстрымі:

«Яна так адной бабцы казала: «Мая мама ў вашых гадах памерла, а вы ўсё лячыцца хочаце...» Ну, і любіць, каб да яе не з пустымі рукамі».

Трохі збянтэжана, пачынаю апраўдвацца:

«А я ўжо з вайны, можна сказаць, і не бачыў яе...»

Дый у вайну, у партызанах, не надта ведаў З. М., хоць і пісаў пра яе ў райгазеце.

Навошта яна — падслепаватая дабрата?

* * *

«Вместе с Толстым умерла нежность»...
А з другога боку: «Истерический хлюпик»...
Успомнілася гэта ўчора: Блок і Ленін.

* * *

Прачнуўся ў чатыры і, як працяг нейкага сну, да болю, да ўласнага болю і жаху выразна ўспомніў таго маладзенькага партызана з сінява-слабодскай заставы, які, калі паліцаі і немцы прарваліся за Нёман, уцёк у нейчую хату і схаваўся на печ, дзе яго потым, калі фашыстаў прагналі, знайшлі ўсяго папоранага штыхамі...

Успомніліся і мае страшныя моманты, якія цяпер здаюцца страшнейшымі, чым тады, наскрозь жыва адчулася, што так яно магло быць і са мною — жах, пакуты і смерць. І сёння ўжо той жах прымерваю і на падлетка-сына, якога тады не было...

* * *

Польскае консульства — побач з Домам літаратара. На іхнім плоце — радасны стэнд: «Polak i Rosjanin w kosmosie!» Наш цудоўны Клімук, што ў палёце быў з кнігай Коласа, і другі беларус, Кавалёнак, імем сваім — беларусамі — дома, у СССР, не названы ані разу.

Яшчэ адно сведчанне няправільнай палітыкі. А мы, асуджаныя на асіміляцыю, усё яшчэ пішам... Адказваючы за сваё, не вінаватыя ў тым, чаго асабіста «не можам перайначыць».

* * *

Зноў «мысль, что душу омрачает»: усе ўцякаюць з вёскі, хаты пусцеюць, вёска-карміцелька ліквідуецца, у нас — з мовою заадно. І што гэта будзе — хоць бы праз пяць гадоў? Не разумею... Разам з людзьмі, з якімі гавару пра гэта — і тут, у родных мясцінах, і ўсюды...

* * *

N., які закончыў вышэйшыя літаратурныя курсы, выступаў на абмеркаванні нейчых апавяданняў коратка і катэгарычна: «Павінна быць завязка, кульмінацыя і развязка. А дзе гэтага няма, дык няма і апавядання».

Азамі гэтымі валодае, вядома ж, і Алесь Пальчэўскі, аднак каб ён, замест вялай, надуманай белетрыстыкі (апавяданне «Сын»), проста і шчыра апісаў сваю асабістую трагедыю з сынам — наколькі гэта было б лепш! Самому яму і за намёкамі ўсё ясна, сябрам яго — таксама, нейкага чытача знойдзе і гэты твор. Аднак, ведаючы праўду з ягонага расказу, сапраўдную трагедыю ні ў чым не вінаватага бацькі, у якога нялюдска забралі і васемнаццаць гадоў жыцця, і адзінага сына, выхаваўшы яго варожа-чужым чалавекам — ведаючы гэта, мне той эрзац у раскошным кніжным выданні лічыць літаратурай не хочацца...

Неяк Скрыган расказваў, як працаваў у Сібіры на сплаве. Адзін выпадак з яго зэкаўскіх пакут асабліва моцна ўразіў мяне, і я здзівіўся, чаму ён гэта не апіша. А добры, мілы, вясёлы Іван Аляксеевіч адказаў мне нейкай «мудрасцю»: ці што час не настаў, ці што паспеецца, ці што... іншае нешта, у аснове чаго — асцярожнасць, надломленасць, жаданне ціха пажыць, адпачыць...

З болем думаецца, што і ў запалоханасці сваёй гэтыя слаўныя людзі ў найменшай меры вінаваты самі, у гэтым іх надломленасць, а ламалі ж яны сябе не самі. Я не абвінавачваю, крый мяне Бог, я сумую. Мне зранку, як толькі ўзяўся за Алесеў двухтомнік, думалася пра тое, як мала мы шануем нашых старэйшых сяброў, нашых народных пакутнікаў, як мала ім кажам заслужана добрых слоў. Ды тут жа і іншае нельга не памятаць,— і ў дабраце трэба быць шчырапраўдзівым, літаратуру нельга рабіць няпраўдай ці толькі часткай, частачкай яе.

* * *

На ўзлессі — зялёнае котлішча колішняга хутара, нібыта помнік па тым, што тут адбылося.

У ліпені сорак чацвёртага, калі з усходу ішло вызваленне, а немцы, адступаючы, панічна здаваліся чародамі, на гэтым хутары некалькі партызанаў выпівалі ад радасці, а група «фрыцаў» надыбала ў сваёй разгубленасці сюды — пасля лесу, лугоў, ракі — зноў на ўзлесак і хату. Хлопцы выскачылі:

— Стой, растакую вашу!.. Гэнды хох!..

Немцы пакідалі зброю. Іх бы хоць адагнаць далей ад пакіданых аўтаматаў... Ды тут гаспадар хутара, як і ўсе хлопцы, п'яны, падышоў да таго, што з чырвонымі лампасамі,

ды па мордзе яму. Генерал выхапіў з кішэні пісталет і палажыў «бандыта» ці «хама», як ён там яго палічыў. Ён і скамандаваў: «Фойер!», агонь, а падкамандныя схапіліся за зброю. Бедныя хлопцы (з нашай брыгады) загінулі ўсе. Хата згарэла, сям'я хутаранца таксама,— вораг яшчэ агрызнуўся па-свойму спрактыкавана.

Хто ж гэта бачыў?

Адзін з партызанаў выходзіў за хлеў. А быў ён у паліцэйскай форме, трафейнай. Калі выбег з-за вугла на гвалт, яго заўважылі, паклікалі. Палічылі паліцаем, а ён — са страху, убачыўшы трупы сваіх — згадзіўся: «Я! Я!..» Немцы ўзялі яго з сабой, праваднікам, давялі ажно да Усходняй Прусіі. Вярнуўся ён толькі пасля перамогі...

Цяпер вось, толькі паставіўшы кропку, успомніў яшчэ адзін зялёны помнік, яшчэ адну ваенную трагедыю, расшыфраваную мне тым самым мясцовым дзядзькам.

У буйнай красе наднёманскага ўзлесся, на нізкай паляне — магіла трох яўрэйскіх сем'яў. І плоцік абгароджы струхлеў, паламаўся, і надпісу якога-небудзь на помнічку няма, і шырокая магіла, і котлішчы забудоў — усё высока парасло быллём. Адтуль, дзе было даваеннае жыццё трох сем'яў, я ведаю дачку з адной сям'і, пажылую ўжо, а ўсё яшчэ бойкую партызанку. Пры Польшчы — во дзе было ЧП! — яна «па любові», уцёкшы з дому, выйшла замуж за гоя, светлага беларускага хлопца з недалёкага прылясснога хутара. Праўда, шчасце іх было нядоўгім,— ратуючыся ад другой пасадкі ў турму, хлопец той неўзабаве перайшоў за граніцу, у Саветы, думаў, што і жонку пазней забярэ. А там яго, камсамольца-падпольшчыка, шчырую душу, залічылі ў польскія шпіёны, і ён не вярнуўся...

* * *

На юбілейным банкеце заслужанага мовазнаўцы адзін з яго лепшых вучняў, сам ужо кандыдат навук, тамадзіў даволі сухавата, аднастайна. Маладзічкам слова дае і толькі ўсё «член нашай кафедры» ды «і яшчэ член нашай кафедры»... У перапынку адна з гэтых маладзічак з асцярогаю засмяялася мне:

— Ой, Іван Антонавіч, толькі ж не выдавайце мяне!.. У яго і ў дысертацыі так было: «член аднародны», «член неаднародны»... А Фёдар Міхайлавіч тонкім аловачкам усе тыя словы паабводзіў — «член» ды «член» — і ўнізе

старонкі напісаў: «Каб ён табе адсох!..» Я сама гэта потым убачыла...

Вось, Федзя, і ў мяне тым часам абразок![1]

**1979**

Можа, гэта і жорсткасць, крыўдныя словы, але я гэта ўбачыў ясна — нібы толькі цяпер.

Ні Засім, ні Васілёк не змаглі стаць прафесійнымі літаратарамі, выйсці з былога, няхай сабе і высакароднага, але аматарства,— і ў гэтым іх трагедыя.

У Міхася была перашкода — яго ў сорак чацвёртым пакрыўдзілі незаслужаным арыштам. («Солтысы, солтысы стогнуць вакол на саломе, і з імі разам я...» — успамінаў ён потым.) А Засім — наадварот — быў у мясцовай славе, але і гэта не памагло.

Цяжка такое — перажыць свае магчымасці.

А ці ж усіх сярод нас можна назваць прафесійнымі?

* * *

Можа, таму, што мы пад'язджаем да Рыгі, ці таму, што новае апавяданне Рэдзінга пачынаецца з сабакі, а да таго ж і таму яшчэ, што я ў добрым, ледзь не творчым настроі,— словам, успомнілася з апошняга спаткання з Ванагам. У іх на з'ездзе. Пачуў, што незнаёмы мне муж знаёмай Д. памёр. «Як бы мне выказаць ёй спачуванне? Яе ж тут сёння няма...» А ён, зусім сур'ёзны чалавек, засмяяўся. «Ты што?» — «Спазніўся, друг,— яна ўжо зноў замужам. Трэці раз...»

У гэтым смешнае было не ўсё. Новы муж, яшчэ ў якасці жаніха, прыйшоў упершыню на яе багатую дачу і, ад паўнаты шчасця, хацеў паддобрыцца да — хутка ўжо да іхняга — сабакі. Прыгнуўся пагладзіць, а той — хап яго за нос!..

Усё-такі трэба выказаць спачуванне: новы муж у бальніцы, адразу.

...А мне ўсё чуецца яе колішні смех,— вясёлай трыццацігадовай,— смачны, залівісты смех. З той залатой восені шасцідзесятага года, з нашага беларуска-латышскага маладога падарожжа аўтобусам па Латгаліі...

[1] На ўвазе маецца кніга Ф. Янкоўскага «Абразкі».

* * *

Так, чацвёрты і пяты тамы трэба ўжо рабіць. Яшчэ раз падумаў пра гэта, пачуўшы па тэлефоне з Мінска пра смерць Якімовіча. З ім я бачыўся перад самым ад'ездам. Стары быў заклапочаны, нібы нават з крыўдай гаварыў мне, што дата ў яго 17 студзеня, а вечар у саюзе хочуць рабіць ажно 30-га... А памёр ён, відаць, 15-га, бо хавалі якраз у дзень ягонага 75-годдзя.

Успомнілася з удзячнасцю, як ён калісьці, адразу пасля вайны, добра сустрэў мае апавяданні для дзяцей, што мне было тады асабліва дорага,— галоўліт вырашыў зусім не друкаваць мяне, і цягнулася такое каля года... «Прыгоды цюціка» так і не пайшлі ў «Бярозцы», экземпляр з праўкай Алеся Іванавіча захаваўся сумна-прыемнай памяткай. Пасля была мая праца ў яго выдавецкай рэдакцыі, адзін год, затым яго вельмі прыязнае выступленне пра мяне на ўсесаюзнай канферэнцыі па дзіцячай літаратуры, наогул наша прыязнае суіснаванне. Няхай сабе я і не надта высокай думкі і пра яго паэзію ды прозу, і пра складанне падручнікаў ды бясконцыя апрацоўкі народнага... Прыемны, свойскі чалавек, старэйшы таварыш, адзін з нямногіх, што ацалелі ў трыццатых гадах...

* * *

У санаторных «наркомаўскіх масах», як гаварыў калісьці Анатоль Астрэйка, весела ўспаміналі з сябрам дзядзьку ў Вільні: «А то ж паноў, о Божа мілы!» А сёння зноў вось падумаў: «Не дай мне Бог дажыць да гэткага трыбуха!..» Нібы куфар перад сабою нясе,— можна і ў карты на ім пагуляць, і саганы з бульбай ставіць, як на прыпеку. Як яны ўсе здорава гатовы, пазбаўлены свайго, таўкуцца тут абязлічаным гуртам рознамаштабных століначальнікаў. Нават яшчэ і тлуста пасмейваюцца з нейкага там беларускага пісьменніка ці журналіста, як мой вясёлы ды разумны сябар.

* * *

Бондараў, з якога хлынула нікім не стрымліваемая пустата (польскае próżność, рускае **тщеславие**), які ў кожным сваім «мгновении» бачыць эмбрыён цэлых раманаў, які свайму былому, прыязнаму і талковаму рэдактару сказаў, што цяпер ён «в редакторе не нуждается».

Ганчар, па слабенькае апавяданне якога («Дружба народов», № 1, 1979) спецыяльна ездзілі ў Кіеў...

Быкаў, які ў «Правде» піша (рукою Новікава), што многа ў яго працы як у дэпутата...

Такое робіцца са здольнымі. А шэрасць, што не проста шэрасць, пра якую неаднойчы гаварыў Шолахаў, але шэрасць у кіраўніцтве ўсёй літаратурнай справай — шэрасць з многатомʼем «збораў», з дынастыйным прапіханнем у літаратуру сваіх дзяцей.

«Скучно на этом свете, господа!..» Было б яшчэ сумней, каб не вера ў сапраўднае. Няхай мала, няхай ціха, але сумленна, у імя ўсяго святога, на чым трымаецца сапраўдная народная літаратура.

* * *

Перад «Дзённікам Ганны Франк» чытаў «Чашу весов» Візбула Берцэ, падараваную ў Дубултах яго ўдавой. Ледзь учытаўся, а потым, зацікаўленаму, сорамна было... перад партрэтам гэтага мілага, шчырага і вясёлага хлопца — сорамна за тое «ледзь». Калі ж адкінуць «містыку»,— сорамна перад самім сабой, за верхаглядства, адсутнасць належнай павагі да чужое шчырасці, няхай сабе праяўленай не так таленавіта, як у іншых.

* * *

Пішучы вершы на нашай мове, можна, шукаючы адпаведнага слова, кінуцца ў адзін бок, узяць русізм, у другі бок — узяць паланізм... Так бывала, нават залішне часта, у нашай вялікай тройкі, часта... зачаста здараецца і цяпер, пры вышэйшай культуры літаратурнай мовы, здараецца і з меншымі, і з большымі паэтамі, і гэта ім чамусьці даруецца. А трэба ж ні ўлева, ні ўправа, а толькі проста — да слова толькі свайго, якое заўсёды ёсць.

* * *

Чытаю чысценькі, акуратны рукапіс: Рыльке ў перакладзе Сёмухі. Добры работнік Васіль. Так и калісьці чытаў яго рукапіс «Фаўста»... Так ды, вядома ж, не так — не зусім у такім настроі, а можа, і зусім не ў такім. Бо ўчора ж, пасля паведамлення пра кітайскую агрэсію, быў жах і боль, трывожная блізкасць з сынам, потым сон: яна праводзіла... не, мы ўдваіх яго, Андрэя, а яна — мяне, худзенькая, як у маладосці, з маленькім хлопчыкам на руках, и хлопчык таксама благі, ажно галава на шыі не трымаецца... (Здушу гэты сон у сабе, каб яе не трывожыць.) Адразу, міжвольна, думалася пра пяцітомнік, які не выйдзе, асабліва пяты, галоўны том, пра ўвесь мой архіў і, найтрывожнейшае, пра запісы, якія няма куды схаваць, бо і ў зямлю не закапаеш, як у 1944-м, і ў Арменію, як С., не завязеш... Хоць і гэта, мусіць, не зусім асабістае, толькі маё. Думаў і пра агульнае, пайшоў ад свайго туды, дзе многа літаратурна-мастацка-навуковага ствараецца ў мностве цішыняў, ужо вядомае трохі і не вядомае пакуль што зусім і, як і маё, таксама можа не выйсці наверх з-за варварства вайны... Што ж — «на миру и смерть красна»? Ад гэтага лягчэй?.. А пакуль што ціха, зноў хочацца верыць, як і дзесяць год таму назад, што гэта яшчэ ўсё не ўсеагульнае вар'яцтва. Пакуль што я за сваім — куды мілейшым — старым рабочым сталом і няма адчування, што не сваё раблю, а чытаю чужое, і ёсць радасна-няўлоўнае адчуванне людской агульнасці (Рыльке — Талстой), і тое, што ў Дубултах у Неруды вычытаў: «Паэзія — заўсёды дзеянне мірнае»...

Здорава гэта — у Рыльке:

Шчасце — ўсвядоміць, што невыказнасць
па-за мовамі ўсімі жыве,
што ў адчувальную нашу яснасць
веліч адтуль плыве.

...Дзіўна яно выходзіць у нашага брата (а можа, не толькі ў нас, літаратараў),— думаў: як жа мне запісаць пра ўчарашняе, як падступіцца да таго настрою, а потым — «дробязь такая» — спыніўся ў Васіля на чарговым, рэдкім у яго, русізме: «затачае», узяў блакнот, кінуў туды як быццам толькі прафесійны запіс — пра пошукі роднага слова, і захацелася пісаць пра большае, важнейшае, галоўнае.

Перад трагічнай веліччу таго, што можа пачацца, зноў жа думаў, што ёсць у мяне і лішне злосныя, а то і неспра-

вядліва злосныя запісы пра паасобных людзей і гэта дзе проста дрэнна, а дзе і вельмі. Калі не толькі для сябе, а хочацца пакінуць.

* * *

Снедаючы, уключылі прыёмнік і — нечаканае — «Люблю мой край, старонку гэту...». У выкананні былой, сапраўды Шырмавай капэлы. Спачатку проста ледзь не заплакаў ад гэтай красы і сілы, а потым успомніў пазаўчарашні канцэрт — кантату па «Беларускай калыханцы» Віткі, гром і трэск усякай навалачы інструментаў, ад якое я ледзь не літаральна аглух і на абмеркаванні нічога больш не змог, не захацеў сказаць. «Платон мне друг...»

* * *

Чатырнаццаты паверх. Над Вільнюсам узыходзіць вялікае барвовае сонца.

Вітас[1]: «Вось пойдзеце вы — Пысін, Вітка, ты, іншыя,— што тады будзе з вашай літаратурай, мовай?..» Жорстка, але і праўда. Літаратура наша чым далей, то ўсё больш — ды так жа ў апошні час хутка! — агаляецца ад маральных аўтарытэтаў, таварышаў нацыянальна свядомых і па-сапраўднаму таленавітых, усё больш ды больш вызваляюцца для безнагляднага, бяскарнага дзеяння кан'юнктуршчыкі, спекулянты, хамы, лакеі і баязліўцы...

Не хапае нам такой — няхай сабе часамі і непрыемнай — рысы жывучасці, самастойнасці, якую маюць літоўцы,— ад прадаўшчыцы, што скажа табе, няхай і груба, аднак праўдзіва пра наша масавае хапанне, да Снечкуса, што адмовіўся ад васьмісот тысяч рознай навалачы, якою засялілі Калінінградскую вобласць, а на данос з ЦК КПБ нашага А. С. у ЦК КПЛ на Пяткявічуса, сказаў: «Ах, дзівакі-беларусы — прыслалі не вычытаную аўтарам стэнаграму яго выступлення!..»

Прыемна было, учора і раней, бачыць пацверджанне таму, што да ўсяго сур'ёзнага трэба адносіцца сур'ёзна: літоўцы запомнілі маё выступленне пра Цвірку, яны ўмеюць шанаваць сваіх сяброў.

---

[1] В. Пяткявічус — літоўскі пісьменнік.

Пятрас, бялявы Вітасаў сынок, які грошы, дадзеныя бацькам на іншае, «больш патрэбнае», патраціў на тое, што купляў у рыбакоў жывую рыбу і... адпускаў яе ў ваду. Як ён з апалоніка выгадаваў жабу, карміў яе па ўсіх правілах камарамі і быў, урэшце, да слёз удараны, калі яна ўцякла. Як ён на іхняй дачы дапамагае бацьку майстраваць і ўжываецца там, яшчэ больш, у прыроду. А Вітас — няхай сабе і грубаваты забулдыга — успамінаў у Алітусе, як у 1940 годзе чырвонаармейцы за «палявымі» сталамі каля палатак свайго лагера на лузе біліся хлебам, а ён, дзесяцігадовы хлапчук, страшэнна ўражаны гэтым злачынствам, збіраў той параскіданы хлеб, а маці кроіла на лусты і сушыла. І, злосна абагульняючы, дадае: «А праз год мы іх тымі сухарамі кармілі!..»

І прывучванне сыноў да працы (Пятраса і старэйшых, адзін з якіх — студэнт-архітэктар), і пашана да хлеба, і нянавісць да гультаёў, зладзеяў і п'яніц,— здаровае, па-народнаму мудрае, сурова чыстае, што перадаецца ў пакаленнях, не растваraецца ў славутай урбанізацыі і цяпер.

«Літовец вельмі не любіць здымацца са свайго месца, а рускія — валочацца, як цыганы...»

...А каб я не быў беларусам, а сынам народа з вялікай гісторыяй, вялікай літаратурай, гарантаванай мовай,— рускім, палякам... нават літоўцам,— як я адносіўся б да такіх слабакоў, як мы, беларусы?..

* * *

Упершыню, пасля тыднёвай спячкі, прачнуўся гадзін каля чатырох ад таго, што мяне асудзілі на пажыццёвае зняволенне «с лишением всех прав и состояния» — іменна ад гэтага «всех прав»... Горка падумалася, што і Г., такі надзейны адвакат, састарэў — не будзе каму абараняць,— не ведаю, ці ў сне, ці ўжо наяве падумалася... А ўжо зусім наяве, пад кукаванне зязюлі, згадаўся Коля С., яго колішні расказ, як ён, перабраўшыся цераз зялёную граніцу, са слязьмі радасці бег насустрач першаму савецкаму чалавеку — пагранічніку, а праз два дні яго неслі па калідоры мінскай турмы і ён крывёю з рота паліваў падлогу...

* * *

Спусціўшыся з групай памочнікаў на калгасны луг верталётам, Машэраў не збянтэжыўся, што луг далей мокры: разуўся, падкасаўся і пайшоў. Памочнікі — таксама. І тут прыбег старшыня калгаса. Зняў гумавыя боты, падкасаўся і за ім. Гэта — найцікавейшае.

* * *

«Добра ты робіш, што не едзеш на гэтыя святы. Няхай ужо самі панадзімаюцца ды сапуць адзін на аднаго...» Гэта — пра тое, што я ўсё «выкручваюся» ад удзелу ў раённых партызанскіх гадавінах, куды мяне клічуць як пісьменніка і мала хто паклікаў бы як радавога партызана. А «сапуць» былыя камандзіры, і як людзі, як грамадзяне ў многіх выпадках былыя, расчулена закаханыя ў тое сваё, што нібы не абавязкам іхнім было, а суцэльным геройствам. Адзін (не хочацца называць) наогул дасабачыўся да выключэння з партыі, а другі (таксама не хочацца называць) — так злачынна лез у камандзіры, што і пра маладзецтва яго думаць не хочацца...

* * *

Ідзем з сельмага, а з ганка дома, што стаіць да вуліцы ўпоперак, выходзіць пажылая жанчына і, пакуль адказаць на маё прывітанне, кажа, ледзь не весела: «Ой, пачакаю я з пустымі вёдрамі!..» Мы смяемся, што ў нас затое поўная торба (цукру і хлеба), што будзе добра і нам, і ёй; яна адказвае нешта накшталт таго, што ёй ужо нічога не паможа і не трэба,— і тут я ажно сагнуўся, дагадаўшыся, хто гэта...

Жанчына гэтая — маці таго «спакойнага, добрага хлопца», дваццацішасцігадовага дзецюка, што днямі павесіўся ў адрыне — «без дай прычыны», а пахаваны ўчора. А Ж. сказаў пасля пра прычыну (гэта яго сваяк): «облучение» ў ракетных войсках...

Чацвёрты выпадак — з вядомага толькі мне.

Ужо цяпер, загадзя, ціха шматлікія ахвяры будучай вайны, якіх ніхто не падлічвае, пра якіх ведаюць толькі іх сямейнікі і найбліжэйшыя землякі.

* * *

У Магілёўскай губерні палякам належала 41,9 % памешчыцкай зямлі, у Мінскай — 54, у Гродзенскай і Віленскай — 60 %.

А вось і Лойд Джордж:

«Права народаў самім акрэсліваць сваю прыналежнасць было неадкладна адкінута польскімі лідэрамі. Яны сцвярджалі, што гэтыя розныя нацыянальнасці належаць палякам па праву заваявання, ажыццёўленага іхнімі продкамі. Накшталт старога нармандскага барона, які выхапіў з ножнаў меч, калі яго папрасілі даць доказы сваіх правоў на маёнтак, Польшча размахвала мечам сваіх ваяўнічых каралёў, які ўжо стагоддзямі «іржавеў у іхніх грабніцах». (Лойд Джордж. «Правда о мирных договорах». Том 1, с. 268—269.)

Самае смешнае, што і сёння гэтым размахваюць. Процьмай маленькіх іржавых мечыкаў. Не паўтараючы таго, пашто чуў і адчуваў у чэрвені ў Польшчы, можна згадаць «праўку» ў «Życiu literackim» наконт Хатыні, што гэта «polska wieś», а таксама заўвагу ў дужках з дарожных нататак Махэйка, які як быццам гутарыў з тымі, што рэстаўруюць Мірскі замак, і заўважыў між іншым, што яны былі, вядома ж, палякі... Гэта проста мана, бо я тады быў разам з ім і ніякай падобнай сустрэчы і гутаркі не было, а такое — нават у думках, між іншым — таксама памахванне іржавым мечыкам... Успомнілася, пішучы гэта цяпер, як я ў 1969 годзе праводзіў групу польскіх таварышаў і на пероне вакзала гэты, амаль штодня ачмурэлы ад гарэлкі «борзописец» сказаў мне, з усмешкай паказаўшы на свой распёрты барахлом і звязаны нейкім мотузам чамадан: «Stoję, jak jakiś Białorusin». У Беларусі, беларускаму пісьменніку — такое!.. А што ж было б, калі б такім сябрам не трэба было прыкідвацца сябрамі?..

На фоне такой і падобнай, дробненькай, большай і вялікай «megalomanii» як жа добра ўспамінаюцца сапраўдныя сябры, светлыя хлопцы — Пахлёўскі, Няўважны, Дабравольскі!.. Гаворачы толькі пра жывых, а памятаючы Бранеўскага, Кручкоўскага, Енджэевіча...

* * *

M. Kosman. «Historia Białorusi».

Не гісторыя наша, а проста тое, што адбывалася на беларускай зямлі на працягу стагоддзяў (яны ж цягнуліся днямі, начамі...), як за багацці гэтых палёў і лясоў, за залатыя рукі гэтых людзей змагаліся два народы большыя і адзін меншы.

З захаваннем сацыялістычнай ветлівасці, у рамках нашай садружнасці. Так напісана.

* * *

Насарогі ці бегемоты: не даходзіць праз тоўстую скуру. І ў выдавецтве, дзе з'елі ўвесь рэгламент абмеркавання перспектыўнага плана, і ўчора на сустрэчы са студэнтамі педфака, дзе ў пераліку сучаснікаў «тургенеўскага ўзроўню» ў гурце рускіх названы былі Айтматаў і Быкаў, а пра ўкраінца, таджыка і беларуса, пра літаратуры, якія мы прадстаўляем — ані слова...[1]

* * *

Скрозь «Москва с приложениями». Самі яны, славакі (на сустрэчы з выдаўцамі і перакладчыкамі) гаварылі: «Як падумаеш, дык здаецца, што і няма ўжо больш чаго выдаваць...» Рускага. А «цяжкасці» пачынаюцца з намі, нацыяналамі. Нас бяруць оптам, нібы не дзелячы на самастойныя народы, а нас жа так многа[2].

* * *

Нашы палонныя. Пачатак зімы 1941 года. Хто мог, таму дазвалялася несці палена або дошку, каб на начлезе паліць вогнішча. Хто хоча пагрэцца — давай за гэта шапку, шалік, гадзіннік... Смажылі чалавечыну з трупаў. Калі бабы выносілі на дарогу бульбы ці хлеба — горкая іх доля: часа-

---

[1] Запісана ў Празе.
[2] Запісана ў Браціславе.

мі душылі іх, адбіраючы. Пасля ўжо яны кідалі здалёк.
З расказу кінарэжысёра С., былога палоннага.

* * *

Нямецкі выдавец пра кнігу «Я з вогненнай вёскі...»: «Одна граната — это уже много. А вы нам — целую связку гранат!..»
Не выдаюць, нават у ГДР.

* * *

Эпідэмія ўспамінаў. Няма куды дзявацца ад энергічных удоў. Адна ўжо нават манаграфію — «сем аркушаў!» — заказвае па тэлефоне аднаму з сяброў, менш як праз месяц пасля пахавання.

## 1980

Чужыя труны, што прыходзяць з Афганістана, чужыя параненыя, якім ужо нібы цесна ў Сярэдняй Азіі і якіх вязуць... у ГДР, у ЧССР (няўжо гэта праўда?!) — яно праўда само па сабе, а я ж нядаўна, днямі дакрануўся да гэтага жаху зблізку, сэрцам бацькі. Гэта — калі і нашаму пагражала такая служба...
Upiór[1] на самалётным трапе і ледзь не адчуванне таго бацькі ці той маці, да якіх прыйшла цынкавая труна з акенцам: як яны паглядзелі б на аднаго з тых, ад каго так многа залежыць?..

* * *

Не памятаю, ці запісана ў мяне, як абмяркоўвалася калісьці, што рабіць з Панчанкам з-за яго «Прыстасаванцаў». Днямі сустрэў былога рэдактара «Советской Белоруссии» Здаравеніна, пенсіянера, які ішоў з авоськай па бульбу. «Алег Аляксандравіч,— спытаўся я, калі мы павіта-

[1] Upiór *(польск.)* — вампір, прывід, пудзіла — у адной асобе М. А. Суслава.

ліся,— а ці ведаеце вы, якая прыгожая легенда пра вас жыве ў нашым літаратурным асяроддзі?..» З прыемнасцю сказаў чалавеку добрае слова, нагадаўшы яму, што ён калісьці сказаў, рускі — беларусу, рэдактару «Калгаснай праўды», у адказ на яго... патрыятычную прапанову: «Сажаць нада!..»

«Товарищ Фесько, мы с вами уйдем, и никто нас не вспомнит, а Панченко останется. Надо думать об этом».

* * *

Як гэта цяжка — быць беларускім пісьменнікам, у нашай мелкай, бесхрыбетнай правінцыі, у блакадзе «моўнага бар'ера», без роднага дома, які ёсць у літоўцаў, армян, эстонцаў... У іх жа няма майго, нашага адчування: як пад нагамі абсоўваецца бераг, як звужаецца кола чытачоў, як мова наша адыходзіць!..

* * *

Гасцюючы ў Гарэцкіх, з прыемнасцю пазнаёміўся з жанчынай-геолагам, якая хораша гаворыць на роднай мове. Гаварылі мы там і пра маладых, нацыянальна свядомых мастакоў і некаторых медыкаў. Во дажыліся беларусы да радасці — самі па-свойму вучацца гаварыць!..

* * *

Амаль кожны дзень, прачнуўшыся па-летняму ці па-старэчы раненька, адчуваю нейкі боль — не боль, страх — не страх, тугу — не тугу: нібы прадчуванне чагосьці страшнага, што павінна здарыцца са мною... А падумаўшы, азірнуўшыся, узважыўшы — усё ж у мяне не так дрэнна.

Праўда, учора Танк таксама скардзіўся на такія ж ранняя горкія абуджэнні... Цераз хваробы, блізкіх і свае, цераз асамочванне — да поўнай самоты?..

І можна яшчэ дадаць: на каго пакідаем цябе, бедная беларуская літаратура?! Што год, што месяц, то менш творчых і маральных аўтарытэтаў. І як грыбы-паганкі растуць маладыя, хітранькія, цынічныя графаманы, набываючы сілу і

ўплыў на лёс літаратуры. А лепшае, добрае, сапраўднае — не так відаць, як яны. Бо і не так яго многа, калі параўнаць.

* * *

Страшнае — Афганістан... Міжвольна думалася пра «Я з вогненнай вёскі...» і пра тое, якія мы жалю вартыя з нашай «смеласцю» і «сучаснасцю» — мы, як пісаў мне калісьці Ігнат, «инженеришки человеческих душ», якія ў параўнанні з яго любімым Дастаеўскім, «плаваем мелка»...

Успаміналася і «Одумайтесь!» Льва Мікалаевіча.

* * *

З расказу блізкага чалавека пра Афганістан:

...«Калі я вырвуся з гэтага пекла цэлы — адразу пайду з арміі...»

«Не ішоў бы, а поўз бы адгэтуль!..»

«Адразу і суд, і пакаранне...»

«А людзі жывуць сабе ціха ў якой-небудзь сваёй даліне — нічога пра ніштo не ведаюць...»

І наша спроба — у «Я з вогненнай...» — акрэсліць усю глыбіню віны фашысцкіх карнікаў...

«У святле вышэйсказанага» (якое там «святло»!..) думалася днямі пра часовую, залежную марнасць усяго, што я напісаў, хочацца думаць і думаецца — апроч некаторых запісаў.

* * *

Успомніў, як прывыкаў і я — ды так жа хутка! — да трупаў і ў трыццаць дзевятым, і ў сорак чацвёртым, як неглыбока я думаю і пра тых, што сёння ў Афганістане...

* * *

Сустрэча з маскоўскай гора-рэдактаркай, якой і яшчэ ўсё мала скрэбціся ў маіх бедных запісах: «Вы там упамінаеце польскіх пісьменнікаў, якіх я не чытала...» І вывад:

не ёй, вядома ж, прачытаць, а мне лепш, на ўсякі выпадак, зняць гэты запіс. Старыя бабскія рукі чапляюцца за свой коўзкі рэдактарскі бераг, а «дабрата» яе — дай толькі, Божа, цярплівасць... Калісьці Мележ гаварыў пра яе: «Расплачацца так, што і выплача ў цябе што-небудзь». А тут жа не што-небудзь, а шостую (ці пятую?) частку запісаў выскрабла. Праўда, не адна яна, але ж яе «как бы чего не вышло» — найбольш.

* * *

Думаў тут, па суседству з Баварыяй, з ФРГ[1], што Быкаў і падобнае да яго ўспрымаецца немцамі лепш, больш ахвотна, чым «Я з вогненнай...» або «Карнікі»,— паказвайце саміх сябе... Праўда — вышэй за ўсё, аднак у раме патрыятызму ёй зацесна. Тое, чаго мне часам не хапае ў Быкава, тое, пра што мы перад ад'ездам гаварылі з Адамовічам: агульналюдская праўда, якая ўсё больш ды больш становіцца неабходнай, бо і бяда, якая чакае нас — агульналюдская. І поўнай праўды ў каго-небудзь аднаго няма. Таму і тузаемся за яе і доўга будзем тузацца.

* * *

Вясёлы швейк, гаспадар пісьменніцкага дома адпачынку, хвалячыся іхнімі калгасамі, успамінаў, які **тэрор** быў калісьці, пры іх арганізацыі, і ў яго сякой-такой рускай мове слова гэтае дзіўна гучыць у такім прыстасаванні.

### 1981

Юрмала.

Як гэта добра — быць сынам вялікага, багатага, магутнага народа!.. Падумаў так, калі пачаў глядзець тэлеперадачу юбілея Абразцова. І тут жа ўспомніў ранішнюю размову з прыбіральшчыцай, старой латышкай. Інтэлігентная, светлая жанчына, што, накульгваючы на адну нагу, дапамагае сваёй працай у санаторыі (80 руб.) нявесткы-балерыне.

---

[1] Гэты і наступны запіс зроблены ў Карлавых Варах.

«Семсот гадоў нас душылі нямецкія бароны, душыў рускі царызм... А як жа гэта добра — любіць сваю радзіму, сваю родную мову, быць самім сабою!.. Нас цяпер тут мала, больш рускіх, прыезджых, і мы не дружныя, як яўрэі,— вось што дрэнна... А ў рускіх — я дзіўлюся — абы дзе лепш жылося, чым дома, там і прыліпае...»

Тое самае чуў пра рускіх («як цыганы») і ў Літве.

* * *

«Трудно поверить, что еще накануне войны двадцатилетний парень мог, глядя в далекие годы, со спокойной уверенностью сказать:

Только советская нация
будет
и только советской расы люди.

Ощущение советского народа как новой исторической общности людей вызревало в нашей стране на протяжении ее послеоктябрьской истории».

Так піша Нараўчатаў пра Кульчыцкага.

Упершыню мяне здзівіла і рассмяшыла такое яшчэ ў партызанах, дзе так гаварыла машыністка Гіта, зверху, пасмейваючыся, хоць і была неабыякавая да мяне. Адным гэта патрэбна, выгадна для маскіроўкі, другім — з меркаванняў... не надта інтэрнацыяналісцкіх.

Сюды можна аднесці дзве радасці, праяўленыя двума рускімі, даўно знаёмым старым архітэктарам і суседам па стале, маладым партыйным работнікам. Першы шапнуў мне ў аўтобусе, што гэта план такі: каб на аднаго прыбалта прыходзілася два «нашых», а другі з адкрытай радасцю паведаміў, пасля наведання рыжскіх сяброў, што ў Рызе — «толькі дваццаць шэсць працэнтаў латышоў»...

* * *

Малады салдат маўчыць, маўчыць...

Яму ёсць пра што маўчаць...

...Да гэтага запісу, перапісанага з блакнота, хочацца дадаць, што і я тады, у вагоне, думаў пра Афганістан...

* * *

У 1958 годзе N. на ўрадавым прыёме адвёў мяне ў перапынку і пачаў прасіць:

— Янка, не пі так многа, ты ж яшчэ патрэбен народу!..

Сам-насам і душэўна. А я тады, лечачы сэрца, зусім не піў.

Потым бачу і чую — з Танкам тое самае:

— Максім, не пі так многа, ты ж яшчэ патрэбен народу!..

А той і зусім ніколі не піў, па добрай сямейнай традыцыі.

Выхаваўчая праца сярод пісьменнікаў.

* * *

Ужо не толькі дазваляецца, але і рэкамендуецца «народнохозяйственная любовь к лошади», калі яе, бедную, амаль зусім дабілі.

**1982**

Чытаю ўспаміны пра Зошчанку,— і яго нібы адкрываючы, і здзіўляючыся, колькі ў нас літаратараў, было і ёсць, малавядомых, а занятых вялікай справай сумленна і талкова.

Упершыню я Зошчанку чытаў па-польску, школьнікам, апавяданне, якое цяпер пазнаў у яго двухтомніку — «Собачий нюх». У сорак шостым, калі яго разам з Ахматавай білі, я не ведаў, як належыцца, каго б'юць, а цяпер, азіраючыся на той час, думаецца, што і за такое нікому як быццам не брыдка, хоць і ведаем,— аўтары гэтых успамінаў ведаюць,— як гэта дзіка было і як часамі паўтараецца ў не вельмі абноўленых формах.

* * *

Не запісаў, як гаварыў са мною Б. перад маёй паездкай у ГДР. Па тэлефоне з ЦК, як быццам не ведаючы, што гаворыць са мною.

«А почему именно должен ехать Брыль, почему не Шемякин?»

«Там издан мой роман и меня приглашает издательство».

«Но почему именно Брыль?..»

У трэцяй асобе, цераз такую «полосу отчуждения»...

* * *

На канферэнцыі таварыства «Радзіма» мяне папрасілі выступаць... па-беларуску: «Гэта патрэбна для радыё на заграніцу, для суайчыннікаў»... Беларускага пісьменніка просяць гаварыць па-беларуску!.. Назаўтра ахвотна пайшоў на сустрэчу з супрацоўнікамі БСЭ, што робяць купалаўскі том, каб «паправіць душу» родным словам... Што з намі будзе?..

* * *

Амаль кожны дзень — яшчэ адна порцыя таго самага.

У персанала медыкаў шпіталя інвалідаў — раздвоенасць: памрэ ці не беларуская мова («отомрет!..»)...

У тэатры імя Купалы няма каму выступіць перад школьнікамі па-беларуску...

Прозу нашу,— калі хоць больш-менш прыстойна,— няма каму перакладаць...

Гэта толькі за 3—4 апошнія дні, пасля выступлення перад інвалідамі, пасля званка са школы, дзе гурток «Спадчына», пасля гутаркі з В. Т. па яго перакладзе.

І трэба жыць, і трэба працаваць.

* * *

Ніна параіла прачытаць «Wesołe kłopoty» шведа Дагермана, і ў анатацыі я перш за ўсё прачытаў: «Самагубства пісьменніка папярэдзіў перыяд глыбокага творчага крызісу». На трыццаць першым годзе жыцця.

Вось якія бываюць яны — творчыя крызісы. А які ў іх працэнт сытай заспакоенасці, абыякавасці, ляноты?

Гэта ўжо, калі мне гаварыць пра самога сябе.

* * *

...Людзі (два чалавекі), якіх я паважаю, гавораць пра яго (трэцяга), на абмеркаванні творчасці, што чалавек ён вельмі добры, вельмі сціплы і г. д. А мне ўспамінаецца, як ён аднойчы, гадоў некалькі таму назад, званіў мне, прасіў даць «якія-небудзь рэцэнзіі» пра мяне, бо дачка яго, студэнтка, спазнілася з курсавой, а паслязаўтра апошні тэрмін здачы...

* * *

У «Литгазете» — Айтматаў пад рубрыкай «Пісьменнік і час». Выступаў у ЗША пра расавую дыскрымінацыю, у адказ на пытанні, як у нас са становішчам нацменшасцей,— глушыў сваім, і сапраўды вялікім поспехам (за пяць гадоў — дзевяноста замежных выданняў!), як доказам, што ўсё ў парадку з гэтым. Ёсць такі поспех у нейкай меры і ў нашага Быкава. А разам з тым — хутка зусім не будзе школ на роднай мове...

Нізавы пажар?..

* * *

«Паміраць пара — пра душу трэба падумаць»... І чалавек жа добры, а як дыхнула жудаснай мярцвячынай, калі ён пачаў — не ўпершыню, спакойна так, упэўнена — гаварыць, апраўдваючы трыццаць сёмы год: інакш нельга было — «капиталистическое окружение»... І фінскую вайну апраўдвае, і ўсё падобнае... Апраўдваць сілу — гэта не цяжка. І спакайней.

* * *

Прыязджаў Малько, і мы — ён са сваім сябрам Сяменікавым, Максім і я — ездзілі да Якуба[1], паклалі на яго магілу кветкі. Пасля абедалі ў Танкаў, і там, ці не ад лёгкай

---

[1] С. Малько, І. Сяменікаў, Я. Міско — вядомыя заходнебеларускія падпольшчыкі-рэвалюцыянеры.

чарачкі, загаварыў маўклівы Сяменікаў. Як яго дапытвалі, выклікаўшы з Заходняй у Мінск, свае — свайго, і «ўсю сцяну маёю галавой ababілі», як ён пісаў «предсмертное заявление» і трыбунал не асудзіў яго на смерць, а іншы суд даў дзесяць гадоў, і потым усё дадавалі, трымаючы «до особого распоряжения», пакуль не прыйшоў XX з'езд і «партыя знайшла мяне ў далёкай, глыбокай тайзе»...

У камеру смяротнікаў («хто спадзяваўся вышкі») да яго аднойчы прыгналі Браніслава Тарашкевіча. Есці яму прынеслі на талерачках (які цынізм!), а ён, Сяменікаў, ужо ведаў, што гэта — перад расстрэлам. Пачаў распытваць, што і як, і, пачуўшы, што Тарашкевіч усё падпісаў, сказаў: а як жа праўда, якая не будзе вядома? І Тарашкевіч пачаў грукаць у дзверы, прасіцца да следчага. Каб абвергнуць свае, вымушаныя, паказанні. Яго пусцілі да следчага, і ён не вярнуўся. Рэчы прыйшлі забралі...

І другое.

Па камерах мінскай турмы хадзіла тады... Вера Харужая, угаворваючы таварышаў усё падпісваць, як загадваюць, бо гэта... «патрэбна партыі»...

Калі мы з Максімам засталіся адны, ён гаварыў пра гэтую трагедыю, пранікаючы ў яе здагадкай, што Вера таму пасля і пайшла ў партызаны, пакінуўшы маленькае дзіця, бо адчувала сваю віну... Во тэма!..

* * *

Пра наша хамства за мяжой. Нямецкім дзецям, калі яны ідуць у школу, дома даюць па марцы на абед. Наш старшына выходзіў з кустоў і забіраў у малых гэтыя маркі. Пакуль яго не падпільнавалі і не накрылі гэдээраўскія жандары. Што ж, адправілі на радзіму.

Стронга ў матачніках найбольшая, і нашы два вышэйшыя афіцэры, палкоўнік і падпалкоўнік, панадзіліся «рыбачыць» іменна там. Зноў жандармерыя...

Колькі ж трэба контрпрапаганды, з прыцягненнем вялікіх імёнаў, каб давесці, што мы адтуль, дзе Кастрычнік, Ленін, Талстой!..

Той, што расказваў мне гэтую гнюсь, сказаў, што паблізу ад савецкіх гарнізонаў цяжка было гаварыць немцам пра нашу прагрэсіўнасць, значна лягчэй — далей ад ваенных гарадкоў.

Усё залежыць ад усіх.

* * *

Даць свайму і ўсесаюзнаму чытачу аповесці Жука і Быкава, раманы Казько, Адамчыка (з усімі агаворкамі да іх), трэці раман Чыгрынава — і ўсё гэта амаль у адзін час,— такое вельмі нядрэнна сведчыць пра сталасць нашай літаратуры.

А ў іншых? У маленькай Літвы — адзін толькі Марцінкявічус чаго варты. Не на ўвесь голас пачуты «Дзённік без дат». Малдоніс гаварыў мне на Танкавым юбілеі, што ў арыгінале кніга гэтая разышлася маланкава — 30 тысяч за дзень!.. А цяпер я вось толькі што прачытаў яго міфалагічны фарс «Ікар». Якая дужая іронія, якая сталасць думкі!.. Гаворыць жрэц:

«Мы все идем вперед. Наше солнце светит все ярче и ярче. Наш виноград — все крупнее и крупнее. Скоро виноградина станет такой, что и в рот не влезет. И тогда со всей остротой встанет вопрос — как увеличить объем человеческого рта».

Хіба ж у гэтым не сучаснасць?

Гэты... хлопец — прыемны сваёй сціпласцю. Так ён учора вітаўся са мной, калі мы, беларусы, ужо афармляліся ў гасцініцы, а яны, літоўцы, прыехалі з вакзала. У красавіку ён абяцаў прыслаць мне «Литературную Литву» са сваім дзённікам і не прыслаў. Я прачытаў яшчэ больш скарочаную публікацыю ў «Немане». Сказаў яму ўчора, што прачытаў, ды з прыемнасцю, і ён, як быццам збянтэжана: «Спасибо на добром слове». Цяпер яшчэ ўсё ноч, а я прачытаў яго «Ікара» і думаю, што таксама можна было б сказаць Юсцінасу добрае слова, аднак жа можна і надакучыць чалавеку сваёй ліпкасцю. Такое часамі даводзіцца адчуваць і самому, і самому не давяраць, абараняцца шчырай сарамлівасцю.

* * *

На прыпынку таксі за намі, Драчом і мною, і яшчэ трыма незнаёмымі, стаў Макашын. Увосень 1964-га, калі я пазнаёміўся з ім у Ленінградзе, ён быў элегантны ў сваёй... не старасці яшчэ, а толькі на яе пачатку. А сёння ён ужо грузна стары, магчыма, і нямоглы. Мы ўжо віталіся з Сяргеем Аляксандравічам на пленуме, і я, пакінуўшы Івана з двума ленінградцамі, што якраз падышлі да яго, адступіўся да

Макашына і гутарку нашу пачаў з удзячнасцю за «Яснапалянскія запіскі».

Між іншым, стала канчаткова ясна, чаму яны так доўга не выдаваліся: «антысемітызм» Макавіцкага, які яму не маглі дараваць усемагутныя ў свой час яўрэі, што і цяпер яшчэ, у сямідзесятых гадах, спрабавалі не дапусціць да гэтага выдання. Нягледзячы, што тое, няхай сабе не зусім здаровае, у Макавіцкага перакрывалі «все люди — братья» ў Льва Мікалаевіча.

Цяпер Макашын заняты спадчынай Герцэна. Сабраў усё, што было за мяжой, рыхтуе да выдання. І з сумам гаворыць, як мала цікавіць Герцэн — Герцэн! — сённяшняга чытача... Такія вялікія справы робіць гэты чалавек, С. А. Макашын, а побач з яго старэчай дзябёласцю на асфальце тратуара распаўзлася «авоська» з банкамі зялёнага гарошку і яшчэ чагосьці. «Заказ получил»,— растлумачыў ён, а мне яшчэ раз падумалася пра нашу незразумелую і зразумелую беднасць...

* * *

У 1963 годзе радзівонішкаўскія таварышы, як расказваў мне пасля адзін з іх, разгубіліся трохі былі, што кандыдатам у дэпутаты ім прапанавалі мяне, беспартыйнага. Пасля вырашылі, што гэта спецыяльна сёй-той, па рашэнні зверху, лічыцца беспартыйным, паколькі трэба ж нам блок. На гэтым і супакоіліся.

А яно ж застаецца загадкай, да якое даследчыкі не дакранаюцца,— чаму былі беспартыйнымі Горкі, Маякоўскі, Ціханаў, цяпер — Ляонаў?..

Калісьці Мележ зрабіў агаворку — не памятаю ўжо, пра каго гаворачы, выказаў недаўменне на грані падазрэння: а чаму ён беспартыйны? На гэта я,— відаць, як яму здалося, рэзка,— сказаў: ці не зашмат набярэцца іх, падазроных,— мільёнаў на дзвесце?..

А тут жа такія ўсенародныя, на вачах усёй краіны, шчырыя патрыёты, класікі і — чаму?..

* * *

Гвозди б делать из этих людей:
Крепче б не было в мире гвоздей.

Ніколі не падабалася гэта. А сёння, калі сказаў Д. на праходцы, што чытаю Ціханава, «у прыкуску» — то паэзію, то прозу, ён адразу ўспомніў гэтыя радкі, працытаваў іх і ўздыхнуў:

— Чаго толькі з людзей не рабілі — і вінцікі, і гвоздзі!..

* * *

У нас няцяжка быць сціплым. Як мне тут, у беларускім санаторыі, дзе «інтэрнацыяналізм» даведзены ўжо да такога ўзроўню, што нікому зусім нецікава і невядома, што ты там нейкі пісьменнік. Ці было б так у іншай краіне, у іншай рэспубліцы? У гэтым справа, а не ў тым, што гэта я — пісьменнік. Хіба што абрэша хто-небудзь, як той намеснік нейкага міністра пасля Друскенікаў: «Маленький, плюгавый и вечно пьяный»... Слова роднага не пачуеш. Дый сам карыстаешся ім толькі ў гутарцы з жонкай ды знаёмымі журналістамі.

* * *

Шкада, што Танк і Куляшоў не здзейснілі свайго колішняга намеру — удвух перакласці «Пана Тадэвуша». Там яны добра дапаўнялі б адзін аднаго,— да Максімавай блізкасці да арыгінала і «jędrności»[1] ягонай мовы вельмі прыдавалася б Аркадзева паэтычная культура.

* * *

Першая экспазіцыя музея Вялікай Айчыннай вайны ўжо на пачатку 1946 года патрабавала крытыкі. З «Вожыка» мы пайшлі туды з мастаком Анатолем Волкавым. Я вырашыў нашу крытыку падаць у нібы запісах у кнізе водгукаў і

[1] Ięd̦rnośc — моц, пругкасць, сакавітасць *(польск.)*.

пажаданняў. Была там вялікая карціна, крыкліва яркі жывапіс: немец з акрываўленым кінжалам стаіць над зґвалтаванай ім і зарэзанай красуняй. І ўсё ў гэтай, па задуме, трагедыі сыходзілася на гэтай раскошна, дэманстратыўна голай жанчыне. А поблізу стаяла ступа-урна з недагаркамі трасцянецкіх чалавечых касцей. Гэта здалося мне прафанацыяй. «Запіс» быў зроблены ад імя афіцэра-франтавіка, у якога на акупаванай тэрыторыі загінула сям'я. Ён абураўся гэтай карцінай і пытаўся: хто мог дазволіць, каб яна тут вісела?..

Крапіва быў запрошаны ў галоўліт і вярнуўся адтуль з загадам запіс той зняць... Шукаў я і не знайшоў таго нумара «Вожыка», і не памятаю ўжо, ці запіс той быў поўнасцю зняты, ці папраўлены. Галоўная бяда, найбольшы страх быў у пытанні: «хто мог дазволіць?» Бо не дазволіў яе, а вельмі ж упадабаў не хто-небудзь іншы, а сам... Цанава!.. Во загрымеў бы Іван!.. Вось ад чаго я быў выратаваны ім, Крапівою.

Напісаў Кандрату Кандратавічу віншаванне з Новым годам, бо ўжо часамі і сам адчуваю набліжэнне старэчай самотнасці, прадчуваю значэнне добрага чалавечага слова іменна тады.

* * *

Семдзесят год. Сам пра сябе: «Поэт, написавший тридцать книг стихов, не может написать плохую прозу!..» А яе ў выдавецтве бракуюць. Прычым — з поўным правам. Ён жа, апраўдваючы свае «ваенныя» апавяданні: «Чтобы знать вкус куриного супа, не обязательно самому в том супе вариться». І не варыўся.

* * *

У лістападзе 1957-га, калі мы позна ноччу ішлі ад Бранеўскага да Кручкоўскага, Леан спыніўся на лесвіцы, каля дзвярэй Сланімскага, і, незвычайна для яго саліднасці, сказаў мне прыцішана:

— Ту мешка Антось, курва го маць.

А перад гэтым, удзень, прымаючы нашу дэлегацыю,— Навічэнку, Кірсанава і мяне,— у саюзе літаратараў, той Антось гнуўся крукам і, прамаўляючы з прывітальным

словам, гаварыў, што «ў Польшчы не знойдзеш чалавека, якому не падабаўся б сацыялізм...».

* * *

«Глядзіце на траву» — задума ад здарэння ў акупацыю. Пляменніцы Лідзе было шэсць гадоў. Нездаровілася, сядзела ды пазірала ў акно. На гурбе снегу ў агародзе сядзеў і трохі пагаўкваў наш малады сабака. Паліцай спыніўся і застрэліў яго. І Лідачка заплакала. Ціха, асцярожна. Час такі.

## 1983

Паштальёнка прынесла спачувальную тэлеграму і ўшанавала нябожчыка, ціха пастаяўшы каля вушака адчыненых з калідора дзвярэй.

Потым прыйшоў адзін наш «пісьменнік». З парога сказаў, што ён па ордэны і медалі. Нават не зазірнуў туды, дзе ляжыць старэйшы калега, ветэран вайны, нават кажуха не зняў, не тое каб выказаць сям'і спачуванне... «Пасля зможаце забраць іх у саюзе»,— сказаў пра ўзнагароды ў скрыначцы. І пайшоў у сваёй дублёнцы, прывезенай з замежнай камандзіроўкі.

Другі падобны з'явіўся на ўчарашняй ёлцы. У гурт малечы, мам, бабуляў і трохі нас, дзядоў, ён, мінуўшы гардэроб, увайшоў у кажусе ды ў шапцы — паглядзець на свайго. Так і чуецца, так і прэ з яго: «Пішу новы раман, ё.я.м.!»

А трэці, зноў жа работнік апарата СП, па тэлефоне, самой удаве: «Не думаю, што выйдзе так, як вы хочаце — пахаваць на Маскоўскіх: ранг не той...»

І ўсё гэта, усе тры — нядаўнія «маладыя, таленавітыя», з вышэйшай асветай...

* * *

Маскоўскія рэдакцыйныя дзеўкі і цёткі займаюцца такім літаратурным браканьерствам: устаўляюць у чужыя артыкулы свае «думкі». Радасць І., што К. назваў яе пераклад выдатным, а слова гэтае ўставіла Т., якой трэба, каб І. надрукавала яе ў сваім часопісе. А Г.— проста з сімпатыі да

мяне і антыпатыі да Н. наставіла ў яго артыкул пахвальных слоў у мой адрас. Во дзе ён пляваўся!.. Але ж і змоўчаць трэба. А мне таксама было прыкравата.

* * *

«В свете последних решений...» і г. д.

Напісаны дваццаць год таму назад, раман мой выдаецца, з улікам перакладаў і перавыданняў, ужо чатырнаццаты раз, і трэба зноў штосьці выкідаць, з нейкіх часовых, злабадзённых «палітычных» меркаванняў... Як гэта ўжо, кажучы па-караткевічаўску, астабрыдла!..

* * *

Мужыка беднага, хоць ён ужо і калгаснікам стаў, столькі кешкалі, папіхалі ў чаргу за рабочым, што ён сказаў нарэшце: пайшлі вы да д'ябла, і сам паехаў у горад. Нарабіце хлеба, наешцеся без мяне!..

Задалёка мы зайшлі ў падкрэсліванні значэння рабочага класа — у бяскласавым грамадстве. «Самая высокая свядомасць!» Калі і пад плотам ляжыць?.. «Найцяжэйшы ў маральным сэнсе раён», гаварылі нам, дэпутатам, на праверцы правоў аховы мацярынства і маленства ў Заводскім раёне Мінска...

* * *

«Лепта ўдавіцы».

Успомніў яе, гледзячы па тэлевізары вечар Гамзатава. Увесь збор ад вечара — у «фонд міру». І тут жа старшыня гэтага фонду, шахматыст Карпаў, выдае яму за гэта ўзнагароду...

Так было і ў нас, з дваіма ахвярадаўцамі.

Калі ў наш лагер ваеннапалонных прыгналі першых югаслаўян, загналі іх у загарадку для «штрафкампані», мы, лагерныя ветэраны, стаім каля тых дратоў, перагаворваемся з новымі, а хто дык і крошку хлеба ім падасць. Вельмі мала, бо не было яго і самому сабе.

І тут праз наш натоўп пачаў праціскацца француз,

адзін з тых «арыстакратаў», што трымаліся на багатых пасылках з дому. Пагарда і нецярплівасць — такое было ў яго словах, позірках, жэстах: мы перашкаджалі яму як найхутчэй зрабіць высакародную справу. Ён нёс у кацялку гарачы напітак, не што-небудзь, а шакалад! Ён урачыста, высакамерна падаў свой кацялок цераз дрот і штосьці — па тону можна было меркаваць — адпаведнае моманту прамовіў. Не памятаю якой-небудзь звышасаблівай радасці таго шэрага, змардаванага югаслава, у чые першыя рукі трапіў той кацялок,— больш помніцца французава важнасць...

* * *

У вясковай школе, у сталовай пасля выступлення.

> А мне мама, а мне мама
> целоваться не велит...

Крышку захмялеўшы, яна, пажылая настаўніца, пачала застольны спеў з гэтай, дваццацігадовай даўнасці, студэнцкай песні. І на сустрэчы, калі яна сядзела ў першым радзе, і калі фатаграфаваліся, галава яе прыкметна траслася і вочы чырвона слязіліся. Цяпер шырокі рот раскрываўся сутаргава і, дурань сказаў бы, смешна.

Потым малады дырэктар школы расказаў, што жывецца гэтай жанчыне пры п'яніцы-мужу, фельчару, вельмі нялёгка. І цяпер ужо гэты спеў яе мне чуецца, а сама яна бачыцца — праз той дырэктараў расказ.

* * *

Увечары ўчора ўспомніў рэдагаванне ў «Советском писателе» маёй кнігі «Мир далекий и близкий». Прадстаўнік галоўнай рэдакцыі, ціхі яўрэйскі паэт Б.:

— Эту мысль мы с вами давайте повернем так... (З жаданнем дапамагчы, відаць, шчырым, бо потым кнігу сваю прыслаў.)

— Ну, мысли вы будете поворачивать свои,— адказаў я яму,— или идет, как есть, или снимайте...

* * *

Зноў «истасканный, истерический хлюпик...»[1]. Як гэта несправядліва пра таго, хто столькі і так працаваў, і разумова, і фізічна, жыў здаровым вясковым, сямейным жыццём! Трэба сказаць, сцвердзіць сваё — кажы, сцвярджай, але навошта ж бэштаць другога?.. А нас гэта, сказанае «в пылу полемики», абавязвае амаль па-рэлігійнаму, з той розніцай, што паспрабуй аспрэчыць — і кара падзе адразу ж, тут жа, не чакаючы страшнага суда і пекла.

* * *

За нашу мову не пралівалася кроў — ні свая, ні чужая, аднак яна жыве. Што гэта значыць?..

Падумалася так, калі ў Яна Адамскага чытаў пра вайну палякаў з туркамі, рускімі, немцамі... Падумаў пра тых жа рускіх, што мову сваю таксама і абаранялі, а ў свабодзе, у панаванні і трымалі цаною вялікай крыві, сваёй і чужой.

* * *

Вісарыён Гарбук скардзіцца ў пісьме: «Чым больш думаю, тым менш пішу». Блізка гэта і мне.

* * *

Учора, зусім пад вечар,— нашэсце «начальства», мясцовага і сталічнага, з жонкамі, са старшынямі суседніх калгасаў, «Адпачывалі» недзе пад Нёманам, згадалі і заехалі. Імправізаванае застолле пад дождж за акном. Мясцовая... хацеў сказаць: моладзь, ды ўспомніў, што ім ужо тым часам добра за сорак. Яны ўжо вывучалі мяне ў школе, пра што гаварыла ладная, вясёлая зямлячка. Трохі ў іх «упоения властью», што, як шыла з мяшка, вытыркае з іншага «упоения», аднак і добрае ёсць.

Чатыры шафёры сядзелі тым часам у машынах пад ліпамі. Гэтыя хлопцы таксама з новага пакалення заходнікаў і многа бачаць з народнага нізу.

---

[1] Ленін пра Талстога.

Адзін з гасцей пачаў лірычнае: «Гадоў праз дзесяць ніхто і не ўспомніць пра яе...» І схамянуўся, сціх. І думай, ці ён гэта ўхваляе, ці шкадуе, што яе, нашай мовы, ужо не будзе?..

Ішоў я нядаўна ў вёску па малако і, успамінаючы гэта, думаў, што я так нічога іншага і не прыдумаю для сябе, як жыць з чыстым сумленнем сына свайго народа, як старацца добра пісаць на роднай мове[1].

* * *

У перакладах Астроўскага — з апавядання ў апавяданне — уся мая лаянка перакладаецца адным «будь она (он, оно, они) неладна!..» Цяпер, калі ўсё сабрана ў адно, прыкра бачыцца, а правіць у карэктуры двухтомніка не даюць. Заэнтээраць таварышы літаратуру!..

* * *

У аўтобусе п'янаваты равеснік расказвае, як іхні старшыня калгаса — малады (у параўнанні з намі), перадавы і растаўсцелы — ударыў нядаўна калгасніка.

— Што ж ты нас б'еш?! — абураецца колішні партызан.— Мы ж людзі! Мы ж вошай кармілі!..

* * *

Няхай сабе зачаста п'яны, аднак заўсёды працавіты, ён згроб у горбу днямі няўдала скошаны «гарадскімі» сынамі бульбянік, падпаліў яго, і дым велікапышным слупам — паміж лесам і градой наднёманскіх дрэў — пайшоў у светлавячэрняе неба, як Авелеў.

* * *

Дастаеўскі рабіў сваю агромністую справу з вялікай, здзіўляючай напружанасцю, і яму, пры вечным безграшоўі,

---

[1] Запісана на дачы, у Карэліцкім раёне.

не было, ці што, часу апрацоўваць свае рэчы ў дэталях, свой стыль з большым майстэрствам.

Аднак гэта нашу каравасць, наша нядбальства не апраўдвае. Вучыцца ў Дастаеўскага трэба не гэтаму... Калі наогул можна навучыцца геніяльнасці.

* * *

Княгіня Цулукідзе, «Всего одна жизнь».

Чытаючы, успомніў смерць Алеся і тое, як яна, Т. Р., абураючыся тым, што кафэ дома літаратара занята, у найбольшай усхваляванасці пераходзіла на родную грузінскую, злосна гаворачы штосьці толькі самой сабе. Як яна і Алеся тады ацэньвала зверху: «Ён быў такі паслухмяны...»

Але ж і хараша гэта па-свойму — як іх страшная доля звяла «во глубине сибирских»... няхай сабе не «руд», а ў збудаванай самімі хаціне. Грузінская славутасць і беларуская светлая дабрата[1].

* * *

У жніўні сорак восьмага мы з Агіевічам наведалі ялцінскі дом Чэхава. Калі запісвалі ў кнізе наведвальнікаў свае ўражанні, пажылая супрацоўніца музея, даведаўшыся, хто мы, сказала, што каб яна ведала гэта адразу, дык паказала б нам усё інакш. Сказала, што Марыя Паўлаўна, на жаль, адпачывае цяпер. А на наша пытанне, як жа дом ацалеў у вайну, расказала, што яго тады быў наведаў сам Кейталь (не памятаю — можа, і іншы фельдмаршал) і зрабіў запіс пра сваю пашану да вялікага пісьменніка, што і было для музея «ахоўнай граматай».

* * *

У Сямірэччы, на абласным свяце чабаноў, латыш В. пачаў сваё выступленне вядомым: «Я буду гаварыць на мове Леніна...»

Сакратар абкома, казах, у вайну баявы лётчык, засмяяўся:

---

[1] Тамара Цулукідзе і Алесь Пальчэўскі.

— А вы что думаете — мы здесь спрятались в горах, чтобы поговорить на своем языке?..

* * *

Відаць, хутчэй, грунтоўней пайшло б усё на лад у сужыцці народаў, каб уся праўда была толькі на тым ці на гэтым баку. А яна і ў тых, і ў тых патроху, кожны ў нечым пасвойму і аб'ектыўна мае рацыю, што другому не вельмі хочацца прызнаць. Так вось і тузаемся, датузаліся да пагрозы ўсеагульнага знішчэння.

* * *

«Kłopoty literackie». Чытаючы, успомніў, як днямі Ніна разгаварылася ў электрычцы Стоўбцы — Мінск з бабуляй з Жукавага Барка.

— У нас жа былі партызаны. Многа, два атрады. Адным камандаваў Янка Купала, а другім Якуб Колас. Цяпер у Беражне астаўся панскі маёнтак, дык яго аддалі ім. Яны там на дачы жывуць. І да іх з Мінска многа прыязджае...

Несть пророка?.. Ды што хацець ад цёмнай бабкі, калі адзін з тых, што калісьці так «аўтарытэтна» вучыў нас з трыбуны, што і як трэба рабіць за пісьмовым сталом,— К. Т. Мазураў у кнізе сваіх камсамольска-партызанскіх успамінаў піша, між іншым, як ён любіць Коласаву «Новую зямлю», «в которой поэт показал людей послереволюционной Белоруссии»...

З выданнем успамінаў аўтару дапамагалі тры рэцэнзенты з высокімі званнямі, у якасці рэдактара значыцца сам загадчык аддзела мемуараў. А пазней, пры выпадковай сустрэчы, былы сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі заслужана пахваліўся мне: «О, з кнігай Кірылу Трафімавічу я нямала дапамог!»

Словам, усё рабілася на найвышэйшым узроўні[1].

[1] У другім выданні кнігі папраўлена на «предреволюционной Белоруссии», а глыбіня разумення засталася.

* * *

Зноў прыгадаўся стары Сяменікаў, нямоглы ветэран заходнебеларускага камуністычнага падполля. «На першым допыце ўвесь тынк на сцяне ў кабінеце следчага быў абабіты маёй галавою...» А потым: «Партыя знайшла мяне і ў тайзе!..»

Так і карцела спытацца:

«А хто ж вас запякаў туды?..»

* * *

Строгасць маскоўскіх рэдактараў, дакладней — рэдактарак: «Прежде всего забудьте, что это где-то печаталось». «Где-то» азначае друкаванне ў арыгінале, на роднай мове. А потым, калі пачынаеш зусім справядліва і неабвержна аспрэчваць што-небудзь, яна з пажылым адчаем паварочвае на чалавечнасць: «Не лишайте меня куска хлеба!..»

У кнігу «Немного о вечном» раздел «Из записных книжек» я дасылаў асобна. Першы экземпляр рукапісу недзе заваляўся ў рэдакцыі, не знайшлі, рэдактар узяла дахаты другі экземпляр, там працавала над ім. Колькі было накрэмзана!.. А потым, у карэктуры, гляджу — усё па-мойму! Спачатку было шчаслівае здзіўленне, пасля прыйшла здагадка: малодшы рэдактар знайшла той першы экземпляр і сунула яго ў адрэдагаваны рукапіс, каб лішне не передрукоўваць. Рэдактар карэктуру чытала, цэнзар усё чытаў — усе засталіся са сваім куском хлеба. Недаскублены аўтар — таксама.

* * *

Думаў не так даўно, а потым і гаварылі пра гэта з Караткевічам (нават ён і пачаў), што ўсе нашы капітальныя выданні — тамы фальклорнай серыі, энцыклапедычныя шмат- і аднатомнікі — як быццам падбіванне вынікаў, баланс перад закрыццём...

Толькі літаратура жыве ў развіцці, сяк-так трапечацца.

# ВЯЧЭРНЯЕ

Памёр Алесь Руляк, мой даўні сябар па кнігах, нашмат старэйшы за мяне настаўнік-пенсіянер. Праз паўгода наведаўшы яго самотную ўдаву, знаёмлюся з тым, што засталося ад яго архіва, перабіраю змесціва старога чамадана. Я не сабраўся прыехаць раней, і гаспадыня паспела ўсе пісьмы спаліць. А іх, я ведаю, было нямала. З такой далечыні, як Польшча, Англія, Аўстралія, ад сваякоў, якіх віхураю вайны разнесла па вялікім свеце, ну, вядома, і бліжэйшыя пісьмы, ад сяброў па наваградскай беларускай гімназіі, ад іншых людзей, у тым ліку і мае, за ўсе пасляваенныя гады.

Часта такое паўтараецца — спальванне, «чтобы не захламлять квартиру», як пісала мне з паўночнага Урала дачка абруселага педагога Сяргея Гайко, у трыццаць трэцім годзе сасланага туды беларускага пачынаючага літаратара, інтэлігентнага, высакароднага чалавека, з якім я перапісваўся больш за дзесяць гадоў.

Ды вось жа ў старым чамадане, сярод сякіх-такіх рукапісаў і кніг, якія не толькі на этажэрцы, ацалела запіска. Цытую дакладна:

«Каханыя! Прыехалі за позна, разлучились, не пажагнаўшыся з Вами. Просьба: беражыце здароўе! Бывайце — цалуем Вас усіх моцна-моцна — Кахаючыя Вас Сярожа і Аня. 21.VI.41».

Беларуска-руская малапісьменнасць з польскім ухілам — kochani, kochający, żegnać się — зразумелыя таму, хто ведае, што аўтары гэтай пісулькі — абое з польскай сярэдняй асветай, мясцовая моладзь, якая з восені трыццаць дзевятага да палавіны сорак першага перараблялася на беларускі савецкі лад. Палавіна сшыткавага ліста, складзеная

ў восем столак, на станцыі Гародзей нейкім цудам перададзеная ў адзін з бясконцых запыленых таварных вагонаў тымі, што асмеліліся праводзіць. А гэтыя яшчэ ж і спазніліся. А дата, дата якая — адзін толькі дзень да пачатку Вялікай Айчыннай, да працягу другой сусветнай вайны ў яе далейшым, найбольшым напале...

З тымі, каму яна была адрасавана, каму так удала трапіла ў рукі, запіска гэтая вярнулася з далёкай ссылкі пасля вайны. Сябру майму, можна сказаць, пашанцавала: з бацькамі, жонкай і маленькім сынам Алесь апынуўся ў Пензенскай вобласці, працаваў у саўгасе, спачатку загадчыкам гаспадаркі, потым бухгалтарам. Смяяўся неяк у ацалелай бацькавай хаце, што павінен падзякаваць Богу,— каб не выслалі (з-за малодшага брата, які жыў у Польшчы), дык праз нейкі месяц, а то і хутчэй, акупанты з памагатымі расстралялі б або павесілі як актывіста, або пазней уцягнулі б сілай у сваю паліцыю, як гэта здарылася з некаторымі сябрамі, знаёмымі і мне.

Швагра яго, Сярожу, я ведаў вельмі мала. От, акуляры, студэнцкая шапка. А жонка ягоная, Аня, у сямігодцы вучылася на клас раней за мяне і сябравала з маім братам Мішам. У іх нават больш было трохі, чым сябраванне. Смуглявая, высокая, вясёлая красуня.

Над пісулькай успомніўся чэрвеньскі дзень ажно трыццатага года. Аня чамусьці не з'явілася ў школу ў той дзень, калі сямікласнікі ладзілі развітальны вечар. І вось мяне — так, іменна мяне! — з адным сямікласнікам, на чатыры гады старэйшым, паслалі з Турца цераз наша Загора, а потым голаю пашай, няскошаным лугам, па сезонным гарбатым мосце цераз Вушу, зноў лугам і ажно ў лесчічоўку — за добрых сем кіламетраў ад школы. Што такое казённы ляснік для вясковага хлапчука, што такое казённы лес у тыя гады? Грозная таямніца. За якою і стрэльба, і сабака, і крык, і штраф бацькам, калі вясковы пастушок паткнецца за нябачныя межы той таямніцы. Аднак мы, пасланцы, не засталі ў тым бярэзніку, што клінам уразаўся ў высокатравяністы луг над звілістай Міранкай, ні самога лесніка са стрэльбай, ні яго дарослага сына, ні іх сабакі, а толькі прыемна смяшлівую Аніну маму, якая частавала нас малаком, пакуль яе красунечка прыбіралася на выхад. А потым мы ішлі ўтраіх, пра штосьці, вядома, гаварылі, з чагосьці смяяліся, ды я не буду цяпер нічога прыдумваць. Годзе таго, што гэта мне светла помніцца.

Мне было трынаццаць, Аня старэйшая на два гады, ад-

нак і я, услед за братам, якому было шаснаццаць, адчуваў сябе закаханым у нашу Аню па-свойму. А значыцца, і шчаслівым у той, такі сонечны дзень. Хоць і без рэўнасці, нават, можа, шчаслівы за брата.

На развітальны вечар сямікласнікаў, у хату аднаго з вучняў, запрошаны былі некалькі дзяўчынак і хлапчукоў з шостага, у тым ліку і я, заслужаны пасланец. У абодвух класах была бадай палавіна пераросткаў, што з-за бясконцых войнаў (царскай, грамадзянскай, бальшавіцка-польскай) вучыцца пачалі хто ў сем, хто ў восем, а хто і ў дзесяць або дванаццаць гадоў. Я быў даволі бойкім смехуном, а ўсё ж ушчэнт збянтэжыўся, калі старэйшая сястра майго аднакласніка і сябра Абрашы (потым Зяма ў «Золаку, убачаным здалёк»), прыгожая Шэйна, пакуль мы штосьці елі-пілі (не гарэлку і нават не піва), устала над сталом, перахілілася і, смеючыся, сказала: «А ну, Ясь, калі ўжо ты такі храбры, пацалуй мяне! Збаішся?..» А я збаяўся, пад дружны рогат, а потым вусны тыя, раскрытыя ў смеху і ўсмешцы, і вялікія карыя вочы, і грудзі не давалі спакою маёй адзіноце.

А каб жа Аня так сказала, так засмяялася!..

Над чамаданам, з пісулькай у руцэ, як і цяпер, запісваючы, я яе, мілую Шэйну (і сапраўды, на ідыш імя Шэйна — красуня) — не магу не бачыць інакш, як праз тое, што адбылося праз адзінаццаць гадоў пасля таго дзіцяча-юначага вечара. Увосені сорак першага і яна, ужо маладая маці, была па-зверску забіта ў нашым мястэчку. Як і іншыя з тых, каго я ведаў, з кім сябраваў, каго сёння — праз цэлую вечнасць — бачу на выцвіла-старой фатаграфіі пятага і чацвёртага класаў, на фоне густой лістоты, што акружала высозную, прыгожую царкву, за якою ціха стаяла наша старая драўляная школа.

Ані на тым здымку няма, яна прыйшла ў нашу школу на адзін толькі год, у сёмы клас, калі бацьку яе перавялі аднекуль у казённы лес за нашаю Вушай. Можа, таму і ўспамін такі востры, што толькі адзін год, што толькі адна сустрэча была пасля, калі яна, студэнтка Нясвіжскай семінарыі, светла-зялёнай павай праплыла па летняй, нядзельнай вуліцы нашага Загора, ідучы ў Турэц, і мы сустрэліся, пагаварылі. Брату было дзевятнаццаць, ёй на год менш, а мне яшчэ на два. Яшчэ не надта, як перад Шэйнай, смялейшы. Яна ж была ў самым дзявочым росквіце, яе чароўная смуглявасць, мілы, іскрысты смех яе мне помніцца...

Пасля бацькі пасаду лесніка, на сваю галаву, заняў Анін брат. У саракавым, калі яна была ўжо замужам, жыла

ў мястэчку, брата з сям'ёю вывезлі. Цераз армію Андэрса ён трапіў пасля ў Англію, куды пазней, з Польшчы, аўдавеўшы, пераехала і Аня з дзецьмі. А ўжо адтуль, за сынам, рушыла ў Аўстралію. Пісала адтуль залоўцы і швагру, майму Алесю.

Ды вось і тых пісьмаў няма...

А зрэшты — ці сказалі б яны мне больш за гэтую пісульку?..

* * *

Не толькі ў мяне гэта — жаль, што нечага не зрабіў, у час не спытаўся ў кагосьці, не схадзіў, не паехаў, не напісаў... Бездапаможны жаль і непазбежны!..

* * *

У бібліятэцы з цікавасцю праглядаў дзве статыстычныя кнігі з 1876 і 1889 гадоў — пра землеўладальнікаў Мінскай губерні. Вышукваў толькі тое, што з «Новогрудского уезда», маёнткі найбліжэйшыя да нашага Загора.

У першай кнізе — «землевладельцы», пачынаючы з нейчых пяцідзесяці дзесяцін, цераз Ка́шыцавы дзевяцьсот («зямля — як яечня!» гаварылася пра той наднёманскі раўнінны чарназём) і да — ажно не верыцца! — 669 тысяч 527 дзесяцін у Вітгенштэйна, папярэдніка князя Святаполк-Мірскага. Праўда, апроч Наваградскага, яшчэ ў шасці паветах Мінскай губерні.

А ў другой кнізе, пазнейшага выдання, вельмі выбарачна, выпадкова, з рознымі памылкамі «землевладельцы» зніжаюцца аж да лічаных дзесяцін.

Скажам, такі мой сямейны цуд:

«Чичук Иван Григорьевич, крестьянин, православный, деревня Малосельцы. Две десятины».

Мой дзед па маме.

Не памятаю ўжо, колькі гадоў таму назад, але перад знаёмствам з тымі кнігамі, я надыбаў на маласельскіх могілках на ягоны помнічак. Літары ў камені выдзеўбаны так надзейна-глыбока, што няпроста было, пры дапамозе травянога вехця ды галінкі, дацерціся, дакалупацца, каб прачытаць і ўсцешыцца з яшчэ аднаго сямейнага адкрыцця.

* * *

Можа, каб у мяне была яна, глыбока эшаланіраваная генеалогія, дык і я ганарыўся б тымі з продкаў, кім можна было б ганарыцца? А так — так мае высокую, агульначалавечую рацыю кубінец Нікалас Гільен:

«Я сын, і ўнук, і праўнук нявольніка. Няхай саромеецца іхні пан!»

* * *

Учора пачаў чытаць яшчэ адну гістарычную аповесць, і, можа, таму, што тэмпературыў, падумалася з прыкрасцю, што ўсе народы ўжо даўно адбразгацелі ў літаратурах рыцарскімі мячамі ды латамі, а мы цяпер — наўздагон. Калі ўжо трэба перш за ўсё думаць пра тое, як ратаваць людзей ад узаемазнішчэння, як унармаваць нянавісць, варажнечу паміж народамі, каб не было такога бяспраўсвецця. Бо не толькі ж ядзерная зброя страшная, але і ўсе тыя «часці асобага прызначэння», у якіх маладыя людзі даводзяцца да жахлівага азвярэння...

«Барацьба за мір — да пачатку вайны». Штосьці так гаворыцца. А пачнецца вайна і ўсім нам, пісьменнікам, трэба будзе ўздымаць нянавісць, культываваць яе, што і мне ўжо даводзілася рабіць. Пераступіўшы цераз сваё чалавекалюбства.

* * *

Меншы сынок майго Кураўкі з «Ніжніх Байдуноў», па бацьку дасціпны, у адзін з дзён акупацыі «не даў», як гаварылася ў вёсцы, іменна не даў немцу забраць іхняга парсючка. Стаў, распасцёршы рукі, якіх ужо амаль хапала на шырыню дзвярнога праёма, і з плачам крычаў, што не дасць. Немец той пастаяў і — відаць, таму, што іншых немцаў, а тым больш начальства блізка не было,— дарослы, узброены рабаўнік, адступіўся, моўчкі пайшоў з двара.

Пра гэта ўвосені сорак трэцяга года ў мяне было запісана, амаль апавяданне цэлае, але яно не захавалася, бо і пазней, ужо не ў вайну, такое было, як тэма, зусім не па часе...

* * *

Ці я ад Талстога набраўся антываеннага духу, які жыве ўва мне з дзён ранняга юнацтва, ці гэта быў ва мне такі мірны пачатак, які ахвотна адгукнуўся на талстоўскае?.. Адчуванне жаласці, любові, спачування — трэба яго абуджаць, падтрымліваць, гэта важна. Пытанні — пытаннямі, сумненні — сумненнямі, а тое, што ў табе ёсць — яно не прыдумана.

* * *

Чаму я не думаю, у каго траплялі кулі з таго станковага кулямёта, пры якім я, у верасні трыццаць дзевятага, быў другім нумарам, а то і першага падмяняў, і з гарачкі пускаў усю стужку старога «максіма» — дзвесце пяцьдзесят патронаў — адным націскам?..

* * *

А як гэта хараша — зноў пайшоў спорны, роўненькі дождж, ад якога ўнізе, пад маім акном на гарышчы, па траве ўцякаюць на веранду вясёлыя, загарэлыя, босыя ўнукі.

* * *

Учора перад сном, калі мы ўжо начыталіся казак і яна не хацела яшчэ на свой ложак, а «давай пагаворым», я любаваўся яе загарэлымі ножкамі, ручкамі, тварыкам, любаваўся і... страшна падумалася, што і гэта ўсё — не вечнае.

Адна з пажылых сяброўак калісьці казала мне з лёгкаслязлівай шчырасцю, што гэта ж так страшна, так крыўдна — нараджаць, гадаваць дзяцей, каб яны пасля паміралі. Як памёр яе адзіны сын, дарослы.

Так яно і задумана, жыццё. Ходзіш па могілках, дзе столькі ўжо знаёмых і сяброў, і нібы не думаецца, каб зусім зблізку, што гэта ж не толькі для іх, такі бясконцы эпілог, але і для цябе...

* * *

Амаль кожную раніцу прачынаюся з нейкім новым, можна сказаць, болем. Яшчэ штосьці нібыта само па сабе згадаецца, нейкі промах ці грэх, і пачынаеш разглядаць яго буйным планам, з самай павышанай ды паглыбленай пільнасцю... І навошта гэта патрэбна? Ці не адгэтуль ідуць яны — рай, пекла, чысцілішча? Царкоўная споведзь, патрэба ў ёй, хоць і не на ўсю шчырасць,— ёю ж і сёння карыстаюцца. Хто верыць. А нам нічога не падыходзіць, адно толькі самаедства...

* * *

За маім адчыненым акном весела, міла... ледзь не сказаў: балбатліва шчабеча ластаўка. Колькі ёй трэба расказаць, як яна спяшаецца! Адарваўшыся ад кніжнай старонкі, кажу: «Во гаваркая!» І нам з дачкою прыемна.

Толькі што адгрымела, адшумела навальніца. За акном шчасліва супакоілася ліпа, і ўсё аціхла ў палёгцы пасля парнасці.

* * *

Брава ды весела вусаты Ханзадзян, былы франтавік і добры армянскі пісьменнік. Мы абняліся, сустрэўшыся пасля доўгай разлукі, і мне прыйшоўся для пацалунка яго шырокі, вехцяваты, сівы вус — нібы неўжываны в'етнамскі венік ці сухі бок плоскага вялікага квача, таксама новага.

* * *

Не люблю я гэтага «кишка тонка», што ад рускіх і да нас прыйшла, сёй-той ужывае, для большага красамоўства. Так і помніцца бабскае: «Аладак напяку табе, будзеш есці — ажно з цябе кішку выпра!..»

* * *

> Из десяти волов упряжка
> не тянет нас к себе так тяжко,
> как слабый женский волосок.

Чытаючы гэта, нехта скажа, што мне цынічна згадалася, як у адной з нашых вёсак суседкі дапамагалі маладзіцы палячыць яе мужыка, што ўзяў ды разлюбіў. Параілі ёй спячы булку, а ў цеста дробненька пакрышыць валасок... Не той, які мае на ўвазе аўтар працытаваных радкоў, амерыканец Генры Лангфела,— тут ужо наш мясцовы фальклор.

* * *

Светлая раніца, маладыя турысты снедалі каля сваіх рукзакоў, стоячы пры дарозе, па якой я ішоў у вёску, як і штораніцы, па малако. А як вяртаўся, два з чатырох, метраў некалькі ад яшчэ не прыбранай з газеты яды, апраўляліся з быдлячай непасрэднасцю, гледзячы на мяне, «старога хрэна», з пазіцыі тупое сілы.

А што ж, падумалася: калі можна, спыніўшыся на вуліцы, вульгарна дэманстраваць «свабоднае» каханне, дык чаму ж і гэта нельга?..

* * *

У ментарскім артыкуле — пра «новы жанр» у нашай літаратуры. Чаргаванне, скажам, такое: жанр гусінага пяра, жанр пішучай машынкі, а сёння ўжо і жанр магнітафонны?..

* * *

Малады літаратуразнавец. Запусціў вялізную чорную бараду і падавай яму пра вайну толькі адно трагічнае.

* * *

Паўзы ад твора да твора заўсёды былі ў мяне пакутай і ныццём. Некаторыя рэчы (скажам, «Апоўначы») і нараджаліся ад тых пакутаў,— як быццам я гэтым і ратаваўся ад іх.

* * *

Памідоры з мёдам — колькі сонца адразу! Упершыню я паспытаў такога ў палескіх Рачка́нах, калі гасцяваў у Янкі Патаповіча, яшчэ аднаго заходнебеларускага літаратара і сімпатычнага чалавека, работніка, якога біць пачалі пілсудчыкі, а дабілі, укінулі ў беспрасветную невядомасць сталінцы.

Адчуванне тое сустрэчы, таго пачастунку ў садку каля хаты — прыйшло вось ізноў, праз паўвека, адтуль, дзе была маладосць, захапленне і вера.

Я прыязджаў да яго са сваімі рукапісамі, за шэсцьдзесят вёрст веласіпедам.

* * *

У вайну, калі быў забіты адзін камандзір партызанскай разведкі, у блакноце ягоным — якая недасведчанасць! — было прачытана паліцыяй і прозвішча майго знаёмага, і тады, і пасля вайны вясковага настаўніка. Яго арыштавалі, дапытвалі з катаваннямі, а потым пагналі ў Нямеччыну, «на работы».

Канвойны аўстрыяк яшчэ на станцыі сказаў яму:

— Вам, гэр ле́рар, вельмі пашанцавала — вас не расстралялі. А там, калі да нас, у Аўстрыю, Бог дасць, трапіце, будзе добра, людзі ў нас добрыя. За вас прасіў гэр шульінспектар. А фа́рар ваш — нядобры чалавек.

**Лерар**, калі хто не ведае, гэта настаўнік, **фарар** — поп, які, відаць, нягодна выслужваўся, а **шульінспектар**, тут не проста інспектар па школах, а брат Якуба Коласа Міхась.

— Таксама кончыў Нясвіжскую семінарыю, толькі ж значна пазней,— расказваў мой знаёмы.— Нацыяналіст быў, як гаварылася. Цяпер ён у Амерыцы. Не верыў аніяк, што цяпер у Мікалаеўшчыне можна жыць і людзі някепска

жывуць. Пра гэта ён пісаў пляменніку, што філіялам музея кіруе. «Прапаганда!» — адпісваў, і ўсё тут. Бо перад вайной, пры Польшчы, так жа было, што калі каму трэба парабак, наймічка ці пастушок, дык ехаў той чалавек у Мікалаеўшчыну,— там напэўна возьмеш. Бедна жылі, вельмі бедна... А пра Купалу і Коласа ён мне, Міхаіл Міхайлавіч, самому казаў, што яны там, у Саветах, пяюць не сваім голасам... А за мяне, бандыцкага памочніка, заступіўся. Высакародства, прыстойнасць чалавечая былі!..

* * *

Прыемна гэта, калі славутыя артысты прымаюць удзел у просценькіх, мілых і высакародна патрэбных мультфільмах для малых і маленькіх. За Віні Пуха — голасам — Ляонаў, за воўка ў «Ну, погоди!» — Папанаў...

А нашых, у такіх амплуа, вельмі мала. Як бы тут блізка, прыемна гучалі галасы Дзядзюшкі, Глебава, Ржэцкай, Попа... А добрых мультфільмаў яшчэ ўсё няма, як і ў той час, калі ў нас былі такія акцёры.

* * *

Рыгор Бярозкін расказваў, як у лагеры старыя, заслужаныя партыйцы, разуверыўшыся ва ўсім, вярталіся да пачатку жыцця — да мамы, і маліліся, як яна вучыла. Вера — не ў Бога, а ў яе, у свой светлы пачатак.

* * *

Унукі каторы ўжо раз слухаюць з пласцінкі «Каня-Гарбунка», а ў маёй памяці мільгануў мамін голас:

...Наканец яны смякнулі,
каб стаяць у калавуры...

Яшчэ з таго часу, калі я, таксама зачараваны слухач, не ведаў, што з «калавурам» яна памыляецца.

А можа, зрэшты, таму яно так і запомнілася, што пасвойму ў яе?

* * *

Раней, чым трэба, прачнуўшыся, прытэпала з суседняга пакоя да мяне, без слоў папрасілася на калені і прытулілася ўся. Сказаў, што «і я цябе люблю» і прапанаваў паляжаць побач з маім сталом, на канапе. Прынёс яе падушку, коўдру, накрыў — і вось яна ўжо спіць, такая харошанькая, адна з той безлічы, што мілейшыя за ўсё.

...Учора гэта было. А сёння я і сам прачнуўся раней, чым звычайна, і чамусьці з варожым пажарам для нашых людзей, для дзяцей, якіх — у агонь!.. Падумалася, што гэта, відаць, і натуральна, запланавана загадзя — тое, што мы не часта, вельмі не часта можам па-сапраўднаму жыва ўявіць жах тых экзекуцыяў.

* * *

Без году трыццаць, а памятаю прыкра, як у вёсцы над Нараччу адзін незнаёмы дачнік, нумізмат, як ён назваў сябе, папрасіў мяне паказаць манеты з тых краін, дзе я бываў. І вельмі спрытна ўкраў адну-адзіную ватыканскую ліру. І недзе ж рад быў, таксама вельмі, можа, яшчэ і сёння рад і хваліцца гэтым. Ці сам толькі, ці з сынам, тады хлапчуком, з якім прыходзіў.

* * *

План лесавывазкі ён выканаў. Тады яму: «Трэба яшчэ ў гонар Чырвонай Арміі». Ну што ж, і гэта выканаў. Тады — «помочь отстающим»...

І ён падумаў дый сказаў, яшчэ не палоханы новай уладай, што, можа, яно і лепш — самому быць «отстающим»?

Зіма трыццаць дзевятага — саракавога, у Загоры нашым — першая савецкая зіма.

* * *

Пачатак пяцідзесятага года. Пісаў сваё лірычнае «Забалоцце». А ў блакноце камандзіровачным — і такое, дагэтуль нікім не прачытанае:

Лунінецкі раён, вёска Дзятлавічы.

У школе адкрыты партыйны сход. Выступае старшыня сельсавета, усесаюзны дэпутат, адзін з вядомых пінскіх партызан.

— Саўку трэба выкінуць з калгаса,— кажа ён.— Сам сукін сын і сынок сукін сын. У яго хляве стаяць калгасныя каровы, дык ён залез на бэльку ды карову зверху абасраў! І каб якую, таварышы, а то ж белую! Без бацькі тут не абышлося. Офэкт з гэстага не атрымаецца. Калі пойдзе прынцып на прынцып — прынцып на прынцып і наскочыць!..

Маладая, модненькая настаўніца, агітатарка. Сядзіць, выставіўшы над партай ручкі ў новых пальчатках. Кватаруе ў заможнай сям'і, спіць пад іконамі. Як гэта так?

— Я кажу ёй, маёй хазяйке,— апраўдваецца яна,— каб ішла ў калхоз, а яна не хоча. Не будзе, кажа, хлеба.

— А як не пойдзе — будзе хлеб?

— А мне што да гэтага?

Пальчыкі ў новых пальчатках паварушваюцца над партай.

Аднаасобнік, дэпутат сельсавета. Рыжая суконная даматканая куртка, «руская» шапка з бліскучым казырком. Мужчына з тых, што вечна хварэе, бо ў хаце ёсць каму рабіць. На пытанне, як ідзе перадвыбарчая кампанія, як ён сам агітуе, адказвае:

— Работаем нічаво.

— А чаму ты ў калхоз не запісваешся?

— Без здароўя зусім. Сяджу вось пакуль што спакойна...

Былы бядняк, калгасны конюх. У кажушку з патрухай і каласамі ў каўняры.

— Прагаласуем, таварышы, усе на сто працантаў — вот і ўвесь мой сказ. А пакуль што заклікаю ўсіх выканаць вывазку лесу за тыдзень да выбараў!

У хаце старшыні сельсавета. Гаспадыня насмажыла сала вялікімі скваркамі, паставіла ў цынкавай, бывалай місе на стол, гаспадар накроіў тоўста хлеба, і мы то хлеб у тук абмачаем, то скваркі бярэм відэльцамі, і ён, і я за ім нагу паклаўшы на нагу, як гарманісты, і бачком каля стала.

Гаспадар успамінае мінулае. Парабкаваў і пры цару, і пры панах. Пятая частка з трохдзесяціннага надзелу. Дзевяць дзяцей. Зямля падзольная, на выспах сярод балота і лесу. Усе лясы навокал — пана Крыгера, купца з Варшавы. Лесазавод — больш за тысячу падводаў штодня возяць лес, па два злоты з канём. Крыгер прыязджаў адзін

толькі раз. Засцілалі яловымі лапкамі дарогу — ад яго машыны да завода.

У партызаны пайшлі ўсёй сям'ёю, ранняй вясной сорак другога года. З адною пістаноўкай, да якое старэйшы сын наадліваў з волава шроту. Пасля за бацькаву галаву немцы «давалі шмат грошай». Ордэн Леніна.

— У аблакад баба мая пашкадавала барахла і пакінула меншых дзяцей. Я дагнаў яе, вытрыбушыў ёй таго меха, малых у мех і панёс. А цяпер вось глядзіце, якая вучаніца вырасла!

Вучаніцы гэтай ён плаціць рубель за кожную пяцёрку, а за тройку — рубель з яе.

На сесіях у Маскве пасябраваў з Царуком.

— Харошы чалавек, Герой Савецкага Саюза, падпольшчык быў вялікі пры панах. Паказвае мне калонныя залы ў Крамлі: «Глядзі, бацька, якое ўстройства!» Разам з ім мы ў тэатар хадзілі.

У тых «калонных залах» дзядзька курыў у перапынку «Беламор» і ніяк не мог накурыцца.

— За калону схаваюся, цыгарку зраблю, накурyся мультану, а тады зноў «Беламор» закуру і выходжу...

Незадаволены леташняй лесавывазкай:

— Не павезлі адразу да станцыі, а да ракі. А яна — стаячая. Лес і засеў. Тады ўжо спірт прысылаюць, кансервы, каб рабочым не холадна было ў ваду лезці. Майстры панапіваюцца ды спяць на беразе.

Праводзячы мяне на станцыю, зноў пачаў пра свой клопат з тым Саўкам:

— Кулак адзін ёсць. Два гектары было пры Польшчы...

Перабіваю пытаннем:

— Два гектары — кулак?

— А ў яго малатарня, сячкарня, маслабойка, гнаць алей! Быў ужо нават і вятрак пачаў рабіць. Цяпер адна хата новая яшчэ, а другую зрабіў на продаж. За дзесяць месяцаў у калхозе зарабіў дзевяць трудадзён. Гэта ж ягоны хлопец і карову з бэлькі аба...!..

Дзядзька зусім непісьменны, але як пра нешта зусім звычайнае кажа, што адразу пасля вайны працаваў у райсавеце, інжынерам па будаўніцтву... Нездарма ж і ў чорным паліце, выразна не на яго пашытым.

...Цяпер трэба дадаць, што тады нас, літаратараў, перад выбарамі рассылалі па Беларусі пісаць нарысы пра кандыдатаў. Так я трапіў туды, да таго, хто выбіраўся паўторна. Актывіст з працоцкім прозвішчам Цяльпук.

* * *

Прароча гучыць гэта праз шэсцьдзесят гадоў:

«На смену старой капиталистической буржуазии появится «молодая» коммунистическая буржуазия, которая имеет широкое будущее».

З дзённіка няздзейсненага пісьменніка Пятра Сеўрука, у той час — беднага местачковага хлопца.

* * *

Чыноўнік, які па абавязку патрыятычнай службы падслухоўвае тэлефонныя размовы, і лекар-уролаг, які па абавязку спрадвечнай гуманнасці праводзіць пальцавае даследаванне прастáты, а затым прывычна здымае адпаведныя пальчаткі, мые рукі і садзіцца за свой стол,— гэта розныя абавязкі і розныя людзі.

* * *

«Развялося мноства вушэй, якія лавілі словы, не для іх прызначаныя, і перадавалі іх «куды трэба». Так піша весела-мудры Войцех Жукроўскі ў прысланай кнізе «На троне ў Блябоне».

Універсальнае «куды трэба» — у яго вельмі проста: «gdzie trzeba». А як жа гэта гучыць на мовах іншых? Дзе вушы таксама ловяць.

* * *

«Гласность» у дзеянні: галоўліт балюча ўшчыкнуў у «Полымі» «На сцежцы — дзеці» і «Шчопцямі і пудамі». У другім выпадку там, дзе пра яшчэ ўсё «закрытыя пісьмы», а ў першым — дзе пра дзяцей, авеяных Чарнобылем... А яшчэ ў яе, цэнзуры, якое ў нас «няма», маюцца дваццаць дзевяць «пунктаў» у сувязі з жахлівай аварыяй, і супраць тых пунктаў нічога не скажаш, не зробіш. У канцы восемдзесят шостага года.

* * *

Быў Ш. Добра пагаварылі — з адною сёння тэмай у цэнтры. Смяяўся, што бабы загорскія кажуць пра той чацвёрты блок:

«Цэмент раскралі, зляпілі тую станцыю з пяску, вось яна і развалілася».

* * *

Зноў прыгадаліся два пажылейшыя за мяне яўрэі з друкарні, якіх я частаваў пасля выхаду першай кнігі. Як пілі мы, чым закусвалі, у якім закутку друкарні гэта было — добра не памятаю. Прозвішча загадчыка наборнага цэха Рудзін; я запомніў яго, відаць, з-за Тургенева. А прозвішча загадчыка цэха друкарскага не запомнілася — ад імені нейкага, здаецца, без вышэйшых асацыяцыяў. П'янкі, вядома, не было, яўрэі людзі акуратныя, а ўражанне ад маёй удзячнай радасці, ад іхняга разумення яе — памятаю.

З Рудзіным, чалавекам самавіта-сур'ёзным, мы і пасля гэтага, як і перад гэтым, прыязна здароваліся. А той другі, цяпер безыменны, па-прасцецку, дабрадушна губаты, пры сустрэчы шырока ўсміхаўся: «Ну, а калі будзе другая кніга?»

...Захацелася дадаць, што я тады быў літработнікам «Вожыка», апранутым абы-як, у «юнраўскія» неданоскі, і гэта, відаць, яшчэ больш зближала мяне з тымі небагатымі, працоўнымі людзьмі.

* * *

У выступленні М. С. Гарбачова ў Тальяці — сказанае ім, як многа дрэннага абумоўлена тым, што ўсімі кіравалі на адлегласці, з цэнтра, недастаткова ўлічваючы думку тых, што працуюць.

А намі, літаратарамі, па-ранейшаму кіруюць з цэнтра — маркавы, верчанкі, сураўцавы... Яны ўжо могуць кіраваць і «па-новаму», наадварот таму, што і як рабілі ўчора!.. У перадапошнім нумары «Литгазеты» на ўсю старонку была такая, «установочная», справаздача з чарговага паседжання сакратарыята.

* * *

Дадуць Героя — будзеш і герой. У гэтым усё — каб далі.

* * *

Па тэле, у перадачы пра сучасную савецкую прозу, чатыры маскоўскія крытыкі на ўсе лады скланяюць чатыры рускія прозвішчы. А мне ўспомнілася, як мы з волжскай плаціны кідалі кавалкамі булку, і асятры, таксама ці не чатыры найбольшыя, насілі, штурхалі лычамі адзін, другі, трэці такі кавалак — ці то хочучы з'есці, ці то забаўляючыся...

* * *

У кнігарні пісьменніка нам, літаратарам, абмежавалі кніжныя заказы. І я аднойчы пацешыў сяброў-«балельшчыкаў»: «Чытайце тыя, што сабралі». Бо і ў самога так многа яшчэ стаіць непрачытаных!

* * *

Гоняць з трыбуны апладысментамі, а ён яшчэ ўсё выступае, крычыць — як быццам з-пад абернутага воза сена.

* * *

Я ўсё свядомае жыццё хацеў і стараўся бачыць праўду як найбольш аб'ектыўна. Трохі ўдавалася, трохі ў бакі кідала... І недарма Адамовіч сваю «Ничего важнее» падпісаў мне, як «неисправившемуся толстовцу». Хоць «талстоўства» свайго я шукаў не толькі ў Льва Мікалаевіча, але і ў многіх другіх. Бо і ён жа браў не толькі «сам з сябе», як гаворыцца ў вёсцы пра самавукаў, а з многага ў жыцці свайго народа і многіх іншых народаў.

* * *

Генадзь Цітовіч згасае ў страшнай, жахліва моднай хваробе. У папярэдні прыезд з вёскі, у канцы мая, я званіў яму, дакладней ім, спадзеючыся, што трубку падніме жонка. А падняла дачка, цераз яе перадаў прывітанне. А ўчора іхні сусед, Толя Грачанікаў, гаварыў, што ад жонкі Генадзевай чуў — той «вельмі нервуецца»: не давёў да ладу архіў!.. Як часта гэта паўтараецца: з ладам, з успамінамі. І яшчэ адзін панёс з сабою так многа.

* * *

Багатага хутара даўно няма. Толькі хаціна на тым котлішчы стаіць, зляпаная пасля вайны. А ў ёй яшчэ ўсё жыве старая гаспадыня, ужо зусім нямоглая, але яшчэ ўсё тая — даўнейшая па характары, светапогляду, звычках. Ганаровая, хоць і няма чым ганарыцца, уладная, хоць і няма над кім уладарыць. Толькі на дзецях гэта паказвае, калі прыязджаюць з горада ці заходзяць з вёскі, дапамагаюць ёй і не могуць унаравіць.

Ад былога на котлішчы засталася старая ліпа з буслянкай і вялізны, шырозны куст бэзу. Сёлета расцвітаў ён неяк туга, але ж і расцвіў вельмі багата. Магутны пах яго я адчуў уранні здалёк і здзівіўся, што бэз можа так далёка падаваць свой пах.

Вось і ўспомніў гэта, чытаючы ў Тагора:

По аромату узнают
цветок в лесной глуши...

* * *

Ах, ах!.. Аднаму шэсцьдзесят восем, другому ажно восемдзесят, сядзяць у зале, дзе шмат моладзі, і адзін з іх, маладзейшы, шэптам паказвае праз чатыры рады — ужо дальназоркасць! — прывабную бландзіначку:

— А каб гэта ж, пане браце, дзьмухнуць ёй лёгенька на шыйку ды прылажыцца, га?

— Сма-ка-та! — усміхаецца і старэйшы.

Ах, ах!..

* * *

Успомнілася, як істотнае. Мы з сябрам стаялі на аўтобусным прыпынку. Праходзіла падсухенькая, таленавітая Жэня Янішчыц. Хацела павітацца ды ісці сваёй дарогай, але я запыніў:

— Хадзі, малая, парукайся з дзядзямі.

Пагаварылі ўтраіх пра самае тады галоўнае, трывожнае — пра Чарнобыль. І «малая» сказала:

— Думаю вось пра наш пісьменніцкі з'езд. Божа, якая дробязнасць! Ды абдыміцеся ж вы ўсе, таварышы, падумайце, што робіцца!..

Штосьці так. І яшчэ:

— Сарака яшчэ няма, а ўжо як думаецца...

— А як жа нам, калі на носе семдзесят?

Гэта ўжо мне, бо ў сябра ў запасе больш.

* * *

Правабярэжжа Нёмана, Стаўбцоўшчына.

Піянерлагер «Пралеска» каля Дзераўной. Дзеткі з Кармянскага і Рагачоўскага раёнаў. Гаспадар нашай паездкі «газікам», супрацоўнік раённай газеты, сказаў раней, што дзеці з Брагіншчыны, і я гатовы быў сустрэць тут страшнае. Шчаслівае «расчараванне» — малеча здаровая, вясёлая, толькі сумуе па мамах, пра што яны мне і адказалі хорам, калі, выступаючы перад імі, спытаўся пра гэта.

У Дзераўной — адзін з герояў Чарнічэнкі, Герой Сацыялістычнай Працы Ванькові́ч. Чараваты, вясёлы мужчына, які выйшаў да нас з майстэрні замурзаны. Расказаў пра сёлетні ўраджай бульбы, зялёнае «воблака» якое (маміна слова) віднелася адразу за майстэрняй і «палігонам» іржава-чырвонай сельгастэхнікі, пра таксама добры ўраджай жыта, нягледзячы на тое, што «з красавіка да пазаўчарашняга дажджу не было». Два адчуванні: нібы няёмкасць, што вось масквіч Чарнічэнка і гэтае месца знайшоў на карце краіны, а я тут упершыню, і другое — хутчэй не адчуванне, а думка,— што́ ў нас было б, каб такіх, як гэты Ванькові́ч, былі не толькі адзінкі...

Дзераўная, што была для мяне калісьці нечым загадкава-далёкім, яшчэ да таго перадваеннага моста ў Ярэмічах, доўгага, высокага, за якім ішла грэбля — на пушчанскі ўсход.

Згадаўся варшаўскі ксёндз Сувáла, «партызанскі капелан» Ора, які тут служыў перад самай вайной і ў гады акупацыі, адкуль, дарэчы, і яго «акоўскі» псеўданім. Вясёлы сангвінік з нядрэннай беларускай мовай і фальклорнай дасціпнасцю, што мне, ад знаёмства з ім у 1973 годзе, прыгадалася, калі глядзеў на магутны касцёл у дрэвах, на пануючым узгорку.

Помнік архітэктуры, што ахоўваецца дзяржавай, і помнік расколу нашай беднай нацыі на дзве незажываючыя палавіны: касцельна-«польскую» і царкоўна-«рускую». Першая ў гэтых мясцінах пераважае.

Пацверджанне гэтаму ўбачылася і ў другім мястэчку, Налібаках, на могілках і ў незакончаным касцёле. Дабудаваць яго перашкодзіў верасень 1939-га. Народная гамана, якую нам перадавала прыемная жанчына, парторг, пра ксяндза,— «сам будаваў» гэты касцёл, ледзь не на «складкі» прыхаджан, людскою самаахвярнай працай. Магутная «каробка» з чырвонай цэглы, цікавая па архітэктуры, без даху, з пустымі прастакутнікамі і кругамі вялізных пустых вокан. Праз адно з іх,— як расказаў мой спадарожнік, партызанскі сябар Жэнік[1],— праз круглае, над уваходам, біў, пакуль не заглух, фашысцкі кулямёт, калі партызаны, увабраўшыся ў сілу, разбівалі тут гарнізон паліцаяў і немцаў. На помніках эпітафіі «польскія», дзе касцельная мова ўгматвае мясцовыя, беларуска-мясцовыя прозвішчы, што пацешна чытаюцца на лацініцы: Дашчэчка, Босы, Агейка... На старых помніках металічныя пліты і мова крыху больш пісьменная, а на сучасных павыбівана-пазалочана мноства, зноў жа, малапісьменнай бэрсаніны, з абавязковымі «просі о тшы Здровась Мар'я» або «просі о вэстхнене». На сучасных стэлах некалькі надпісаў па-руску. І толькі адзін па-нашаму, на магіле дзіцяці, што памерла на сваім другім годзе. Ядвіга Іванаўна, парторг, у нядаўнім мінулым шчырая работніца ў жывёлагадоўлі («Другі ў раёне ордэн Леніна»,— як сказаў нам таварыш з рэдакцыі), расказала, што бяда гэтая — у сям'і маладых настаўнікаў, дзе муж з Коласавай Мікалаеўшчыны.

І не падумалася мне, што гадзіны праз дзве маці таго хлопчыка, маладжава-сімпатычная бландзінка на сустрэчы з мясцовай інтэлігенцыяй надорыць нас з Жэнікам цудоўнымі агароднімі рамонкамі, а ў мяне папросіць падпісаць ёй «Я з вогненнай вёскі...».

---

[1] Крамко Яўген Ігнатавіч (нар. у 1920 г.) — падпалкоўнік у адстаўцы, літаратар.

Другая сустрэча адбылася назаўтра ўранку, калі мы наведалі васьмігодку, драўляна-аднапавярховую, чысценькую пасля «глянцавага» рамонту і прасторную без дзіцячага шоламу. Прыйшлі настаўніцы... мужчын толькі двух, дырэктар і пажылы выпускнік брэсцкага педінстытута. Тут мы з ім ды з Жэнікам успомнілі сябра, Валодзю Калесніка. Гаворка з настаўніцтвам ішла пра клопаты іх працоўных будняў: што няма для малодшых класаў кніжачак (паабяцаў прыслаць), што няма чым карміць свіней, бо ж не людзі, і не настаўнікі ў тым ліку, вінаваты, што йдзецца на такое злачынства — карміць жывёлу хлебам, чаго нідзе на ўсім свеце не робіцца... Ну, і вучняў з кожным годам менш. Было калісьці больш як чатырыста, цяпер — шэсцьдзесят восем...

Мы іх горка «пацешылі» тым, што ў Слабодцы, дзе мы ўвосені выступалі, шаснаццаць вучняў на дзевяць настаўнікаў.

Запусцелыя хутары, дзе на падворках трава па калені, пустыя хаты, самотныя вуллі, дзе на лятках поўзаюць пчолы, не раўнуючы як мухі па мерцвяку...

Стары ляснік, восемдзесят чатыры гады, косіць пры дарозе сена службоваму каню. Пра карову не кажа, але ж яна, вядома, ёсць. Жэніка не пазнаў, хоць і брат іхняга сувязнога, з гутаркі толькі прыпомніў. Брат быў удзельнікам грамадзянскай вайны, а немцы яго расстралялі за сувязь з партызанамі.

У вёсцы за леснічоўкай — бабка ў валёнках на сонейку. Пазнала Жэніка, расказала яму пра сям'ю, а ён перадаў прывітанне яе дочкам, у якіх ужо ўнукі, а для яго яны — нібы толькі дзяўчаты, да якіх па́-дзецюкоўску заязджалася.

У Кляцішчы, дзе ў свой час размяшчалася камандаванне нашага Баранавіцкага злучэння, дзіўна гасцінная сям'я К., дзе мы і начавалі. А ў іх назаўтра сваты на агледзінах, былы старшыня калгаса, проста і шчыра станоўчы чалавек, і жонка, таксама пенсіянерка, нядаўна настаўніца пачатковых класаў, відаць, па прызванні. Іхняя ўнучка, акушэрка, выходзіць за сына нашых гаспадароў, лесніка.

Былая настаўніца скардзіцца на сэрца:

— Яно ў мяне не баліць, а часам **рыпае**. І слабасць. Карову даіць не магу. А муж за век не навучыўся. Прадалі. А такая ж была разумная. Апошні раз даіла яе, дык яна мне і рукі лізала, і твар...

Жанчына мілая, з далёкімі прыкметамі былой красы. То ў бальніцы цяпер, то дома. Толькі зашмат гаворыць пра немач сваю. Маўклівы муж і дома гэтага, трэба думаць, наслухаўся, але тут ні слова. Успаміналі, як жаніліся ў пасляваеннай беднасці. А цяпер засталася цярплівасць дружбы.

Гаспадыню, як на гутарцы ў школе сказала нам адна настаўніца, у вёсцы празываюць Рыбкай. Маці так называла яе ў маленстве. Быстрая, нястомна вясёлая нестарая жанчына. «Больш за ўсё люблю кветкі і кнігі»,— гаворыць. Сама робіць чучалы. «Каго хочаш, глушца, арла, дзікага качара». А частаваць умее аж залішне шчодра.

Мужык — здаравенны каваль. Яму было дваццаць пяць, ёй шаснаццаць і тры месяцы, калі ў іх пачалося.

— Я трохі запіваў, пясочылі мяне на камсамольскім сходзе. Асабліва яна старалася... Дагнаў пасля на вуліцы. Ну што, кажу, набрахалася? А замуж пойдзеш за мяне?

Тут гаспадыня, смеючыся:

— Ой, сталі мы самі жыць, дык я і варыць яшчэ не ўмела. Дастала кнігу «О вкусной и здоровой пище», дык толькі наплачуся, чытаючы. Шпінат, сельдзярэй нейкі трэба, а я не ведаю, што гэта!..

Калі пайшло ў нас пра партызанскае, яна расказала, як у блакаду сорак трэцяга года,— што сама памятае, а што ад старэйшых потым пачула,— іх, дзяцей і жанчын, выгналі з хатаў на луг — расстрэльваць. І немец, нейкі старшы над усімі, «сеў і заплакаў». А тады скамандаваў салдатам, і яны пайшлі, нікога не забіўшы...

Цётка бойкая, а ледзь не сарвалася ў слёзы.

Добра, цікава, патрэбна з людзьмі!

* * *

Чытаю «Сцяну» Марцінкявічуса, раздзел пра сціпла, мудра апантанага фатографа, які быў мнагадзетны і не ўмеў крыўдаваць, а толькі

Отвечал
Прощающей улыбкой.
И соседей
Всех, кому нужно и кому не надо,
Всегда снимал бесплатно.
За спасибо.

І ўспамінаецца другі фатограф, небагаты гаспадар у нашым Турцы, спакойны, негаваркі, інтэлігентны з выгляду

і па натуры Цітавіцкі, які нядаўна, раней, чым памерці,— пагарэў. Згарэў і стары апарат са сталюгамі, і ўвесь фотаархіў, здымкі і негатывы — усё, што рупліва збіралася ды захоўвалася ці не больш за семдзесят гадоў.

У мяне захавалася некалькі фотаздымкаў яго работы яшчэ з палавіны дваццатых гадоў, калі я вучыўся ў чацвёртым класе. Добра на іх бывае паглядзець, успомніць сябрукоў, сяброўвачак, нашых настаўнікаў, падумаць, што з імі здарылася пасля...

А з нейкай асаблівай цікавасцю і шкадаваннем, што ў мяне яго няма, бачу здымак з урока гімнастыкі — на школьным двары, зімою, дзе я ў калматай аўчыннай шапцы, — бачу яго толькі ў памяці, таксама ўжо даўняй, ды з чужых рук.

Затое нядаўна мне падаравалі фота з вясны саракавога года, з Першамайскага мітынгу ў Турцы, і ў тым натоўпе землякоў, у большасці сваёй знаёмых, я з пачуццём журботнай радасці знайшоў брата Мішу. Таксама ўжо гісторыя — той час...

Цітавіцкі здымаў і за плату, і так сабе, для душы і для памяці. Своеасаблівы летапіс аднаго з куткоў Наваградчыны, пры чатырох уладах. Колькі ўсяго пайшло ў нябыт! Як добра было б паглядзець той архіў! Не толькі ж дзеля зямляцкай цікаўнасці...

* * *

Народнае: «Не плач, яго ўжо няма». Гаварылася так ужо тады, калі дарагі або дарагая былі яшчэ ў хаце.

Юлія не хавалі аж восем дзён: праходзілі дні горнаалтайскай літаратуры, а перад гэтым Мілда прасіла, каб ён дзень пабыў дома. І ў мяне было адчуванне, што яго ўжо даўно, вельмі даўно няма, хоць ён яшчэ вось у труне, у кветках. Пералом у адносінах да блізкага чалавека — ён жывы, за ім памяць — адбыўся даўно: так адчувалася.

Ува мне жыў яшчэ трохі ўспамін пра нездаволенасць ім у маладых пісьменнікаў,— ён засядзеўся ў кіраўніцтве. Ды Яніс Плотніек пазней унёс яснасць: «Гэта быў наш колішні малады максімалізм. Пакуль не паразумнелі, не пераканаліся, што Юлій Ванаг — таварыш добры, надзейны, на сваім дзевятым дзесятку маладзейшы за некаторых маладых ужо не аднаго пакалення». Зрэшты, я не цытую:

Яніс гаварыў прыблізна так. А я слухаў і ўспамінаў сваіх, што таксама заседжваліся, кожны па-свойму...

Словам, учора — і ў тэатры, і на могілках, і на памінках у саюзе пісьменнікаў — прыемна было пераканацца, як яго любяць, шануюць. Таму, што ён гэтага варты, і таму, што яны, латышы, любяць, шануюць сваё, чаго ў іх варта, трэба павучыцца і нам.

Таленту ён меў столькі, колькі яму было дадзена, а вось распарадзіўся ім, выкарыстаў яго для народа належным чынам, на ўсю сілу, што і важна, і павучальна.

Я думаў, што выступаць мне трэба будзе на паніхідзе ў тэатры, але ў іх гэта робіцца інакш: адно выступленне на паніхідзе, больш — над магілай. Ганаровая варта таксама па-свойму: па траіх абапал труны; падышоўшы, кланяюцца нябожчыку, адыходзячы — таксама. Паўзмрок, цішыня, аркестр, не духавы, а струнны, дэкламаванне яго вершаў, песні на ягоныя тэксты — усё з урачыстай нябачнасці. Слова Андрыса Веяна. На могілках, пад дажджом, выступаў Язэп Османіс, потым я, пад пазычаным парасонам, тады жанчына-рэдактар, за ёю настаўніца са школы ў яго родным раёне, тады дзяўчынка-школьніца. Пасля, ускладаючы вянкі або кветкі, кожны гаварыў, адкуль яны, ад каго, або і слова казаў кароткае. Артыстка Вія Артманэ (прыгожая па тэлевізары), сівы, артыстычнага выгляду энтузіяст роднай літаратуры, яшчэ хтосьці з добраахвотных...

Гэтае «хтосьці» — ад майго няведання мовы і тых людзей.

Дзіўнае адчуванне, пра што я гаварыў, калі прыйшлося выступіць яшчэ і на памінках,— мовы не разумею, але як быццам ведаю, што гавораць добрае, з любасцю і павагай.

Дзеці, Юліевы землякі, у якіх ён меўся выступіць, але спазніўся роўна на дзень; са школы на кватэру пазванілі, калі ўжо яго не стала. У кожнага з малечы ў руцэ свечачка, перавязаная чорнай стужкай. Пасля свечачкі гэтыя яны паставілі жывым пункцірам агеньчыкаў узбоч закрытай магілы, пад гарою кветак у вянках і так, букетамі.

Свечкі гарэлі ў галавах яго, у тэатры. Адна і на памінках, перад Мілдай, над шырокай жалобнай стужкай на стале. А ў фужэрах з вадой — букецікі верасу, з якога ў латышоў (Яніс, які сядзеў каля мяне, растлумачыў) плятуць жалобныя вянкі. Верас і ў песні журботныя ўплецены.

Хораша і тое, што Зыгмунт Скуінь (з якім хацелася

пазнаёміцца, пагаварыць, але ён знік раней, чым я паспеў развітацца з Мілдай) сядзеў з жонкай і дачкою, мастачкай па габеленах, якая неўзабаве выступіла і расплакалася ў канцы. І Османісава жонка сядзела з дзвюма дочкамі і зяцем, і Язэп, які вёў жалобнае застолле, даў дочкам слова, і яны таксама хораша гаварылі пра Юлія, якога, як і Скуінева мастачка, любяць з маленства.

Толькі там, за трыццаць дзевяць гадоў знаёмства і дружбы з Юліем, я, здаецца, упершыню пачуў, што ў іх з Мілдай быў сын, які памёр зусім маленькім, а потым ёй няможна было раджаць, і гэта было патаемнай трагедыяй іх доўгага (пяцьдзесят адзін год, сказала яна, выступаючы) сумеснага жыцця. Сваю любоў да дзяцей ён аддаваў не толькі ў мастацкім слове, скажам, у кнізе апавяданняў «Вялікія справы маленькага Мікіня», знаёмай і нашаму малому чытачу, але і дзецям, што нараджаліся і раслі побач з ім у маладзейшых сем'ях. Са Скуінямі і Османісамі яны шмат гадоў жылі ўлетку ў Дубултах, у адным доме, і дзеці любілі Юлія. Меншая Османішка, прыгожа-чарнявенькая, сказала ў сваім выступленні, што яна пазнаёмілася з дзядзем Юліем тады, калі ёй было дзевяць месяцаў, і рада, што яе дачушка таксама яго бачыла. Калі і гульня гэта, з пераходам ад лялек штучных да жывых, дык усё роўна міла. Калі яны, Язэпавы дочкі, усталі і пайшлі раней, Яніс растлумачыў мне сваім цяжка-рускім шэптам, што гэта яны да дзетак, а я прыгадаў яму словы нашай жніўнай песні:

Ой, час-пара дадоманьку...
У старых жанок рукі баляць,
У маладзічак дзеці плачуць...

Наша блізкасць з Язэпам пасля знаёмства ў Мінску і ў Рызе, на дэкадзе беларускай літаратуры ў пагодлівым верасні шасцідзесятага, падмацоўвалася ў дружбу, так сказаць, на польскай глебе: разам бывалі мы тройчы на міжнародных з'ездах перакладчыкаў польскай літаратуры. Добры, сардэчны ён хлопец, і падумалася ў той наш жалобнаўрачысты вечар, што балазе ў мяне толькі што выйшла новая кніга,— ёсць што паслаць.

Таксама і Янісу Плотніеку, блізкаму сябру незабыўнага Ояра Ваціеціса, перакладчыку Максіма Танка, знаёмаму з той славутай дэкады, якую мы з ім прыемна згадвалі.

І Лія Брыдака знаёмая з тых дзён, з нашай вясёлай, маладой паездкі перш за ўсё па маляўнічай Латгаліі. Сказала мне цераз стол, што даўно ўжо купіла кнігу маіх

мініяцюр і часта па ёй гаварыла са мною. Выступаючы, я згадаў і пра тое, што кожны раз, апынуўшыся ў Рызе ці ў Юрмале, я перш за ўсё званіў Ванагам. «Цяпер, калі ласка,— сказала Лія,— адразу званіце мне». І пазнаёміла з сястрою, ужо не з паэтэсай, а з празаікам — Маяй Свірэ.

Андрыс Веян, на жаль, адлятаў у Баку, на юбілей Вургуна, і пагаварыць нам, паўспамінаць яго Латгалію прыйшлося вельмі мала. Нават на гэты раз, хоць і жалобны такі, не згадалі любімую песню ягонага старога бацькі:

Як піць, дык піць
і кароўку прапіць,—
няхай гэта воўча мяса
у хлявочку не стаіць!..

Нашу, вядома, у арыгінале ды адтуль, з яго родных мясцін.

Мілда Янаўна захацела і дамаглася, каб Юлій быў пахаваны паблізу магілкі іхняга сына, які толькі намякнуў ім пра шчасце мацярынства і бацькоўства, недалёчка ад магілы яе маці і, толькі крыху воддаль, ад Яна Райніса, пры дарозе, каб ёй было зручней туды прыходзіць...

Юлій яе даглядаў, яшчэ ўсё дужэйшы. У той апошні вечар, перад выступленнем Гарбачова з Рэйк'явіка, памыў талеркі, як звычайна, бутэльку пасля кефіру (рэжым!), даў ёй цікавы артыкул у газеце «За рубежом» (яна ж таксама гуманітарый, журналістка былая), а сам сеў у крэсле, чакаючы выступлення.

І тут яна пачула: нешта стукнула. Ён ляжаў на падлозе. І ўжо не апрытомнеў. Тры малайцы з «Хуткай дапамогі» зачыніліся ад яе ў Юліевым кабінеце, намагаючыся ратаваць,— масаж сэрца ў разрэзаных грудзях. Яна бегала па кватэры і па лесвічнай пляцоўцы, а ў суседняй кватэры, таксама пісьменніцкай, грымела юбілейнае свята...

«Пасядзіце яшчэ, я вас прашу! Да каго ж я вярнуся дамоў?..» Расплакалася, і мы, ужо далёка не ўсе, яшчэ пасядзелі. Праспявалі нават ваенную песню на словы Юлія, урачыста памаліліся «Путвейнам»...

І Юлія Пятровіча няма, і яшчэ на адным участку майго сяброўскага круга — звужэнне. І трэба жыць, рабіць сваё, без мітусні, без лішняй спешкі, але ж і без вялай маруды. Бо, чаго добрага, Бог возьме ды пашле лёгкі канец, як і нашаму маца́ку, нястомнаму работніку за пісьмовым сталом, рыбаку і паляўнічаму,— на хаду, знячэўку.

Яшчэ адно не так вульгарна, як у нас: аркестр духавы,

ва ўсёй сваёй вахлацкай будзённасці не грымеў. Дзве валторны і вакальны мужчынскі квартэт стаяў на могілках трохі збоку і прыход чалавека да месца супакаення сустрэў нягучнай народнай песняй. Калі апускалі ў магілу — таксама песня пад валторны, іншая.

Трэба ж было, каб такое раскошнае бабіна лета закончылася якраз напярэдадні пахавання. Язэп на могілках сказаў: «Прырода плача па тым, хто яе так любіў!..»

А сёння вось — дзявятая гадзіна раніцы — сонца зноў адсвечвае ў вокнах дома насупраць майго гасцінічнага стала...

* * *

Учора ўспомнілася прачытанае тыдні два таму назад у «Życiu literackim» пра beatyfikacje[1], якімі папа Іаан Павел II павінен быў заняцца ў Польшчы ў час свайго трэцяга прыезду на радзіму.

Першы кандыдат на святога — біскуп Міхал Козаль, у 1943 годзе замучаны гітлераўцамі ў Дахаў. Другая — шаснаццацігадовая вясковая дзяўчына Караліна Кузка, якая ў лістападзе 1914 года, недзе на Та́рнаўшчыне, не далася царскаму салдату згвалтаваць яе, вырвалася, некалькі разоў параненая шабляй, уцякала балотам, дзе і памерла ў дрыгве. Пахаваная каля касцёла, яна стала ў народзе святой, у вершах пра яе называнай «зоркай народа» і «кветкай польскай зямлі».

Рэлігія з палітыкай, вастрыём і на захад, і на ўсход, без даўнасці, актуальнае і з другой сусветнай вайны, і з першай. З першай — ці не больш актуальна. Як і будаўніцтва мноства касцёлаў на мяжы з бязбожным усходам.

«Яны там заўсёды пішуць: «паляк-католік», на першым месцы паляк. Польскі каталіцызм — гэта асобая рэлігія».

Такое — у Генрыха Бёля.

* * *

Разумна-вясёлая польская журналістка гаварыла мне пра сваю свякроў, не надта ж і арыстакратку, якой,

---

[1] Beatyfikacja — залічэнне ў божыя ўгоднікі.

аднак, вельмі не падабаецца, што цяпер, пры народнай уладзе, «не кожная пані можа мець служанку», як было перад вайной.

А таксама і пра былых «крэсавякаў» гаварыла мая суразмоўніца, пра тых, што паўцякалі з усходу і так ужо выхваляюцца страчаным панствам, што калі б паверыць кожнаму, колькі ён страціў там зямлі, дык і ўсёй тэрыторыі Заходняй Беларусі не хапіла б.

Нехта з сяброў журналісткі як быццам і прыкідваў, лічыў.

* * *

Цяжкі, як металічны, посвіст ды похруст лебядзіных крылаў — над сонечна-снежнай прасторай пляжа і далёкага лёду замёрзлай затокі. Нізка ляцелі, недалёка ад мяне. Спачатку два, на ўсход, а потым вярталіся яшчэ з двума, здалося, што два з іх — тыя, ранейшыя. А з новых адзін шэры, малады.

Адразу ўспомніў учарашняе, рана прачнуўшыся.

* * *

Часовасць, часовасць — на фоне вечнасці. Дзеці, якія жывуць, растуць, а некаторыя, што асабліва страшна, без пары паміраюць або, яшчэ страшней, знішчаюцца дарослымі... Бог мой, як гэта важна — бачыць такое ў параўнанні з вечным, з тым, што патрэбна, што важней за ўсё!.. Жыцця не хопіць, каб выказацца найлепш.

* * *

Седзячы з ім, гладзячы па галоўцы, гледзячы ў чорныя вочы, адчуўшы вуснамі святасць яго нявіннасці, да болю жыва ўявіў, як гэта выгадаваць такога, а потым атрымаць з Афганістана, а перад ім з Чэхаславакіі цынкавую труну, праз акенца якое ўбачыць — не ўбачыць тое, што засталося ад сына, ад унука...

І гэта — наша рэчаіснасць, цераз усё гэта трэба і светла думаць, і ўпарта спадзявацца лепшага. Ужо восьмы год...

* * *

«Засценак Малінаўка». Добра, многа, грунтоўна, але і цікава, і так дакладна ўсё, як успаміны саўдзельніка, нібыта ён не нарадзіўся значна пазней за той рэвалюцыйны час.

Успомнілася яго, Аркадзева, грымаса нездаволенасці, што заўсёды была на губах, на выпетраным абліччы. Яго няма ўжо дваццаць гадоў, а кніга ёсць і будзе. І яна недзе блізка ад Мележавых палешукоў, як і Лобан з яго случакамі, аднак і яна — сама па сабе.

Мележ, Лобан, Чарнышэвіч. Два франтавікі, першы адзін раз, другі двойчы цяжка паранены, а трэці — ссыльны пакутнік, «кулацкі сын». Калі я ў 1951-м быў рэдактарам яго аповесці «У адной сям'і», яму было сорак, а кніга — першая. Дый то з'явілася яна як цудам — у той час...

* * *

«Няма формы больш патрабавальнай, чым невялікая навела: на нейкім лісточку перадаць падзею не як анекдот, але як цэлае, што ажно пырскае сокам, паказаць людзей, не апісваючы іх; крызіс духоўнага жыцця, не акрэсліваючы яго словам; навакольнае, не паглыбляючыся ў яго; думку — не пракламуючы яе, і настрой — не націскаючы на яго, нарэшце, за бачным дзеяннем — перспектыву, скрытае значэнне, сімвалічную глыбіню. Гэта санет у прозе.

...У чым жа, нарэшце, маё самае галоўнае, мая сутнасць. Бадай, у лірычнай мініяцюры, невялічкай рэчы, якая склалася нібыта незнарок. Усё астатняе другараднае, якога аб'ёму яно ні было б, толькі што перыферыя. Маё быццё апраўдае толькі тая маленькая рэч».

Выпісаў гэта, перакладаючы, і думаў:

вось жа ездзіў я калісьці па Эстоніі, хадзіў па яе зямлі, глядзеў на палі і на хвалі, на домікі і дамы, і не ведаў, зусім не ведаў пра **такога** пісьменніка;

вось і будзь тут, у запісванні, арыгінальным, не паўтарайся, не адкрывай адкрытага;

вось жа так блізка гэта мне ў яго, у Фрыдэберта Тугласа, што жыў так нядаўна — да 1971 года.

* * *

Ён толькі што прыйшоў аднекуль. Як ні ціха, а разбудзіў мяне. Стаіць каля шырокага ложка ў каморы, на якім мы спім, і ціха, спешна раздзяваецца, каб хоць на трохі прылегчы. Прыплюшчанымі вачыма я як быццам сплю, мне ў паўзмроку майскага досвітку, што льецца цераз гарызантальнае акенца, відно, як яго пальцы зверху ўніз расшпільваюць гузікі кашулі.

І тут з сяней чуваць голас нашай нястомнай, строгай мамы:

— Коля, уставай!

— А я ўжо ўстаў, адзяваюся!

Пальцы яго, цяпер ужо знізу ўверх, пачалі зашпільваць недарасшпіленую кашулю.

Мне трэба будзе пазней ісці ў школу. А для яго, маладога гаспадара, наперадзе доўгі, даўжэзны вясняны панядзелак, сяўба.

...Двое кітайскіх дзетак, хлопец і дзяўчынка, малы і меншанькая, адны на тратуары, на зусім пустой і глыбокадаўжэзнай вуліцы Осла. Стаяць, цярпліва чакаюць, пакуль пакажацца, надыдзе хто-небудзь дарослы і, як належыцца, перавядзе іх.

Я гэтага не зрабіў, не перайшоў на іхні бок, не перавёў іх, бо не ведаў, што тут гэта абавязковы звычай. Падышоў неўзабаве іншы, мясцовы мужчына.

І камора наша, і нарвежская вуліца прыгадаліся мне адно за адным, убачыліся праз пяцьдзесят шэсць і праз чатырнаццаць гадоў — у Тугласа. Першае, калі чытаў апавяданне «Каханне летняй начы», другое — калі «Гутарку са сляпым». Гэтым пачаўшы свой новы дзень.

* * *

Народнае. Блізка ўбачанае і высока адчутае:

Асовае карыта
поўна вады наліта.
Пчолкі ножкі памылі,
а дзеўкі ваду выпілі.

* * *

Чытаю Расела. Галілей, Капернік... А стары загорскі Артамей казаў, што каб Зямля круцілася, дык яго хата на крутым узгорку даўно ўжо абярнулася б. І гэтай логікі яму цалкам хапала.

Сын ягоны, падлетак Іван, які рос сіратою, быў высокі, дужы і адметны. З'еўшы тоўстую лусту хлеба з вялікай, са снараднай гільзы, конаўкай малака, ён збіраўся спаць. Але ж трэба было і яшчэ адно зрабіць, і ён прасіў: «Тата, памалеце мяне!» Бухукала і жмінда Артамей гаварыў уголас пацеры, а Іван за ім паўтараў.

Са школы, дзе мы вучыліся разам, бо ён быў пераростак, на чатыры гады старэйшы за мяне, памятаю адно Іванава вынаходніцтва: чарніліцу ён чапляў пятлёю з суканай ніткі за вялікі гузік каптана, і яна матлялася, калі ён калыхаўся сваёй мядзведжай хадою.

Калі і ён, услед за старэйшым на пяць гадоў братам Паўлюком, стаў кавалерыць і купіў сабе «батарэйку», ліхтарык, бацька гудзеў на печы: «Куртуля! Батарэі! Адзін свеціць Жэні, другі Аксені!..» Сыны хадзілі на вячоркі па ўзросту, кожны ў сваю кампанію, у розныя хаты.

Іван загінуў на вайне. Паўлюк вярнуўся з ордэнамі і медалямі, не паранены. Таксама здаравенны, але яшчэ і працавіты, і вясёлы. Мы з ім прыязна сустракаліся, калі ён прыязджаў у Мінск, а я бываў у Загоры. Я і браў з яго, у «Забалоцце» (і для вобраза Гаўруся Каляды, і для Міхася Ждановіча), у запісы. Вельмі ж яму запомнілася, не раз успамінаў, як я павёў яго ў цырк... Гадоў некалькі таму назад я спытаўся, што ж ён не зойдзе ніколі, бываючы ў Мінску. «Ваня, дочкі ж там у мяне, туды трэба!..» І не адзін ён так не заходзіць, хто і заходзіў, і начаваў раней. Цяпер Паўлюк абязножыў і пакутуе, дажывае пры сыне, шафёры калгаснага грузавіка.

Во куды павяло ад Раселавай тугой філасофіі!..

* * *

Успомніўся з палону гродзенскі Цырук, рабочы кафлевага завода, пацешны хлапчына, якога я браў для характару Мішкі Веніка ў «Птушках і гнёздах». Аднойчы ён, Цырук, паказваў на «арбайтс-камандзе», як таму з нас, хто ўцячэ і дойдзе дахаты, давядзецца пабываць на допыце.

«Шпіён?!» — спытаецца бальшавік. І пісталецішча з халявы — рраз!..» Паказаў ён гэта з такой мімікай і жэстам — на той пістоль, які чамусьці, нібы разбойніцкі нож, у халяве,— што смех і сёння мне загучаў. Ад тое сілы таленту. І не толькі...

* * *

Гутарка з пажылым, спакойным хірургам. Між іншым, ён расказаў пра разадраны нос калгаснай даяркі, якую хацеў згвалціць сакратар партыйнай арганізацыі... Назаўтра яму, тады не мінскаму, а сельскаму хірургу, пазванілі «откуда следует», што трэба напісаць у гісторыі хваробы: «Па́дала і зачапілася носам»... Простае, народнае ў гэтага чалавека: «І я з такімі буду ў партыі?!»

* * *

Плюсам сабе запішу дзве сустрэчы з жонкамі арыштаваных таварышаў. У пяцідзесятым годзе з жонкай паэта Айзіка Платнера і ў пяцьдзесят сёмым з жонкай Барыса Ржэўскага[1].

Абедзве яны сказалі мне, што здзіўляюцца, як гэта я не баюся вітацца з імі, так доўга стаяць, распытваць... З першай — каля той школы на Камароўцы, у якой тады размяшчаўся інстытут замежных моў, дзе яна, ціхая, недабітая горам інтэлігентная яўрэйка, працавала талковай (ад жонкі сваёй ведаю) выкладчыцай. З другой, гродзенскай заслужанай настаўніцай, сустрэліся мы на двары бальніцы.

Успомніў гэта, чытаючы «Нікі» Цібара Дзьеры, дзе ён падобную смеласць назваў «вызывающей».

* * *

Як гэта нізка — чакаць узнагароды ад тых, каго не паважаеш, бачачы іх некампетэнтнасць у справах роднай культуры, сытую абыякавасць да яе, а то і проста варожасць.

---

[1] Ржэўскі Браніслаў (Барыс) Андрэевіч (1905—1980) — выкладчык гродзенскага педінстытута. Засуджаны ў канцы 1957 года за «беларускі нацыяналізм», выпушчаны з лагера ў 1961-м, рэабілітаваны ў 1992-м.

А то яшчэ і гуртам выпрошваць значок для кагосьці ў яго прыгорбленай прысутнасці, як гэта было нядаўна ў ЦК. «Христа ради — Героя!..»

Асуджаю другіх, але ж і сам быў не заўсёды, неназусім свабодны ад жадання быць адзначаным, узняцца над гэтым у духоўную незалежнасць.

* * *

Не ведаю, ці да канца я маю рацыю, але ўсё думаецца час ад часу, што кідаць кветкі пад ногі тым, што бралі ўдзел у вайне і дагэтуль жывуць — нешта гэта не тое, не так. Лепш на магілы або да Вечнага агню. І не кідаць таго, што трэба сціпла, урачыста класці.

* * *

Пры кожнай змене палітыкі ад пісьменнікаў патрабуюць пісаць перш за ўсё пра сучаснасць. З тым самым падтэкстам у гэтым патрабаванні. Падтэкст гэты паясніў быў Хрушчоў, з уласцівай яму прастадушнасцю:

«Мы столькі добрага, выдатнага робім, а вы пра гэта не пішаце!..»

* * *

Пра нашу прозу можна ўжо не толькі гаварыць, але і памаўчаць: няхай гавораць людзі. І гавораць!

Гаварыў пра гэта ў Варшаўскім універсітэце, на сустрэчы са студэнтамі беларускай і ўкраінскай філалогіі.

Там жа, адказваючы на пытанні, сказаў, што перад праўдай і я вінаваты: у тым, як калісьці пісаў сёе-тое нібыта сам і не поўнасцю сам.

* * *

Часам здаецца, што ніколі раней так, як цяпер, не адчуваў сябе толькі часцінкай народа, які не толькі быў і далей будзе без мяне, але і сёння без мяне абыдзецца,

і ў маіх гэта, як гаворыцца, інтарэсах, дый перш за ўсё — далучыць і свае магчымасці да яго стваральнай працы.

* * *

Чаадаеў пісаў Пушкіну па-французску, а падаецца яно ў перакладзе:

«Будьте здоровы, мой друг. Пишите мне по-русски; вам не следует говорить на ином языке, кроме языка вашего призвания».

* * *

«У вас тут проза ці ўспаміны?» Такое пытанне паэтычнай рэдактаркі і здзівіла мяне, і здалося крыўдным. Бо цану ўспамінам, **як прозе**, я чым далей, то больш упэўнена спасцігаю. Тая проза, якое ў нас, на жаль, на сум ды раздражненне гэтак мала — побач з вялай ды прыблізнай белетрыстыкай, што не можа ўдосталь нагаварыцца.

* * *

Учора і пазаўчора разбіраўся ў яго пасмяротных блакнотах. Такое адчуванне, што нібы блізкага чалавека мыеш апошні раз, калі ў яго ўжо няма ніякіх таямніцаў, усё адкрыта, а ў цябе ёсць братняе ці сяброўскае права на такі агляд.

* * *

...Пазваніў Сідарэвіч — у Міхася[1] пачалася агонія... Дзяжурства пры тэлефоне. Увечары прыйшоў Карамазаў, ад Міхася, каля якога прасядзеў дзве гадзіны. Высокая тэмпература, трызненне, «глядзіць бялкамі, нічога не адказвае»... Прасядзелі з Віктарам за поўнач. Назаўтра зноў дзяжурства. І ў палавіне чацвёртай Лена пазваніла, плачучы, што закрыла яму вочы...

---

[1] Стральцова.

6-га я быў пры ім. Калі, вітаючыся, пацалаваў яго ў лоб і, заплакаўшы, апаў вачыма ў падушку, расхваляваўся і ён. Калі развіталіся, ён сказаў: «Мне без вас нельга». А ў гутарцы нашай нялёгка было трымацца на нейкім аптымізме. Перад тым, як ехаць у Бараўляны, пазваніў Віктару, і ён параіў папрасіць Лену на спатканні пакінуць нас з Міхасём адных. Віктар думаў, што Міхась захоча, можа, сказаць мне штосьці важнае для яго. Лена разумна згадзілася, мы пабылі ўдвух з паўгадзіны, потым яна ўвайшла, і Міхась папрасіў яе быць з намі. Пры ўсёй складанасці іхніх адносін яна яму патрэбна была вельмі, і яна з пяшчотнай мужнасцю жанчыны справу сваю рабіла як след. Распластаны, парэзаны, падключаны да кропельніцы, да гноесцёку, да гумавай трубкі кармлення, бездапаможны, як дзіця. Асабліва бачыліся мне, упершыню ў жыцці, яго босыя ногі... І пры ўсім гэтым — ягоная ўсмешка. Праз усе пакуты. А колькі ж, Божа наш, адзіноты! Якое нашаму брату хапае і так.

На могілках зноў успомнілася, адчулася з новай сілай народнае: «Не плач, яго ўжо няма, гэта ўжо не ён». Тое, што ідзе ў зямлю.

А ён ад нас адарваны з крывёю. Мне горка ад таго, што я замала, засуха адказваў на яго прыхільнасць. А пра яе мне і Віктар сказаў, калі мы з ім сядзелі ноччу.

Вось так пра гэта,— праз тыдзень, зноў у вёсцы,— як не самому сабе, а для кагосьці, пратакольна...

* * *

Трагічнай самотнасці ніколі, мусіць, не бывае ў кагосьці замнога, больш чым ва ўсіх. Учора перачытваў дзённік Чорнага і зноў адчуў яго адыход, яшчэ больш заўчасны, чым у Караткевіча, у Стральцова, нават у Бечыка, а трагічны зноў жа па-свойму,— як вынік тых катаванняў, якія ён перанёс пяць гадоў перад канцом.

Чытаць такое — лягчэй, чым перажываць яго. Асабліва таму, хто быў разлічаны на вялікае...

* * *

І сваё, і чужое з любімага добра перачытваць перакладзеным на іншую мову. Неяк па-новаму гучыць, з нейкай іншай падсветкай.

Так вось у кнізе Рэнэ Слівоўскага пра Чэхава чытаю пісьмо Грыгаровіча і адказ Антона Паўлавіча. Божа наш, грэшных, колькі чалавечага высакародства! І як здорава гэта гучыць па-польску: «Za tą serdeczność, którą okazał Pan mojej młodości, niech Bóg ześle Panu spokojną starość». Ледзь не заплакаў я тут, ужо разумеючы, што гэта значыць. Захацелася паўтарыць тыя словы ў арыгінале. «Как Вы приласкали мою молодость, так пусть Бог успокоит Вашу старость...»

Чэхаву было тады дваццаць шэсць, Грыгаровічу — шэсцьдзесят чатыры. Старасць?

А кнігу Слівоўскага я купіў, каб выдаць апошнія злоты, на Кракоўскім Пшэдмесці, за гадзіну з нечым да ад'езду. А вось учытаўся і бачу, што яна цікавейшая, грунтоўнейшая, чым я спадзяваўся.

* * *

Жыццё не толькі «иль ты приснилось мне»,— калі дык здаецца, што ты яго сніш, і — у цяперашнім часе.

Падумаў так, жыва ўявіўшы, успомніўшы, як госць-унук, наш светленькі Міхась, усклікнуў, убачыўшы мяне з прыхожай у пакоі: «Дзядуля!..»

* * *

Перад дажджамі было чыста-чорнае бульбяное поле, хораша зааранае. Ды вось пагода зноў, і на гэтай шчодрай чарнаце застракацела зялёнае — бульба густа і дружна ўзыходзіць.

Яблынька, што два гады радзіла, гэтай зімой не вытрымала маразоў. Пакінулі ствалок, а з-пад кораня як заструменіў зелянінай угару тонкі парастак, ужо і роўны з пакінутым ствалом, увесь у лістах.

Колькі ўжо дзён, праходзячы міма, не магу не зірнуць, як на кіі, да якога прывязана маладзенькая грушка, жаўцеецца

перавернуты «горщик»,— паліваны, з прымітыўнымі малюнкамі на баках, з двума вушкамі, куплены калісьці ў падарожжы па Украіне.

Любуючыся ластаўкай на галінцы ў ліпе, само неяк сказалася: «Ах ты, ластуся!»

* * *

Невычэрпна гэта і невыказна — сутыкненне чысціні, нявіннасці, права на шчасце, на праўду, сутыкненне маленства з лютасцю, чэрствасцю, тупасцю, подласцю дарослых, якія займаюцца не тым, чым чалавеку трэба займацца.

Як яму пойдзе ў жыцці — яшчэ аднаму, яшчэ адной спробе даць людзям яшчэ адну заяўку на цэльнасць асобы?..

А колькі ж іх znічкамі з'яўляліся і згасалі, пакідаючы ў нашай душы дакор свайго нездзяйснення, боль і тугу яшчэ раз зганьбаванай чысціні, нявіннасці, права на шчасце, на новае праяўленне нашай вялікай праўды...

* * *

Учора з далёкага, даўняга раптам вярнуўся церпкацёплы пах толькі што змолатай жытняй мукі,— яшчэ ў кашы́, пад магутным, стрымана гудлівым каменем, яшчэ не ў моцным і чыстым самаробным мяху, куды я з каша пасоўваю тую муку, грэючы рукі і душу.

* * *

Хто куды, на каго ні пойдзе — на Полацк, на Менск, на Тураў — абавязкова «пожгоше села около его». А там людзі, а там дзеці, першыя і тым больш другія — Богу душою не вінаваты...

Успамінаецца зноў жа Леў Мікалаевіч — як ён пісаў пра гісторыю, дзе замест гісторыі народа — рэгістрацыя калатнечы і **панажоўшчына** (добра сказаў Ермаловіч!) паміж князямі ды ваяводамі.

І мы такім жа спосабам уподбежку за іншымі народамі.

Так мне думалася часамі над старонкамі Караткевіча, так думаецца і цяпер, над старонкамі маладзейшых, меншых.

А як бы ж гэта загаварыць па-новаму, па-сучаснаму, ды ўжо і па-будучаму?!

* * *

Некаторыя апосталы перабудовы, самі пра нешта модна галёкаючы, ахвотна ківаюць на тых, што маўчаць, па-іхняму — злачынна. Бяжыць такі і азіраецца са страху: ці бягуць жа за ім другія?..

* * *

Запасная сіла — заўсёды гатовыя да дзеяння стваральнікі культу, што ажно папіскваюць ды хвастамі павільваюць у вычэкванні моманту... Так мне з тэлеэкрана, у перадачы «Позиция», бачыліся К-ч, Б-к, у нейкай меры і іншыя, пасля іх вяртання з Гарбачовым з Вашынгтона.

* * *

А што, калі гэта праўда, пра што гаварыў мне калісьці, пасля XX з'езда, таварыш Г.,— як даваенныя студэнты падзараблялі, прымаючы ўдзел у катаваннях, як яны стамляліся і адпачывалі, пілі піва, а бутэлькі разбівалі... аб галаву Кузьмы Чорнага?..

І тады ж, відаць, на літаратурных сустрэчах ці задаваліся ці падаваліся сакраментальныя пытанні:

«Скажыце, як вы ставіцеся да сучаснай моладзі?»

* * *

«Чарнобыль... Чарнобыль!..» Крытыка заклікае, кавэнчыць. А бачыць яго неабходна ўвесь час. На лес, на жыта, на кветкі гледзячы. Так вось бачыць, цераз крытычныя правілы руху, можа, і можна. А калі сэрцам? Колькі ж магчыма вынесці яму? Без паўзаў, без забыцця, калі хочаце — нават без пэўнага выратавальнага атупення?..

* * *

Нядаўна па радыё паведамілі, а толькі што, па іншай праграме, паўтарылі, што ў ЗША прыдумана новая вінтоўка, куля з якое ляціць чатыры разы хутчэй і прабівае стальны шчыт.

Радуйся, хто спадзяецца на мір паміж народамі!..

Адчулася, што не я, не мы гэтыя кулі выпускаем у цэль, а нам трэба засланяцца ад іх сэрцамі і галовамі...

* * *

Проста бюракратызму ў нас няма: гэта партыйны бюракратызм. І ён не хоча сказаць пра гэта адкрыта. Як не хоча сама пра сябе прызнацца русіфікацыя, шавіністычная каланізацыя. Таўчэцца вакол эпіцэнтра гэтага набалелага пытання, агрызаючыся на мясцовыя «нацыяналізмы», якія сама яна, адкрытая ці замаскаваная русіфікацыя, і спараджае.

* * *

Гаворыцца: «Дакор усім нам». За тое, што рабілася ў жахлівыя гады. Калі дакоры за ўсіх прымаць шчыра, а не «холодным рассудком» — будзе занадта балюча.

* * *

І мы вінаваты, і нам вінаваты, і вы, што папракаеце нас, будзеце вінаваты перад наступнымі.

* * *

Пазабіваныя людзі ўсё роўна памерлі б?.. Аднак жа колькі і жаху, і болю, і плачу на ўсёй зямлі, у тым ліку і на нашай, на працягу неапісаных, сяк-так апісаных і па-сучаснаму апісаных, таксама няпоўна, прыблізна, дзесяцігоддзяў, стагоддзяў гісторыі!..

* * *

Раней нам далдонілі пра ідэйнасць, а цяпер пра праўду. Да таго дагаворваюцца некаторыя, што талент, мастацкасць, першаасновы творчасці лічаць нечым не вельмі абавязковым. Абы праўда? Як быццам яна ў нас не аднабокая. Скажам, Афганістан, дзе мы яшчэ ўсё сядзім, або паміранне вёскі, пра што мы гаворым не на ўвесь голас.

* * *

Па тэлевізары з Масквы — «круглы стол па нацыянальным пытанні». Сякая-такая стандартная гутарка. І маўклівая ўсмешка культурнага эстонца Бекмана, які можа быць спакойны за свой народ. Сказаў потым, што яны, эстонцы, перакладаюць практычна з усіх братніх моў без падрадкоўнікаў, а ў падтэксце сказанага — і роля рускай мовы, і цвёрдасць здаровага патрыятызму, якога нам, беларусам, так страшна, ганебна не стае.

* * *

«Білінгвіст» Айтматаў — ці шчыра, ці то са славутай «азиатской хитрецой» — націскае на такое вырашэнне нацыянальнага пытання: «русский язык и национальный». А для мяне мой «язык» не нацыянальны, а родны. І ўсім нам, нацыяналам, трэба кожнаму свой родны, а рускі — братні, для міжнацыянальнай сувязі. У такім парадку.

* * *

Па прывычцы правяраецца, знайшоў у Талстога («Два старика») патрэбны абзац:

«Поел мужик немножко, и старуха поела, а девочка с мальчиком и чашку всю вылизали **и завалились обнявшись спать**».

Гэта — калі падарожны, які ішоў «да прошчы» ў Ерусалім, зайшоў у мазанку ў ахопленай голадам украінскай вёсцы і накарміў зняможаную сям'ю.

А падкрэсленае мною помніцца — боская моц! — з зімы

1932—1933 года, калі я чытаў гэта ў патрапанай кнізе народных апавяданняў Льва Мікалаевіча. І часта яно ўспамінаецца, калі накормленыя мною, а то і не мною, унукі хораша, ціха ды мірна гуляюць.

Так уражвае слова, якое ідзе ад жыцця, ад належнага бачання.

* * *

Янка сеяў — людзі жалі,
А зязюлька кукавала.

Які цудоўны падзел працы! Выпадкова сустрэўшы гэты верш у яшчэ адной публікацыі, працытаванае — як быццам упершыню заўважыў. Такое бывае з сапраўднай паэзіяй.

* * *

У «Полымі» — слабая юнацкая аповесць Караткевіча «Пад снегам драмае вясна», якую сам ён не палічыў патрэбным друкаваць.

Дарэчы, што за **драмае**? З любові да Валодзі маладыя ўляпіліся за набытыя ім на вучобе ў Кіеве ўкраінізмы. **Распавядаць** — ад **росповідати**, ад чаго ў іх пайшоў і **распавед**, і прыкры наватвор **аповяд**, і **распавяду**, а то і такое ў маладой, шыкоўнай паэткі са сцэны: «Я вам **распаўю** свой верш...» Нібыта ён, шануючы вас, саграшыў у пялёначкі. Няўжо пойдзе ў шырокі абыходак і **драмае**? Няўжо наш вясёлы Ладŷсь не ведаў такога, народнага (зноў жа шануючы вас):

Ці не спіш, Акуліна,
ці не **дрэмлеш** ты,
ці не прыйдзе табе ліха —
ці не п... ты?..

Апошні радок — з унутранай рыфмай.

* * *

Заўсёды блытаю: здаецца, што трэба казаць не **цішэй вады, ніжэй травы**, а наадварот, бо вада ж наогул найніжэй, а трава шуміць не так, як нестаялая вада.

* * *

Па радыё «Славное море, священный Байкал...». I, як заўсёды, калі чуў ці спяваў гэтую песню, хвалюе, радуе спалучэнне высокай, вольнай паэзіі і самай нізавой, будзённай прастаты: «...парни снабжали махоркой».

* * *

...У які складаны, цяжкі, небяспечны час жылося, які шчаслівы лёс вызьмейваў і цябе паміж небяспекамі, які касталом трэба было прайсці, якія страты перажыць, як,— можа, і на здзіўленне — штосьці ўсё-такі зрабіць!.. Захаваць свой агеньчык, пранесці яго сяк-так праз такія гады, і яшчэ яго адчуваць, і баяцца за яго, каб свяціўся сваім святлом — ва ўсёй складанасці часу, ва ўсёй яго мітусні ды глыбокай трагічнасці, якую не заўсёды бачыш, усведамляеш...

Зрэшты, інакш, відаць, і нельга, а то можна было б і звар'яцець.

Паратунак непамятаннем? Але ж яно і прытупляе нас, робіць абыякавымі, прывучае да гэтага...

* * *

За мяжу, дзякуючы Сталінскай прэміі, я ішоў не галавой наперад, не душой, што змоладу імкнулася да святла, прагна дзівілася на жыццё, а прыблізным словам савецкага неафіта, які, вучачыся, залішне верыў іншым, а не сабе.

Што ж, і я быў «чалавекам свайго часу». I ў мяне, у маёй рабоце жыцця ёсць чарнавік і белавік. Многа рабілася і мала зроблена. I нічога ўжо не парадзіш.

* * *

Маскоўская валтузня, групавы перабрэх з узаемапакусваннем, што ў небывала вялікіх тыражах разыходзіцца па вялікай краіне, выплёскваецца цераз краі за межы яе,— як быццам у гэтым і ёсць перабудова, новае мысленне, дэмакратыя...

Колькі ўсяго трэба пераварыць, каб вярнуцца да таго самага: ведаць, выразна бачыць сваё месца ва ўсёй гэтай агромністай куламесе і на гэтым сваім месцы рабіць тое, што можаш.

* * *

Думалася, як буду адкрываць вечар Талстога.

У яго — усё тое, чаго нам сёння так не хапае: чысціня душы і самадасканаленне, любоў да зямлі, да працы, і міласэрнасць, і барацьба за мір... Блокава: «С Толстым умерла нежность». І тое, можа, што ў яснапалянскай бібліятэцы знойдзены быў «Капітал» Маркса — «испещренный пометками Льва Николаевича на полях»,— як ён не тое што не дацягнуўся да яго, як шкадуюць некаторыя, а пераступіў у вякі.

Здаецца, выкарыстаны ўжо ўсе найвышэйшыя, найцяплейшыя словы, сказаныя пра яго, а ён усё ўзвышаецца над імі, ён свеціць нам сваім словам. А мы паўтараем тыя выразы захаплення і ўдзячнасці, і яны не здаюцца нам няновымі.

* * *

Дзённік Бечыка здаецца мне больш задушэўным, чым запісы Караткевіча, якія прачытаў нядаўна. І прыемна было, што гэты сціплы, ціхі і такі глыбокі хлопец, Варлен, успомніў добрым словам і мяне.

Учора, калі я званіў Сідарэвічу, Толя разумна сказаў: «Якога празаіка мы страцілі!..» Мы толькі трацім ды трацім, а нам жа трэба жыць, нам трэба мацаваць, сцвярджаць саміх сябе — як народ, як народная літаратура.

* * *

Калі я ў шпіталі інвалідаў і ветэранаў вайны выйшаў ад хворага сябра і на вуліцы схаваўся ад гарачыні ў арыгінальнай аўтобуснай пачакальні,— нібы вялізнай пячоры, з таксама вялізным гарызантальным прастакутнікам выхаду,— у прастакутніку гэтым, як на агромністым экране яшчэ большага тэлевізара быў, убачыўся цудоўны пейзаж. Узгор-

кі пад зялёным выкалашаным жытам, кусты пералескаў, светлая яснасць блакіту і белачароўныя аблокі.

Зноў любуйся, пакуль гэта бачыш!..

Пазней, калі ў саюзе пісьменнікаў сустрэўся з Р. і ён спытаўся, як маё здароўе, я, успомніўшы многа сваіх ваенных аднагодкаў, ва ўсёй іх нямоглай шэрай піжамнасці, адказаў таварышу: «Дзякуй, цудоўна!» І не бравада гэта была, а ўдзячнае адчуванне, што я яшчэ трохі магу і што трэба рабіць сваё.

* * *

Нялёгка гэта, часамі і вельмі нялёгка, калі жаданне штосьці важнае сказаць ідзе не ад самога сябе, не зусім ад сябе, а звонку — ад просьбы, заказу. Хоць заказ гэты ці просьба, ад якіх ты не змог адпрасіцца ці адмахнуцца, у той ці іншай меры блізкі табе, твайму жаданню, намеру сказаць тое важнае, што ўжо даўно ці нядаўна, цьмяна яшчэ ці ўжо і ясней з'явілася ў тваёй душы. Пакуль як след наблізяцца, спалучацца яны — просьба, заказ і жаданне, доўга прыходзіцца... можна сказаць: пакутаваць.

Святое права старасці — пісаць тое, што хочацца самому.

* * *

Пачуў ад Радзіма Гарэцкага, што слаўны, высакародны і шматпакутны Гаўрыла Іванавіч жыццё сваё закончыў словам «Добра».

— Тата, як ты сябе адчуваеш? — спытаўся ён, шасцідзесяцігадовы акадэмік.

А бацька так звычайна, так па-свойму, так сімвалічна:

— Добра.

...Пазней я сустрэну падобнае ў Канта, які сказаў напаследак: «Das ist gut». І пазваню пра гэта Радзіму, ужо без вострага суму, а з пэўнай радасцю.

* * *

Ластаўка на галінцы ў ліпе. Які агромністы свет лістоты, духмянага, ціхага гушчару. А ў яе — маленькай, прыгожанькай — адпачынак ад ненаежнай малечы. Гняздо — зусім побач, у падстрэшшы, над маім акном.

* * *

Нашу́ ваду з суседняга калодзежа, і — ах, маленства! — зноў успамінаецца бедны, нягеглы жыдок Ярухім, які насіў у Турцы ваду сваім багацейшым аднапляменнікам, крамы якіх акружалі рыначную плошчу, «места».

Сонечная, росная раніца, і я весела думаю, як мяне цягне ў добрым настроі запісваць розную драбязу...

* * *

Учора чытаў дзіцячыя апавяданні Бялова, сёння чытаю апавяданні Кіплінга, на чарзе Плужнік...

За расчыненым акном позні ранак вялізнай палёгкі — сакавіта і вільготна зялёны, лёгка прыхмараны, такі харошы пасля той спёкі, што петрыла нас да пазаўчарашняй класічнай навальніцы і ціхіх дажджоў, якімі шамацелі ночы і з паўзамі цярушыліся дні.

* * *

Малады чытаю свае вершы больш дасведчанаму ў паэзіі і крыўдна недаўмяваю, што ён не хвалюецца. Няхай сабе не так, як я сам, аднак жа хоць бы трохі!..

А гэта ж так проста ўсё: за словамі майго верша — толькі маё хваляванне, якое другому пакуль што не перадалося. Пакуль што?.. А ў іншага каго яно і ніколі не можа перадавацца, як трэба.

* * *

Прышвін, «1930 год». А друкуецца гэта праз... пяцьдзесят дзевяць гадоў.

Вось на што асуджаешся, пішучы «для сябе».

І застаешся сучасным. Калі пішаш праўду.

* * *

Пазаўчора «Ліра» здзівіла адным сюжэтам, як быццам, спачатку здалося, і не літаратурным.

Гутарка маладой журналісткі з татарынам сярэдніх гадоў, дырэктарам саўгаса «Лідскі», Мацвеем Крыніцкім. Прыгожая цвярозасць думкі, добрая беларуская мова, начытанасць.

Для прыкладу, амаль дакладна:

**Журналістка:** «Мне так сказалі на высокім узроўні, што раней трэба падумаць не пра беларускія падручнікі для школ ды інстытутаў, а пра раддамы, пра бальніцы, якіх нам так не хапае! Як вы на гэта глядзіце?»

**Дырэктар** (трохі падумаўшы, як і пасля кожнага пытання): «Гэта чыстая дэмагогія. Пры чым тут выдаткі, грошы, калі трэба ратаваць жыццё народа — яго мову? Каб вам сказалі: дай дзесяць тысяч, дык будзеш жыць, няўжо ж вы думалі б пра грошы? Не хапіла б сваіх, дык пазычылі б!..»

* * *

Сярод вучнёўскіх запісак было і такое пытанне: «Пасля якога твора вы адчулі сябе вядомым?» Адказваў не надта ўдала. А потым, адказваючы зноў жа пра тое: калі я пачаў пісаць, сказаў, што ў шостым класе, і дадаў:

«Вось тады іменна я быў найбольш вядомым — у сваёй школе».

І разам са слухачамі засмяяўся.

* * *

Калі мне было дзевятнаццаць-дваццаць гадоў, калі я араў, касіў, малаціў, штодня ведаў стому, аднак мог улетку ўстаць на світанні, перад выхадам у поле, а ўвосені засядзецца далёка за поўнач, каб тады пісаць,— відаць, у тыя часіны я, аўтар «Марылі», «Зладзеяў», «Як маленькі» і іншага, быў у поўнай, заслужанай меры народным. Ужо без двукосся.

* * *

У маленстве ды малалецтве, ад бацькоў, сямейнікаў, суседзяў, сваякоў, калі да мамы прыходзілі **скудзельніцы** (з кудзеляй, прасці і гаварыць, гаварыць...), ■ да бацькі мужчыны-вячорнікі, што пабывалі ў розных кутках неўявіма вялікага свету,— як самавіта, важка, смачна гучалі мне ў іхніх размовах

**прозвішчы:** Булдык, Кукарэка, Гіга, Цаба, Хавуста, Худоба, Чычук...

**імёны жаночыя:** Настуля, Аршуля, Маланея, Аўдоля, Югася, Тэкля, Юста, Віліта, Палуся, Мартося...

**імёны мужчынскія:** Віталь, Баўтрук, Ананік, Янка, Калінік, Артамей, Цупрон, Навум, Аўгей...

І раптам скрыгане імя — Ізыдор, прозвішча Кяргет, мянушка Нíгрыс, да сэнсу якое так і не дабрацца.

І многа было ва ўсім гэтым таямнічасці, паэзіі, мілагучнасці, што адгукаецца ў душы і сёння. Зямным і родным. Ці родна-зямным.

* * *

Пісаць так, як я пісаў на самым пачатку і як пішу цяпер,— што хачу і як хачу,— добра гэта, прыемна, лепш сказаць: радасна. Юнаком я хацеў друкавацца, хвалююча марыў пра гэта, а цяпер, як ні дзіўна бывае самому, з гэтым спяшацца не цягне.

Хоць, калі ўжо зусім шчыра, бывае і сумна. Нібыта я адбываю пакаянне за тое, што шмат друкаваўся, ідучы на кампрамісы, пішучы не заўсёды зусім па-свойму.

Успомнілася, як я туга, са стратамі ішоў у першую кнігу

са сваёй праўдзівасцю, наіўнасцю, пісьменнасцю ад народа, мастацкага слова і Тарашкевіча...

А днямі цёпла згадаў рукапіс «Алеся», з якога потым вылушчыўся «Сірочы хлеб». У Мінску пагляджу і той рукапіс, і іншыя з самых першых,— каб дыхнуць тым свежым паветрам.

* * *

Раздражняе ўжыванне рускімі ў сваім кантэксце ўкраінскага «самостійно», замест «самостоятельно», з нейкім ціхацынічным намёкам на нацыяналізм.

* * *

Шчыры ўсплёск любасці ў Васыля Сыманенкі: «Вкраінонько!» А я аднойчы на Дняпры, выйшаўшы раненька на пустую палубу, не стрываў: «Украинище! Красотище!..» (Папракніце, што з ходу не знайшоў такога на роднай мове...)

У Чаркасах на могілках не зусім маладая красуня артыстка ледзь стрымлівала плач — губы дрыжэлі і вочы поўныя слёз,— чытаючы каля помніка з пакладзенымі кветкамі яго верш. Другі прачытаў Іван Драч.. А я ўспомніў тады прысланага мне Сыманенку.

І вось я чытаў яго сёння больш — вершы і прозу. Таленавіта і нямала зроблена за дваццаць восем гадоў жыцця. Асабліва моцна тое, што найпрасцей ды найшчырэйшае, ад перажытага, адчутага перад гэтым. Ёсць і слабое, «публіцыстычнае», з пэўнай рыторыкай.

І як гэта кожны, няхай сабе найталенавіцейшы, не абыдзецца без слабога, слабейшага? Штосьці заканамернае, нармальнае.

Хоць мы і кажам — з любові — пра Багдановіча, што ён пісаў «адразу выбранае».

Так і ў Таўлая,— вакол стрыжнявых рэчаў і слабейшае, а то і слабое, чаго ён, нашто ўжо руплівы ды нетаропкі, не здолеў выграніць да свайго ўзроўню ў найлепшым.

Тыя, што адышлі заўчасна, трагічна ўзбагаціўшы, упрыгожыўшы родную літаратуру.

* * *

Усю халодную раніцу чытаў Плужніка, вершы, паэмы і цікавапатрэбны каментарый. Талент, праца, культура. І ўвесь час не выходзіла з памяці прачытанае ўчора ў прадмове. Як ён, трыццацівасьмігадовы, што мог бы пажыць, папрацаваць, паміраў у салавецкай лагернай бальніцы і ў сваю апошнюю раніцу папрасіў у маладога санітара, таксама асуджанага ўкраінца, прынесці яму халоднай вады. «Я вмиюся, пригадаю Дніпро і вмру». Памыўся, выцерся прысланым з дому родным палтаўскім рушніком, лёг, схаваў рукі пад коўдру і, калі зямляк-санітар вярнуўся, вынесшы місу з ужытай вадой,— убачыў, што паэт памёр.

Як гэта добра, што той Мыкола дажыў да часу, калі змог расказаць усім нам пра гэтую святую смерць!..

* * *

Разам з Плужнікам судзілі і аднаго, так сказаць, негістарычнага, і знаёмага і мне пісьменніка — Аляксандра Кавіньку. Прыемны стары. Ды вось жа другі дзень успамінаецца, як ён,— разоў некалькі бачыў я гэта і чуў,— чытае сваю сатыру і гумар і, перш за ўсё, смяецца сам... За ім успамінаецца Сцяпан Алійнык, таксама заўсёды задаволены сваім сатырычна-гумарыстычным словам, упэўнены ў яго сіле і неабходнасці. Тым больш што і афіцыйна такая сатыра ўхвалялася,— часта яго лёгкія фельетонныя вершы друкавала сама «Правда», строга дыетычная ў адборы літаратурных публікацый. А да таго яшчэ і ордэн Леніна атрымаў. У падарожжы па Беларусі спыніўся быў у Мінску і паказаў мне той свежанькі ордэн, выняўшы яго з кішэні (і такая сціпласць) і радасна сказаўшы: «Ось що дають у наш час за сатиру!..»

І ў нашага Макаёнка было такое самаздавальненне, чым бліжэй ішлося да прыдворнасці. Хоць і Андрэй, вядома, як і згаданыя старэйшыя аднажанравікі, чуў, чытаў, ведаў, што самому смяяцца раней за слухача — толькі трэцяя, апошняя зверху ўніз ступенька значнасці сатырычнага слова.

* * *

На Дняпры, на палубе цеплахода.

Былы дысідэнт, нестары, але сівабароды ды неяк падухоўнаму валасаты паэт-філосаф гадае па далоні госцю з братняй рэспублікі.

— Жінкам давав прикурити...

Здольная пісьменніца, тыпова дародная, чарнявая ўкраінка, седзячы побач, з мілай міжвольнасцю дадае:

— А вони були некуряшчи.

* * *

Успомніўшы штосьці вясковае смешнае: ну што ты зробіш з гэтым народам!..

У Юрмале санаторная масажыстка, талковая, вясёлая зямлячка, не толькі з Беларусі, але і з Наваградчыны, пытаецца, чаму гэта пан Пілсудскі распарадзіўся так яго пахаваць: сэрца ў Вільні, мазгі ў Варшаве, увесь футарал у Кракаве?..

Сказаў ёй, як у той далёкі час гаварылася,— што ў Брэсце была пахавана і яшчэ адна ягоная дэталь...

І тут яна молада, разумна засмяялася.

* * *

Некалькі дзён па тэлебачанні Рыжкоў — без сваёй усмешачкі, якая ўжо даўнавата пачала раздражняць. Сур'ёзны, засяроджаны, шчыра ўзрушаны жахам і болем твар. А ўчора, калі ўжо не ў гарадах Арменіі, не на іх руінах, а ў вёсках, разбураных і трохі цэлых, пакінутых на пяць дзён без належнай увагі, ён выглядаў яшчэ больш чалавечна.

Баба-армянка дзякавала і прасіла, руку цалавала, а тады абняла яго, менш думаючы, што прэм'ер, больш чалавека абняла, таго, што хоча і можа дапамагчы, і стала яго цалаваць. І ён не проста шчокі ёй падстаўляў, але і сам — так звычайна, па-чалавечы, па-братняму, а то ледзь не як вельмі дарослы, вучоны, але і разумны сын, пацалаваў яе, і яно было так зблізку выразна, што я — адзін перад познім тэлевізарам — заплакаў...

Не страціць бы нам, не развеяць у тэарэтычных абст-

рактнасцях, не ўтапіць у балоце абыдзёншчыны тыя пачуцці, тую мудрасць агульналюдскай адзінай сям'і, якая бачыцца, адчуваецца сёння... Тут ужо я яго, Рыжкова, бачу на прэс-канферэнцыі, дзе ён, затузаны ўбачаным, пачутым, перажытым у штодзённай бяссонніцы, выступае перад сваімі і замежнымі журналістамі, сур'ёзна гаворыць тое, што ўсе мы сёння адчуваем.

Два самалёты — наш, з салдатамі, што з Прыбалтыкі ляцелі, і югаслаўскі, што са Скопле, дзе так разумеюць бяду ад землятрусу,— разбіліся на падыходзе да Ерэвана. Дзве ахвяры, два дапаўненні... У безымяннай (для мяне) вёсцы помнік салдату ацалеў, яго паказалі. І нехта з журналістаў так натуральна разумна сказаў, што побач з гэтым помнікам павінен стаць другі — настаўніку мясцовай школы, які выратаваў пятнаццаць дзяцей, а сам загінуў пад яшчэ адным абвалам.

* * *

Сорак пяць год будзе ўвосені, а яны ўсё бачацца мне — пара танцораў у раённым клубе.

Партызан, здаравенны, рахманы хлапчына з поўнай чагосьці палявой сумкай на азадку, пад шынялём, ад чаго ён выглядаў яшчэ больш гарбатым пры сваёй дужай сутуласці. І невысокая, спрытная, з панадна пышнымі «формамі» местачковая весялуха. Вальс «Ночь светла» (каронны ў нашага акардэаніста) і тая дзяўчына — так шчасліва адкінутая ў руках партнёра торсам назад, з песеннай усмешкай пад чароўную мелодыю. Ён — з вёскі, дзе ў іншых хлопцаў пастраляны сем'і; яна — з мнагадзетнай, беднай местачковай сям'і, пры немцах недзе трохі працавала, каб не вывезлі ў Нямеччыну.

Клуб так нядаўна быў клубам у паліцаяў, куды і немцы заходзілі. Трэба думаць, яна і там не сядзела ў закутку. Цяпер кавалеры другія, а дзяўчаты ў большасці тыя самыя, толькі некалькі партызанак ці нейчых сёстраў з ляснога сямейнага лагера. Моладзь сышлася ў законным жаданні шчасця, аднолькава аднаго для ўсіх, на ўсё жыццё. Без усякай палітыкі, сабраныя толькі цягай, патрэбай узросту.

* * *

«У верасні трыццаць дзевятага мы вам працягнулі руку братняй дапамогі!»

«А мы вам на гэтую руку палажылі аполак сала».

Мінск у гады акупацыі і ў пасляваенныя гады трымаўся на заходнебеларускай вёсцы. У саракавых і ў пачатку пяцідзесятых, калі са страху ці з адчаю перад калектывізацыяй сяляне прадавалі сваю жывёлу мясам — на мінскіх рынках.

* * *

Чытаючы Шаламава, успомніў Колю Смалянку («Уступленне ў рэквіем»), з яго апошніх дзён:

«Не вер ім, усё ў іх няпраўда! Накалаці на хлеб і маўчы! Нікому, нічому не вер!..»

Праўда, гаварыў ён ужо зусім без клічнікаў. Толькі прасіў.

І гэта той, хто ў сваёй вясковай, заходнебеларускай маладосці так верыў. І катаванні ў пастарунку перанёс нязломна, і суровыя Уронкі, а там, куды імкнуўся — страціў усё...

* * *

«Што, вы не можаце партыі дараваць? Партыі?!»

І так гаварылася пасля XX і XXII з'ездаў, у адказ на абурэнне сталінскімі рэпрэсіямі. І пачалі «дароўваць» — да новага абурэння. Дваццаць гадоў новай затхласці, «застою».

Аднак і зноў жа трэба дароўваць, нацiскаць на тое, што перабудова — зверху. Як быццам Верху таму не трэба пакаяцца перад тым, што сапраўды найвышэй — перад народам, перад сумленнымі, на кім яшчэ і трымаецца разумны сэнс жыцця.

* * *

Называецца лічба, скажам, 2731 чалавек. І, можа, якраз гэты апошні, што вытыркнуўся з круглай лічбы, перашкаджаючы закругленню, таксама твой сябар, таварыш, брат.

* * *

Як і кожнага году, калі яна жыве ў Мінску, па тэлефоне віншаваў сваю равесніцу з Новым годам. Пагаварылі пра сучаснасць.

**Я:** «Дагаспадарыліся — ужо і жаваранкаў не чуваць над полем!..»

**Яна:** «Ага. Над могілкамі толькі і пачуеш...»

У яе сёлета напрадвесні памёр дарослы сын. Яна там часта чула жаваранкаў. На гарадскіх, вялікіх ды без хіміі.

* * *

І сын, і ўнук ягоныя — даўно на трактары, можа, каторы і лаўрэат, і дэпутат, а можа, і п'яніца,— і такія яны, аратыя,— а я ўсё бачу яго самога. На плузе ў баразне, за стомленым канём, таксама стомленага, задумана шэрага... Сядзіць. Пакуль там недзе — далёка, высока, у багатых і яшчэ багацейшых залах — за яго, імем яго вырашаюць ягоны лёс, нешта прыдумваюць новае. Тыя, што не аруць і не сеюць. Яго і няма, і ён ёсць. Я яго бачу, бачанне гэтае час ад часу вяртаецца. З даўніны ў сучаснасць, у вечнасць такую...

* * *

Хлеб за мяжою купляем, у пустыню ператвараемся, а ён глыбакадумна піша, што вясковая тэма ў нашай літаратуры аджыла, перажыла сябе, яе трэба, маўляў, закрываць...

А хлеб патрэбен, рабіць яго вучыцца трэба — у самым шырокім сэнсе, з маральным перш за ўсё? Пачынаць вясковую тэму нанава трэба? Ці ўсё ўжо — усе канчаткова пераб'ярэмся на асфальт, пяройдзем на тэму нібы вышэйшую — гарадскую?..

* * *

Летась у бальніцы адзін піжамісты пенсіянер па-філасофску даводзіў мне, што з Афганістанам нашым гэта — як у Пятра Вялікага: той высек акно ў Еўропу, а тут трэба выхад да Індыйскага акіяна...

Пазаўчора ў электрычцы капялюшны дзед-сібірак (ехаў на зяцеву дачу) бурчэў супраць таго, што «сёння Курылы японцам, заўтра што-небудзь кітайцам, тады яшчэ нешта каму на Захадзе — усё можна раздаць!..»

Імперыялізм у нізах. А мір — ліха з ім? Ужо не кажучы пра справядлівасць...

З тым, што ў бальніцы, я яшчэ трохі паспрачаўся, а з вагонным не захацелася — не паможа.

* * *

«Ён з мяса і касцей». Часта здзіўляюся ў душы: як можна так па-мясніцку гаварыць пра Чалавека — адухоўленую істоту?! Відаць, гэтае здзіўленне, недаўменне ад таго, што тое, з чаго складаецца наш арганізм, «вместилище духа», можа быць таксама і ежай. Для людаеда. А нам пра «мяса і косці» нагадваюць тыя жывыя істоты, якіх мы грызем і жуём.

* * *

Учора позна ўвечары з пэўным болем і жахам уявілася, што ўсё наша тое, што называецца чалавечым жыццём — то больш, то менш густая сетка клопатаў, мітусні, варажнечы, сяброўства, любові, творчасці, распусты — тое, за чым затоены цемра і холад чорнага небыцця, куды мы час ад часу заглядваем, калі прыходзяць няшчасці, беды — асабістыя: забойства, самагубства, згвалтаванне або агульныя: землятрус, эпідэмія, вайна... Убачым страшнае, жахнемся, а потым зноў у тую сетку, за сваё — так званае жыццё...

* * *

Па тэлевізары — кадры пра канец Чаўшэску і яго «разумнай» жонкі.

Пара старых людзей — проста старых людзей — у перадапошнія хвіліны. А потым — шмякнуты на нейкі друз нягеглы труп у чорнай зімовай вопратцы, і твар, скручаны ў апошняй грымасе твар таго, што так нядаўна шэсць гадзін нібы з паднебных вышыняў даводзіў свайму народу, як яму

добра пад такою ўладай, а нейкія прадстаўнікі таго народа шалелі ў воплесках і вернападданых крыках захаплення...

Успомнілася цэлая калонка ідыёцкіх эпітэтаў у пазалеташняй польскай газеце — пра веліч і любоў да гэтага трупа на друзе,— эпітэтаў збоку смешных, а там, у Румыніі, рэальна-надзённых, якімі ўлашчвалі тырана, як нашага ў свой час...

Кантраст знешняга і глыбіннага, што ёсць і ў нас цяпер, і невядома, у што яно выльецца,— ці ад добрага ў лепшае?..

Эпітэтаў ужо няма, але былое яшчэ вытыркаецца, пагражае...

* * *

Смерць Сахарава. Адчуванне не растлумачыш нават самому сабе, аднак яно вернае — адчуванне таго, што ва ўсім нашым сённяшнім вар'яцкім жыцці ёсць жа нешта і найважнейшае, на што толькі і можна абаперціся. У яго яно было, з гэтым ён і пайшоў у гісторыю.

А цяпер пачнецца асэнсоўванне яго подзвігу. Ужо і пра сем «вопиюще несправедливых» гадоў горкаўскай ссылкі загаварылі, пра яго мудры і смелы пратэст супраць афганскага злачынства...

Глядзеў на Гарбачова, Лук'янава ў прэзідыуме з'езда, пакуль прамаўляў Варатнікоў, і думалася: а каб пасланць Гарбачову запіску: «Ну што, цяпер вам будзе лягчэй?..»

Бо і ён жа не даваў Сахараву гаварыць, дагаворваць тое важнае, што таму ясна, высакародна бачылася...

* * *

Немаўля, зачараванае агеньчыкам свечкі, хоча ўхапіцца маленькай рукой за гэты цуд. І апякаецца, і плача ў горкай нечаканасці крыўды. **Пачатак.**

Трымацца за грамніцу, бачыць яе агонь — можа, ад гэтага і лягчэй. **У канцы.**

* * *

Днямі неяк па светла-вячэрняму падумалася, што вось мяне спачатку не было, потым не будзе, а нешта ўсё-такі ад мяне застанецца. Нешта патрэбнае, чаго ў людзей раней не было, а што пабудзе ці будзе.

* * *

Чытаючы рукапіс Калюгавых «Пустадомкаў», дзе пра пачынаючага паэта, успомніў, як я ў раннім юнацтве — і неаднойчы — даходзіў да адчування, што калі не стану пісьменнікам, дык мне наогул няма ў жыцці — страшэннае няма! — анічога...

* * *

Казка «Воўк і сабака», знаёмая са школы, па беларускай чытанцы. Прымітыўны рысунак зімовай начы: апроч сабакі ды воўка — белы ўзгорак і хаты з белымі стрэхамі пад цёмным небам.

І зашчымела цёпла на сэрцы — дзіцячай загадкавай радасцю.

* * *

Як маці сеяла муку, а мне, маломy, прыгаворвалася: «Па́кі, пакі, пакі!» — калі яна паляпвала далоньмі па абручы сіта. Я ўжо чуў гэтае «пакі» з малітваў у царкве і ў маміных дома і ведаў, мусіць, што гэта — «яшчэ».

Потым яна ад «пакі, пакі» пераходзіла да «сею, сею, сею!», хутка-хуценька сеяла на стол духмяную муку.

А мне было так добра ад гэтай светлай, хлебнай музыкі.

* * *

Раніца ў парку. Малая тэпае да лужынкі на асфальце, з намерам уступіць у яе. Маладая мама папярэджвае гэта нястомным, шчаслівым настаўленнем «не лезці ў вадзічку».

**Вадзічка** гэтая не здаецца мне сентыментальнай. У свядомасці ўзнікаюць тры словы: **дзіцячая радасць бачання.** У іх жа і сонейка, і траўка, і іншае ўсё, імя чаму — жыццё.

* * *

Даволі часта і даўно, ці не з даваеннага часу, калі я ўпершыню прачытаў «Плоды просвещения», успамінаюцца словы старога камердынера: «А тоже была хорошая, тоже мать родила, лелеяла, выращивала...» Цяпер выпісваю гэтыя словы, для большай акуратнасці (як сказаў бы Федзя Янкоўскі) з кнігі, і прыемна, што памятаю іх, як аказалася, дакладна. А з пераліку дзейных асоб хочацца запісаць і тут паталстоўску значнае: «человек умный и добрый»,— пра гэтага камердынера.

«Родила, лелеяла»...— як гэта дакладна, як мера, крытэрый, напамін пра тое, што кожны чалавек, як бы нізка ён ні апусціўся, заслугоўвае на зразуменне і літасць, што кожнага чалавека, якога крыўдзяць або бэсцяць, трэба, варта пашкадаваць.

Узяўся запісваць гэта, убачыўшы ў газеце здымак непрыгожай дзяўчыны, якая на сваім месцы добра працуе, а шчасця, можа, яшчэ ўсё чакае. Часцей за ўсё тыя словы «умного, доброго» чалавека і ўспамінаюцца ад сутыкнення з крыўдай жаночай.

* * *

Раптам успомніў, уявіў самога сябе ў пракосе, роснацерпкай раніцай, калі яшчэ тычкі ледзь відны ў світальным прыцемку,— нармальны пачатак дня ў касавіцу.

І — разам з тым — успомніў, як мы днямі ўязджалі ў Беражан і шафёр аўтобуса голасна засмяяўся на групу мужчын, якія — у дзесяць з гакам гадзін — перад пачаткам калгаснага працоўнага дня гуляюць каля лаўкі ў карты. У «дурня», на выкідку. Адны, шасцёх, гуляюць, іншыя стаяць, чакаючы свае чаргі, і каменціруюць з гучным матам і поўнай зацікаўленасцю...

Падумалася: не абражайце былую, сапраўдную працу, якую ведаю і я,— не абражайце «працай» сённяшняй!..

* * *

Арэшчыха пра Багушэвіча:

«Яго польскія вершы слабыя, але беларускія, на маю думку, па меншай меры выдатныя».

Таксама можна сказаць пра польскія вершы Купалы і рускія ў Коласа. І ў Багдановічавай рускай мове, і ў вершах (самаперакладах), і ў прозе мне заўсёды адчувалася пэўная малакроўнасць. Хоць яму з роднай мовай, здалёк ад яе, было найцяжэй.

* * *

Для каго пішаш?.. Цяжка ўяўляць так званага шырокага чытача, тым больш беларускага, яшчэ тым больш — будучага. Пішаш, спадзеючыся, што ён будзе, верачы ў гэта, пішаш па абавязку, з адчуваннем яго, ледзь не інстынктыўным.

* * *

Каб не згубіцца, не разгубіцца ў процьме таго, што ўжо было і сказана, і паўторана, і зноў паўторана, трэба трымацца аднаго: я гэта бачыў сам, гэта чуў з першых вуснаў, ад таго, каму веру, гэта я думаў, адчуваў — я сам, і толькі гэта хачу, магу, павінен расказаць.

* * *

Як ні марудна пакуль што разгортваецца наша нацыянальнае адраджэнне — ужо адчуваецца, што нас усё больш ды больш, і трэба думаць пра свой удзел, сваё месца сціпла, як пра месца ўдзельніка на сваім участку, работніка, які не павінен драмаць, каб не адстаць ад агульнага працэсу.

Пра гэта думаю даволі часта і часам з трывогай.

* * *

Аднабокасць у нашым «аўтэнтычным фальклоры». Пагледзеў у Доме літаратара Гродзенскую, Мінскую, Магілёўскую вобласці, а потым, па тэлевізары, раскошна далі Стаўбцоўшчыну, з заходам у Налібоцкі край. І скрозь — старыя цёткі ды бабулі, пацешна тоўстыя ў нашантыраных «нацыянальных» спадніцах, але лёгкія ў скоках, у большасці з палатаным, калі па-польску, «узэмбе́нем», то і прастадушна шчарбатых. Калі працавіта спяваюць то не зусім народнае, то народнае да слёз. Два-тры мужчыны, незаезджаныя скакуны ці спевакі амаль на поўны, нармальны голас, а то ўсё жанчыны, жанчыны, як і ў полі. Таўлай успомніўся: «старэюць людзі, хаты»... Хат і новых нямала, а вось народнасць наша старэе.

Было б і зусім сумна, каб не тое, што паглядзелася на заканчэнне прагляду: фальклор самога Мінска. Студэнцкі «Неруш» і напалавіну дзіцячы «Госціца» — гэта ўжо спалучэнне народнасці з культурай, што радуе па-свойму, ужо і красой маладосці, і мілатой (па Скрыгану) маленства.

Агонь трэба несці!..

* * *

Здаецца нават і тэмай: надрукаваны ў раённай газеце пералік загорцаў, што пагінулі ў вайну, нашы — з тых суайчыннікаў, якімі, як чытаў нядаўна, трупамі якіх была завалена Германія. Трыццаць чалавек, за прозвішчамі якіх, датамі нараджэння і смерці стаяць іх вобразы, з мянушкамі і асаблівасцямі характараў.

Сябры майго маленства і старэйшыя, каго я назіраў змалку. Пра некаторых і пісаў ужо: пра Казака-Паганчыка з «Золаку...», ён у спісе першы — Анцух Іван Сцяпанавіч, пра Чэпдрэпа адтуль жа, які тут Бабарыка Іосіф Кандратавіч, пра Гаўрусёвага Мечыка — Мікіту з «Марылі», а таксама Ёсіпа Ярмоліча ў «Байдунах», а тут, у спісе, ён Валасевіч Вячаслаў Самуілавіч... Пра іншых не пісаў, але помняцца яны жыва і сімпатычна, і назваць іх я мог бы шмат. І не толькі з Загора, а і з іншых вёсак наваколля і з Турца, як цэнтра нашага сельсавета. І пра многіх мне ёсць што сказаць, і хацелася б...

У нас па двое загінула ў трох хатах. А ў суседніх, мен-

шых Чыжыноўцах з адной сям'і — усе тры сыны. Галэцкія. Наймаладзейшы — Валодзя, з якім я і юначыў разам, і ў польскім войску разам служыў, і ў палоне быў нейкі час разам, і ў акупацыю ён быў у сувязі з нашай разведкай. Над ім — два старэйшыя: здаравенны, падслепаваты і ў нейкай меры інтэлігентны Мікалай, і менш вядомы мне Іван, былы падпольшчык і пакутнік у польскай турме.

Газетка (малая памерам) надрукавала спіс гэты ў некалькіх нумарах. Калі памножыць забітых з адное вёскі на некалькі дзесяткаў вёсак нашага раёна, а тады яшчэ на сотню з нечым раёнаў рэспублікі, дадаць гарадскіх,— Божа моцны, колькі загінула толькі ў адной Беларусі!..

* * *

Сахараў — адчуванне віны за бацькоўства вадароднай бомбы. Ці былі ў яго такія пакуты? Пэўна ж былі. Талстой, здаецца, у «Круге чтения», цытуе дзённікавы запіс старога Бісмарка: «Тяжело у меня на душе...» Многа людзей загінула ад яго кіраўніцтва. Нават у Бісмарка такое. А пра Сахарава гаворыцца толькі як пра падзвіжніка, ледзь не святога...

Думаў пра гэта, пачаўшы з учарашняга артыкула ў «Правде» пра Сяміпалацінскі палігон.

Які з першых выбухаў — «курчатаўскі», атамны ў сорак дзевятым, ці вадародны, «сахараўскі» ў пяцьдзесят трэцім,— бачыў палкоўнік Коля Мартынаў, які расказваў «між намі, сябрамі», як тады ў наваколлі паслеплі вярблюды, як запрошаныя на выпрабаванне вышэйшыя афіцэры, і лётчык-ас Мартынаў у тым ліку, пасля выбуху павыходзілі з бункераў і моўчкі пайшлі, паехалі адтуль і пры першай магчымасці страшэнна напіліся...

Потым падлічана было (і, вядома ж, з карэкцыяй), што за чатырнаццаць гадоў выпрабаванняў у трох бліжэйшых казахскіх раёнах было апраменена дзесяць тысяч людзей.

І ўсё гэта ішло «між іншым»?..

* * *

...И помощи просят страдальцев уста,
Один у Аллаха, другой у Христа...

Як толькі прачнуўся ў палавіне шостай, зноў падумалася, што гэтыя радкі Апухціна, якія заселі ў памяці з ранняга юнацтва, згадаліся не так сабе, а ў сувязі з тым, што робіцца «в песчаных степях аравийской земли»...

Учора — «дзень малітвы» ў ЗША. «За мір», за тых, хто **там**, зноў жа — **за сваіх.**

Як і мы цяпер, як быццам неяк апамятаўшыся, гаворым пра тысячы дарма забітых і пакалечаных у Афганістане — **нашых...**

А тыя, што гінулі там ад нас, што гінуць цяпер у Іраку?..

* * *

Ездзілі з Шурай у Карэлічы, наведаць у бальніцы яшчэ дваіх маіх пляменнікаў, а яго дваюрадных. Пасядзелі ў іх каля гадзіны, дзеля чаго былі ў падарожжы цэлы дзень, і адчуванне было такое — мы гаварылі пра гэта,— што вось і зрабілі тое, што трэба.

Я нават Хрыстова прыгадаў: «Я быў хворы і вы не наведалі мяне...» Як адно з найважнейшага, праверка веры справай.

Успомніўся мне добры, ціхагалосы, усмешлівы Алесь Пальчэўскі, калі ён прыходзіў да мяне ў бальніцу, скажам, са слоікам мочаных брусніцаў, думаючы пра мой пратрамбін, а думанне гэтае — ад яго чыстай, высокароднай душы, ад жадання чалавечай блізкасці.

Дарэчы тут успамінаецца, як ён, Алесь, выступаў аднойчы ў нейкай школе разам з Героем М., а потым расказваў, як у таго героя, раскормленай, расхваленай пачвары, вучні спыталіся, ці былі ў яго атрадзе (ці брыгадзе) дзеці. «Былі, вядома». І расказаў пра дванаццацігадовага хлопчыка, які прыйшоў да іх, і яму прыдумалі такое выпрабаванне: забіць свайго дзядзьку, якога падазравалі ў сувязі з паліцыяй. Калі малы адмовіўся, яго «шлёпнулі разам з тым дзядзькам»...

Расказваючы гэта, Алесь плакаў. І я не асмелюся назваць гэта сентыментальнасцю, у чым Набокаў абвінавачваў Дастаеўскага, пра што я з гадзіну таму назад чытаў у студзень-

скай «Literaturze». У Алеся было зусім іншае, чыстае, яго чуллівасць ішла ад выпакутаванай чалавечнасці. Ды і ў Дастаеўскага, таксама ж пакутніка, з «сентыментальнасцю» было глыбей, чым гэта паддаецца тэарэтызаванню, хоць бы і на набокаўскім узроўні.

* * *

Улетку на прывакзальнай плошчы. Маладая, а можа, і маладжавая жанчына, відаць, у чаканні свайго цягніка, стоячы на адным месцы, навыплёўвала на асфальт цэлую кучку сланечнікавай шалухі. Прыбіральшчыца, пажылая цётка з мятлой і саўком, спынілася побач і пачала дакараць, нягучна і разважліва: «Вось урна каля вас, няўжо нельга туды?..» Збоку трэцяя жанчына нейтральна ўмяшалася з нашай савецкай філасофіяй: «Гэта ж ваша работа — тут падмятаць». І тая сваё, таксама як і пачала, памяркоўна: «Работа, дык работа, а сумленне дзе?..» Першая з іх, тая, што насмеціла, стаіць сабе ціха, як удой аддаўшы, поўна-румяная, ногі расставіўшы, і толькі, здаецца, ці то аблізваецца, ці нават і аддзімае. Нявінна і спакойна.

А побач — хлопчык, ці не сын яе, глядзіць і слухае, беручы «наглядны ўрок» жыццёвай мудрасці.

* * *

Ужо ў нас і педэрастыя — «инакомыслие», ужо і на сустрэчы з паважаным дзеячам (не памятаю, з кім, ды справа тут не ў гэтым) дзяўчына нейкая, не «старая дева» з адчаем у душы, а маладая, нават маладзенькая прылюдна, па тэлевізары, на ўвесь свет, зусім сур'ёзна пытаецца ў таго дзеяча, што ён думае аб... праве на лесбійскае каханне. Таксама ж «инакомыслие»...

* * *

Не магу зразумець: адны збіраюць грошы, карыстаючца людской міласэрнасцю, заклікаюць да яе — дзеля таго, каб другія бралі шэсцьсот долараў за суткі ў бальніцы, дзесяць тысяч за аперацыю...

Дзяўчынку, да лёсу якое і мяне пэўным чынам далучылі, павінны былі аперыраваць не ў Амерыцы, а ў Вільні, і на гэта трэба было сабраць дзесяць тысяч рублёў (леташніх, з дзевяностага года) і тысячу долараў.

«Рыначныя адносіны» ці проста бесчалавечнасць?..

* * *

На сустрэчу з Гарбачовым у Акадэміі навук, калі мне далі запрашэнне, пайшоў з жаданнем хоць раз, а можа, і «пакуль не позна», пабачыць яго не на тэлеэкране. Пімен назаўтра напісаў мне, што сядзеў я там, «як сфінкс», а я толькі што адказаў у тым сэнсе, што інакш і нельга было сядзець, слухаючы і не могучы зразумець, чаго ён хоча,— падношаны і разгублены чалавек, які ўсім, ад акадэмікаў да веткаўскіх сялянак, свядома ці машынальна не-не дый нагадвае, што ён — прэзідэнт...

* * *

Чытаю ў «Спадчыне» Лёсіка. Гэты Коласаў дзядзька, маладзейшы за свайго пляменніка на год, таксама быў таленавіты. Будзь яго лёс ласкавейшы — быў бы ў нас і яшчэ адзін добры празаік.

І гэта трэба мне адкрываць ужо на семдзесят пятым годзе!.. Які здзек з народа нашага, якая была б дагэтуль літаратура, каб не апека «старэйшага брата», «роднай савецкай улады»!

Напісанае Лёсікам на нашай наваградскай мове хораша вяртае мяне ў роднае асяроддзе. І я ж так пачынаў пісаць, а ў Мінску мяне перавучвалі. Не столькі Крапіва, колькі Клімковіч, галоўны рэдактар выдавецтва, які, з прыгаворкай: «властию, данной мне от Бога», зусім бесцырымонна правіў ужо выпраўленае Крапівой у рукапісе майго першага зборніка... Да Крапівы, у якога я тады вучыўся, трэба дадаць Лужаніна, таксама ў «Раздавім фашысцкую гадзіну», потым у «Вожыку», і Таўлая, з якім мы разам рэдагавалі мае, як гаварыў мне адзін з супрацоўнікаў часопіса «Беларусь», «нацдэмаўскія апавяданні». Не магу сказаць, што ад Крапівы, Лужаніна, Таўлая ішло якое-небудзь свядомае псаванне,— рабілася «тое-сёе» на агульна-літаратурны лад дзеля таго, «каб прайшло»; было таксама нямала добрага ў той

вучобе, і я нашу ў душы ўдзячнасць да гэтых і некаторых іншых старэйшых таварышаў.

Аднак ёсць тут і сваё **аднак** — у пільнай вучобе былі і страты мясцовага каларыту ў маёй мове, што вось і яшчэ раз адчулася, над старонкамі Лёсіка.

* * *

Учора пачаў, а сёння вось кончыў чытаць «У кіпцюрах ГПУ». Можна сказаць, што я гэта перачытваў пасля газетнага чытання ў акупацыю.

Было адчуванне, з якім я сёння сеў дачытваць, што месцамі ён, Аляхновіч, уздымаўся ў пакутах да агульначалавечага, а закончыў кнігу мяшчанскім, біфштэксавым трыумфам у стаўпецкім рэстаране...

Многа дае для роздуму абмен паміж Саветамі і Польшчай беларусамі — турэмным Тарашкевічам і лагерным Аляхновічам, намнога больш дае, чым гэта выкарыстаў апошні. А што думаў тады аўтар першай граматыкі і перакладчык (у камеры!) Гамера і Міцкевіча? Неўзабаве, спачатку ў новай, ужо савецкай турме, а потым і перад расстрэлам?..

Якія тэмы, якія на іх павінны быць, прыйсці пісьменнікі!..

* * *

У «Комсомольской правде» ўчора — гутарка трох журналістаў з Яго Свяцейшаствам Алексіем II. Царква паказвае сябе **ранейшаю:** благаслаўляе тых, што ідуць на вайну, на забойствы, а тых, што не хочуць ісці на яе (memento Афганістан) называе... яшчэ большымі грэшнікамі...

Пераклікаецца гэта з заявай Яна Паўла, таксама Другога, які перад іракскай кампаніяй заяўляў, што ён (яны, католікі) за мір не **пацыфісцкі.**

Значыцца, і ў адных, і ў другіх — **палітыка,** што заўсёды было, што ёсць і што збіраецца быць,— і ў католікаў, якія ў трыумфе, і ў праваслаўных, якія бяруць рэванш...

* * *

Дачытаў Шаламава, «Калымскія апавяданні». Такога нельга ні забыць, ні даравацъ. Праўдзівасць, жыццёвасць у яго такая, што нават гаўно, дзе яно трэба, не смярдзіць. І сіла слова такая простая, непахісная, хоць і без клічнікаў. Разам з Алегам Волкавым («Погружение во тьму») ці не лепш гэта літаратурна за Салжаніцына?.. Хоць тут параўноўваць не варта — трэба з удзячнасцю браць у іх гэтую праўду жыцця.

* * *

Вечар, прысвечаны 90-годдзю Міхася Зарэцкага, адбыўся ўчора ў невялікай, у параўнанні з галоўнай залай Дома літаратара, «камінная зале». Ні тэлебачання, ні радыё, ні належнай аўдыторыі. Трохі сваякоў, іхніх сяброў ці добрых знаёмых, трохі энтузіястаў, яшчэ менш пісьменнікаў, дый то адны старэйшыя.

На вечары такога пісьменніка, абаяльнага чалавека, аднаго з пакутнікаў, пасля рэабілітацыі, пасля выдання ўжо трох тамоў з чатырохтомніка, пасля таго, колькі нагаворана, напісана, настагнана ды нагалёкана пра мартыралог, генацыд, адраджэнне, самаедства! Якія формы нам патрэбны пры такім змесце, на каго нам перш за ўсё наракаць?..

* * *

Быць чалавекам свайго часу трэба, дакладней кажучы — нельга не быць. Але ж як гэта важна быць яшчэ і над часам, быць тым, хто бачыць далей наперад, вышэй — у агульначалавечае.

* * *

«Гэта табе не пры Польшчы (не пры панах) — аладку мазаць з чатырох бакоў!..» Так гаварылася пра багацейшых у Заходняй. Гумар.

А ў нашай літаратуры, калі ўжо каго возьмуцца хваліць, дык і сапраўды масляць з чатырох бакоў — і анфас, і двойчы профіль, і ззаду, калі трэба, часамі ажно лізнуўшы.

Гэтак жа, як і лаяць.

* * *

Учора заходзіў у магазін «Школьнік» з надзеяй выпрасіць там хоць адзін агульны сшытак. Пайшоў нават на тое, што назваўся пісьменнікам, якому вельмі трэба... На ўзроўні прадаўшчыцы, а потым і загадчыцы было катэгарычна адмоўлена: толькі студэнтам, па пасведчанні, тры сшыткі на год. Што ж, закон павінен выконвацца, аднак і да такога паніжэння ўжо на старасць даходзіць... нялёгка.

Зрэшты, сціпласці, пакорнасці нас не трэба спецыяльна вучыць — сама рэчаіснасць вучыць.

* * *

Успомнілася Пушкінава, з найбольш любімага: «Что ты ржешь, мой конь ретивый...» Перачытаў і гэта: «Стамати был стар и бессилен, а Елена молода и проворна...» А потым пашукаў і знайшоў у «Руслане и Людмиле» тое, што так мне, падлетку, падабалася:

С порога хижины моей
Так видел я, средь летних дней,
Когда за курицей трусливой
Султан курятника спесивый,
Петух мой по двору бежал...

Вясёлае, з юнацкай хітрынкай, і зямное, што так прыемна апускала высокую паэзію да саменькай зямлі, па-летняму горача, пыльна пясчанай.

Некалькі рэчаў перачытаў, за адну зачапіўшыся, і зноў так хораша думалася пра Яго народнасць.

* * *

Кацянятка на дварэ, дзе і я чакаў малака,— я,седзячы са сваім слоікам, а яно, гуляючы на пясочку,— зноў нагадала цеплыню, жыццёвасць пушкінскага радка ў перакладзе Міцкевічавых «Будрысаў»:

...Весела, как котенок у печки.

Сапсаванасць літаратурай?

* * *

Незалежна ад таго, што чытаю цяпер, пра маё залюжнае штодзённае чытанне гаварыў нядаўна па тэлефоне Вялюгіну. Што я, як млын вадзяны, мялю сабе ды мялю... Цяпер дадам: млын няновы, але яшчэ трымаецца.

* * *

Перачытваць сваё — час ад часу — гэта ўсё роўна як папраўляць на сабе збрую перад далейшай дарогай.

* * *

Марына Цвятаева ў сваім «Кедры» — пра кнігу князя С. Валконскага «Родина». Цытуе таго прагрэсіўнага князя, які, у сваю чаргу, прыводзіць выказванне нейкага француза (перакладаю):

«Абуджэнне дзіцяці радасна-ўрачыстае, абуджэнне сталага чалавека панурае, а ў старых людзей — змрочнае».

Валконскі з гэтым не згодзен, бо і ў старасці ён абуджаецца ўрачыста, яму радасна пачынаць новы дзень, «асабліва калі добрае надвор'е або на стале пачаты рукапіс чакае».

Бывала, бывае такое і ў мяне. Бывае і іншае... А вось сёння, як толькі прачнуўся, нешта каля пяці, перш за ўсё ўявіў-убачыў высокае зорнае неба з маёй даўняй і мілай знаёмай — Вялікай Мядзведзіцай — і адчуў сябе зусім-зусім унізе, з абавязкам пайсці яшчэ ніжэй...

А яна ж, так мудра, мужна таленавітая Марына Іванаўна, яшчэ свой адыход і паскорыла.

Ці ж яна з адчуваннем таго, што душою сваёй застаецца?..

Пра што мы,— а нас так многа на Зямлі,— удзячна сведчым.

* * *

Да канца, да магчымай глыбіні не дадуманае, не абгрунтаванае, што мне самому цьмянавата, але ж і ўпарта бачыцца. Гэта — Ленінава пра Талстога: «люстра рускай рэвалю-

цыі». Толькі для Леніна яно, у такім, у партыйным прыстасаванні? У люстры тым, калі ўжо так, зацесна для вялікіх агульналюдскіх твораў мастацтва, агульна-людскай, далёкаперспектыўнай мудрасці...

* * *

Нам патрэбны прафесіяналы, каб кожны рабіў як найлепш сваё, на сваім месцы, а ў нас па-ранейшаму ўсе масава імкнуцца, крыкліва лезуць у несмяротна-славутае «общее руководство», якое сёння называецца грамадскай, палітычнай актыўнасцю.

* * *

Такія вялікія справы! На тэлеэкране Гарбачоў з яго... няхай сабе ганарова-стрыманым адрачэннем, перадача апакаліптычнай «кнопкі» ў другія рукі... А мне ад стомы, ці што, зноў прыгадаўся, зноў убачыўся інтэлігентнага выгляду дзядок, з вострым голым падбародачкам і з'едліва-мудрай, народнай усмешачкай,— як ён ветліва спытаўся ў прадаўшчыцы, вядома ж, не чакаючы станоўчага адказу:

— А как бы это, дорогая, по случаю съезда партии, да получить у вас кусочек мясца? Купить, конечно же...

Было гэта пры Хрушчове, ці не пасля Новачаркаска.

* * *

У нашай і польскай энцыклапедыях — пра Чачэна-Інгушэцію. Ад інфармацыі павяло ў «Хаджы-Мурата». Перачытаў два першыя раздзелы, потым семнаццаты, кульмінацыйна найкарацейшы, а тады не вытрымаў і перачытаў смерць героя — нібы пераклічку з прадмовай, перачытанай, як малітва, з самага пачатку.

Столькі крыўдзіць малыя народы, а цяпер камандаваць імі, і ў «пераможнай дэмакратыі» па-імперску? Без адчування віны, у самазахапленні вядучай, ва ўсім дабратворнай роллю рускіх, Расіі — у горкіх лёсах народаў слабейшых, да найбольшай сярод іх, Украіны, уключна.

Успомніўся Пушкін: «Черкесы нас ненавидят...» І ягоны

рэцэпт на мірнае вырашэнне «воссоединения», «покорения Кавказа» — **самавар і Евангелле.** «Кавказ ожидает христианских миссионеров»,— піша Аляксандр Сяргеевіч. Сёння такое чытаецца з горкай усмешкай.

* * *

Дзеці, мілыя дзеці — сведчанне вечнасці. А яны — паміраюць...

* * *

Мяне заб'юць, і гэта будзе безыменна значыцца як «мінімальная страта». Так жа цяпер, у «мірны час», паведамляецца з гарачых пунктаў у былым Саюзе і ў Югаславіі, таксама ж былой.

Дурное акрэсленне — «чалавечы фактар», нават яно ўжо даўнавата не чуецца.

* * *

З дачкой і дарослаю ўнучкай — на Паўночных могілках. Наведалі Ціхана, палажылі кветкі, пастаялі. Тады, паблізу, мілы Міхась Дубянецкі. Яму — таксама. Здзіўленне — што́ ужо і год прайшоў? А па Ціхану — тры... Тады даўгавата ішлі да нашага Рыгора, да Якуба з Аняй. Дзень быў сонечны, светлы, а настрой...

Праз дзень пазваніла Сяміжонава дачка, што памерла мама, і я паехаў да іх. З думкай пра Юзіка — столькі гадоў добрых адносінаў. І вяселле іхняе згадалася, на якім мы з Вялюгіным склалі вершаванае віншаванне: «Красуйся, слаўны Сяміджон!..» — нешта так, бо перад гэтым былі надрукаваны яго, Юзікавы, сакавітыя пераклады Бёрнса.

Сціпленькая Люда, здаецца, вельмі адпаведна дзіцячая лекарка, яшчэ і Танкава, на цэлых пятнаццаць гадоў маладзейшая, сястра.

Максім сядзеў каля труны. У новым суме яшчэ больш пастарэлы і нямоглы. У смалявіцкую вёску, дзе пахаваны Юзік і куды захацела Люда, Максім не паехаў: нехта малады падышоў да яго і папрасіў ужо ехаць дахаты. У расчыненых з пакоя ў прыхожую дзвярах мы з ім ціха сустрэліся і пры-

гарнуліся, колькі можна — пагаварылі. Цяжка яму апошнім часам: і смерць дачкі, і гэтая (як ён развітваўся, заплакаўшы, з тою падлеткам-сястрычкай, якую згадвае ў «Лістках календара»...), і жончына нямогласць, і свая...

І дзікія нападкі некаторых маладых, і не толькі маладых (хамскія пісьмы) новаяўленых «патрыётаў» — усё гэта і прыгнула таго Жэню — Максіма, які разлічаны на актыўную і вясёлую даўгавечнасць.

* * *

Учора да поўдня чытаў успаміны Сахарава. Дачытаўся да ягонага рукапісу «Размышления» і ўспомніў, што чытаў гэта па «самвыдаце», у канцы 1968-га, з душэўным задавальненнем, пра што ёсць запіс з тых дзён, які з прыемнасцю перачытаў.

Пра жнівень таго шэсцьдзесят восьмага ён піша: «По всей стране проходили митинги «в поддержку» этой акции. Большой смелостью было уже не прийти на такой митинг, многие за это поплатились». Я павінен быў па службе, як дзяжурны сакратар саюза пісьменнікаў, весці такі мітынг у нашым клубе, а ўзяў ды паехаў на Нарач, да Танка. З заявай — вызваліцца ад сакратарства. Не ў сувязі іменна з увядзеннем войскаў у Чэхаславакію, як потым некаторымі шапталася, а таму перш за ўсё, што мне тая служба абрыдла за два гады. Аднак, вядома, і ў сувязі, каб выкруціцца ад мітынгу. І паплаціўся на гады́ няміласцю начальства.

Адамовіч тады сказаў: «Это тебе зачтется». Не толькі начальствам, але і ў іншым сэнсе, у будучыні.

Дажылі мы, што можна і гаварыць уголас, і пісаць пра такое. А тады рабілася — бо так трэба было, без асаблівых спадзяванняў на «зачет». І добра цяпер азірнуцца.

* * *

Па тэлевізары паказвалі варварскія раскопкі магілаў у Курапатах. Шукалі марадзёры золата і — як быццам — знаходзілі яго. І дамачка з адпаведнай камісіі тлумачыла, што гэта магілы пастраляных у гады акупацыі яўрэяў. Можа быць, што недзе там — лес вялікі — закопвалі і яўрэяў, айчынных і замежных. Аднак мне тут бачыцца і працяг той

подлай кампаніі «выпраўлення» Курапатаў,— што там, маўляў, не ахвяры сталінскага генацыду, а іншыя.

Ніяк не падзеляць сваіх злачынстваў з гітлераўцамі. Нават і падазрэнне ўзнікла, гледзячы той сюжэт у «Панараме»: а ці не спецыяльна гэтыя «марадзёры» заняліся раскопкамі іменна цяпер?

* * *

Памятаю юначае чытанне, па-польску, «Станцыі Баранавічы», з цудоўнай канцоўкай — пажаданнем гэтай станцыі згарэць. Чытаў я тыя «Чыгуначныя апавяданні» і пасля, што відаць і па карандашных паметках на палях (збор твораў Шолам-Алейхема выходзіў на пераломе пяцідзесятых — шасцідзесятых гадоў), аднак ён і перачытваецца з жывой цікавасцю, як новае. Ён не спяшаецца, і ў гэтым яго свабода, дзякуючы якой ён многа бачыць, чуе, думае, адчувае, дабрадушна, глыбока ў душы смяецца, і нам стварае добры настрой, вясёлую добразычлівасць абуджае і лёгка падтрымлівае.

Чытаючы яго, жыва ўявіліся сябрукі школьнага маленства. На гэты раз — Бэрка Рэзнік. Танклявы, чорны, вуграваты, быстры і вясёлы. Ён прыйшоў у наш шосты клас тады, калі ў Турцы будаваўся паравы млын, саўладальнікам якога быў Бэркаў бацька: сям'я іх аднекуль пераехала. Помніцца, а можа, так уяўляецца,— што я застаў яго за сваёй партай, што ён энергічна ўстаў і, падаўшы руку, назваўся. Як мы набліжаліся да сяброўства — не помніцца, як засынанне, скажам, не памятаеш.

Найвыразней прыгадаўся цяпер Бэркаў почырк — быстры, прыгожы. Спачатку я ім з зайздрасцю любаваўся, а потым, асабліва ў сёмым класе, і карыстаўся ім, так сказаць, літаратурна, па-выдавецку.

Бэрка перапісваў мне мае польскія вершы, што мне бачылася не толькі, не проста прыгажэйшым, у параўнанні з маім почыркам,— тут ужо было штосьці ад іх распаўсюджвання, самага першага, хвалюючага, з прадчуваннем шчаслівай перспектывы...

Можна падумаць, і я так падумаў цяпер, пішучы гэта, што ёсць тут таксама штосьці ад старэчага бэрсання светлых успамінаў, аднак намацваецца і іншае — малечая радасць прадчування, якая ўсё-такі была і праяўлялася не толькі так.

Бэрка перапісваў маё неабавязкова за нейкую паслугу, што, зрэшты, таксама бывала: я вучыўся лепш, лягчэй, і ў пэўнай меры дапамагаў яму, але ён слухаўся і так сабе, перапісваў — абавязкова ў новым сшытку! — хутка і акуратна, а да таго яшчэ і без усякай прэтэнзіі на «сааўтарства». Што праявіў аднойчы яшчэ адзін перапісчык.

Гэта быў Вова Ядлінскі, пераведзены ў наш сёмы з Мірскай школы, адкуль ён быў ледзь не выключаны за паводзіны, якія і ў нашай школе ў яго не надта палепшыліся, хоць і была над ім строгая апека аднаго з настаўнікаў, што сябраваў з Вовавым бацькам, настаўнікам у Міры. Ды я тут толькі пра почырк новага аднакласніка, таксама вельмі прыгожы.

Сказаць, што мы сябравалі з Ядлінскім, нельга, аднак да перапісвання маіх вершаў дайшло, што і прывяло нас да разрыву.

І там, дзе я перапісваў свае опусы сам, і дзе яны былі перапісаны Бэркам, кожны верш быў знізу падмацаваны імем і прозвішчам аўтара. Калі ж Вова аддаў мне яшчэ адзін новы сшытак з перапісанымі ім вершамі, почырк ягоны, можа, нават прыгажэйшы за Бэркаў, мяне зусім не ўзрадаваў. Пад кожным вершам замест Jan Bryl стаяла Włodzimierz Jedliński... Пакуль мы не шчапіліся па-сапраўднаму, ён аніяк не згаджаўся ўцяміць, што вершы — **мае**, што ён іх **толькі перапісаў!..**

У Бэркі ніякіх падобных прэтэнзіяў не было. Наогул не памятаю нічога дрэннага за гады нашага сябравання. Калі не лічыць расправы з катом.

Побач з вялізным, як тады бачылася, гмахам млына, зробленага з бетонных пустакоў, стаяла «завозніцкая», драўляная прасторная хата, на гарышчы якое было галубінае царства. І вось аднойчы Бэрка павёў нас, мяне і Мішу, майго пляменніка і аднагодка, заядлага галубятніка і жулікаватага спрытнюка, туды, на сваё гарышча. Не толькі каб пахваліцца і галубамі, і пшаніцай, чаго ім хапала,— яму трэба было дапамагчы расправіцца з паповым катом, які панадзіўся на галубяціну. Тут ужо мы ўзяліся за справу пад Мішынай камандай. Не памятаю, за якім разам ды як нам удалося злавіць таго ката,— помніцца тое, як мы начапілі яму **рашчэп**, кастровае палена, надколатае так, каб, выбіўшы клінок, хвост кашэчы можна было зацінуць у той расколіне надзейна. Кавэнчыць кот пачаў і пры гэтай аперацыі, і пакуль мы зносілі яго на край заараная агарода, а калі пусцілі — ён папёр да сваіх старых пападзянак, брэнкаючы

паленам па мёрзлай, яшчэ не пакрытай снегам раллі, глуха і адчайна вякаючы. А мы — пераможна смяяліся...

Ды гэта ж ішло не толькі ад Бэркі, гэта мы рабілі разам, так, як па даўняй завядзёнцы трэба было распраўляцца са шкоднымі катамі, і калі разуменне суровасці нашага прысуду і выклікала ў душы няёмкае, шчымлівае сумненне, дык гэта ўжо ў кожнага з нас па сабе, у адзіноце, тады або пазней, як у каго...

Пасля школы мы бачыліся вельмі рэдка, бо ён неўзабаве пераехаў у Мір, дзе «пры першых саветах», у 1939—1941 гадах, працаваў пісарам у судзе. Міша — ужо не пляменнік мой, ■ брат — дзеля цікавасці зайшоў неяк у той народны суд, на «смешную» справу: прысуджвалі аліменты нашаму скрыпачу, глухаватаму, вусатаму Калініку. Бэрка заўважыў Мішу ад свайго сакратарскага стала, прывітальна ўзняў руку, а тады яшчэ спрытна ды весела паказаў, нібы нямко, як падкручваецца вус, як іграецца на скрыпцы і як прыйдзецца — шматзначнае пстрыканне шчопцямі — плаціць за раман на пятым дзесятку беднага халасцяцтва.

Вось і ўсё. Не памятаю, калі і чуў што тады, вярнуўшыся з палону, пра далейшы Бэркаў лёс. Ці ён прапаў у вайну, ці яшчэ жахлівей загінуў ад гітлераўскага пагрому...

Цяпер, чытаючы Шолам-Алейхема, вясёлы, быстры Бэрка прыгадаўся перш за ўсё з тым перапісваннем.

Хоць і не толькі...

* * *

У чужым, далёкім па часе напісання, тэксце чытаю сказ: «Пяюць дзяўчаты, а сонца садзіцца над лесам». І ўспамінаюцца дзяўчаты маёй вясковай кампаніі, як яны ідуць у нядзелю чародкай па вёсцы і важна, урачыста спяваюць, святкуючы сваю маладосць.

А за гэтым прыгожым відовішчам — другое, што даўно ўжо неяк было ўявілася, а вось паўтараецца...

Дзяўчаты спяваюць з правам на адпачынак, якое дае ім шчырасць іх працавітасці, а рукамі, што змалку ведаюць цяжкую працу сялянскіх, гаспадарскіх дочак, а то і наймічак у чужых, працоўных сем'ях, рукамі яны пабраліся паміж сабой, «пад ручку» ідзе і першы рад, і другі, нават і трэці, бо вуліца не надта ж шырокая, а дзяўчат у вёсцы нашай на выбар багата.

Хлопцы бачацца мне чамусьці не ў пешым страі, а на

роварах, якіх па вёсках стала больш якраз тады, калі я пачаў брацца на кавалера. І не ў вёсцы яны мне бачацца, а на брукаванай вуліцы Турца. Гасцінцам хлопцы ехалі гужам, па сцежцы каля адкосу, а ў мястэчка ўязджаюць важна, двойкамі. У пярэдняй двойцы гэтага ўяўнага збору з розных вёсак — Косця Гуляка, хлопец з Клеччыны, з якім я пазнаёміўся ў палоне, які наведваў мяне ў Мінску, пакуль быў жывы. А ў памяці маёй ён едзе па той вуліцы, у першай двойцы. Працавітыя рукі яго і іншых хлопцаў, якіх я ўяўляю, ва ўсіх на веласіпедных рулях,— адпачываюць ад сахароў, сякераў, косаў... І ў шчасці тых дзецюкоў, якіх я так многа бачыў у войску, у палоне, так нямала наіўнай, прастадушнай важнасці.

Як і ў той песні дзяўчат, ужо толькі з нашага Загора, добра знаёмых мне з самага маленства, якіх мне не трэба так уяўляць, як тых дзецюкоў на роварах, таму што ў маіх вандроўках па свеце я дзяўчат, шматлюдна сабраных у роты, у акопы, у драцяныя агарожы — не бачыў.

* * *

Каля гасцінца, на лугавой прасторы — шырокае, дружнае сенаванне.

І такое гаворыцца, што сёлета людзі ў нашых мясцінах працуюць, здаецца, як ніколі добра. Справа тлумачыцца проста: і сабе, што зробіш, тое будзеш мець, і дзецям у горадзе дапаможаш. Але бачыцца ў гэтай руплівасці і іншае, нездарма ўспамінаецца Караткевіч: «На Беларусі Бог жыве». І такое яшчэ: «Заходні наш беларус — гэта не проста беларус, але ж са знакам якасці». Рэгіянальны патрыятызм — само сабою, аднак ёсць тут і тая сярмяжная праўда, што людзі нашы яшчэ не зусім развучыліся сумленна працаваць.

Толькі мала ўжо іх у вёсках, на зямлі.

* * *

Карэспандэнтка на вуліцы падсоўвае «грушу» прахожым з пытаннямі пра сучаснасць, ды каб вастрэйшымі, больш злабадзённымі, ледзь не за кожным словам адно: «праблема», «праблемы»... Простая, пастарэлая ад стомы жанчына

ў адказ на пытанне, ці спадзяецца яна на лепшую будучыню:

— А мы ж, дарагая, усё жыццё толькі ўсё спадзяемся ды спадзяемся...

З сённяшняга дня зноў падаражанне. Днямі ў пісьменніцкім гурце я сказаў, што аніяк не магу даўмецца, як гэта можа палепшаць ад жахлівай дарагавізны, спаслаўся на сваю неадукаванасць. Але і N., які з дзвюма вышэйшымі асветамі, пацвердзіў, што і ён не разумее гэтага. Трэба думаць, што і іншыя калегі маўчалі не ад вялікага разумення.

Ну што ж, праваліцца гэтая палітыка — аўтары яе пойдуць у адстаўку, прыйдуць іншыя, зноў трэба будзе спадзявацца...

Па тэлевізары нейкі сыценькі, багата апраненькі бізнесменчык смачна выказваў і такую ісціну: чым больш будзе ў нас багатых людзей, тым лепш будзе народу. Як быццам у нас такога не было калісьці...

Да чаго вяртаемся? Не толькі да пераносу машчэй, пахавання вялікіх князёў, перапрагання з трактара ў хамут...

І самае сумнае — гэта яшчэ ды яшчэ прывучае да подлай думкі, каб як тут выжыць самому...

* * *

Як гэта важна і як нялёгка — у рознасплячэннях гісторыі, сваёй і суседскай, а ў нас — з чатырох бакоў, бачыць агульналюдскую сцежку міру і братэрства, берагчы яе і ўзмацняць сваёю працай!..

У сваім непрыдуманым патрыятызме і я павінен асцерагацца таго, што — пры абавязковым захаванні роднайнароднай годнасці — не служыць дружбе і братэрству народаў.

* * *

«Незалежная радыёстанцыя «Свабода», якая фінансуецца кангрэсам ЗША». Толькі фінансуецца?.. Днямі адзін з нашых мюнхенскіх асветнікаў усё роўна як прагаварыўся, што радыёстанцыя «праводзіць палітыку ЗША». Тут нібы аб'ектыўнасць між іншым, а ў дні леташняга «шторму ў пу-

стыні» пра нас той самы асветнік намякаў ужо з варожым металам у голасе: што мы, маўляў, адмежаваліся ад удзелу...

А на «Свабодзе» той столькі ўжо нашых памагатых — і адгэтуль, і адтуль, на лепшым харчы, з гітарай і шпагай рыцараў адраджэння...

* * *

«Лепш было б, каб яна нас перамагла, Германія,— хоць бы цяпер жылі, як людзі». І не задумваецца ў гэтым мяшчанскім ідыятызме, што перамагла б нас тады **не сённяшняя**, дэмакратычная, а **тая** — гітлераўская, у якое наконт нас былі іншыя планы...

* * *

Па «Свабодзе» спадар, які не так даўно быў таварышам, смуткуючы ў сувязі са смерцю аднаго з прыкметнейшых дзеячаў, гаворыць, як гэты дзеяч змагаўся за Беларусь у час гітлераўскай акупацыі, ды так змагаўся, што, нарэшце, «мусіў узяць зброю». А трэба было б удакладніць: узяць **нямецкую** зброю... Трагедыя гэта — разам з ужо асуджаным гітлерызмам (ішоў 1944-ты), так жахліва далёкім ад сапраўды чалавечага лёсу беларускага народа, вялікая трагедыя — дзеля **нібы** свайго выступаць за **выразна** чужое, варожае не толькі твайму народу, але і ўсяму чалавецтву. Сталінізм, саветызм катэгарычна адмаўляецца, а паміж гэтай антычалавечнасцю была ж і другая, не менш небяспечная,— фашысцкая прага авалодання светам. А тут яно — жаданне апраўдацца нейкім выключным патрыятызмам, адно падкрэсліваючы, а другое замоўчваючы. Калі ўжо праўда, дык патрэбна ўся, якой бы горкай для тых ці іншых яна ні была.

Калі я ў пачатку 1973 года для будучай кнігі «Я з вогненнай вёскі...» працаваў у варшаўскім архіве «Instytutu badania zbrodni hitlerowskich»[1], мне там (з даверам, на які паўплываў і мой удзел у абароннай вайне трыццаць дзевятага, і добрае стаўленне да мяне польскай літаратурнай грамадскасці) неафіцыйна давалі дакументы, атрыманыя з амерыканскіх архіваў. Іменна там было пра тое, як у плане «Ost»

[1] «Інстытут даследавання гітлераўскіх злачынстваў».

Беларусі вызначалася быць ператворанай у каксагызнае поле, а беларусам — стаць непісьменным рабочым быдлам. За гэта некаторымі суайчыннікамі і «бралася зброя», чорнашэрыя шуцманаўскія неданоскі, рабочая форма няшчасных, абалваненых забойцаў сваіх жа беларускіх дзяцей, жанчын, нямоглай старэчы — і ў вёсках і ў гарадах, і ў лагерах смерці. Смуткуючы па тысячах мінчан, знішчаных у адпомсту за забойства Кубэ, «аб'ектыўнымі патрыётамі», не гаворыцца, што гэтую жахлівую работу немцы праводзілі не адны, як не адны яны пачалі сваё «вызваленне» Беларусі зверскім мардаваннем яўрэяў, а закончылі ліквідацыяй Азарычаў, Трасцянца, Калдычэва...

* * *

Лета семдзесят чацвёртага года. Сямірэчча. Пачастунак у юрце. Прыслугоўваюць мілыя казахскія красуні ў нацыянальных касцюмах. Бароды аксакалаў. Шумная гамонка. А з цэнтра ўсяго гэтага помніцца тост мясцовага рускага пісьменніка У.

Калі ён ваяваў, дык украінец закрыў яго ад варожага кулямёта, а беларус мыў яго ў лазні.

— Хор-рошие ребята! Выпьем, товарищи, за нашу дружбу, за украинский и белорусский народы!..

* * *

Няхай сабе я тут нейкім чынам і набліжаюся да тых старых яўрэяў, што глыбакадумна заключалі (у анекдоце): «Ну, для Бабруйска Трумэн не фігура», аднак, слухаючы і чытаючы пра Шэварднадзе, не-не дый думаю: куды падзеліся яго глабальны інтэрнацыяналізм, змаганне за мір, за дэмакратыю?..

Успамінаецца, як у шэсцьдзесят пятым годзе мы з Танкам ехалі ў Польшчу і ў вестыбюлі гасцініцы ў Маскве сустрэліся з Іосіфам Нонешвілі, а ён, пачуўшы, куды мы едзем, сказаў: «О, мы, грузины, поляков любим, они тоже гордый народ!..»

Гордаму народу хочацца быць толькі зверху — над Асеціяй, над Абхазіяй, яны глядзяць на тых асецінцаў ды абхазаў, як палякі на нас. Сваё мы адчувалі і адчуваем, а па-

гарду грузінаў да абхазаў мне даводзілася назіраць, і пры Сталіне, і значна пазней.

Гарбачоў «прагарэў» як палітык, а тое, што ў яго ў Вашынгтоне сказалася — застаецца як неадменнае: «Всякая политика безнравственна».

Можна дадаць: а кожны нацыяналізм смярдзіць у асноўным аднолькава.

* * *

Па радыё гаворыцца пра дзесятае, адзінаццатае стагоддзі. З такой далечыні мы іх лістаем, тыя стагоддзі, хутка і лёгка. А калі падумаць — час жа і тады ішоў гадзінамі, днямі, тыднямі, месяцамі, гадамі, дзесяцігоддзямі... Пры нейкім там Мешку Першым (пра яго — па радыё), Уладзіміры кіеўскім, Рагвалодзе полацкім і гэтак далей людзі жылі і кожны па сабе, і сем'ямі, і пакаленнямі, павалі, з болем, са шчасцем...

* * *

Учора хораша канчаўся дзень, над палямі, дзе яшчэ ўсё варушыліся капальнікі і няшчодра сёлета тырчалі мяхі бульбы, барвяна, няспешна заходзіла сонца, а наш аўтобус апошнім рэйсам, аказваецца, павінен быў заехаць у чатыры вёскі, тры з якіх незнаёмыя мне.

А назвы якія смачныя! Яшчэ на аўтастанцыі на адным аўтобусе ўбачыў таблічку: «Стоўбцы-Халаімаўшчына» і падзівіўся, што́ гэта быў за Халаім такі, калі ў нашым Загоры, за трыццаць кіламетраў адгэтуль, ёсць такая мянушка. І прыгадалася вёска з мясцовых — Жа́церава, з рачулкай Жа́цераўкай.

З Цвірак мы паехалі, наўздагон сонцу, у Градкі, дзе сышла прыемнага выгляду маладзіца з вясёлым хлопчыкам, а мне прыгадалася мілахлёсткая прыпеўка:

А ў майго татка
пад гарою хатка,
і садок, і мядок,
і цыбулькі градка.

Адтуль мы вярнуліся ў Цвіркі, па нядаўна пракладзеным асфальце шыбанулі ў Слабодку, ужо не міма яе, як заўсёды,

а праехалі цераз усю вёску, зноў па-вераснёўску прыгожымі палямі даехалі ў зусім незнаёмыя мне Віскачы́, а з іх у малазнаёмую Ініцу, дзе і рэчка таксама Інiца, дзе мне згадаўся трыццаць чацвёрты год і дзве кніжыцы вершаў Улада Ініцкага, які родам адгэтуль.

У Беражне, на святло ў сябравым акне, зайшоў да яго, ён мяне трохі правёў, а потым я, ужо амаль у такой цемры, што толькі каляіны падсохлай пясчанай дарогі крыху святлеюць, хутка пайшоў... зноў жа дахаты, бо такое адчуванне прыжылося ў душы за адзінаццаць год у Крынічным.

* * *

Старыя дочкі весела ўспамінаюць свайго бацьку, даволі багатага хутараніна. Сенаваць наймаў ён дзяўчат у вёсцы, добра ведаючы, каторая з іх галасістая. А там: «Паспявайце, дзяўчаткі!» Добра падсілкаваўшыся перад гэтым, яны і спявалі, яшчэ седзячы, а потым і з граблямі. І людзі з другое вёскі, што завіхаліся за рэчкай, пыталіся, смеючыся:

— За што вы, дзядзька, плаціце ім — ці што грабуць, ці што пяюць!?

Такі вось эксплуататар.

* * *

Усё так звычайна, па-свойску. Улетку, пад вечар, калі мы напоўнілі вадой вялізную, чорную металічную бочку, што каля сеткі агароджы, у кустах смародзіны, як толькі я адышоўся — немаведама адкуль з'явілася галка. За тры-чатыры крокі ад мяне села на краечак бочкі і спакойна напілася. У некалькі нетаропкіх глыткоў, самавіта задзіраючы дзюбу. І пасядзела трохі, пакуль зноў знікнуць, растварыцца ў буйна-зялёнай красе.

* * *

Па свежа ды роўненька зжатым аўсянішчы, пад хрупанне ботамі па нашашкацéлай пожні, весела ўспомніў капральскую лаянку: «Tyś, chamie, Pana Jezusa bosego po

ścierńisku ganiałl..»[1] Вясёлая мудрасць народных, працоўных нізоў, якая парасткамі вечнай руні прабіваецца праз напышлівую святасць — нават у такой звышкаталіцкай Польшчы.

* * *

Заспаў, прачнуўся на пачатку сёмай гадзіны. Бо добра спалася ад дажджу, які, як мне потым сказалі ў пасёлку, пачаўся ці не з поўначы. Па малако ў пасёлак, адпаведна апрануўшыся-абуўшыся, пайшоў на гадзіну пазней, калі на цёмным фоне ліпы за акном спынілася і цярушэнне.

Пайшоў не берагам, не лесам, не па дарозе, хоць і не пыльнай ужо, [illegible] па аўсянішчы, каб справіцца перад магчымым працягам дажджу.

Спыніўся сярод поля, азірнуўся навокал,— справа, над дарогаю, лясная сцяна, злева, над Нёманам, дрэвы, за якімі луг, ззаду за мною дачы, зноў жа ў дрэвах, а спераду, у садах, пасёлак. Над усім гэтым — неба, нарэшце, не бязлітасна ды нахабна чыста-перадспякотнае, а шэрае, нізкае, з блаславёнай, не зусім яшчэ высеянай вадою.

Як хораша, як удзячна дыхаецца, зноў бачыцца жыццё такім прыгожым, шчаслівым!..

Не толькі пасля бясконцай спякоты-сухмені, але і пасля дрэннага, старэчага настрою апошніх дзён і начэй...

* * *

Яшчэ адно ў сёлетнім дачным назіранні «адкрыццё» далейшай прыроднай красы. Васількі ўлетку прыгожыя не толькі ў спалучэнні з жытнім калоссем. Ішоў аднойчы з пасёлка берагам Нёмана. Старанна выкашаны лужок, а васількі — як быццам выйшлі на ўзмежак у сакавіта, росна зялёным аўсе, які ўжо хораша вызерніўся сваімі сіва-зялёнымі мяцёлачкамі.

---

[1] «Ты, хам, пана Езуса босага па іржышчы ганяў!»

* * *

...Непрыкметныя у сівай, мглістай далі,
раніцою жоравы галосяць.
Уздымаюцца магутныя чароды
і лятаюць з сумным крыкам над палямі.

Калі гэта — я згодзен — і слаба, і толькі для сябе, дык тое якраз, што яно **для сябе, сваё** і тады было, у далёкім, раннім юнацтве, і цяпер **чамусьці** хвалюе мяне не толькі як мілы ўспамін, але і як нейкая дабратворная патаемнасць кроўнай, душэўнай сувязі з усім родным, што мне і тады, і ўвесь час, і сёння не надта ўдавалася і ўдаецца выказаць так, каб як найлепш, найглыбей...

Радкі верша, якія запісаў, успаміналіся разоў колькі, у іншыя раніцы. А цяпер можна згадаць і з верша іншага, што таксама не для друку, а для прыемнага ўспаміну, як пераклічка з тым, што думалася пра запаветнае.

...Ах, дай мне жыць, бясконца жыць,
за трох грашыць, цярпець за трох,
за трох любіць, змагаць, тварыць,
а дзе канец — хай знае Бог!

Ужо вось нават дакладнасць радкоў успамінаю з напругаю, няма і жадання, каб «бясконца», бо, як чуў ад старых, калі сам не быў яшчэ стары, цяпер і ў мяне кожны дзень — падарунак, асабліва як параўнаешся з тымі, што адышлі, не ўсе старэйшыя за цябе, а вось «хай знае» — гэта застаецца, з гэтым лягчэй.

* * *

І «Остров пингвинов» такі далёкі ад мяне, тым больш у настроі апошніх дзён, што чытаць яго нецікава. Бяруся за «Боги жаждут», бо неяк няёмка так вось развітацца з Франсам і пераходзіць на іншую з непрачытаных кніг, якіх тут мала, не лічачы дэтэктываў, на якіх шкада часу і нерваў,— хапае забойстваў і не прыдуманых спрытнымі круцялямі сюжэтаў, а тых, што кожны дзень дадаецца па радыё і з тэлеэкрана.

* * *

Пасля прэсы — нашай, рускай і польскай — хоць і стомленымі вачыма, а ўзяўся за куплены надоечы том Лонга і Апулея, хораша зачытаўся «Пастушынай гісторыяй пра Дафніса і Хлою», і добра думалася пра перакладчыка, Анатоля Клышку, з яго самастойным вывучэннем грэцкай мовы і належным валоданнем роднай. Працавітасць і плён, што мы не ўмеем заўважаць і шанаваць.

* * *

Успомнілася, з якой прыемнасцю ў сакавіку шэсцьдзесят дзевятага перачытваў у Ялце «Записки из Мертвого дома» ў старым выданні, з «яцямі», «фітамі» і цвёрдымі знакамі. А днямі чытаў таго самага аўтара («Вечный муж») у сучасным правапісе і — Дастаеўскі той самы быў і застаўся. Глыбокі і блізкі.

За шэсцьдзесят гадоў ад той рэформы «трыццаць трэцяга», у правядзенні якой, дарэчы, удзельнічаў і Колас, і іншыя з паважаных, створана вельмі прыстойная літаратура, з якою лічацца дома і ў людзях, не абражаючы яе наскокамі ці самаўпэўненых дылетантаў, ці порсткіх сектантаў ад палітыкі.

Я пачынаў па Тарашкевічу, потым мусіў прыстасавацца да савецкага, затым улічыў папраўкі 1957 года. Рад буду дажыць да грунтоўнага ўпарадкавання нашай мовы свабоднай ды цвярозай навуковасцю, каб належна ўжыцца ў гэтую рэформу. Толькі ж каб без розных «Беларусяй» і «Русяй», «імбрыкаў», «аповядаў», «філёлёгаў», на што так націскаюць і свае гарачуны, і замежныя ментары.

* * *

Слухаў па радыё просценькую народную песню, і падумалася: гэта настолькі ўжо народнае, што далей і нельга,— такая заземленасць, глыбіня, свабода дыхання, сонечная цеплыня...

І не ўсё яшчэ, што адчулася.

...Зноў народная песня. Здорава гэта — у іх, народных — мужчынска-жаночы дуэт, сіла і пяшчотнасць у галасах, гаспадар і гаспадыня, работнікі і, думаецца, хлебасолы.

* * *

Нядаўна было да раздражнення паводкава папулярным ўсходнебеларускае **падаецца**, слова з двума значэннямі, што намагалася зусім закрэсліць больш літаратурнае **здаецца**. А цяпер, як на змену, умоднілася з польскім духам **мовіць, так бы мовіць.** Зноў піжоняць усе, ад жывога класіка — да бойка непісьменнай журналісткі.

* * *

«Садзецеся, дзеткі мае, ды лічэцеся!..» Быў і такі зварот да малечы, калі яе трэба было карміць за бацькоўскім сталом. Праз гэтае «лічэцеся» можна меркаваць, што ў нашых хатах было тых едуноў часцей за ўсё нямала. Можа, так і цяпер яшчэ дзе-небудзь у нашых мясцінах гаворыцца?..

А я калісьці, у вясковым юнацтве, так вось свабодна перакладаў з перакладу Жукоўскага «Овсяный кисель» немца Гебеля. Па-руску гучала так: «Дети, овсяный кисель на столе, читайте молитву!..» Пішу гэта і — жаданне, якому, бадай, не здзейсніцца: убачыць, як жа яно гучыць у арыгінале — з малітвай ці без яе, як у мяне, як у нас гаварылася?..

А пакуль што — з духмяным смакам тое няхітрай, далёкай стравы.

* * *

Шчасце чытання, прыземны павольны палёт над краінамі вялікай літаратуры, мастацкага слова розных народаў. Чытаючы рускае, Замяціна, успамінаю англійскае, Такерэя, што чытаў таксама тут, у вёсцы. Само яно прыйшло, англійскае, а пачаўшы розумам ад гэтага адчування, мог бы назваць і іншае, з розных літаратур, з роднай уключна. Тут перш за ўсё радасць такога адчування.

* * *

Што каму да таго, колькі часу і сілы, пошукаў і нягодаў каштавала табе тое, што ты напісаў, калі яно чытача не цікавіць? Тут тваё гора — толькі тваё. І такога гора ў літаратуры і вакол яе вельмі многа. Калі табе ад такое пацехі лягчэй.

* * *

Упарта і бяздумна балабоніць з трыбуны пра ўзаемаданосы ў трыццатых гадах, са смакам вінаваціць у нізасці нашых народных пакутнікаў. Менш за ўсё думаючы пра тое, што **данос**, які ўключае паняцце **добраахвотнасці**, і **прызнанні**, вымушаныя катаваннямі — гэта розныя рэчы. Ужо не кажучы пра поўнае права пальцам разводзіць чужую бяду, так адназначна, модна, здалёк. Як быццам у архівах сказана **ўсё**, што нам, нашчадкам, трэба ведаць. Там жа ёсць яшчэ і жахлівы **падтэкст!..**

* * *

Свае памылкі ў нас часцей за ўсё прызнаюцца з пэўным какецтвам, з самадараваннем у кантэксце. «Вінават і аз грешный...» — лезе ў святое пісанне і той, хто лічыць сябе атэістам, замест таго, каб проста прызнацца, што вінаваты.

* * *

«У якія перыяды вам найбольш лёгка і плённа пісалася?»

Адказваючы на гэтае пытанне журналісткі, Максім Танк, юбіляр, на старонцы «Звязды», у падачы той апытальніцы, адказаў так:

«Самы цяжкі перыяд быў пасля далучэння Заходняй Беларусі: трэба было перабудоўвацца, засвоіць новую тэму. Даганяць сваіх калег, якія жылі даўно ў Савецкай Беларусі, было няпроста».

Гэта — яму, камуністу з сумленных, перакананні якога аплочаны пакутамі. А як было мне? Мой самы цяжкі перыяд пачаўся ў ваенным друку, спачатку ў партызанах, потым у Мінску, калі трэба было выціскаць з самога сябе,

як з пустога цюбіка, патрэбнае «для барацьбы, для перамогі»... З «пустым цюбікам» — недакладна. Душа была не пустая, а балюча, туманна збянтэжаная пераходам ад той свабоды («Бог, карова і я!..»), з якою я пісаў да службы ў войску, а потым у небяспечнай акупацыйнай затоенасці. Сумна помняцца мінскія дні, вечары зімы сорак чацвёртага — сорак пятага гадоў, калі было цяжка (словамі Максіма) «перабудоўвацца», «засвойваць», «даганяць»... Былі пасля і ўдары, якімі заганялі ў баразну, быў і авёс, калі мне выратавальна ўспаміналася Пушкінава: «Не дай мне Бог сойти с ума!..», былі і тыя «запасы нравственной прочности», што давалі магчымасць трымацца, хоць і са стратамі, пісаць і для душы, і не толькі ў блакноце, «у стол», але і ў тых рэчах, якія можна перавыдаваць. Вяртанне да сябе самога, да свайго галоўнага ішло няхутка і няпроста, яшчэ ўсё з адхіленнямі ды стратамі...

Зрэшты, пра ўсё такое я ўжо неаднойчы пісаў, перш за ўсё — для самога сябе, а з такім запісваннем, як быццам са штодзённай малітвай, паўторы лішнімі не бываюць. Каб трымацца як мага найчысцей.

* * *

Вельмі рана прачнуўшыся, яшчэ не ўстаючы, чытаў Купалу, з учора купленай «Спадчыны», рэпрынтнае перавыданне з першага выдання. Устаючы, каб распачаць новы дзень, адклаў кнігу з душэўнай удзячнасцю, уголас сказаўшы: «Вось гэта — Купала!» Якога — вольнага ды шчырага — трэба яшчэ ўсё пазнаваць.

* * *

Выпадкова пачуў па радыё з Варшавы, у добрым мужчынскім чытанні, фрагмент з «Карэнінай»,— як Анна пры смерці ад родаў мірыць Вронскага са сваім мужам... Агульналюдское па-новаму, яшчэ раз. Моц і вечнасць сапраўднага слова.

* * *

«Калі ты крычаў з палітычнай званіцы, я — значна ніжэй — ціха араў сваё поле».

* * *

Люблю, купляю кнігі афарызмаў. І заўсёды, ва ўсіх іх не абыдзешся без нявыveянай мякіны. То класікі марксізму да Хрушчова, Брэжнева і «иже с ними» ўключна, то вось і іншае. «Ларец острословов». І знаёмае тут, ад Амара Хаяма (якога зашмат) да Ежы Леца, з Жулем Рэнарам, Ліхтэнбергам і некаторымі іншымі ў сярэдзіне, тут і менш знаёмае, а то і зусім новае, як Аскар Уайльд або Альфонс Дадэ,— усё змястоўнае і значнае, і цікавае, што наводзіць на добрыя думкі, стварае высокі душэўны настрой. А побач з такім і дробна злосны Маякоўскі, і прыблізны Сяргей Васільеў, і Эміль Кроткі, які ў сваёй «мелкотравчатой велеречивости» дагаварыўся да самаакрэслення: «Поверхностный острослов, мастер неглубокого каламбурения».

Калі палітыкаў нельга было не прыцягваць за вушы ў такія «ларцы», дык тут ужо ці не па блату, знаёмству або па неперабарлівасці нашаткавана рознай драбнаты, без больш сур'ёзнага адбору і ў Ардава, і ў Ільфа, нават у Чукоўскага і Святлова.

Дарэчы, пра абавязковую прысутнасць палітыкаў. Заглянуўшы нядаўна ў том прыказак Янкоўскага, прыкравата стала, што і мудрага, сумленнага Фёдара Міхайлавіча не абмінаў такі абавязак: раздзелы «Камуністычная партыя, вялікі Ленін» і таму падобнае, як неабходны запеў. Рыхтаваліся прыказкі да выдання, і ў меншым, і ў большым аб'ёме, у другой палавіне пяцідзесятых — пачатку шасцідзесятых гадоў. Дзякуй Богу, тады ўжо можна было абысціся хоць без яшчэ аднаго «вялікага»...

* * *

Няхай сабе з «няпоўнай сярэдняй» асветай ды з пажыццёвым самавуцтвам ты заглянуў у неабдымную веліч сусветнай культуры,— гэтага ўжо нямала, каб зразумець, адкуль да сцішнаты славутае: «Я ведаю толькі тое, што я нічога не ведаю».

* * *

Недзе нешта гаворыш, з нейкай важнай нагоды, а пасля натуральна пра гэта забудзешся. Тады выпадкова сустрэнешся з тым радыёзапісам і, чаго ж там,— прыемна.

Так учора, выпадкова ўключыўшы позна ўвечары прыёмнік, пачуў свой голас і паслухаў выступленне пра Шырму, відаць, з восемдзесят другога года. Праз дзесяць зноў юбілейных гадоў сам сабе расказаў, што я думаю пра гэтага слаўнага чалавека.

* * *

Прадаваць свае мазгі за мяжу не зможа той, у каго яны непарыўна змантаваны з сумленнем сына свайго народа.

Ёсць філасофія пацукоў, што бягуць з карабля, і філасофія капітанаў, якія пакідаюць яго апошнімі, [redacted] то і зусім не пакідаюць.

* * *

Яшчэ адна крытычная сіла жаночага роду, нядаўна спечаная кандыдатка тасуе нашы празаічныя творы, для зручнасці — у першую чаргу раманы ды аповесці. У тых падліках-пераліках яна мне нагадала касірку: грошай — цэлымі пачкамі, а ўсе яны — не свае, не зробленыя, і таму такая лёгкасць у механічным пералічванні. Найлепш — вялікімі купюрамі.

* * *

«Пісанае для сябе» нясе яшчэ і такую прыемнасць: міжволі, як быццам з боку заўважаеш, пішучы, як узнікае патрэба ў належным слове і слова тое з'яўляецца, нібы само па сабе, з таго запасу, што папаўняецца на працягу многіх гадоў пажыццёвай вучобы. Прыемны працэс, ажно нагадвае ціхенькае, шчаслівае вуркатанне свежай скібы, калі ты ішоў за плугам у баразне, босы на хлебадайнай зямлі...

* * *

Думка, што час ад часу вяртаецца:

Чаму я так часта адчуваю сябе адказным у нашым, перш за ўсё культурным, жыцці за ўсё, нібы па прывычцы з таго часу, калі нас, хто клапаціўся гэтым, было вельмі мала для той работы, што ўсё-такі неяк рабілася.

Цяпер чым далей, то ўсё больш заўважаеш, як на гэтай усенароднай ніве пабольшала работнікаў, і радасна гэта — за справу, і сумна — за сябе, вінаватага і без віны, бо старасць, і з пэўнай віною, бо і лянота, і рассеянасць; а «з пэўнай» таму, што на маім галоўным, калі не асноўным, заўсёды і назаўсёды адзіным участку не вельмі зробіш адпаведнае, калі няма на гэта адпаведнага настрою,— скажам так, не чапаючы слова натхненне.

У такім стане я цяпер, і гэта нялёгка.

* * *

Падхадзіўшыся раніцою, адзін на дачы, сеў чытаць «Остров пингвинов». І нецікава, і думка такая недзе глыбей, што не гэтым мне ў лічаны час (гады, месяцы, дні?) трэба займацца. І санлівасць такая, што кніга ледзь неваліцца з рук, і зноў успамінаецца той сіняўскі славуты скрыпач, што ў старасці, як мне расказвалі, ужо зусім не мог іграць у вясковай «капэле», бо ад голасу скрыпкі сваёй, нават стоячы, засынаў...

* * *

Вяртаючыся з вёскі, неяк дзіўна глядзелася на свае сляды на шчодра прыбітым начным дажджом пыле, які так быў абрыдзеў за дні вар'яцкай спёкі. Ішоў, глядзеў, і ўяўлялася, як гэта я, нейкія дваццаць мінут таму назад, нёс над гэтай дарогай самога сябе, а вось спакойна сігаю насустрач свайму следу, нібы насустрач самому сабе, і думаю зверху: што гэта азначае — «пакінуць след на зямлі, у людской памяці»...

* * *

Пад вечар, кажучы па-пастушынаму, **убіўся** на сваім агародзе («ўбіваліся» толькі ў чужое) у салодкі гарох, і ад таго, відаць, што ўлетку саракавога года, першы раз уцякаючы з палону, сяды-тады здаралася падмацоўвацца ў нямецкім полі гарохам, шчасліва набрыўшы на яго ноччу, убачыў самога сябе **тады.** У тым часе, з высокім адчуваннем сябе ў **цэлым свеце**, у імкненні **да волі,** у шчасці такога становішча — **пасля ўсяго,** што перажылося, а як сёння падумаўшы, **перад тым,** што давялося б перажыць, каб уцёкі тыя ўдаліся...

* * *

Якая падзея, якая ўрачыстасць, якое відовішча — як у наша мястэчка па гасцінцы везлі найбольшы звон, як потым уздымалі яго на званіцу, а мы, малыя школьнікі, забыўшыся пра вяртанне дахаты, і местачковыя, і з вёсак, глядзелі ды слухалі каманды таго, што кіраваў гэтым пад'ёмам. Упершыню пачутае мною слова «лябёдка!» — як каманда, што паўтаралася ўперамешку з іншымі словамі, толькі ж без мата.

Успамінаю гэта, чытаючы ў прысланым з Саратава новым часопісе «Гонецъ» (так — з цвёрдым знакам) пра рускія званы. І захацелася заглянуць у «Байдуны»,— як мы, малыя, прабіраліся на званіцу, каб не заўважыў стары званар, што корпаўся ў царкве, як мы краталі той велічэзны звон...

І каўнаскія званы загучалі ў памяці па-свойму, па-літоўску...

* * *

Мінск пасля вёскі сустрэў мяне пахаваннем Скрыгана.

У завяршэнне нашага сяброўства скажу і я, дый не апошні раз, які гэта быў светлы, таленавіты, чысты, амаль падзіцячы вясёлы чалавек, да апошняга часу (апавяданні ў «Беларусі») працавіты гранільшчык роднага слова.

* * *

Няма, няма ўжо з кім пасмяяцца намёкам, даўно і добра ведаючы тое самае.

Гэта — калі пра старасць коратка.

* * *

Што вяртаецца час ад часу, каб яго запісаць. Да чаго апусціла нас рэчаіснасць,— столькі гора навокал, а ты пра тое думаеш, як бы гэта самому табе і тваім найбліжэйшым важыць у ліхалецці. Самаахова і ачарсцвенне. І як надоўга яно?..

* * *

Калі ўсё звесці толькі да самога сябе, дык не назаўсёды ж самога сябе хопіць. Я адчуў гэта днямі безнадзейна цяжка...

* * *

На труне працавітай і здольнай, і маладой Тамары Чабан па-вясковаму гарэлі тры вялікія свечкі, адна ў галавах, дзве абапал грудзей са складзенымі на іх рукамі. Стоячы ў ганаровай, жалобнай варце, я адчуваў векавую, мудрую вясковасць, народнасць гэтых агеньчыкаў, што цёпла патрэскваліся, перашэптваліся паміж сабой, і ўспамінаў грамніцу ў бацькавых руках. Ён, відаць, меў нейкі час для развітання, як ён ні цяжкі быў, той час, бо ён жа, бацька, і перахрысціў нас, трох малых сыноў, хоць цераз сілу, ён жа і чуў, відаць, наш плач, з якім і адышоў?..

Што ж, паглядзім, як яно будзе. І нікому ўжо не раскажам.

* * *

Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі ўспамінаў адну з найбольшых раскошаў жыцця — тое, як маці купала яго ў цэбры, накрывала там, каб добра выпарыўся.

Запісана гэта яго пляменніцай, нястомнай Галінай Максімаўнай,— адтуль адчуваю тую малечую радасць слаўтага, шматпакутнага акадэміка.

Не помніцца, ці ёсць там пра такое, што мне цяпер ярка прыгадалася. Як мая мама, ужо ў Загоры, значыцца, калі мне было пяць ці шэсць гадоў, падняўшы мяне з дужа цёплай балеі, пацалункамі высмоктвала мыла з вачэй, каб не плакаў — пястун. Зусім не брыдкае, бо шчаслівае слова.

* * *

Замучаная паліваннем дачнага агарода, забеганая па магазінах за адзін свой цэлы мінскі дзень, бабуля ўжо легла, а ўнукі сядзелі каля тэлевізара. Яна яшчэ не заснула, але прыкінулася, што спіць, калі хлопчык ціха прылёг на суседнім ложку, пагладзіў яе руку, пацалаваў тую руку і пачаў засынаць.

Якое маўчанне ў іх, асабліва ў бабулі!..

* * *

Абжытасць новага жылля не толькі ў тым, што мы тут ужо спім, ямо, працуем. Учора, праходзячы каля паштовых скрынак у нашым пад'ездзе, прыемна падумалася, што наша ўжо тым часам сагрэта пісьмамі добрых людзей,— ад яшчэ ўсё нязвычнага ў вымаўленні Санкт-Пецярбурга да Кіева, Краснадара, Лодзі, Прагі... а найбольш Беларусі і Мінска.

*1985—1992*

# З РОЗНЫХ ГАДОЎ

## Маё загорскае

Замест былой, з маленства светлай, цёплай, паэзіі кароў, цялят, парасятак — панылая канцлагернасць комплексаў. Быкі (гаворыцца ды пішацца далікатней — «бычкі»), каровы, цяляты ў неспакойным тлуме, месяцца ў чорным глыбокім гнаі і ледзь не ўголас скардзяцца на такое жыццё. Асабліва цяляты. Расстаўленыя вушы, вільготныя пысачкі, штосьці такое малечае ў даверліва-добрых, вялікіх вачах.

Пасля ўсёй гэтай канцлагернасці на адной з фермаў прыемна было ўбачыць карову ў прасторнай, чыста падасланай загарадцы — перад цяленнем.

Ажно мне ўспомніўся бацька, на маім шостым годзе. Як ён, бывала, падсцеле нашу Падласку, першую пасля Адэсы, і не вытрымае — сам прыляжа на тоўстай ды свежай пасцелі з жытняй саломы. І сына малога пакліча прылегчы. Селянін, што пасля трох дзесяцігоддзяў службы на чыгунцы вярнуўся ў роднае Загора, да свайго пачатку.

* * *

Мужык зайшоў да пана, а той снедае. Намазаў булку маслам ды яшчэ і скрыль каўбасы зверху палажыў. Мужык аж застагнаў.

— Ты чаго стогнеш? — пытаецца пан.

— Ой, паночку, добра гэта, калі дабро на дабро лезе! А як бяда на бяду?

— А што ў цябе за бяда?

— Ды скула, пане, села на кіле!..

...Дзяк пад мухай чытае ў царкве «за здравие». Іваны,

Ганны, Міхаілы, зноў Іваны... А потым пайшлі Ціты, паўвёскі Цітоў, адзін за адным. Божая дудка заскакаў на месцы:

— Ці-та-та! Ці-та-та!!.

Расказваў мне гэта вясёлы дзед, калісьці чыгуначны тэхнік, у мястэчку сваім апрасцелы «талстовец».

* * *

«Маскаль», прахожы салдат, на вясковых «дзядах». Пашанцавала яму — запрасілі за стол. Бабуля кажа:

— Ты, салдацік, адразу не наядайся адной капусты, будзе яшчэ адзінаццаць страў.

Ён і асцерагаўся. А потым, пасля дванаццатай стравы, панцаковай кашы, нагадаў гаспадыні пра першую:

— А вороти-ка ты, бабушка, щи... Ну, капусту по-вашему!..

* * *

Нявестка расказвае:

— Сям'я наша вялікая, а гаршчок закінуць няма чым. Што ж, возьмеш пеўнева крыльца, што засталося ад усяго, усё роўна як жабу сухую знойдзеш у каляіне, і закрасіш.

* * *

Адзін святочны каптан на двух нежанатых братоў. Прыйшоўшы ў нашу вёску на вечарынку, як толькі музыка рэзне, старэйшы распранаецца і крычыць малодшаму: «Трымай!» Потым — наадварот.

Абодва здаравенныя, асабліва малодшы. Калі рабілі на гасцінцы мост, прыпадымаў дваццаціпудовую «бабу». А як у школу мы з ім хадзілі, хоць ён і старэйшы за мяне гадоў на пяць, ён крэсіў чучкамі па канцы парты, паказваючы нам, што і зусім яму не баліць.

* * *

Брат-настаўнік — з тых, каму работу далі толькі ў цэнтральнай Польшчы — прыехаў у госці да брата-гаспадара. З жонкай-паняй. Брату-гаспадару цяжка прыдумаць, як даступіцца да гэтай пані. Абедаюць.

— Ешце, Ядзя,— частуе гаспадар.— Хочаце — буракі, хочаце — панцак.

Буракі — боршч бурачны з мясам, а панцак — на другое, забелены. І нябедна, і па-святочнаму. Брата дык па старой памяці Івана назавеш, а братавую — хто яе ведае. Можа, лепш пані? Бо ўсё маўчыць ды ўсміхаецца.

* * *

Гаспадарлівая, вясёлая цётка:

— Нешта масла маё на гэты раз **спалюханае.** Бялейшае, чым трэба.

* * *

Коласаў брат, стары дзядзька Юзік, калі мы ездзілі ў Навагрудак выступаць, раненька зайшоў у мой гасцінічны нумар — пагаварыць. Між іншым і такое:

— Аладкі ў нас, у Мікалаеўшчыне, пяклі і з аўсянага цэду і называлі іх **божыя анучкі.**

* * *

— Адпачыў бы ты, чалавеча, халера яго ўсё пераробіць!

— Ат, усё роўна ўжо, адпачынем у татарскім квасе. На Новы год у нас варыўся «квас», суп такі, з пшанічнай падкалотай і кавалачкамі тлустай свініны, з рабрынкамі. Відаць, той працавіты дзядзька думаў, што і татары ў нашым Міры вараць таксама квас, але з канінай. Там і канец каняжыне! Хоць, можа, і ведаў чалавек, што старое каніны не ядуць.

* * *

На «дзяды», раней чым сесці за стол, трэба было памаліцца.

Маці малілася шчыра. Коля, яшчэ зусім малады гаспадар, старанна пераймаў яе. А мы з Мішам, падшпаркі-вучні,

ледзь трывалі, стоячы ззаду і пераймаючы яго стуканне кулаком у грудзі і паўтаранае тройчы:

— Боже милостивый, буди мне грешному! Боже милостивый...

З Адэсы гэта было прывезена.

* * *

Да пахаў маленства, дзіцячага шчасця, мілай утульнасці ў хатнім свеце сурова добрай, трошкі больш як пяцідзесяцігадовай матулі трэба дадаць і цёпленька смачны, з ціхуткім жывым патрэскваннем пах свежага, несалёнага масла ў лампадцы перад іконай. Той, што на самым покуці, той, абапал якое было яшчэ некалькі, цэлая анталогія святых легендаў, пачутых мною з-за прасніцы...

* * *

Пасля вучобы ў сямігодцы і патроху ў гімназіі, дома, у вольны час, у Мішы было яго маляванне, маё пісанне і наша агульнае — кнігі. Вечарамі даволі часта заходзіў Паганчык Іван па мянушцы Казак, што потым ажыў у «Золаку, убачаным здалёк». У Івана была скрыпка, у Мішы мандаліна. Нашы мастацкія вечары, асабліва на шарай гадзіне. Рускі вальс «Грусти», мелодыя польскай песні, туга па радзіме з выгнання — «За мгла́мі, за гура́мі»... І паэтычны сум ужо не падлеткаў, а юнакоў, у якім таілася куды больш надзеі, чым адчаю, той сум, што светла помніцца і сёння.

Мне аднаму, бо іх ужо даўно няма.

* * *

Аднойчы мы з Мішам, малыя, ледзь не пабіліся. Толькі ледзь, бо ён спалохаўся маёй злосці, а я спалохаўся таго, што хацеў зрабіць. Першы і адзіны раз.

Пазней, падлеткамі, мы з суседнім хлопцам паганялі ў малатарні коней. Нудна гэта — кружыцца ў прывадзе цэлы дзень. Мой напарнік, вялы і тупаваты Федзя Кашавар, каб гаварыць хоць пра што, спытаўся:

— Хто з вас, Ваня, каго пабіў бы — ваш Міша цябе ці ты яго?

Дагэтуль жыва помніцца, як я зарагатаў ад недарэчнага пытання.

* * *

Да майстравання я быў заўсёды амаль «бязрукі». У школе пераплятаў сяк-так падручнікі, падлеткам рабіў нічальніцы, юнаком мог зляпаць табурэтку, веснікі — на мяжы магчымага. Добра рабіў толькі цяжкае: гной накідаў, снапы вазіў адзін, араў...

Намаляваць умеў адно: дом са студняй, плотам, комінам з дымком, сцежкай да студні і дрэвам, а то двума. Але заўсёды не хапала фантазіі намаляваць галіны ды галінкі так, каб адна на адну былі не падобныя.

Калі ж хто-небудзь іншы майстраваў ці маляваў — так добра было глядзець. Замілаваная цікавасць да нараджэння новага ў чужых руках.

І да песні, да ўсяго прыгожага быў чулы.

* * *

Міша ўжо браўся на кавалера, добра танцаваў, захапляўся дзяўчатамі. Зімой, вярнуўшыся з Палужжа, што каля Карэлічаў, дзе ён некалькі дзён гасцяваў у Ганны, нашай старэйшай, удовай сястры, памагаючы ёй, ён з радасцю адкрывальніка расказваў пра тамашнюю моладзь, пра песні іхнія, пра танцы з прыпеўкамі. Што-небудзь робячы, успамінаючы тыя полькі, ён прыпяваў:

Людзей поўна, як ўсё роўна
дзе на сходзе ці ў кірмаш...

А тады з асаблівай прыемнасцю, нібы пазвоньваючы імёнамі:

Ёсць Пранцыся, Дамянiся,
Грышка, Саўка і Тамаш!..

Яна гэта — Купалава народнасць!

* * *

Лета ў Палужжы, трыццаць пяты год. Увечары, пад канец вяселля, моладзь патрабуе з жаніха («кулачка!») **паваротнае**, выкуп за дзяўчыну, якую бяруць у іншую вёску. Ідзе торг. Камсамольцы папярэджваюць, што грошы не ім на прапой, а на справу, разумеецца, падпольную. Бравая цешча з ганка:

— Дзесяць злотых даю!

Моладзь з натоўпу:

— Мала!

— Мала?! — злуецца цешча.— Дык абліжы мяла!

Ды тут раптам крык:

— Паліцыя!

Усе — хто куды. І я разам з усімі.

* * *

Ашнары́. Пад Ашнара́мі. Была такая вёска на круглiцы поля каля гасцінца, паміж нашым Загорам і Трашчычамі; так гаварылі пра тое поле, хоць вёску мала хто і са старэйшых памятаў. Тыя ашнароўцы перасяліліся, казала легенда, у нейкую Яблонаўшчыну на Случчыне.

Назвы, якія адміраюць. Далей за Ашнарамі была Кла́даўшчына, нізкі ўрадлівы луг, а яшчэ далей, да самай ракі Вушы, Пісарыўшчына, што належала князю Мірскаму. На той сенакос у дваццатых гадах хадзілі ў заработкі, капаць **тарфу.** Выплочваць людзям прыязджалі з Міра і ў нашу вёску. Памятаю, як Парашчын Іван, трохі нягеглы, а больш дасціпны дзяцюк, сварыўся з нейкім князевым ужэнднікам, што хацеў яго ашукаць:

— Гэта вам, пане, **заўсты́дам!..**

Што ні па-нашаму, ні па-польску. Таму і помніцца.

Мы ў заработкі тыя не хадзілі, бо малыя з Мішам былі, а Мікалаю, шаснаццаць-семнаццаць гадоў, работы хапала і дома, аж лішне.

* * *

Баба Палуся і не падумала, відаць, ані разочку за свой век, што імя яе — ажно ад Апалоніі?

* * *

Наша набожная маці з усмешкай скардзілася на такую несправядлівасць:

— Бабы нават і ў пацерах няма!..

* * *

Старая палужская Ханьчыха на пахаванні сваёй хрэсніцы, нашай пляменніцы Волечкі, счапілася з маладым папом, які загуляўся на фэсце і доўга не прыязджаў. А ён яшчэ і смяецца:

— Вот бабушка, хоть замуж выдавай!

— А я і пайшла б. Толькі ўжо каб за папа.

— А что же так?

— Бо агоркла за век працаваць, гараваць... Чакаць вось, як цябе...

* * *

Прэсвітэр пяцідзесятнікаў Панько, чалавек з суседняй вёскі Церабостынь, ездзіў вучыцца «на таго папа» ў Амерыку. Відаць, адтуль ён і прывёз абавязковае:

— Братья и сестры, встанем на наши ноги!..

Малому мне смешна, хацелася падказаць, каб пасля той малітвы — такую каманду:

«Братья и сестры, сядем на наши...»

* * *

Увечары над ракой, вяртаючыся з касавіцы. Адзін дзядзька крычыць другому з вады:

— Лезь, Паўлюк, трохі памыемся!

А той з моста толькі рукою стомленай махнуў:

— А што бабы будуць рабіць?

Намёк на апошняе мыццё.

* * *

У прынёманскай вёсцы пра плытнікаў кажуць:

— Нашы мужчыны ніколі зямлі не трымаліся. Ад лёду да лёду апраўляліся ў ваду.

Толькі не так ужо далікатна казалі.

* * *

Кашулі ў нашай вёсцы шылі мужчынам з палатна кужэльнага, а споднікі давалі зрэбныя. «Дзе ім, жарабцам, кужалю таго набрацца!..» А «жарабцы»-суседзі бяскрыўдна смяяліся.

* * *

Гліняная міса з рубцом, поўная фасолевага супу з бульбай. Сюды яшчэ і хлеба добрую лусту. Прысядзеш, і згадаецца зноў жа Пушкін:

«Да щей горшок, да сам большой!..»

* * *

Суседскія сталы сыходзіліся ў адну хату не надта часта. Адзін-два разы на хрысціны ці проста, як у нас гаварылася, на радзіны, два-тры на хаўтуры або памінкі, а найбольш на вяселлі. З некалькіх хат, калі менш, калі багацей.

* * *

Што-небудзь трохі не так, дык яно і помніцца. І як жа доўга! Больш за паўвека прайшло ад вяселля суседскай дзяўчыны, а вось жа помню, што сукня, фата былі ў яе, як і належыцца, беленькія, а панчохі чорныя... Зрэшты, «чамусьці» рассакрэчваецца вельмі проста — Анюта была сірата пры братавай сям'і дый таўкачаватая крыху, белых панчох не дастала.

* * *

На бедных вяселлях, каб лепш паказацца, да каня ў аглоблях прыпрагалі другога каня. Ні два, ні паўтара з той пáры. А калі ў радні хто-небудзь жыў пры цару ў горадзе, дык праз адну-дзве чаркі на ўсю бяседу спявалі: «Налей, налей бакалы!..» І запрашалася так: «Госцейкі, налівайце бакалы!»

І не смешна.

* * *

У местачковага краўца Вэльвула худы і бледны вучань, яшчэ падлетак. І кліенты, і сам гаспадар, і старэйшы чаляднік сяды-тады пацяшаюцца:

— Ну ж і благі ты, Ёсель! Згуляўся, за дзеўкамі забегаўся? Ці чаму?

І ён аднойчы адказаў, па-свойму ціха, з нясмелай усмешкай:

— Няма малака.

І ў гэтым адказе многа чагосьці, што вось і помніцца мне са школьнага маленства.

* * *

Едучы зімою з Налібоцкай пушчы з дровамі, мужчыны спыняюцца ў ярэміцкай карчме, што наводшыбе над Нёманам. П'юць чай і пацяшаюцца з карчмаркі, муж якое паехаў у Дзераўную:

— Бяда, Сорачка, з тваім Шлёмам. Чулі людзі, што ў дарозе ён адмарозіў **патрэбнік**.

Яна, вядома ж, не верыць. Нават усміхаецца.

* * *

«Дровы бярозавыя! Дровы дубовыя! Дровы альховыя!..» І далей — сасновыя, яловыя, асовыя... З адпаведным акцэнтам, інтанацыямі, крыкам. Гэта — «малітва» ў «школе», сінагозе, як яе мужчыны на вячорках часамі паказвалі. І не было тут ніякага антысемітызму, бо і слова такога не ведалі, ні варажнечы — проста весела.

* * *

Пра корчмы ды карчмароў у маленстве маім чулася ўжо, так сказаць, гістарычна. А старыя, старэйшыя іх памяталі. Маці мая расказвала пра Сорку, дачку карчмарову, як яна забаўлялася з дзіцяткам. Спадабалася маме такой, што яно смяецца ад козыту і даказыталася, што яно, беднае, ад смеху ажно зайшлося. Тады ўжо яна давай, сама плачучы: «Казы̀, казы назад, казы, казы назад!..» Ледзьве адратавалі.

* * *

У Лейзара памёр любімы парабак. Купец з жалю вырашыў паставіць яму помнік. А каб было трохі танней, надпіс на прывезеным камені стаў дзяўбсці сам:

«Ту..лежы...муй...бардзо...добры... паробэк...»

Ды вось яго паклікалі чагосьці ў краму, ён пайшоў, начынне пакінуўшы.

А тым часам цераз мястэчка праходзіў беспрацоўны. Убачыў камень перад домам, прачытаў той надпіс, падсеў і дадзёўб:

«Он..ці..юж..не..ест...паробкем...ты...му...не...естэсь... панэм... поцалуй...го...ў дупэн...амэн».

Чулася гэта ў пачатку трыццатых, у гады суровага крызісу, калі, між іншым, і гарадскія беспрацоўныя снавалі па гасцінцы часта. Ад гміны — да гміны, а ў кожнай ім выдавалася невялікая дапамога. Калі па дарозе траплялася школа, беспрацоўныя заходзілі: а мо і з настаўнікам пашанцуе.

У Загоры нашым настаўнічала панна Зіна, а сам Груша, бацька яе, настаўнік і мой, быў ужо на пенсіі. Скупаваты, як гаварылася, ён, што расказвала потым служанка, даў аднойчы беспрацоўнаму дваццаць грошаў, а той, не ўзяўшы, выняў свае пяцьдзесят:

— Маш пан на твоён бідэн!..

З тым помнікам, можа, і анекдот. А «біда» запомнілася як быль. А здарылася яшчэ і так, што солтыс прывёў нам на начлег беспрацоўнага, а той — абагрэты, накормлены, наслухаўшыся пра крызісныя злыбеды,— уранні хацеў пацалаваць нашай старой маме руку і паімкнуўся таксама даць ёй нейкую дробязь, сказаўшы:

— Матко, на суль.

Стоячы з гаршчэшнікам каля палаючай печы, яна і рукі цалаваць не дазволіла, і «на соль» не ўзяла, толькі расхвалявалася да слёз.

А ў мяне пасля таго выпадку засталася запісанай і такая тэма, з тых, што не здзейснены: «Беспрацоўны ў вёсцы». Так вось проста. Але не проста было напісаць. Здаецца нават, што п'еса такая задумвалася, на пятнаццатым годзе... А ўчора яно ўспомнілася. Пачаўшы ад той эпітафіі.

* * *

Адну, старэйшую, што служыла ў местачковых яўрэяў, у вочы хтосьці аблаяў: «Памыйніца ты жыдоўская!..» А ўжо сам я аднойчы чуў, як маладзенькая, прыгожая, міла ўсмешлівая апраўдвалася перад сваякамі, чаму ўцякла ад рабіна, дзе трэба было ёй і з-пад яго дарослых сыноў выносіць раніцай гаршкі...

* * *

Гарбатую местачковую сірату чамусьці празвалі Царыцай. Мала што гарбатая, дык яшчэ і гарбаносая. Ідзе па тратуары, а на яўрэйскім ганку перад крамай стаіць важны вясковы кавалер, па модзе — з кульбачкай. Глядзіць зверху дый кажа:

— Тожа мне сушчасцвіцельнасць ідзе!..

Гадоў праз некалькі, у акупацыю, ён стаў паліцаем, з іншай «кульбай». Ці ёсць тут нейкая сувязь?

* * *

Вясковы трохі інтэлігент, які і ўвосень трыццаць дзевятага, і пасля вызвалення ў сорак чацвёртым, пакуль усталяваўся большы парадак, працаваў нават настаўнікам. Потым — зноў на сваю гаспадарку. Недавучка, да кнігі не надта ахвочы, а з гонарам.

Нешта ў сорак восьмым, неўзабаве пасля таго як вярнуўся з Таджыкістана, быў я ў брата і на зімовых доўгіх вячорках расказваў мужчынам пра тое, як будаваўся самаркандскі рэгістан. Калі дайшло да бычынай крыві, тым больш да яечных бялкоў, «настаўнік» той устаў панура, сказаў на ўсю хату: «Лож!» — і пайшоў дадому.

А гадоў праз пятнаццаць, калі я гасцяваў там улетку, ён зайшоў да мяне, аднаго ў хаце, і даволі доўга ды з нуднай прыязнасцю павучаў, як я павінны напісаць кнігу пра тое, што ў нас тут адбывалася — і пры цару, і пры паляках, і пры немцах, і як яно цяпер... Нават і назву гатовую прынёс, прычым для большай важнасці на рускай мове: «Из тьмы к свету».

— Так і назаві!

Сыны затое здольныя, у людзі пайшлі спраўна. У Мінску, вядома, пасля інстытутаў. Пра што ён расказваў з натуральнай, зразумелай радасцю.

* * *

Зноў з наднёманскай вёскі.

У чалавека сын быў перад вайной вялікай шышкай у Мінску. Упрасіў ён бацьку пераехаць з панскай Польшчы туды, і той пераехаў з другім сынам. Трэці сын не паехаў, не захацеў, застаўся на гаспадарцы. А там, у тым хвалёным Мінску, на пачатку трыццатых гадоў было галаднавата.

— Тры селядцы выстаяў у вочарадзі,— расказваў потым дзядзька,— адзін,— кажа,— з'ямо, а тыя пакінем на выхадны!.. А дома ж у мяне дзве каровы было, япрука тым часам заколеш. А селядцы жыды па вёсках у бочках возілі — толькі бяры!..

Колькі сын ні ўпрошваў бацьку не губіць яго, не ехаць назад, той паехаў, пакінуўшы абодвух сыноў. Палякі — «чэрці, яны ўсё ведалі цераз граніцу!» — у Стоўбцах яму такое вітанне наладзілі, што нават аркестр духавы з пажарнай каманды іграў на пероне... На выклік у пастарунак дзядзька не пайшоў, паслаў таго сына, што з ім у Саветы не ездзіў.

А тыя абодва, што ў Мінску, «так недзе, бедныя, неўзабаве і захлынуліся»...

* * *

На нашым дзедаўскім помніку імёны: «Даниил, Ульяна, Василий, Иван, Екатерина, Александр, Ева, Павел». Нават даты няма, калі пастаўлены помнік. Як памінанне нейкае. Толькі і ведаю, што першыя два — мае дзед і баба. Мох трэба было адціраць і літары, словы вычытваць упрытык. І ўжо спытацца няма ў каго пра тыя іншыя імёны. Вось яна — наша генеалогія!..

* * *

Змалку іх ведаю. Спачатку сіраты без маці, а потым і бацька памёр. Ох, як даўно гэта было, калі ў іх да таго яшчэ і карова здохла, праглынуўшы цвік, а мы, моладзь апошняга заходнебеларускага года, паставіўшы чарговы спектакль, хацелі зробленыя грошы даць ім на карову. Цэлы бунт пачаўся, бо бацькавых братоў, а з-за іх і самога бацьку сіротаў, нядрэннага чалавека, нават з гумарам, у вёсцы многія не любілі... А цяпер вось, будучы дома, дзе ў мяне ўжо нікога няма, пачуў, што і бяздольная Любося, дажыўшы да горкай старасці, днямі памерла. І ўспомніў яе малодшага брата Гадзіка (Уладзіка, з-за дзіцячага вымаўлення), які загінуў у вайну...

* * *

Зноў успомніўся стары, бяздзетны хутаранец Данька,— як ён зімовым вечарам клаў на кабылу няпоўны, як сяннічок, мех сена, з калодкі садзіўся на гэтае «сядло» і ехаў цераз гасцінец, полем у нашу вёску, да сваіх пляменнікаў. Кабыла, чым-небудзь накрытая або ўведзеная пад страху, хрупала сена, а ён сабе хрупаў гутарку. З Паўлам, старэйшым з трох пляменнікаў, які быў калісьці ў Пецярбургу паштальёнам, з сястрою трохі Данька гутарыў, старэнькай Тэкляй, менш з другімі двума пляменнікамі, якія пры Паўле і сябе лічылі разумнейшымі за суседзяў. Тэмы былі самыя розныя — уключна да таго, куды ж падзелася ўсё, з чаго складаўся Саламонаў храм?.. Калі па Святому Пісанію.

* * *

Дзед з праваслаўных, пасля быў пяцідзесятнікам, пакуль не зняверыўся. Цяпер, можна сказаць, зусім сучасны, бо і ад вывучаных дзяцей, і з радыё ды тэлевізара сяго-таго набраўся. Прыязджае ў сваю вёску з далёкае, куды забраўся ў прымы, і любіць пагаманіць з суседкамі, якія адна настаўніца, другая рахункавод, абедзве на пенсіі. Яны пытаюцца:

— Ну, а як жа вы, Анціпавіч, калі хаваць, захочаце — з прэсвітэрам вас ці з папом?

— Ат,— махнуў ён рукою,— хай патрубяць, дый годзе!..

* * *

Многа поля, двое коней, чатыры каровы, а дзядзька асмаліць аглоблі і ездзіць па далёкіх вёсках, як пагарэлец. Нажабраванай мукой і кавалкамі хлеба корміць потым свіней, а сена ды салома коням ды каровам.

Так было. Цяпер, у пачатку шасцідзесятых гадоў, унук таго «пагарэльца» занудліва, цягуча намагаецца ашукаць раённы міжкалгасбуд, які робіць яму цагляны дом.

— Зрабіце яшчэ і веранду. І хундамант глыбей ды вышэй. І на столі арнамант які...

І ўсё каб за тыя самыя грошы. Ходзіць, ные, усім у канторы абрыдзеў.

Жабрацкія гены?

* * *

За два няпоўныя савецкія гады, 1939—1941, нашы загорцы ўдосталь наслухаліся слова «иго» — «панское иго», «избавили от ига»,— і потым, калі прыйшлі немцы, гаварылі людзі так:

— Адны вызвалілі ад **і-га-га**, а другія вызваляць ад **му-у-у!..**

Забіралі кароў, бывала нават, што і апошнюю ў каго, калі солтыс зараза.

* * *

У заходнебеларускім кнізе-календары пра апошні перадваенны год чытаю — як прароцтва:

«Пануючай плянэтай у 1939 годзе ёсць Марс — плянэта гарачая і гвалтоўная, людзям не прыяльная».

### Гдыня — Хэлм — Гдыня

Хто пры цару служыў у салдатах на тэрыторыі Северо-Западного края, пра таго ў Загоры казалі: «Ат, капусту ў Гродне паліваў!..» Служылі хто ў Ерэване, хто ў Чыце, хто бліжэй — у Пецярбургу ці ў Адэсе. Калі старэйшы за мяне на год сусед пайшоў у польскае войска, а па ім плакалі мала

што дома, дык яшчэ і на вуліцы, дзед Пятроўчык смяяўся, па-свойму культурна вылаяўшыся:

— Полгроб твою мать! У Слонім ідзе, на загуменне, а яны галосяць!..

Ну а калі мне з яшчэ адным дзецюком прыйшлося ісці ў Гдыню, за восемсот кіламетраў, дык гэта ўжо было і зусім за свет вочы...

* * *

Чытаючы Жаромскага, сустрэў у тэксце слова **інтралігатар**, і яно нагадала мне першую ноч у Гдыні, фрайтра-інструктара, побач з якім, на другім паверсе казарменных ложкаў, мне выпаў гонар легчы спаць. А хлопец ён, як неўзабаве аказалася, калі мы спакваля разгаварыліся, быў людскі. Высокі, хутчэй цыбаты ды шчуплы, чарнявы, з вуграватым тварам. Пачаў гутарку, вядома, ён — спытаўся, адкуль я, а пра сябе сказаў, што з Варшавы, рабочы-інтралігатар, пераплётчык. І прозвішча прасцецкае — Кавальчык.

З будзённай усмешкай проста чалавечай удзячнасці ўспамінаецца, як той наш пераплётчык штодня на занятках, на сцюдзёных узгорках над морам, не ўмеў, не мог крычаць ды лаяцца, як іншыя дружыновыя, на рэкрутаў, хоць быў ён, праўда, толькі памочнікам інструктара. І тое згадваецца, як ён у той першы вечар сказаў пра плютановага Возняка. Той тоўсценькі выпівоха любіў пазычаць у рэкрутаў грошы «на пару дзён» і ніколі не аддаваў. І праўда, неўзабаве, у нядзелю, Возняк запыніў мяне на казарменным калідоры і мяккім шэптам загаварыў пра «парэ злотых» на «парэ дні». Папярэджаны, я лёгка выкруціўся: «Пакуль што няма, хутка прышлюць». Пасля ён, аднак, не прасіў, здагадаўся.

Праз два тыдні, як толькі Гітлер ткнуў у Польшчу першым ультыматумам пра Гданьскі калідор, нас, маладых салдатаў, пераапрануўшы ў цывільнае, перавезлі закрытымі таварнякамі ў Хэлм, з 2-га батальёна марской пяхоты ў 7-мы полк пяхоты легіёнаў. І там ужо ў нас былі іншыя нянькі.

На той час ранішнюю і вячэрнюю малітвы на словы паэта Карпіньскага, якія рота спявала сякім-такім хорам, замянілі на старадаўнюю, грунвальдскую «Багародзіцу-дзевіцу». Развучваў яе з намі памочнік інструктара, маленькі ды вусаценькі, крыкліва-злосны, пра якога гаварылася, што калі пан Езус нарадзіўся ў «жлобе», яслях, дык гэты гуўняж у ротным катле. Сын палка. Днявальных ён звычайна папя-

рэджваў увечары, каб яго будзілі за пятнаццаць мінут да агульнай пабудкі, каб ён, значыцца, паспеў спакойна ўстаць, адзецца, памыцца і тады ўжо заняцца сваім крыкам. Я меў асалоду той яго прыцішаны загад не выканаць. І сёння бачу: я стаю перад вялікім акном яшчэ царскай казармы і гляджу, як на пляцы ад чырвона-цаглянага блока, дзе камандаванне палка, да помніка героям польска-бальшавіцкай вайны спакойнай, мернай хадой набліжаецца палкавы гарніст. І толькі ён узнімае да вуснаў муштук свайго горна, я крута паварочваюся ад акна і на ўсё горла крычу: «Пабудка! Пабудка! Устаць!» Пачынаецца шолам і вэрхал, у якім патанае і вяканне нашага вусаценькага крыкуна, якому пакуль што няма калі аблаяць «службовага» за здраду, што ён зрабіў, вядома, пазней, паставіўшы на «бачнасць» здараненнага «кацапа», які яшчэ і ўсміхаецца.

Ротным гарністам быў у нас мясцовы, з-пад Здалбунова, украінец Паўло, які сваю трубку звычайна хаваў пад падушку, бо сёй-той з нас, у тым ліку і я, любіў павучыцца трубіць. Па службе гэты струмант выкарыстоўваўся кожны дзень аднолькава. Калі рота ішла за горад на заняткі, перад ёю конна ехаў камандзір, а за ім ішлі гарніст і барабаншчык, якія ў паўзах паміж спевам паддавалі нам сваім стукам ды хрыпам маршавага настрою. Нашым дружыновым быў добры хлапчына Кастэцкі, што працаваў да службы сыраварам. Калі яму, «старшаму легіяністу», яфрэйтару, павінны былі заўтра даць лычку капраля, ён ціха адвярнуўся на сваім ніжнім ложку да акна і непрыкметна, як яму здавалася, ужо прышываў тое серабро да пагона. А мы, па-сапраўднаму непрыкметна, перашапнуліся, перамігнуліся, і Паўло, хоць і стары салдат, якому паложана быць больш дысцыплінаваным, выцягнуў з-пад падушкі свой горн, хтосьці скамандаваў: «Дру-жы-на, бач-насць!», а труба радасна захрыпела пачаткам нейкага марша. Наш заўтрашні капраль спачатку ўсхапіўся, хацеў крычаць, а потым і сам засмяяўся.

Добра яно ўспамінаецца — простае, людскае, што ад самага нізу.

* * *

У верасні восемдзесят дзевятага года ў пісьменніцкім Доме творчасці «Іслач» адпачывала пара палякаў, перакладчык нашай літаратуры, у тым ліку і мой, з жонкай-эканамісткай. Калі я наведаў іх там, мы, пасля сяброўскай

перакускі, пайшлі прайсціся — у недалёкае мястэчка Ракаў.

Ідзем, гамонім, а на ўзлеску сядзіць на пянёчку адміністратарка нашага дома, ціха і сумна, нібы стаміўшыся ад далёкай, нялёгкай дарогі. Расказала, што з пошты ідзе. Сынок-салдат папрасіў прыслаць грошай. Тэлеграфам. І не тое гэта, што ён у яе распешчаны адзінец, і, дзякуй Богу, не здарылася нічога, [illegible] проста... Проста, звычайна — «дзедаўшчына», наша хамскае зверства, здзекі старых салдатаў з маладых. Хлопца прымусілі папрасіць у маці грошай ім на выпіўку, прычым неадкладна, калі ён не хоча, каб яго пабілі, дый не раз. А ў мамы зарплата — сто дзесяць рублёў...

Я паслужыў у дзвюх польскіх часцях, у пашахонскім пяхотным легіяністаў і ў элегантным батальёне марскіх стралкоў, і ніякага здзеку старэйшых салдатаў з маладых не бачыў. Не чуў такога ні ад сваіх братоў, якія абодва служылі, ні ад знаёмых. Тады, на ўзлеску каля Ракава, мне прыгадаўся толькі такі выпадак. Калі мы вярнуліся з Хэлма ў Гдыню, ужо прайшоўшы хто стралковае, хто кулямётнае ці мінамётнае абучэнне, гатовыя да супрацьстаяння з ворагам усутыч з ім, я аднойчы быў рады атрымаць звальненне ў горад. Такое шчасце тады было вельмі рэдка, гарнізон стаяў у павышанай баявой гатоўнасці, у жніўні мы нават і спалі, распранаючыся цераз ноч, на змену. Нацешыўшыся вуліцамі, скверамі, караблямі ў порце, адзінотай, морам, я пад вечар падаўся на прыгарадную паляну, дзе чуваць былі танцы. Толькі ўвайшоў у той шумна-вясёлы салдацкадзявочы гам — сустрэў малазнаёмага капраля з нашай кулямётнай роты. Адказыраць я павінен быў, і не больш. А яму якраз і трэба было ад мяне больш. Высокі, як і ўсе мы, і моцна рабы, як ніхто з усёй роты, ён спешна, нахмурана зашаптаў мне, што зноў вось наспявае бойка з маракамі. «У разе чэго — одразу багнэтэм у бжух!» Каго? Завошта?.. Ён заспяшаўся ад мяне, відаць, далей збіраючы сілы, а я пайшоў у казармы.

Бойкі бывалі, па дурной традыцыі, паміж родамі войскаў, у Гдыні марскія стралкі з уласна матросамі, у Хэлме — легіянеры з артылерыстамі з суседняга з намі палка. Пра такое падобнае расказвалі і іншыя ў нашай вёсцы, каму дзе і кім даводзілася служыць.

* * *

У батальёне нашым быў «стары» салдат літовец Бучаль. Нават з гумарам ды з хітрынкай. Капаем у падгдыньскім лесе акопы, спыніліся адпачыць. Пачалі, між іншым, успамінаць, як хто ў войска ішоў, як па ім плакалі. У розных родных кутках Польшчы і Беларусі. Бучаль сядзеў на горбе свежага пяску, звесіўшы ногі ў акоп.

— А па мне, сіраце,— далучыўся і ён,— не было каму плакаць, дык я пляменнічкаў, братавых дзетак, нашчыкаў, нашчыкаў — яны і паплакалі!..

Любіў хлопец прыкінуцца няўмекам, прасцячком. Так і служыць як быццам лягчэй. Нават часамі песню зацягне сумную, а то і зацілімкае раптам, таксама для сябе, на роднай літоўскай. Бяскрыўдны быў, неганарлівы перад маладымі.

* * *

Наш сусед у Загоры, Вінцусёў Захара, калі служыў у войску і прыходзіў «на ву̀рляп», не толькі не фанабэрыўся сваім жаўнерствам, як большасць адпускнікоў, а нават, падыходзячы да маладой кампаніі на вуліцы або сустрэўшы каго аднаго, ці маладога, ці старэйшага, не браў пад казырок, нібы адпачываючы ад гэтага абавязку, а проста прыпадымаў сваю «рагатыўку» — на «добры дзень». І не пшэкаў, як некаторыя, а «здрастуйця, цётко Юсто!», «здрастуйця, дзядзько Арцём!», «здарова, Любося!»...

Успомніўшы гэта, думаецца, як жа яму цяжка было служыць, без ведання чужое мовы і пры нязграбнасці працавітага вясковага ламавіка, а да таго яшчэ і ў конніцы.

І іншае ўспамінаецца.

Старэйшыя дзецюкі і мужчыны, што кожны ў свой час адслужылі ў польскім войску, успаміналі ўсялякае, хваліліся, а мы, малыя, прагна слухалі. Адтуль мне каросліва-неадчэпна помніцца, як адзін з тых ваякаў не разумеў, чаму гэта так было ў яго аднойчы ў бардаку:

— Я — на ёй, а яна сабе газетку чытае!..

Рогат і голас:

— Ага, а ты любові захацеў!..

Калі нас, навабранцаў у сваёй вопратцы, гналі з вакзала ў казармы, з тратуараў абапал вуліцы гдыньскія прастытуткі крычалі, смяяліся:

— Тшы месёнцэ арэшту! Тшы месёнцэ арэшту!..

Так пра рэкруцкі час, без выхаду ў горад.

Улетку, пасля Хэлма ў Гдыні, у нядзелю я стаяў на ганаровай варце перад казарменнай брамай. Адна свабодная паненка падышла, папрасіла выклікаць ёй па прозвішчы салдата. Я сказаў, што не можна, не тлумачачы, вядома, што сёння выхад з казармаў зноў забаронены. «Пане, але ж я хцэ!» Паўтарыўшы просьбу і яшчэ раз пачуўшы адмову, яна сказала: «Ых, Ясь — зелёнэ ухо!» Так лаялі маладых салдатаў: вушы ў яго, маўляў, у вінтовачнай мазі. Я падышоў да бетоннага вушака, націснуў кнопку званочка, з вартоўні выйшаў другі службовы, якому я сказаў: «Узяць яе!» Пасадзілі дзеўку ў сутарэнне вартоўні, там яна пакрычала трохі, а калі супакоілася, выпусцілі, і яна, буркліва, па-мужчынску лаючыся, пайшла.

У Хэлме, на вялікай паляне, дзе праходзілі нашы ротныя заняткі, такія паненкі падбіраліся лесам так блізка, што наш ротны аднойчы паслаў касавокага Козака папрасіць іх адтуль не перашкаджаць. Той комік, што за свае мудрагельствы не вылазіў з розных нарадаў, калі не ўмывальня, дык туалет, элегантна падышоў да першай дзявочай групкі, казырнуў двума пальцамі і ветлівенька папрасіў, чамусьці сказаўшы ім не «пані» ці «паненкі», а:

— Панове курвы, пан паручнік Ліпняцкі бардзо просі вас одпепшаць стонд!..

Каля Гдыні, калі мы капалі акопы, гэтыя работніцы падыходзілі да нас зусім ужо з таннай, прыкрай агрэсіўнасцю. Адна чарнушка ў стракаценькай сукенцы пачала не толькі загаворваць са мною, прысеўшы на брустверы побач, але і цікавіцца якасцю запыленых «дрэліхаў», памацаўшы за калена.

Прыгожая, такую ў першы вечар, калі б не ведаць, хто яна, і абняць не адразу асмеліўся б, а тут такое... Гідка.

* * *

У Хэлме, у суседніх з намі казармах палка цяжкай артылерыі, служыла многа заходніх украінцаў. Яны ахвотна былі санітарамі, халуямі. Тыя, з кім я пасябраваў, і мяне ўгаворвалі пайсці ў халуі. Я смяяўся, не могучы ўявіць сябе, кніжніка і паэта, які ўжо і друкавацца пачаў, у такім лёкайскім становішчы, а хтосьці з іх не разумеў:

— А што? Пачысціў яму чобаты і гуляй собі па горадзе, як чумак!..

* * *

Кампанейскі, вясёлы Пятро Казланюк, львоўскі празаік, расказваў мне, калі мы пазнаёміліся ў студзені шасцідзесятага года:

— У дваццаць пятым годзе ўзялі мяне паны ў сваё войска. Ну, служу. А месяцы праз два давудца кампан'і выклікае мяне ў канцылярыю і пытаецца: «Козлànюк, то вы естэсьце комуніста?» — «Комуніста, пане капітане!» — «Но то пуйдзеце до дому. До дупы мі таке войско!..»

Сустракаліся мы з Пятром Сцяпанавічам рэдка, у Кіеве або ў Маскве. І заўсёды весела ўспаміналася тая даўняя дэмакратыя.

* * *

У Хэлме памочнікам камандзіра ўзвода ў нашай роце быў стары, як нам бачылася, старшы сяржант, што раўназначна фельдфебелю, яшчэ з легіёнаў Пілсудскага. Чапляўся абы да чаго і лаяўся абы за што, шапялява-бяззубы, як нямоглая баба, з паўпадалымі шчокамі, не выпускаючы з рота слова «курва».

Начныя заняткі, арыентацыя па зорках. Прыходзім на сваю паляну.

— Плютон, стуй! Доокола мне збюрка! Зачынамы. То, цо відзіце над собон, то ест, курва, небо. А тэ малэ курэўкі — то гвязды. А поляк — то ест така курва, жэ любі вальчыць, курва, не ў дзень, а ў ноцы!..

Ну, і гэтак далей.

На прысязе, калі спачатку прысягнулі каталікі, а тады пачулася каманда выступіць са строю праваслаўным, я зрабіў свае тры крокі, разам з нешматлікай лінейкай землякоў адбыў цырымонію і па камандзе ўступіў у строй. Пакуль прысягалі яўрэі, якіх было яшчэ менш, старшы сяржант, стоячы побач са мной, правафланговым, прыцішана прашаптаў:

— То ты, курва, естэсь православны? — Як быццам ён не ведаў гэтага дагэтуль.— То як се, курва, зачне война, то ты мне заржнеш, а сам, курва, уцекнеш до большэвікуў?..

У Гдыні іншы старшы сяржант, «шэф кампан'і», ротны старшына, лаяўся яшчэ больш і не так аднастайна. Найчысцейшымі словамі, апроч той самай універсальнай «кур-

вы», былі ў яго «бедуін», «фуяра», «гангрэна», а далей ішла такая вобразнасць, такая высокамастацкая мярзота, што і запісваць нельга, тым больш друкаваць.

* * *

Мой першы дзень «службовага стшэльца» ў падафіцэрскай школе.

Трэба сказаць, што трапіў я туды зусім без ахвоты. Першы раз перад строем адмовіўся, і палкоўнік аблаяў мяне бараном, а за другім разам, калі ротнага старшыну, што пайшоў у адпачынак, замяняў «падофіцэр мундуровы», загадчык склада вопраткі і абутку плютановы Кахаioўскі, у дзённым загадзе пад вечар было пададзена ў адным з пунктаў, што ў школу падафіцэраў, якая пачала ўжо вучобу, дадаткова адкамандзіроўваецца стшэлец Брыль. Загад загадам, тут ужо не выкруцішся. Плютановы павёў мяне на свой склад пераапрануцца ў новае. На калідоры, калі мы засталіся адны, гэты, як мне здавалася па прозвішчы, ледзь не далёкі нашчадак славутага Яна Кахаioўскага з Чарналясу, вершы якога і я ведаў, нават некаторыя любіў, ён раптам брыдка аблаяў мяне на маёй роднeнькай з пытаннем: «Што, каб на школе беларусаў не было?!» Цяпер падумаўшы, можа, гэта ён мяне туды і ўцукраваў?.. А сігануўшы гадоў на дваццаць наперад, я ўспомніў яго, калі пазнаёміўся са слаўным маладзечанскім хлапчынам і добрым навукоўцам Генадзем Кахаioўскім, як аказалася, блізкім земляком таго гдыньскага аднафамільца.

Звычайнае, чутае перад гэтым пра падафіцэрскую школу, што там можа аж кава ў задніцы закіпець, у мой першы днявальны дзень, можна сказаць, ажыццявілася вельмі нядрэнна. Школа была размешчана воддаль ад казармаў, зусім над морам, у раскошным доме адпачынку работнікаў Польскага дзяржаўнага банка, бо дом гэты стаяў пусты, як і ўсе іншыя дамы адпачынку, санаторыі, вілы багатых, з палавіны жніўня апусцелыя ў змрочным чаканні боскае лятасці перад зусім-зусім набліжанай вайной... Трэба дадаць, што ў сувязі з палітычным становішчам курс навучання быў скарочаны з шасці месяцаў да трох,— каве трэба было кіпець удвая хутчэй.

Калі ўсе пайшлі на заняткі, службовыя, пад маёю камандай, занялiся прыборкай. I пачалі мы... з мыцця паркету. Толькі хлопцы мае разляпаліся — як гром з яснага неба

з другога паверха з’явіўся «шэф школы», тоўсты гарлапаністы старшы сяржант. Мы яго ў нашай кулямётнай роце ведалі толькі збоку, з расказаў тых, каму ён «гатаваў у дупе каву» ў роце стралковай. Выліўшы на мяне цэбар вульгарнай лаянкі, ён загадаў не памагатым, а самому мне паркет, дзе ўжо ён быў намочаны, выцерці насуха «шматамі», а тады працерці металічнай стружкай. І гэта ў суконным абмундзіраванні, уперазанаму, з раменьчыкам «рагатыўкі» на падбародку. А тут яшчэ гарачыня, а збоку стаіць ды вякае... Так пачалося, а да вечара мой жоўценькі рэмень аж пачарнеў ад поту. Бо пасля паркету, тады ўсёй прыборкі, трэба было паехаць на ровары з нашага прыгарада Арлова ў цэнтр Гдыні па шчоткі для падмятання, якія адна з вайсковых жонак купіла, а мне трэба было даставіць на багажніку. З горкі, улегцы, з ветрыкам, вядома, весела, але ж на горку, а там іх многа, ды яшчэ са шчоткамі, пілавалася то пехам, то большым спехам, бо час быў сурова вызначаны. Я справіўся, але яшчэ адзін, не першы і не апошні, цэбар брыды абрынуўся на маю запараную галаву ў прысутнасці камандзіра школы, капітана Каўрыгі...

Дагэтуль ён камандаваў стралецкай ротай, а пазней, пасля нашай школы, калі была аб’яўлена мабілізацыя і наш 2-гі батальён пабольшаў, ператварыўся ў полк з тым самым нумарам, Каўрыга стаў камандзірам аднаго з трох новых батальёнаў, у званні павышаны да маёра. Я толькі раз, дый то выпадкова, сутыкнуўся з ім на фронце зусім блізка. У вёсцы Касакова, пабітай артылерыяй, і абезгалоўленым касцёлам (дзіўна для Польшчы, але яшчэ і ў 1969 годзе я бачыў яго такім самым), у нейкім шырокім, груваcткім асабняку маёру Каўрыгу спатрэбілася праверыць гарышча, ці няма там пятай калоны. На двары ён прыхапіў двух выпадковых салдатаў, і адным з тых двух якраз аказаўся я. А дзверы на гарышча былі пад замком, вісячым ды вялікім. На калідоры маёру трапіўся молат, і ён, ткнуўшы свой пісталет у кабуру, аберуч гвазданўў молатам па тым замку. Раз, другі раз... І тут з іншых дзвярэй выйшла перапалоханая гаспадыня, якая ўсё-такі з крыўдай сказала нешта падобнае на «што ж вы так?!». Ён папрасіў прабачэння («Война ест, проша пані, война!») і, падзякаваўшы за пададзены ключ, адамкнуў замок, адчыніў дзверы і рынуўся па драўляных сходках угару з настаўленым пісталетам. А мы — за маёрам, са штыхамі на карабінах і, як здаецца весялей цяпер, калі пішу, з душамі ў пятках. У немцаў, а значыцца, і ў тых, каго выяўлялі на гарадскіх і вясковых гарышчах, былі аўтаматы,

аднойчы нават агрызаўся кулямёт,— магло быць гэта і тут. На шчасце, тут нікога не аказалася...

А месяц перад гэтым, на адкрыцці нашай школы, капітан Каўрыга гаварыў між іншым і пра тое, якая пашана аказваецца нам, польскім жаўнерам: школа — у такім раскошным прыморскім палацы! Гэта не тое, што ў царскім войску, дзе звычайна пісалася: «Солдатам и собакам вход воспрещен». Сказаў ён гэта па-руску правільна, чым здзівіў нас, некалькіх беларусаў, а прозвішча яго, схаванае ў польскім Коўрыго, адкрылася мне сваім рускім значэннем — бохан хлеба.

Пасля, у палоне, хлопцы казалі, што перад самым канцом абароны Аксыўя, паўночнага раёна Гдыні, уздымаючы ў атаку рэшткі свайго трэцяга батальёна, маёр камандаваў: «Крэсовяцы, за мной!» Бо беларусаў у марской пяхоце — у гдыньскім другім і ў вейгароўскім першым батальёнах — была ці не добрая палавіна, а пад канец кампаніі сярод абаронцаў Узбярэжжа і наогул ці не большасць. Па сціпласці можна сказаць, што яны не хаваліся, тым больш не дэзерціравалі таму, што ім не было дзе хавацца і куды ўцякаць.

Вось такое ў мяне атрымалася адступленне. Не лічачы таго, што ў адну з гадавінаў пачатку другой сусветнай вайны ў газеце «Жыце Варшавы» я ўбачыў артыкул пра тыя нашы гдыньскія дні і ночы, падпісаны прозвішчам Коўрыго. І мне было прыемна ўспомніць адносную чалавечнасць камандзіра той быстрацечнай школы ў курортным палацы з мастацкім паркетам, які не можна мыць, пра што мы, вясковыя хлопцы, не ведалі, з дзівоснымі жырандолямі, панскімі ложкамі ў светлых пакоях, з вавёркамі на сасновым голлі, якое ледзь не казытала шкло вялізных вокнаў.

Тады, калі гарласты салдафон у званні старшага сяржанта зноў абрынуўся на мяне, як быццам навёрстваючы не вылаянае за час маёй адсутнасці, хацеў кудысьці пасланць, але наш найвышэйшы перапыніў яго:

— Шэфе, не відзі пан, жэ ў хлопца рэнцэ држон?.. Ідзьце, стшэлец, і одпочнійце.

Праўда, адпачываць мне лішне не прыйшлося. Толькі капітан кудысьці пайшоў, як з вестыбюля другога паверха, нібы з грымотнага неба, пачулася неўтаймаванае: «Служ-бо-вы!!» Чортведама каторы раз. А быў яшчэ толькі поўдзень...

Не дзіва, што калі праз некалькі дзён наша школа была маланкава расфармавана зноў па сваіх ротах, мы, курсан-

ты,— я ва ўсялякім выпадку,— адчулі... нават палёгку. Хоць і ў акопы!..

Ды радасць гэтая неўзабаве прайшла.

* * *

Нейкім пачаткам партызаншчыны мне можна, бадай, лічыць тое, як мы ў апошнія дні жніўня і ў самыя першыя дні верасня распраўляліся са складамі пакінутых на ўзмор'і дамоў адпачынку і санаторыяў.

На паліцах процьма бутэлек і слоікаў з напоямі і сокамі, якія так хутка ды моцна абрыдзелі нам, што аднойчы мы, нарэшце, шыбанулі ў адзін такі склад гранату, стукнуўшы дзвярыма ды схаваўшыся за сцены. Во дзе разгром быў, колькі пацякло па сценах ды па падлозе!.. Маладая дурнота і адчай, як здавалася, перадсмяротны, і непрыязь да панства, што так нядаўна вылежвалася на пляжах, каля якіх мы праходзілі то ў поўным рыштунку, то яшчэ толькі з рыдлёўкамі, якімі капалі сабе акопы...

З акопаў, калі на ўзмор'і засталіся мы адны, а за далінай нейтральнае паласы ўжо заселі немцы, у далейшыя дамы-санаторыі прабірацца трэба было пад калючымі дратамі, не думаючы пра тое, што і з варожага боку маглі знайсціся такія ж разумнікі ды смельчакі. Багнэты нашы былі на карабінах, а за рамянямі гранаты. Самі сабе начальства. Бо на самым далёкім узгорку над крутым, парослым букамі абрывам, куды афіцэры заглядвалі рэдка.

* * *

У зробленай мясцовым краялюбам рукапіснай копіі польскай брашуры нейкага А. Сняжко пра Мір з ягоным замкам, касцёлам і наваколлем мне выпадкова, паміж радкоў, прачыталася і такое, што нагадала адну даўнюю размову. Як мяне ўлетку сорак чацвёртага польскі маёр угаворваў ісці ў Войска Польске. Там, у Міры.

Адзін з аргументаў:

— Пане, бэндзеш пан жыл, як Буг!

— Я ў вас служыў, разам з вамі ваяваў, у палоне быў два гады,— можа, хопіць?

Размова ішла па-польску, у пустым райкомаўскім пакоі, куды мяне выклікалі з рэдакцыі. Гамонім даволі доўга,



9—748

а потым ён, не ўгаварыўшы мяне, просіць падказаць, з кім бы яму тут яшчэ сустрэцца па той самай прычыне. Раю пацікавіцца нашымі засценкамі — Цвіркамі, Збыцінам, Бірбашамі, дзе шляхцюкі-каталікі лічаць сябе палякамі. Шыкоўны маёр глядзіць на мяне, моўчкі ўсміхаецца, а потым чысценька па-руску:

— На кой черт они мне? Свои ребята нужны.

— Вот так бы, товарищ майор, и сразу!..

А пан Сняжко ў сваёй брашуры піша (перакладаю): «Апорай каталіцызму ў мірскай парафіі з'яўляюцца старыя засценкі і шляхецкія хутары. Даўней у іх кіпела шумнае палітычнае жыццё, сёння ж яны страцілі не толькі палітычнае, але і ўсялякае значэнне».

Надрукавана брашура ў 1937 годзе. Прызнанне аўтарытэтнае.

А вышэй гэты дамарослы даследчык піша пра нас, што «прымусовая акцыя рускіх захопнікаў ператварыла іх у беларусаў праваслаўнага веравызнання. Засталіся ў іх толькі схаваныя ў глыбіні душы ўспаміны і пэўная гордасць, што яны паходзяць з католікаў»...

Вось яно як!

* * *

Даведаўся, што ў Катыні сярод памардаваных польскіх афіцэраў было шмат рэзервістаў, мабілізаваных на вайну, і ўспомніў такога.

Ён наведаў уранні аднаго з няпершых ваенных дзён наша «становіско боёвэ» у лесе, на крутым абрыве над морам, дзе мы сядзелі са сваім «максімам», старанна замаскаваўшыся. Госць быў нейкі вельмі ж цывільны, хоць і ў форме з пагонамі падпаручніка. Павітаўся за рукі, пагаварыў з намі не надта па-афіцэрску, а неўзабаве даў і яшчэ адзін доказ сваёй цывільнасці: захацеў пагаліцца побач з кулямётам — балазе там сядзячы акопчык. Дастаў з торбы сваё прычындалле, паставіў люстэрачка... І тут ужо я не стрываў — сказаў яму, што гэта вельмі небяспечна: люстэрка адсвечвае, бо дзень зноў сонечны, і гэта нас тут здэмаскуе. За глыбокай шырокай далінай з садамі ды віламі ўзвышаліся могілкі ў высокіх дрэвах, з якіх за нашым бокам назіралі, адкуль зрэдку пастрэльвалі. Пан паручнік (як прынята было звяртацца да падпаручніка) яшчэ раз здзівіў нас — папрасіў прабачэння, паслухаўся радавога і пайшоў, куды яму

паказалі, глыбей у лес, да нашай зямлянкі, дзе быў хтосьці з разліку.

Ці не ў той самы дзень яго ад нас адклікалі, ці сам ён, непрыкаяны, пайшоў,— гэтага я ўжо не памятаю. Ды мне яно і не патрэбна. Я проста ўспомніў яго, цывільна-чалавечнага, прымераў і яго да жахлівай трагедыі ў лесе іншым, смаленскім...

## Здаецца, смешнае

Пасля выхаду з партызан, пакінутыя на працу ў райцэнтры, мы прывыкалі да тае працы не надта ахвотна. У абед, сабраўшыся каля сталоўкі, пагамонім, перавядзёмся тым абедам, выйдзем — і разыходзіцца не рупіць... І вось нам аднойчы весела пашанцавала. Нейкі дзядок падышоў да нашага гурту, слова за словам і пачаў хваліцца, што ён таксама парцейны, яшчэ з той, з мікалаеўскай, вайны. І пачалі мы падсоўваць яму сяброў па ягонай партыі.

— Васілій Блажэнны быў у вас? — пытаецца адзін.

— Быў! — усцешана адказвае стары.

— Грышка Атрэп'еў быў? — пытаецца другі.

— А як жа, быў!

Ціха-ўсмешлівы Цітавіч, нядаўні наш начальнік штаба брыгады, цяпер памочнік першага сакратара райкома партыі, таксама падставіў пытанне:

— Скажыце, а Лука Мудзішчаў быў?

— Быў! — зусім узрадаваўся дзядок.

Пералік членаў закончыўся, у старога спыталіся:

— Ну, а чаго вы, дзядзька, у Мір прыйшлі?

— Сказала баба купіць гаршчок.

— Ну, дык пойдзем паможам.

Здаецца, і пайшлі. Усім сваім савпартактывам.

* * *

Швагер загадчыка райза, нядаўняга партызана, ён жа брат заслужанай настаўніцы, здаравенны брахун і выпівоха, былы франтавы дэсантнік, жыве сабе на сваяцкім хлебе і не вельмі рупіцца зноў пашукаць якую-небудзь працу. А ўжо трэці год пасля вайны. Ажно сакратар райкома зацікавіўся такім камуністам і выклікаў яго.

— Ну, дакуль жа ты, Груша, будзеш спацыраваць па плошчы?

— Няма машыны — вось і спацырую пехатой.

Сакратар — чалавек бывалы, цёрты жыццём і вясёлы. Сышоўшы з абавязковага тону, ён усміхаецца:

— А ты што — машыну хацеў бы?

— А вы што, думаеце, я горш за вас выглядаў бы з яе акна?

...Уелася ў памяць, як гэты Груша, нейкі ўжо раённы ўпаўнаважаны, начаваў у суседняй вёсцы, дзе я гасцяваў у брата,— засядзеўся таварыш з мужчынамі перад хатай, ажно гаспадар яе выйшаў і ветлівенька (хітры мужык!) спытаўся:

— А вячэраць будзеце?

На што той царственна:

— Малака, можа, пап'ю.

* * *

На рэспубліканскай канферэнцыі абаронцаў міру малады актывіст зачытвае спіс прапанаваных у прэзідыум. Пра мітрапаліта, сівабародага, велічнага святара ў белым клабуку ён чытае:

— ...от московского матриархата...

Відаць, нядаўна канчаў таварыш партыйную школу.

* * *

Смяцяр заяўляе на двары жанчынам:

— Заўтра смецця не выносьце. Я не прыеду, у мяне партыйны сход.

— Так зранку цэлы дзень і будзеце сядзець?

— А гэта ўжо не ваша цялячае дзела!..

* * *

У адным з раёнаў Віцебшчыны па «хатынскіх» вёсках суправаджаў нас настаўнік-пенсіянер, які часова выконваў абавязкі дырэктара музея народнай славы. Яму трэба было чагосьці затрымацца ў сельсавеце, і ў адну з бліжэйшых

вёсак мы паехалі самі. Вяртаемся забраць яго, а ён — такі павольны, здаецца, разважлівы, трохі вахлакаваты мужчына — выходзіць з таго сельсавецкага дома, а на бярэмку нясе вялізны артылерыйскі снарад. Да машыны з ім.

— Вы што?!

— А ён няўрэдны. Будзе экспанат...

Не далі палажыць у багажнік, панёс назад. На такую праверку «няўрэднасці» страшна было пагадзіцца. Нават уявіўся наш апошні «боўць!» на якой-небудзь апошняй калдобіне...

* * *

Папярэдні запіс выступлення адказнага таварыша на радыё. Чытае ён з паперкі, відаць, упершыню:

— Соиздательный труд белорусского народа...

Пажылая жанчына, рэдактар, спыняе запіс і папраўляе таварыша:

— Пожалуйста: со-зи-да-тель-ный труд.

А ён ізноў тое самае. Яна цярплівая, ветліва папраўляе зноў. Абурыўшыся, таварыш абрывае сваё выступленне, выходзіць са студыі на калідор. Да самога кіраўніка камітэта ісці яму не прыходзіцца — той з пашанотай стаіць на калідоры, чакаючы.

— Ідзі зірні, чаго яна хоча.

Зайшлі ў студыю, паўтарылі — зноў **соиздательный**, як заваражаны.

Ды тут кіраўнік камітэта падказаў папраўку: творческий труд.

— Ну вот, так я сагласян з табой,— згадзіўся выступальнік.

І ўсе рады.

* * *

Побач са мной у самалёце незнаёмы старшы лейтэнант. Калі мы ўзняліся над Мінскам, ён зірнуў у акно і сказаў:

— В БССР много снега.

Калі прызямляліся ў Кіеве, ён таксама зірнуў у акно і сказаў:

— В УССР снега мало.

Усяго і гаворкі было за гадзіну палёту.

* * *

Палкоўнік сам водзіць машыну. І на ноч пакідае яе на двары, а на заднім акне — фуражка з чырвоным аколышкам. Ад зладзеяў? Бо сам ён з унутраных войскаў.

* * *

Стары, што ў хаце сваёй дажывае халасцяком, ужо і павуціння не хоча здымаць. І філасофія адпаведная ёсць:

— Яно ловіць мухі.

* * *

Вярнуўшыся з камандзіроўкі, М. расказваў, што там, дзе ён быў, у «палескай глушы» (па Коласу) мужчыны ў адной вёсцы забаўляліся,— злавілі сучку, прывязалі да хваста кудзелю, намочаную ў газе, ткнулі запалку і пусцілі. Падпаліла яна, бедная, адно гумно, падпаліла другое — выкаціла агнём усю вёску. Цяпер на тамашніх мужчын у людзях весела крычаць:

— Эй, ты! Пераймай сучку!..

* * *

Супрацоўнік райвыканкома, для душы самадзейны мастак, у Маскве, на ўсесаюзнай выстаўцы з групай калгаснікаў. У Трацякоўцы ім было сумна, а яму — не адарвацца. Затое ў заапарку іх было не адарваць ад бегемота. Як ён купаецца. Ісці ўжо трэба, а яны:

— Пачакай, пачакай, няхай яшчэ раз вынырне!..

Той выплыве, дзьмухне і зноў пад ваду. Мужчыны на мастака:

— Васільевіч, пачакай!..

Ах, дарагія землякі!..

* * *

Вясёлы, зладзеяваты дзядзька ўгаворвае ў лесе не менш «жыццёвага» лесніка пераставіць у нарадзе меншую лічбу на большую: замест 2,58 кубаметра зрабіць 5,28. Не тымі самымі лічбамі, а вусна пераставіць. Ляснік спачатку казырыцца:

— Ну як жа я так магу?

— Ат, браце, святы ў нас і то пераносяцца. Трэба адно захацець. А ты, Ромусь, не бойся нас, тут усе людзі свае.

Дагаварыліся. І дагавор той замацоўвалі разы са тры, пакуль драўніна была, нарэшце, на грузавіку.

* * *

Аднапалчанін з Глыбоччыны, начуючы ў мяне, расказвае пра новае жыццё. І так, з такою развагай:

— Ці ты адзін працадзень у гаршчок паложыш, ці пяць, ці дзесяць — навар аднолькавы!..

* * *

Калгасны шафёр паказвае гасцям свой уласны вясковы гараж. Якую-небудзь заўвагу, вядома, сяму-таму хочацца сказаць, і вось адзін кажа:

— А навошта ж яма такая глыбокая?

— Дык гэта ж табе, пане браце,— смяецца гаспадар,— не пры панскай Польшчы — усюды гнуцца!..

* * *

Дачка пра лішне суровую маці:

— У яе і вочы колеру хакі. Усё па-ваеннаму.

* * *

— Гэта ў вас ужо склероз!

— А колькі ж вам да яго засталося? Пяць, сем, ну дзесяць гадоў. Старайцеся паразумнець!

* * *

— Зойдзе ў аўтобус або ў тралейбус і задам месца сабе шукае. Сядзе — і стой ты побач, ці стары, ці старая,— ніколі не ўстане. Во моладзь!

Глас вопиющего.

* * *

— I калі гэта ўжо на пагодзе стане? — у адчаі пытаецца дзядзька. За скрыўлены казырок схапіў з галавы старую, каторы дзень сыра-цяжкую кепку і пляснуў ёю муху на стале: — Яшчэ і ты, гадаўка!..

Праз дзень ён сустрэў мяне на вуліцы ў лепшым настроі. Хоць і яшчэ ўсё непагадзь. Расказаў, што ўчора вазіў на матацыкле бензапілу да лесніка, які іх вельмі хвацка вострыць.

— Прыехаў я, выпілі трохі. Тады ён навастрыў — зноў выпілі. Слаўны хлапчына, Броніcь. Пахадзілі трохі каля хаты — зноў выпілі трохі... Дзень вялікі! — смяецца задаволена.

* * *

Размах вясковай выпіўкі:

— За вечар уходалі парсючка, а пад раніцу яшчэ і пеўня засеклі! Зарана, дурань, закукарэкаў!..

* * *

Дабрадушная маладзіца, з разуменнем да тых, каму піць шкодна:

— Я і сама нездарова. Вып'ю шклянку і тады, можа, з гадзіну цэлую сяджу чыр-во-на-я!..

* * *

Матор з сельгастэхнікі вярнулі ў калгас не адрамантаваны, толькі пафарбавалі, але з запіскай: «Извините, товарищи, жмут план».

Малады загадчык гаража, які расказвае мне гэта, дадае, як для пацехі:

— Яшчэ хоць хлопцы ветлівыя.

* * *

Каля нашага, яшчэ ўсё не закончанага, дома — на тратуары два маладыя рабочыя. Ад іх да мяне, калі я вяртаўся з горада, бяжыць нейкі сабачы бомж. Панюхаў маю поўную папку. Хлопцы смяюцца:

— Нешта смачнае несяце!

— Ды кніжкі,— адказваю.

— О, відаць, ёсць кніжка і пра сабаку!

* * *

«Запрасіў ты мяне ў грыбы — то і дзякуй табе. Мне сказаў, каб налева ішоў, а сам пайшоў направа. Сам да машыны вярнуўся з поўненькім кошыкам, а ў мяне і палавіны твайго няма. Ну добра, ты лепшы грыбнік, лепш ведаеш гэты лес. Але чаго ж ты вось усю дарогу разумненька ўсміхаешся за рулём? Ды будзь яны залатыя, каб я з табой больш...»

Думкі — нібы зноў побач са знаёмым, у яго машыне.

* * *

Што яму ні скажы, хоць тое нават, што вось і сонца заходзіць,— ён, як заўсёды, па-свойму важна:

— Можа быць.

* * *

Начальнік станцыі нарачанскай вузкакалейкі, босы і ў форменнай шапцы рыбак і аматар да чаркі, вымушаны прадаць сваіх трох коз. Абы прыйшоў цягнічок — яны ўжо тут, нібы прыйшлі кагосьці сустракаць.

— Стаяць на пероне, павыстаўляўшы бароды, каб вы падохлі, а людзі смяюцца!..

* * *

У дзеда, былога настаўніка і ўсё жыццё кнігалюба ды вальнадумца, адабрала рукі. Баба яго, жанчына простая, як ён пісаў мне пра гэта нядаўна, кажа цяпер:

— Гэта Бог цябе пакараў за тое, што ты на яго столькі гаўкаў!

* * *

Дзяжурная ў слуцкай гасцініцы, адказваючы камусьці па тэлефоне:

— Здароў, здароў, калі змалоў!

Ці так вясёлая цётка, ці нейкі фальклор за гэтым.

* * *

У Астрахані малады татарын, гледзячы, як прадаўшчыца важыць яму рыбу:

— Почему даешь один башка? Я не хочу один башка!..

А ў Куйбышаве дабрадушная, тоўстая настаўніца, што на канікулах падзарабляе экскурсаводствам:

— ...И здесь вы видите, товарищи, поставлен бюст Владимира Ильича в свободно гуляющей позе.

* * *

Казаў мне калісьці зямляк, сябар з суседняй вёскі:

— Па сорак пяць пражылі мы, браце Іване, па добраму валоваму вяку.

* * *

Паэт, які шумнуў нядаўна вянком санетаў, выступае з імі па радыё. Двойчы ці тройчы, як быццам дзеля таго, каб можна было падумаць, што ён не агаварыўся, а так і вымаўляе, ужыў моднае слова **адраждджэнне...** Іменна так: **адраждджэнне.** Штосьці са слоўніка самагоншчыкаў.

* * *

Вясковы самадзейны ансамбль, сапраўдныя дзеўкі і бабы, некалькі мужчын. Землякі Міхася Чарота на ягоным юбілеі. Устаткаваліся на сцэне, шэпчучы, і заспявалі,— ледзь я не падскочыў ад гэтай любай прастаты:

Ой, упала баба з неба.
Нам такая баба трэба...

А нядаўна яшчэ і другі ансамбль, «Купалінка», у жартоўнай песні пра лысага мужа:

Была адна валасіна —
І тую муха адкусіла!..

* * *

Тоўстая, рухавая афіцыянтка ў санаторыі: «Вам творожку или кашку?» А медсястра ў акуліста: «Возьмите ватку и протрите глазки!» Пяшчотнасць такая — па першым класе, не ўсюды і не для ўсіх.

* * *

Вясёлы дзядзька:
— Сказаў бы я табе на гэта, але ж печ у хаце!
Раней сказалася б такое пра ікону.

* * *

У ашчаднай касе. Дзяўчына ці маладзіца. Абслугоўвае спраўна і ветліва. А над акенцам — ініцыялы і прозвішча **Короню.** Нават ужо і Карона не задавольвае? Гэта ж не **Корово!..**

* * *

Спадабалася польскае:
«Чалавек не бывае стары. Стары бывае конь».

* * *

Журналістка піша ў газеце: «На двары ў акружэнні куранят стаяла курыца». І хочацца дадаць: цікава, якую ж праблему яна вырашала?

Бо слова гэтае, праблема, ці не кожнае трэцяе ў іх, журналістаў, і па радыё, і ў прэсе.

* * *

У маладога лесніка спераду тырчаць два вялікія зубы, а над імі яшчэ і рыжыя вусікі. Празвалі яго Нутрыя.

— Ну, каб даведаўся, хто гэта — забіў бы!..

* * *

Сустрэў у газеце ўкраінскае прозвішча Шарварок і стала смешна: яшчэ адзін доказ, што прозвішчам можа стаць любое слова. Толькі сярод літаратараў там ёсць Масла, Кава, Рабро... А ў палякаў, нядаўна ўбачанае ў газеце, з нашага Сіпайлы, проша паньства,— Sipayłło. Ажно гісторыяй пацягнула, духам вышэйшасці.

* * *

У верасні шэсцьдзесят дзевятага, у Ерэване, адзін армянскі літаратар горача даводзіў мне, што недзе на самым версе (не памятаю ўжо дзе) глабальна дэбатуецца справа, ці ў медыцыне і юрыспрудэнцыі пакінуць пакуль што лацінь, ці замяніць яе... армянскай моваю!..

* * *

Успомнілася, як у трыццаць другім годзе «дзядэк» Пілсудскі наладзіў сабе відовішча — ваенны парад кавалерыі. Мноства палкоў уланаў шыкоўна прагарцавала перад трыбунай, пакуль ён, стары, ссутулена стаяў, сяк-так прыклаўшы два скурчаныя пальцы да казырка легіянісцкай круглай

«мацеюўкі». Уявілася, няхай сабе толькі прыблізна, колькі сена ды аўса трэба было навалачы ў той старажытны, элегантны Кракаў!..

* * *

У падмаскоўным Доме творчасці старая, цяжкая прафесарская ўдава нудзіцца без усялякага занятку. Загаварыла са мной, незнаёмым:

— В Польше была. Семь дней. Ненавижу я этих полячишек!

— А что же это у вас терминология еще царских времен? За что вы их ненавидите?

— Да у них ведь еще только восемнадцать процентов коллективизации!

— А зачем вам, извините, их колхозы?..

* * *

Пра свабодалюбства ніўхаў на Хабараўшчыне нам расказвалі і такое. Выступаючы на сходзе, адзін з падрыхтаваных актывістаў усё-такі сарваўся з патрэбнага ладу,— па-свойму малапаўторна прышапетваючы, ён гаворыць:

— Советський власть хоросё. Всё у нас есть — и сельсовет, і клуб, і ськолa, і аптека, і яслі... Всё есть! А подумаесь, подумаесь — і на хрена мне всё это?!

Яму патрэбны стрэльба і тайга.

* * *

Канадскі анекдот, там і пачуты цераз перакладчыка.

Да фермера, які арэ ў полі, прыбягае сынок:

— Ідзіце, тата, дадому — поп прыйшоў.

— Які поп?

— Не ведаю.

— Няма мне, сынку, калі. Бяжы ты хуценька ды глядзі,— калі той поп худы, дык гэта прэсвітэрыянскі, хавайце грошы; калі барадаты, дык гэта праваслаўны, хавайце гарэлку; калі ж тоўсты і паголены, дык гэта каталіцкі — сядай, хлопча, маме на калені.

* * *

У Чэхіі чуў. Пра суд над аліментшчыкам, ад якога ў трох розных вёсках за адну восень нарадзілася трое дзяцей. Суддзя па-чалавечы пацікавіўся, як ён гэтак паспеў.

— Я мам колё! — горда сказаў той пра свой веласіпед.

* * *

Помачы тое — як з начальства, якое «ўскладае вянок»: стужку крышку памацае, нібы расправіць.

* * *

Мара афіцэра-палітработніка:

— Выйду ў адстаўку — пайду вартаўніком магазіна палітычнай кнігі. Во дзе высплюся!..

Калі б не заходзіў у тую кнігарню, успамінаецца гэта, даўно ўжо расказанае сваяком-вайскоўцам. І чысценька, і акуратна ўсё, і — пуста...

* * *

Дзядзька ў санаторным аўтобусе:

— Я таксама ўдзельнік вайны. Ляцеў на саначках з горкі ды немца падбіў, кацялок з супам з рук у яго паляцеў. Ну ж і крычаў на мяне той стары!..

І ўдакладняе:

— Нейкая часць тылавая спынілася.

* * *

Гэтым разам у Варшаве мой польскі сябар запрасіў мяне наведаць яго старэнькую мамусю. У гатэль па савецкага госця прыехала жоначка сябравага пляменніка. Адна ў маленькім самаходзе, і сама такая мініяцюрная, што да ручкі трэба было нізка нахіліцца. На ўскраінных варшаўскіх вуліцах таксама даволі калдобіста. І вось на кожнай ямцы ды ямачцы гаспадынька мая, не адхіляючыся ад руля,

падавала мне на задняе сядзенне сваё мілае: «Пшэпрашам!.. Пшэпрашам!..» Трохі па роўным пракоцім, а тады зноў: «Пшэпрашам!..»

Ну і як такое не запомніць?..

* * *

Настаўнік-пенсіянер не па гадах малайцавата ездзіць на матацыкле з каляскай. Аднак і ён не ўсцярогся, паляцеў у кювет. Добра, што ўдала. Расказвае мне пра гэта пры сустрэчы і пытаецца:

— Ці бачыў ты, браце, хоць аднаго калі жыда на матацыкле? Канечне ж, не бачыў. А наш мужык усё-такі дурны,— ляціць, задраўшы галаву!..

Гэта ўжо пра сябе. Хоць і з вышэйшай асветай.

* * *

Такое пайшло паўсюднае вышукванне яўрэйскага паходжання, што мой украінскі знаёмы, тыповы хахол, спаважны ды дасціпны, кажа мне:

— А біс яго бацьку ведае. Пракінешся ўранцы, ляжыш і думаеш: а можа, і я таксама яўрэй?!

* * *

Усходнія немцы — пра палякаў. Там пачутае.

— У нашых магазінах трэба два-тры разы на дзень іграць «Ешчэ Польска не згінэнла»,— тады яны кожны замруць на сваім месцы, а нашы людзі змогуць што-небудзь купіць.

* * *

Добра, калі пры розуме, пры таленце — яшчэ і гумар. Барыс Алейнік піша ў «Литературной газете» пра лектараў-халтуршчыкаў:

«Куда легче тому, кто по старинке и ныне заходит в наскоро собранную, а иногда и не весьма демократично рек-

рутируемую аудиторию и упругой походкой барса устремляется на кафедру».

Я засмяяўся адразу, а потым яшчэ і яшчэ раз, на працягу ўсяго дня.

Праз вершы яго таленавітыя, праз вострыя артыкулы апошняга часу, праз бліскучае выступленне на пісьменніцкім з'ездзе 1986 года, яшчэ раз праз **упругую походку барса** ўспомніў вось, светлай вясковай раніцай, адну з ім нашу, ужо і даўнюю, сустрэчу.

У вестыбюлі маскоўскай гасцініцы я кагосьці чакаў, а ён, Барыс, з чамаданам, выразна відаць — пасля развітальнага застолля, спяшаўся на таксі і на вакзал. Мы з ім былі яшчэ не знаёмыя. Аднак яго, відаць, перапаўняла штосьці вясёлае, добрае, бо падышоў, паставіў чамадан,— усё гэта спешна,— абняў мяне, тройчы прылажыўся і сказаў:

— Да воскреснет Бог и расточатся врази его!..

Падняў чамадан і далей, у дзверы.

Я смяяўся тады, можа, не менш, чым пасля барса.

* * *

У ранішнім пустым і свежым парку сустрэў Міколу Лупсякова. Быў у маці, на вёсцы, і кажа:

— Так, браце, саслабеў я нешта, нават і рыбу вудзіць не мог. Пячкур клюне, а я — потырч з берага ў Дняпро!..

* * *

У снежні пяцьдзесят другога года на Упітавым юбілейным банкеце Васіль Казачэнка, уздымаючы свой «рэспубліканскі» тост, папрасіў дазволу гаварыць «суржыкам» — па-руску, але ў сумесі з родным украінскім словам.

Калі пазней прапанавалася слова мне, пачуліся галасы: «Суржыкам! Суржыкам!..» Я гаварыў таксама на дзвюх мовах.

Пасля падняўся для тоста эстонец. Не памятаю прозвішча, а толькі знешні выгляд: нізкі, мажны, вялікая галава з шырокім ілбом, твар трохкутнікам. Пачаў гаварыць па-руску. З прыкметнай цяжкасцю. «Суржыкам! Суржыкам!» — закрычалі і яму. Ён, пачакаўшы, на поўным сур'ёзе сказаў: «Хорошо!» І, павярнуўшыся да юбіляра, пачаў выступленне нанава:

— Дорогой товарищ Суржик!

Вясёлыя апладысменты, смех — больш, чым украінцу з беларусам. Статэчныя і культурныя, мілыя латышы.

* * *

На ціхай ускраіннай вуліцы, у драўляным доміку Толя Вялюгін частаваў мяне ў пачатку пяцідзесятых вінам з «дурніцаў», буякоў, работы ягонай цешчы. Па адной, па другой, а бутэлька ўсё па-ранейшаму поўная... Гаспадар пачаў даваць хвалу віну і цешчы:

— Гэта яно, брат, так пеніцца, расце!.. К твайму сведзенню, Алена Іванаўна ведае, што робіць!..

А потым з бутэлькі закáпалі апошнія кроплі, і стала вядома, што гэта такі асадак на шкле з сярэдзіны.

Помніцца не збянтэжанасць зяця, а дабрадушны смех старое.

* * *

Зіна Мажэйка, наша магутная фальклорніца,— пра сваіх паляшуцкіх сяброўак:

— Кажуць цёткі ды бабкі мае: «Спяваць хочацца **вольна**, а не на ўсялякіх гэтых **журáх!..»**

* * *

Добра ў гадах, але яшчэ ўсё энергічна-наіўны ці журналіст, ці пісьменнік, з закліканых калісьці «ад станка», успамінаў аднойчы, як яны, некалькі маладых яўрэяў, хадзілі ў гасцініцу да Маякоўскага, калі ён выступаў у Мінску. Пазнавата прыйшлі, пастукалі раз і другі раз, і нарэшце пачуўся сонны, незадаволены бас:

— Кто там?

— Это мы, белорусские писатели, пишущие на русском языке!..

— Пошли вы к...— і гэтак далей.

І пайшлі.

Ён жа ўлетку сорак чацвёртага, хутка пасля вызвалення, выступіў з абураным аглядам знішчэнняў, якія ў горадзе

зроблены акупантамі. «Немецко-фашистские варвары взорвали собор святых Петра и Павла...» А ён быў зняты з плошчы перад вайной.

* * *

Калі дзве нашы брыгады, «Жукаўская» і «Камсамолец», аб'яднаўшыся, грамілі, нарэшце, магутны мірскі гарнізон, дык і мы, разведчыкі, сёе-тое прывезлі з гэтай «краіны непалоханых паліцэйскіх гнёздаў», мясцовых і наезджых, разбагацелых на рабаванні рэпрэсіраваных вёсак. У адным з багацейшых двароў гарадка запраглі ў сані-развалы ўпасвеную кабыліцу, дзе наскідалі ў пусты куфар кумпякоў, каўбас, аполкаў сала, дзе побач з куфрам паставілі на санях дзежку мёду, і дзе паклалі два мяхі мукі і вырваліся з пажару ды страляніны весела.

І неўзабаве да нас, у Зарэчча, дзе мы стаялі, за добры дзесятак кіламетраў ад брыгаднага лагера ў пушчы, у хату бабы Кастусіхі, што жыла адна наводшыбе, заехала гасцямі ўсё брыгаднае начальства. На чале з самім упаўнаважаным ЦК партыі і партызанскага штаба Беларусі Царуком.

Да змесціва гарнізоннага куфра і дзежкі ў разведчыкаў знайшлася самагонка з лясных хутароў. Было застолле з песнямі і танцамі пад гітару і балалайку. З нашым чаркесам Хачуковым і галасістым Шурам, маім пляменнікам, ішоў упрысядкі сам найвышэйшы госць, «дзядзя Валодзя».

А потым малады камбрыг, лейтэнант з акружэнцаў, таварыш порсткі, раптам скамандаваў — гаспадарам:

— Разведка, у раён!

І мы пайшлі сядлаць. Збянтэжана, неахвотна.

Вісела цёмная сакавіцкая ноч. Следам за намі з хаты выйшаў і з ганка заняўся сваёю справай Царук.

— Х-хлоп-цы,— пачуўся нам з цемры ды трохі зверху свойскі заікасты голас.— Вы т-там лішне г-галоў не п-падстаўляйце. Ліха іх усіх п-пераб'е. Д-да Лісабона яшчэ д-далёка. Т-трохі т-там недзе п-пакруціцеся д-ды назад!..

Былы актыўны заходнебеларускі падпольшчык, пажыццёвы вязень санацыйных астрогаў, у якіх ён да верасня трыццаць дзевятага прасядзеў трынаццаць гадоў, чалавек, якога ніхто ніяк не змог бы западозрыць у няшчырасці да роднай справы, ён быў цвярозы па-народнаму, заўсёды з простым, натуральным гумарам.

Чулася пра яго сёе-тое і пасля вайны. Скажам, як ён,

намеснік старшыні абласнога савета, ездзіў па вёсках, арганізоўваючы калгасы, і так агітаваў сялян:

— М-мужчыны, п-пішыцеся ў к-калхоз. К-калі ўжо такі ў нас п-парадак, што яны п-павінны быць, як і ўсюды, то н-нікуды в-вы ўсё роўна не дзенецеся. Б-бальшавікі як н-намогуцца, т-то і зробяць. Лепш ужо, хлопцы, раней запісацца, чым п-потым, у свіныя галасы!..

Супрацоўнік «Вожыка», нешта ў канцы саракавых гадоў, вяртаючыся з палескай камандзіроўкі, маючы ў Баранавічах тры гадзіны да мінскага цягніка, я павагаўся трохі і пазваніў яму дахаты.

— Дзядзя Валодзя, добры дзень!

— Д-добрага д-дня? А хто г-гэта?

Я назваўся.

— А д-дзе т-ты?

— На вакзале.

— А ч-чаго т-ты т-там, а не т-тут?

І вось мы сядзім ды гаворым. Пачаты, па-вясковаму вялікі круглы бохан хлеба, крамяныя салёныя гуркі, сала скрылікамі, сціплая чарка і цікавая гутарка. Утульна.

Мне было за што адчуваць да яго ўдзячнасць. У тым, што мяне з разведкі паклікалі на супрацоўніцтва ў падпольную рэдакцыю, што неўзабаве штабной машыністцы было сказана перадрукаваць пад маю дыктоўку тое з маіх рукапісаў, што было адаслана на Вялікую зямлю, прымаў вырашальны ўдзел і Царук разам са сваім сябрам і паплечнікам па барацьбе і пакутах Жалезняковічам. А потым у Мінск, на партызанскі парад, двух рэдактараў райгазет, стаўбцоўскай і мірскай, Гірша Смоляра і мяне, дзядзя Валодзя паслаў, як прадчуваючы, што там я ўпершыню ўвайду ў пісьменніцкі гурт і гэта будзе мець для мяне таксама вырашальны сэнс.

Калі творы былі адзначаны Сталінскай прэміяй, іх не надта крытыкавалі, а то, калі дакладней, яны і зусім рабіліся недатыкальныя для крытыкі. Са мной было так, што, пачуўшы па радыё пра пастанову, загадчык аддзела крытыкі ў паважаным часопісе адразу пабег у друкарню і ў апошняй карэктуры выкрасліў у артыкуле нейкія там крытычныя заўвагі па аповесці.

І трохі нязвычным здалося тое, што старая Кніповіч у «Литературной газете» ў сваім палітычна спрыяльным водгуку злёгку пакрытыкавала вобраз Лены, сказаўшы пра «ружовенькі туман» у паказе кахання.

Выпадкова сустрэўшыся з «дзядзем Валодзем» у Мінску,

я ўдзячна прыняў яго віншаванне з прэміяй і пацеху супраць крытыкі:

— Ч-чытаў. Яна т-там кажа, што т-ты мала д-даў п-пра баб. А ты цяпер вазьмі д-ды н-напішы ім п-пра адных баб!..

Як напрарочыў: менш чым праз год з'явілася мая «Галя».

* * *

Ноччу паэт звоніць празаіку і, не застаўшы таго дома, пытаецца ў ягонай жонкі:

— А можа, вы, прабачце, ведаеце: авечкі бэкаюць ці мекаюць?..

Дакладнасць патрэбна і ў паэзіі, хоць яна, па Пушкіну, павінна быць трохі прыдуркаватай.

* * *

Няраслы, вясёлы тэнар з дзяржаўнай капэлы, сустрэўшыся на вуліцы, не прамаўчаў пра тое, што вось у яго праз месяц будзе юбілей. Удакладніў які. А я здзівіўся:

— Бог мой, такі малы, и ўжо і семдзесят!

Смяемся.

* * *

Стары Мікалай Іванавіч, наш літаратурны генерал, хваліцца пры мне маскоўскаму знаёмаму, колькі разоў ён сёлета выступіў за год перад чытачамі. Лічыць:

— Среди пограничников...— Прыпамінаючы: — Среди фабзайцев...— Зноў паўза.— Среди работников прилавка...

У тон яму дадаю:

— Среди долины ровныя...

Ён не злуецца, і гэта добра. І тады было, і ўспамінаецца.

* * *

Пісьменнік Грос, дасціпны эстонец, жартуе востра і тонка. Едзем па Таліне, я захапляюся, седзячы побач з ім у машыне:

— Якія ў вас, Вілі, дрэвы цудоўныя!..

— Галоўнае — у тэрмін пасеяць! — адказвае ён са сваёй падтэкставай усмешкай.

## Пра горыч і бруд

Днямі, і не ўпершыню, успомніўся былў Есіп Варановіч, стары аграном яшчэ ці не дарэвалюцыйнай вывучкі, прадстаўнік людной, цікавай сям'і занямонскага хутараніна. Яго я ведаў з партызанаў, потым як дырэктара МТС, а яшчэ лепш як дырэктара міжабласной насеннай станцыі па травах. Яна была ім хораша наладжана ў колішнім маёнтку Кашыца, уладальніка блізу тысячы гектараў выдатнай зямлі, багатай сядзібы з палацам, разбураным у вайну, з вялікім паркам лістоўніцы.

Ды вось узбурылася хрушчоўская барацьба з травапollем. І якраз тады мы з Есіпам сустрэліся ў Міры на кірмашы.

— Ваня,— сказаў ён, уздыхнуўшы жаласна. Чалавек інтэлігентны, а не вытрымаў: — Я б яму, маць яго... даў Стаўбцоўскі або Івянецкі раён — няхай бы ён там са сваёй кукурузай памудраваў!..

Раёны — абодва з пясчанымі землямі. А «ён» — «наш дарагі Мікіта Сяргеевіч».

Станцыю, вядома ж, ідэйна разбурылі.

А гады праз два ці тры яе прыйшлося зноў наладжваць. З не меншай пераканананасцю...

Так было, дарэчы, і з нашым Колем, калгасным брыгадзірам. Пашу каля вёскі загадалі заараць, а потым зноў зрабіць пашай. І ў абодвух выпадках загадваў, крычаў на брыгадзіра той самы раённы таўкач.

Яшчэ раз, дарэчы,— нашай літаратурнай «перабудовай» і сёння, у восемдзесят сёмым, камандуюць тыя самыя, што шчыравалі і ўчора, і пазаўчора...

* * *

На мінскім рынку. Купілі бульбы, я стаю з ёю каля брамы, чакаю жонку — яна пайшла яшчэ мяса пашукаць. Побач стары прадае самаробныя таркі, па адной вымаючы іх з-пад мяха, што пад пахай. Разгаварыліся.

— Тугавата жывецца. Пенсія — пяцьдзесят. Праўда, мы з бабай толькі ўдваіх...

— Колькі ж за тарку просіце?

— Сорак капеек. Дарага — не бяры. За такую ў магазіне і рубель дасі... Я сам з Тураўскага раёна, але як прыйшоў з грамадзянскай вайны, дык у Мінску ўвесь час, на хлебазаводзе... А людзям нашым няважна жылося да рэвалюцыі. Рэвалюцыя была вельмі патрэбна. Цар Мікалай — ён быў дурны, дурнейшы яшчэ за Хрушчова...

Такі vocs populi[1] — увосень шэсцьдзесят трэцяга.

* * *

Пяцьдзесят трэці год. У маладым калгасе на Маладзечаншчыне.

Старшыня, сумнаваты, падсухі мужчына:

— Камсамольцы ў нас — цяглавая сіла, без іх не ведаю, што і рабіць было б. Бегаю па полі, як самашэдшы. На пяцьдзесят сем коней — дванаццаць аброцей. Аграном дрэнна працуе, і мы маем агрэхі. Эмтээс нашу білі, білі дый замарыліся. Пры нашай хавоснай безабразіі...

Сакратар партыйнай арганізацыі — большы аптыміст. Дый тоўсты ён не па-вясковаму, як нейкі Ламэ Гудзак.

— Як я выйду на вуліцу,— папракае ён удзельнікаў сходу,— дык вы ад мяне ўцякаеце. А чаму я, як толькі ўбачу сінюю «Победу» таварыша сакратара райкома... —ківок на таго ў прэзідыуме,— то не ўцякаю, а сам да яе бягу, бо ведаю, што ад гэтай «Победы» толькі дабра можна чакаць!..

* * *

Пачатак шасцідзесятых.

Прызначаны старшынёй занепалага калгаса дырэктар мясцовай школы, энергічны франтавік, прасіў у райкоме партыі:

— Дайце мне волю на пяць гадоў — я падніму гэты калгас.

Не далі, вядома. Калі ж ён праявіў разумную самадзейнасць — нарыхтаваў дубовых бочак, якія ў нас спрадве-

---

[1] Голас народа *(лац.)*.

ку рабіліся, прадаваліся ў Наваградку, насаліў агуркоў ды бочкі тыя апусціў у сажалку, каб напрадвесні зарабіць, яму і вымову далі, і ўсупонілі парасячую ферму на тры тысячы галоў...

Пачатак сямідзесятых.

Сакратар абкома пры мне бэсціў старшыню калгаса, іншага, таксама чалавека інтэлігентнага, як і той, пакараны фермай,— лаяў, брыдзіў за «антымеханізатарскія настроі», убачыўшы праездам жытнія мэндлікі на ўзлеску. А там проста нельга было камбайнам заехаць паміж кустоў, і жанчыны ў ахвотку зжалі сярпамі.

Здаровы народны сэнс і мудрае партыйнае кіраўніцтва.

* * *

Мой незабыўны Якуб Міско... Цяпер мне столькі, колькі яму было шэсць гадоў таму назад. Сваё сямідзесяцігоддзе ён перажыў на няпоўныя шэсць месяцаў. Адзначаў яго дома, з роднымі і сябрамі, і хацеў як найлепш, нібы прадчуваючы развітанне. Зразумець гэта проста, калі ў цябе аналізы крыві штораз, то горшыя.

Сябар яго, а праз яго і мой добры знаёмы міністр асветы Міхась Мінкевіч дапамог з прадуктамі: Якуба правялі на адпаведны склад.

Актыўны падпольшчык, пакутнік у засценках дэфензівы, шматгадовы санацыйны вязень, мала таго — пасля вызвалення, па даносе, яшчэ і вязень у роднай турме, з якое цудам вызваліўся, потым салдат, класічны франтавік, наогул усюды і заўсёды сумленны, цярплівы, сціплы чалавек, ён мне расказваў пра свой перад'юбілейны паход на той таемны склад зямных-падземных даброт:

— Дзіка і горка, што ёсць такое, што трэба так, з партыйным білетам, ад правяральшчыка да правяральшчыка ісці туды па нейкіх катакомбах, пераходах...

Адзін з маіх сяброў, калі я расказаў пра гэтыя падземныя праверкі, па вопытнасці сваёй заключыў,— прыдворная міліцыя правярала Міско так пільна таму, што бачыла яго ў тым падзямеллі ўпершыню.

Праз паўгода, перад памінкамі па Якубе, жонка Мінкевіча папрасіла мяне паехаць з ёю зноў жа па прадукты. Трэба дык трэба, чаго не зробіш у такім становішчы. Дый цікава, нашай цікаўнасцю, прафесійнай.

Пад зямлю мы не палезлі, наведалі цокальны паверх

Дома ўрада, а потым нас накіравалі ў звычайны знаёмы гастраном, дзе ад вуліцы таўкатня, усярэдзіне чэргі ў аддзелах, а з двара, са службовага ўвахода, цераз чарговую цётку «по имени-отчеству» — зусім не той свет...

Тады мне ўспомніўся даўні расказ аднаго з маіх таварышаў па палоне, знакамітага майстра па мясной прадукцыі, які гаварыў, што ў іх у першыя пасляваенныя гады на абласным камбінаце ўсё найлепшае — каўбасы, кумпякі, паляндвіцы — вісела асобна, з біркамі, на якіх значыліся прозвішчы начальства. Запас першай катэгорыі. Пры карткавай сістэме.

* * *

Тады, калі так шмат гаварылася зверху пра будучы камунізм, чуў я такое, зноў жа народнае:

— І пры камунізме тым будуць таксама і кормныя, і надворныя.

* * *

Былы партызан, няраслы, рухавы фотакарэспандэнт, прыехаў да славутага Арлоўскага. Застаў яго на калгасным двары, сярод праўленцаў і нейкіх прыезджых.

— Кірыла Пракопавіч,— звярнуўся ён, павітаўшыся, да паважанага старшыні,— я да вас па заданні часопіса «Советский Союз», зрабіць для іх ваш партрэт.

— Шатаетесь тут, лодыри!.. Вон убирайтесь!..

— Кірыла Пракопавіч, паўтараю: я па заданні часопіса «Советский Союз», ім трэба ваш партрэт. А асабіста я хрэн на вас палажыў.

Паўза — і цуд:

— Ну что же, пойдем, снимайте.

Ці многа людзей магло яму так адказаць? Напрыклад, тая маладзічка, што — як расказваў мне другі фотакарэспандэнт, інтэлігентны, шчыры — у яго прысутнасці, ураніі прасілася не выйсці на работу, бо захварэла малое.

— Всади его себе назад в... и иди работай!..

Перад паўторным паказам па тэлевізары кінафільма «Председатель» таленавіты Міхаіл Ульянаў гаварыў, што цяпер, іменна цяпер такія старшыні вельмі патрэбны.

Для новага мыслення, галоснасці, перабудовы?..

* * *

Восем гадоў пасля вайны, а яшчэ і сёння сустрэнеш на вуліцы начальніцкую бараду-барадзішчу — астатак партызанскай баярпічыны. Так і ўчапіўся б абеоуч!..

* * *

Заслугі заслугамі, аднак бачыць яго ці яе абавязкова ў кожным прэзідыуме — нуднавата.

**Даседжвае жыццё.** І гэта лічыцца служэннем партыі і народу.

* * *

Сынок нядаўняга сакратара райкома партыі, лётчык сельгасавіяцыі, на Вялікдзень падвыпіў з сябрам, другім лётчыкам, сынам старшыні калгаса, і вырашылі злятаць у госці да прыяцеля ў суседні раён. За імі прычапіўся трэці сабутэльнік, з лёгкім матацыклам. Яго ўсадзілі з тым «конікам» у бункер, свабодны ад угнаенняў. Паляцелі нізка, каб іх «падпольны» палёт не запеленгавалі з Гродна. Дзень быў хмарны, каля райцэнтра яны ўрэзаліся ў круты, высокі ўзгорак пры гасцінцы. Самалёт загарэўся. Лётчыкі выбраліся з яго, а той з матацыклам затхнуўся ў бункеры.

Сыны начальства — суд аблегчаны: суровыя вымовы і дваццаць тысяч штрафу на двух, трэцяя частка цаны самалёта. Людзі абурана пачалі пісаць («Цяпер жа ўсе пісьменныя!» — смяяўся той, хто мне расказваў пра гэты палёт) і дамагліся перасуду. На гэты раз далі па дваццаць тысяч кожнаму...

Той бацька, што быў раней сакратаром райкома партыі, а пасля «нейкім па прафсаюзах у вобласці»», пачаў «арганізоўваць» дваццаць тысяч за свайго лётчыка ў знаёмых калгасных старшыняў шляхам нейкіх выпісак-падтасовак і заблытаўся сам. Знялі з работы, на заслужаны адпачынак.

— А быў калісьці такі добры хлопец,— шкадуе расказчык.— Мы з ім працавалі ў суседніх школах, завучамі. А потым ён падаўся ўверх...

* * *

На самае лепшае выданне Збору твораў Пушкіна не памяняю свайго, ці не першага пасляваеннага. З такой фразай, першай у прадмове:

«Имя Пушкина товарищ Сталин назвал в ряду славных имен, составляющих гордость великой русской нации».

І адпаведная заўвага, да старонкі дакладная.

* * *

Прозвішча СТАЛІН — толькі з загалоўных літар. З гэтага ў лясной рэдакцыі-друкарні пачаліся мае амаль дзевяць гадоў пры ім.

А камандзір «калінінцаў» Ш., які пускаць кабылу да жарабца загадваў перад яго зямлянкай, а сам тады пакрэктваў на сваю «пэпэжэ»: «Манюня, ых!..», не дазваляў свайму начальніку штаба не толькі Гітлера, але і Германію пісаць з вялікай літары.

* * *

Восень сорак чацвёртага. Рэдакцыя газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну». Свежанькі літработнік, я адзін у пакоі. Ад машыністкі, якая ў іншай рэдакцыі, але друкуе і нам, прынёс праўлены ўчора фельетон, вычытваю. Канцоўка была — рукапіс памятаю, але яшчэ і праверыў — такая: «Увайшлі панурыя штурмавікі». А ў нашай Лізы — ажно сумеўся ці жахнуўся — стаіць: «Увайшлі панурыя бальшавікі».

Калі я, вымеркаваўшы, каб застаць яе адну, моўчкі паказаў на той сказ, яна яшчэ мацней жахнулася. Хуценька перадрукавала тыя заключныя паўстаронкі, ранейшае дробна і дробненька парвала, кінула ў кошык, яшчэ раз сказала «дзякуй вам!» і цяжка ўздыхнула. Пажылая ўжо, з сівізной, бледная, стомленая жанчына.

Не памагло б ёй і тое, што яўрэйка, што муж на фронце, што не была пад акупацыяй. Яна разумела гэта лепш за мяне, чалавека яшчэ без савецкага пашпарта, толькі з часовым пасведчаннем.

* * *

Ліпень пяцьдзесят другога.

У гагрынскім доме адпачынку стары вартаўнік, армянін, ходзіць позна ўвечары па двары, ціха пакашлівае і, пэўна, думае пра тое, чаму за такія звычайныя рэчы, як мора, горы і сонца, прыезджыя людзі плоцяць вялікія грошы...

Курортныя пляткаркі шэпчуць на пляжы, што ён — ніякі не армянін, а крымскі татарын, што неяк выкруціўся ад іх усенароднай ссылкі і тут хаваецца, каб не выкрылі.

Калі гэта так, дык што ж ён думае ў сваёй і ноччу, і днём сумоце пра свой народ, застаўшыся адзін над родным морам — з іншага боку?..

* * *

Акружэнец вярнуўся ў родную вёску. Потым немцы бралі «на работы» маладых, і ён пашкадаваў маладзенькую сястру, якой трэба было па «разнарадцы» ехаць у Германію,— паехаў за яе. «Маладое, дурное, загіне...»

Пасля вызвалення, калі іх фільтравалі, ён — сумленны, працавіты, начытаны настаўнік — прастадушна прызнаўся — гэта ж сваім! — што там яго немцы агітавалі стаць даносчыкам на землякоў, але ён такім не стаў. І яго, не паверыўшы, «на всякий случай», пасадзілі на дзесяць гадоў. А потым, адсядзеўшы, яшчэ даўжэй дамагаўся рэабілітацыі.

* * *

На пісьменніцкіх адкрытых партсходах, калі я зрэдку заходжу на іх, амаль заўсёды бачыцца адно і тое ж. «Нищие духом» літаратары там ужо не маўчаць, як на паседжаннях творчых, а як быццам стараюцца браць рэванш — крычаць з трыбуны пра свой партыйны стаж, актыўны ўдзел у палітыцы, пра крыўды з друкаваннем, з крытыкай... Аднак і гэта робяць бяздарна. Ажно нуднавата, а то часам і агідна бывае ад графаманскай затхласці...

* * *

Па тэлефоне папрасілі выступіць на юбілеі дружбы з палякамі. Тэкст выступлення трэба прынесці на прагляд у аддзел прапаганды гаркома партыі. Там нейкая цётка сказала прыйсці па тыя дзве старонкі заўтра. Прыйшоў. Заўваг ніякіх. Самой той цёткі няма. А ўсё ж на полі рукапісу ў адным месцы пытальнік чырвоным алоўкам. Для роздуму?

Пазней, гады праз два, зноў пазванілі з гаркома партыі — просьба прывітаць жанчын з Восьмым сакавіка на гарадскім урачыстым вечары. Пажадана прынесці для папярэдняга азнаямлення рукапіс таго, што буду гаварыць. Тут ужо я сказаў, што і пісаць не буду, і тэксту не панясу. Час трохі змяніўся, і яны згадзіліся.

Калі я закончыў сваё «вуснае» выступленне, сеў у прэзідыуме, дзе і сядзеў, з першага рада на мой трэці павярнуўся Машэраў, другі сакратар ЦК партыі. Ён падміргнуў мне, усміхнуўшыся. Аказваецца, можна ўжо і так.

* * *

Памёр доктар, той, якому ты неаднойчы скардзіўся, у якога шукаў паратунку. Няёмка на душы... Ён жа, аказваецца, таксама чалавек, яму вось таксама прыйшлося, нават і без пары́...

* * *

Аварыя ў лабараторыі. Сам ён, зяць нашай добрай знаёмай, паспеў бы выратавацца, але дапамагаў дзяўчыне, супрацоўніцы,— яе вынес, а сам згубіў акуляры і заблытаўся там, абгарэў, а потым памёр у страшэнных пакутах.

А ў непрытомнага яго, перад гэтым нехта па-сучаснаму мудра зняў, забраў наручны гадзіннік.

* * *

«Ён жыў пад акупацыяй... Ён жыў пры панскай Польшчы...» І трэба было ў першым выпадку быць героем-партызанам, а ў другім вязнем-падпольшчыкам, каб дараўняць якой-небудзь нікчэмнасці, што нідзе не была.

Сюды ж можна аднесці і маё пытанне нашаму шматгадоваму парторгу: ці выключаны з партыі роўны беспартыйнаму? На што ён, гумару не адчуўшы і доўга не думаючы, адказаў: «Але, браток, роўны». І засталося толькі падзякаваць.

* * *

Дама-курортніца:

— Мы ведь у себя дома, и они не хотят с нами по-русски говорить, и по-своему все, по-латышски. А вы мне говорите, что они не националисты.

Адказваю і так:

— Но они-то здесь тем более у себя дома.

Аргумент не даходзіць, хутчэй — не прымаецца.

* * *

У «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі»:

«...При воеводе новгородском пану Яноу Яновичоу Заберезенском написана быс сія книга... инок діяконець Іоакимец а рукою многыхъ дьяковь».

І тады, як і сёння, **многія рукі дзякаў** пры начальстве.

* * *

Выносяць кагосьці з адказных пенсіянераў. Музыка, поўная вуліца начальства. З акна пятага паверха суседняй установы відно, як густа, шчыльна вуліца забрукавана андатравымі, набровымі, пыжыкавымі шапкамі. Маладыя зверху глядзяць і не надта стрымана смяюцца.

* * *

Да рэвалюцыі гаварылася,— пісалі і Талстой, і Ленін,— пра **верхнія дзесяць тысяч**. А сёння верхніх — **дваццаць мільёнаў!..**

Адзін з гэтага апарату, мой зямляк, не з вышэйшых, сярэдніх, хваліўся, нібы між іншым, што арэхі фундук **яны**

бяруць па два рублі трыццаць капеек, а для ўсіх, калі яны наогул ёсць, па пяць пяцьдзесят. І не ачышчаныя, а ў шкарлупіне.

* * *

На стагоддзі Горкага ў ягоным горадзе (якая ўсё-такі нязручнасць: Горкага ў Горкім!..) Пімена Панчанку і мяне ў выходны дзень запрасілі паехаць з замежнымі гасцямі на прагулку ўніз па Волзе.

Людзей на катэры сабралася непараўнана менш, чым было на цеплаходзе, калі мы плылі на свята з Масквы, і можна было ўбачыць некаторых больш выразна, зблізку.

Так мы ўбачылі родных Аляксея Максімавіча, яго ўнучак і праўнучку.

Лета, Волга, лёгкі святочны настрой і... прыкрае, дагэтуль прыкрае адчуванне сваяцтва Максіма Горкага з Лаўрэнціем Берыем. Вынік гэтага — кажуць, калісьці зверху запланаванага, сваяцтва — дзяўчынка ні ў чым тут не вінавата, аднак жа цяжка, няёмка было глядзець на яе — праўнучку Буравесніка рэвалюцыі і ўнучку сталінскага ката...

* * *

Высокі госць з далёкай краіны ўрачыста прыехаў у Мінск з уласным ложкам, два на два метры, з персанальным пазалочаным начным гаршком, які ў спальным пакоі адпаведнай рэзідэнцыі стаяў урачыста на тумбачцы.

Гаварыў мне пра гэта адзін з тых нашых, што абслугоўвалі... таксама ж нейчага вялікага правадыра.

* * *

Гарбачоў адной рукою аддаваў царскую Лівадзію дзецям, на санаторый, а другой рукою, яшчэ раней, без газетна-тэлевізійнага розгаласу, пачаў будаўніцтва свайго шматмільярднага Фароса...

Як глыбока і безнадзейна разбэшчана сістэма! Нават і той, хто пачаў перабудову, каму спачатку верылі, і ён — дзве рукі, дзве душы!..

* * *

Другая палавіна васьмідзесятых, «перабудова», а ў галоўнай газеце перадавіца з такім загалоўкам:

«В партию принимать только достойных!»

Да клічніка можна дадаць і пытальнік:

«А хто будзе прымаць?..»

* * *

Выступаючы на вечары памяці Браніслава Тарашкевіча, глыбока ціхі Фёдар Янкоўскі — з разуменнем і адчуваннем — працытаваў:

«Ужасный век, ужасные сердца!..»

Не могучы тады сказаць усяго, што ведаў пра трагедыю гэтай сям'і: злачынны расстрэл вялікага бацькі і загадкавую гібель у партызанах яго маладзенькага сына...

## Лепшая палавіна

Гэта не жартачкі — семдзесят.

Былы партызанскі начальнік штаба брыгады прыехаў з далёкага райцэнтра ў мясціны, добра знаёмыя з вайны.

— Ішоў, брат, берагам Нёмна і, паверыш, аж заплакаў. Даўно тут не быўшы...

Апраўдваецца, і зноў слёзы ў вачах. Добры быў хлопец, свойскі ды шчыры. Да службы ў арміі настаўнік, тады афіцэр-франтавік, двойчы паранены, у пушчу нашу прыйшоў у пачатку сорак трэцяга, з групай, пешшу з Вялікай зямлі. І прыгожы такі, успомніўшы, чарнявы ды блакітнавокі беларус.

Ідзем узлескам, два дзяды. Успамінае хату на ўзгорку над ракою, а ў хаце той — прыгожых дачок.

— Адна, брат, асабліва была слаўная. Яна мне вельмі падабалася, але я яе не чапаў. А потым, пасля вайны, калі я быў інструктарам райкома, здарылася быць у Сасновічах, дзе яна замужам. Мужа дома не было, дачушка малая кудысьці пабегла. Сядзелі мы на канапе, успаміналі, смяяліся. І я не вытрымаў, пачаў яе трохі ціскаць. Ну, цалаваліся. А яна, брат, кажа: «Пачакай, я хату замкну!..» Ну, тут ужо

адступаць не будзеш... Хоць я ўжо і жанаты быў са сваёю Марынкай, і малая была таксама. А цяпер успомніш — нават неяк і сорамна...

* * *

Прыгожая, спраўная маладзічка ў гасцях у бабулі, на хутарку над ракою. Яшчэ церпкаватая раніца, а яна ўвайшла пры беразе памыцца, чэрпае жменямі на тварык і не фыркае. Убачыла мяне і хораша, сонечна прывіталася. А я яе ўспомніў маленькай ды галасістай...

І іншае ўспомніў, далейшае.

Улетку сорак чацвёртага да нашага партызана, разам з якім я жыў у знаёмага на ўскраіне мястэчка, нешта хутка пасля вызвалення з-пад Невеля прыехала жонка, дародная русачка, настаўніца. Пасля абеду яны ўзялі ў гаспадара другую падушку і пайшлі ў гумно адпачыць. Зачыняючы гуменныя вароты, ён, дагэтуль такі статэчны, падміргнуў мне з мужчынскай шматзначнасцю.

Гадоў праз пяць ён памёр, яна дапрацавалася да звання заслужанай настаўніцы, удала выйшла замуж за другога. Яшчэ гадоў праз некалькі мы выпадкова сустрэліся ў Мінску, і яна, спаважная і яшчэ ўсё прывабная, пазнаёміла мяне з дачкой. Пахвалілася, што школу тая закончыла з медалём, вось прывезлі заяву ў інстытут. Мілая маладосцю і, па маме, прыстойная дзяўчынка. Я гутарыў з імі, а сам міжволі і нават з нейкім хваляваннем прыгадаў той летні позні поўдзень, гуменныя дзверы, мужчынскую ўсмешку... Бог мой, як хутка ляціць час!..

Як і з гэтай вось, што ўсміхаецца мне на чысценькім бродзе.

* * *

Абедаў у працавітай, дружнай сям'і, дзе мне заўсёды добра — яшчэ ў адным вясковым «дома».

І вось тады, пастукаўшы, зайшоў у хату інтэлігентнага выгляду малады чалавек, намеснік старшыні калгаса, павітаўся з усімі за руку і звярнуўся да старое гаспадыні:

— Дарагая бабуля! Дазвольце павіншаваць вас з вялікім святам пяцідзесяцігоддзя Кастрычніка і перадаць наш скромны падарунак ад калгаса.

Ён перадаў ёй пакунак у белай паперы, перавязаны блакітнай стужкай. І я пачуў ад хатніх і ад яго, што гэтак сёння заходзяць у хаты ва ўсім раёне, да ўсіх, чый сын, ці муж, ці бацька загінулі ў вайну.

Блакітная стужка...

А «дарагая бабуля», мая старэнькая, зусім аглухлая сястра, што ўжо даўно выплакала апошнія слёзы па адзіным сыне, які памёр ад цяжкіх ран пад Кёнігсбергам, пайшла тым часам за перагародку. Пашаматалася там і выйшла — з усмешкай,— паказаць нам разгорнуты адрэз на плацце...

Боль нібы даўно адбалеў, а радасць ад людское памяці і ўвагі — вось яна.

* * *

Сціплая, сумленная жанчына ўсё жыццё лічыла сябе брыдкай, не вартай увагі мужчын. А вось аднойчы сябар яе мужа, п'яная свіння, пачаў прыставаць да яе з каханнем. Адмовіўшы, яна рада была ўдвая,— засталася чыстай, вернай мужу, і паверыла, што і яна можа падабацца.

* * *

Дзяўчына з сям'і, якую ў вёсцы не любяць за знешнюю і маральную неахайнасць, з якое пагардліва кпяць, апынуўшыся далёка ад дому, дзе нікога іхніх не ведаюць, як быццам нанава нараджаецца. З яе абвальваецца ўсё, што не яна, яна падабаецца, хтосьці ў яе закахаўся... Нармальна гэта, наўздзіў землякам. Калі яна з мужам, з дзеткамі наведваецца да сваіх.

* * *

У вялізным, на дзевяцьсот двароў, данскім сяле, воддаль ад белай мазанкі — бахча, а потым абрыў над ракою, наверсе парослы вішняком. Летняя зорная ды цыкадная ноч. Тут нам, далёкім гасцям, паслалі на траве каля вішняку — сябру з жонкай і мне з маёю. Пасцелі такія бела-раскошныя, што аж няёмка. На другі вечар я і сказаў адной з сябравых сясцёр, чарнявай, быстрай Сані:

— Што ж вы нам сцелеце так багата?

І яна адказала:

— А каму ж я, Іван Антонавіч, пасцялю?

Дзяўчыне зусім пад сорак. А сястры яшчэ больш. Абедзве не замужам — з-за вайны. Цяпер якраз жніво, не першае і не апошняе ў бязмежным пшанічным стэпе. І Саня з гаркаватай гордасцю кажа: «Робіма хлеб для Савецкага Саюза»...

...Масква, пачатак пяцьдзесят першага года. З гасцініцай не пашанцавала, і адзін з нашай камандзіровачнай тройкі, у якога тут сваякі на Арбаце, угаварыў нас пайсці пераначаваць да іх.

У інтэлігентнай, прыязнай яўрэйскай сям'і мы вячэралі з нашым віном, і трохі пафліртавалі з сімпатычнай, разумнай дзяўчынай, настаўніцай, сябравай швагеркай, якой за трыццаць.

Ноччу я прачнуўся ад рыданняў за сцяной. Старая маці, што з беларускіх яўрэяў і ўчора вельмі ахвотна, сама пачаўшы, пагаварыла са мною па-польску, прыцішана ўгаворвала дачку:

— Ну, девочка моя... Ну, что же делать?..

І сапраўды — што ж рабіць, калі доля такая?

* * *

На рыначнай плошчы варшаўскага Старэго Мяста — кавярня «Каменнэ сходкі», дзе гаспадарыць пані Аленька, удава пісьменніка Станіслава Пентака. Былая... дый цяпер яшчэ па гадах красуня, талковая і энергічная. Сама і абслужыла нас, і пасядзела з намі. Развітваючыся, трохі воддаль ад Канановічаў, Мацея з Крыстынай, якія нас пазнаёмілі, яна мне цішком хваліла Мацея: «Ва ўсёй Польшчы ніхто вам пра яго нічога дрэннага не скажа». Дый дадала:

— Наогул я, проша пана, люблю мужчын пасля сарака гадоў. Прынамсі, у твары можна штосьці ўбачыць.

* * *

Прыехаўшы з роднай вёскі, пажылая дачка прыняла ванну, легла ў чыстую пасцель і расплакалася, успомніўшы, як у параўнанні з ёю жыве яе мама. Толькі вады з пагрэбніка кожны дзень вёдзер па трыццаць-сорак трэба выліць...

* * *

«**Кровинушка** моя — якое прыгожае слова!» — падумала беларуская маці ў самоце, узняўшы вочы над кніжнай старонкай.

* * *

«Мама, ты забылася, што трэба есці?»

Гэта — малы да маці, якая горка задумалася.

Такое ўбачыў я ў кароценькім, як дадатковым, сне пад раніцу.

* * *

Разбагацелы нечасцю гаспадар вельмі ж ладзіць са сваёю бабай. Калі нехта, нават і з найбліжэйшых, папросіць у яго дапамогі і нельга выкруціцца, каб не дапамагчы, ён кажа:

— Пагавару, браце, з бабай.

А пагаварыўшы:

— Не магу, браце, жызні не будзе — заесць!..

* * *

Ён мінскі беларус-католік, бялявы, разяваты рагатун, а яна татарка наша, чарнявая, быстрая красуня. У выхадны яны выпіваюць дома чацвяртушку, пад закусачку, вядома ж, а тады самі сабе, пад модныя пласцінкі, здорава і да ўпаду танцуюць у пустым пакоі. Шчаслівая пара.

* * *

І так ужо ў цёткі дзевяцёра, а яна яшчэ кажа:

— Дай Бог, каб маім дзеткам лыжачак не хапала!..

* * *

Дзед-удавец ненавідзіць катоў і сабак. Ды вось захварэла суседка, з якою ён дружыць. Таксама адзінокая, нават і ажаніўся б. Легла бабка ў мястэчковую бальніцу, а дзед пачаў насіць яе кошачцы малако, нават падаграваючы яго.

* * *

На хутары ў цёткі парадак. А сын недзе ў горадзе. Ён у яе — ад таго валачашчага «васточніка», які нешта неўзабаве пасля вайны, з якое не вярнуўся яе муж, перазімаваў у маладое ўдоўкі, застаўшыся як быццам назаўсёды. Разлік у валацугі быў просты:

«Зарезали борова, самогона хватало, баба. А весною ушел. Надоело...»

* * *

Запомніліся дзве ўсмешкі на вуснах знешне прыемнай маладзічкі. Першая — калі Ён пакінуў жонку, а ўзяў яе, другую. Усмешка вясёлая, пераможная. Ну, а другая ўсмешка праз тры ці чатыры гады — прыніжана-сумная. Калі яе нядаўні Ён пакінуў і яе, узяў сабе трэцюю. Сумная, мусіць, да часу.

* * *

Мой польскі сябар, пісьменнік Мацей Канановіч, і на сёмым дзесятку яшчэ ўсё весела загаворваў з панямі ды з паненкамі. Яго спакойная, ветлая Крыстына, маці іхніх шасці дзяцей, калі мы разам падарожнічалі па Гданьшчыне, аднойчы кіўнула мне на свайго кавалера з усмешкай:

— W starym piecu diabeł pali.

Уразіла гэта сілай народнага слова. Згадалася рускае: «Седина в голову, а бес в ребро». А потым і наша знайшоў у рупліўца Янкоўскага — спачатку: «Галава сівее, а сэрца дурэе», а потым і бліжэйшае да польскага: «І ў старой печы агонь добра гарыць».

А ўсё ж без самога д'ябла каля прыпека старое печы неяк яно трохі і слабей.

* * *

Вясёлы дзядзька хваліцца:

— Я ўжо тым часам і стары, але аладку ў сваёй Ганны яшчэ магу зарабіць!..

* * *

Сенсацыя ў гарадскім пасёлку. Дзед расхрабрыўся так, што яго ледзь не зусім ад бабкі ды ў бальніцу. Бабка мужна апраўдвалася перад дакторкай ды медсёстрамі:

— Ой, мілыя, вы ж маладыя, вы ж кожную ночку, а нам яшчэ хоць разок хацелася...

А дзед, як толькі трохі ачомаўся, ціхачом драпануў дахаты.

* * *

— Ого, ты яшчэ арол!

— Ну, браце, арол... Маім крылом баба ўжо прыпек вымятае.

* * *

Стары чалавек, а што гаворыць:

— Убачу дзеўку ці маладзіцу з добрымі цыцкамі, дык і сам два злотых даў бы, каб патрымацца.

— Як вам, дзядзька, не сорамна,— нібыта абураюцца слухачкі.

— Якое сорамна! Так жа было.

І расказаў, як у іхняй вёсцы калісьці пры Польшчы рабілі сталярку два местачковыя жыдкі, пажылы майстар і маладзенькі памочнік. Наглядзеўся той хлопец на маладую гаспадыню, хараша грудастую, і, калі яны засталіся ў хаце адны, зачырванеўшыся, папрасіў:

— Цётачка, дай патрымацца за голую цыцачку, дам злот.

Тады за два злоты ў дзень жалі на заработках. Яна зарагатала і згадзілася. Нават потым дадала:

— Давай яшчэ адзін — і за другую патрымаешся!..

Сама расказала суседкам, рагочучы. Толькі мужык дурніцаю назваў — не больш. Гэта тады ўжо ўсё, калі тыя cталяры работу кончылі і падаліся ў мястэчка.

* * *

На аўтобусным прыпынку тры дзябёлыя цёткі гамоняць пра чужых няўдалых мужыкоў.

Адна з іх:

— Каб гэта мой так піў ды валачыўся, дык я ж бы яго загрызла!..

Прыгледзеўся збоку. Твар загарэлы, шырокі, калючыя вочы і тонкія губы, якія сцяліся пасля слоўнай, як аўтаматнай, чаргі, пацвярджаюць,— загрызла б!..

* * *

— Сорак сваіх рублёў прапіў, пакуль удалося здаць на базу цешчыну карову. А яна прыбягае назаўтра: «Машэннік, хочаш грошы мае сабе палучыць! Аддавай квітэ!» Аддаў я ёй тыя квітанцыі і кажу: «Ну, а цяпер давай з двара, а то суку спушчу!» Пайшла яна, яшчэ ўсё агрызаючыся, а я, браце, не вытрымаў — спусціў! Паспела выскачыць за брамку. Але ж і шпарыла! Зайшоў я ў хату, жонка стаіць каля печы, маўчыць. Ну, думаю, будзе злаваць. Ажно не. Свінню здаць цешча папрасіла ўжо другога зяця, майго швагра. Казаў потым, што лётала ў раён праверыць, ці столькі ж ён атрымаў, колькі даў ёй. І тут мая, чуючы гэта, раптам, браце, і кажа: «Суку трэба было спусціць!..»

* * *

Семдзесят дзевяць гадоў удаўцу, знаёмаму з партызан, а то яшчэ і з даваенных гадоў. Нейкім агентам трохі быў пасля вайны ці іншым нізавым чыноўнічкам. Коціць па вёсцы на веласіпедзе, не па-будзённаму адзеты. Спыніўся, павіталіся, а ў адказ на звычайнае «як жывеш», ён пачаў скардзіцца на новую жонку. І што «прастая калхозніца», і што «есціварыць абы-як», а да таго ж яшчэ і «храпе кожную ноч, спаць не дае», хоць і спіць на кухні, а не з ім...

І скардзіцца ён так не толькі мне. Наш агульны знаёмы, з якім я ў гэтую вёску прыехаў, пра яго трагедыю ўжо чуў. Чулі і іншыя.

* * *

Цяпер ужо нават і так: «В семье у них консенсуса не было». Так гаварыла на вярхоўнай сесіі толькі што выбраная дэпутатка. Хоць ты вазьмі ды спытайся ў яе: «Извините, а конвергенция в наличии?» Таксама ж модна.

* * *

Жаўна не толькі «стукае» (у Багдановіча), але і вякае. Разумненькая дачніца хутка абрыдзела вясковым суседкам. Адна з іх расказвае мне:

— Цэлы дзень толькі і вякае на свайго, як жаўна: «Вань-ня! Вань-ня!..» Усё камандуе. А ён такі ціхі, прыветлівы.

* * *

Як можна напсаваць у сяброўстве. Жоначка — мужу: «Не еш, ты да гэтага не прывык!» Пра тое, што падалі ў дрэннай раённай сталоўцы. Як быццам іншыя сябры па падарожжы, адзін з іх таксама з жонкай, дома да такога нечага прывыклі.

* * *

У Амерыцы мы з Панчанкам у кожным гатэлі (пакой звычайна на двух) на століку зноў бачылі абавязковую Біблію і яшчэ таўсцейшую тэлефонную кнігу, у якой правяралі колькасць сваіх аднафамільцаў. У Нью-Йорку іх у мяне аказалася найбольш. І Пімен адразу ж выдаў два радкі:

Не в пуху ли ваше рыльце —
двадцать два однофамильца!..

А перад гэтым, у Чыкага, я хацеў азадачыць яго пошукам рыфмы да слова Мічыган. Хвіліну памаўчаўшы, ён сказаў:

Над возерам Мічыган
дам вам чорнай цыцы гам!

Мы засмяяліся, падумаўшы, як аказалася, пра адно — пра красуню мулатку, якой днямі залюбаваліся ў вагоне цягніка не толькі мы. А яна — гордагрудая, фігурыстая, у блакітнай блузцы і белай спадніцы — раскошна прайшла па доўгім вагоне ў суседні, ■ неўзабаве вярнулася, прайшла па нашым зноў у другі суседні, выразна, па ўсмешцы мяркуючы, задаволеная тым, як ёю любуюцца.

* * *

Перабіраючы газетныя выразкі, знайшоў і перачытаў сваё юбілейнае слова пра Арсенія Астроўскага. І ўспомнілася зноў, як у чэрвені пяцьдзесят другога, пасля некалькіх цудоўных дзён гасцявання ў Ленінградзе, дзе мы з Арсеніем Георгіевічам займаліся аўтарызацыяй яго перакладу маёй аповесці, мы з ім, ужо ў Маскве, ішлі па Гогалеўскім бульвары ў выдавецтва. Ішлі, пагамоньвалі, і раптам ён, такі акуратны піцерскі інтэлігент, што і з жонкай на «вы», мякка, культурненька спытаўся ў мяне, і маладзейшага на дваццаць гадоў, і не надта яшчэ знаёмага, спытаўся, кіўнуўшы на магутную таўсцюху ў беленькім гарнітуры, што важна ішла перад намі:

— Иван Антонович, согласились ли бы вы отредактировать этот однотомник?..

* * *

— Ешце, ешце яшчэ! Добра, калі яно ўсё свежае. Ешце!..

Гэта мы снедаем, камандзіровачныя ў далёкім райцэнтры, запрошаныя даўнім сябрам. Усё свежае, усяго многа, а яно нібы нават і ў горла не лезе. Ведаючы, як яна, упасвеная гаспадыня, здзекуецца са свайго, які ў яе «дурны», «не ўмее жыць», бо яна са свайго гастранома больш «прыносіць у хату», чым ён, заслужаны настаўнік, ціхі, культурны чалавек.

* * *

Чарнявенькая, сімпатычная, а даведаўся, што ўсе яе норкавыя ды каракулевыя футэркі — з мужавых санаторных камбінацыяў ды хабараў, і ўся яе прывабнасць для мяне прапала. Дагнаў на вуліцы і толькі кіўнуў на «добрай раніцы», а гаварыць няма пра што. Проста фізічна прыкра.

* * *

Карэспандэнтка тэлебачання сустракаецца на Слонімшчыне з вясковымі бабулямі.

— Ну што вы, дзевачка,— кажа адна з іх,— старую бабу **цягнеце за язык?** Як жывем? Кепско, цяжко жывем! Хлеба раз на тыдзень прывязуць, дый то пакуль даклыпаеш у мага́зін, дык той хлеб ужо і разбяруць!..

* * *

На двары ялцінскага музея Чэхава дарожкі высыпаны хрусткай, хоць і плоскай ды гладзенькай, галькай.

— Не маглі ўжо заасфальтаваць,— гаворыць старэнькая, інтэлігентная дама, маці паэта, знаўца і сімпатык таго часу.

Калі ёй сказалі, што галька лепш за асфальт, яна не здалася:

— Зрэшты, хіба ж тады такі абутак быў? Тады насілі шаўро. Можна было і па гальцы хадзіць.

Трохі пазней, ужо ў доме, яна выказала яшчэ адно незадавальненне:

— У такога вялікага пісьменніка іконы без дарагіх акладаў...

Што ж, дайце бабулі паўспамінаць, пaглядзецца ў люстра свайго мінулага, пакакетнічаць сваёй фальварковай ды гімназічнай значнасцю.

* * *

— Я дачка Наталлі Быськавай,— сказала мне пра сябе жанчына амаль сярэдніх гадоў, непрыгожая, ажно шкада яе, і апранутая так, што не пазнаць, гарадская яна ці вясковая.

А потым цётка яе, настаўніца ў гарадку, дзе мы сустрэліся, сказала мне пра сваю госцю, што мама яе прынесла з партызанскага лесу, што гэта дзяўчо гадавалася без бацькі, у бядоце... А цяпер — кандыдат біялогіі, прыехала з Алма-Аты, дзе жыве, працуе. Адзінокая.

І неяк хораша зноў прагучала яно, тое «Быськава» (ад «бысь, бысь, бысь!», як клічуць быка), з вуснаў сціплай і, як пасля спакваля аказалася, змястоўнай, талковай жанчыны.

* * *

Сусед падкочваўся да суседкі, а яна прызналася яго жонцы. Сяброўкі дамовіліся, і жонка сустрэла яго ўпоцемку ў сяброўчынай пасцелі, у каморы, калі мужык сяброўчын быў некуды паехаўшы з начлегам. Леглі яны, покуль што ды як, яна — у добрым здароўі ды вясёлая — саграшыла ў ягоны бок ад сцяны. «Во,— зашаптаў «ухаджор»,— ты падпусціла і то мне смашна. А маё падла як сапанé!..» — «Ах ты, сволач паганая!» Лямант, бойка, уцёкі.

Або такое яшчэ:

Калісьці, таксама пры Польшчы, з нашага Турца на станцыю Гародзей вазілі збожжа з яўрэйскіх свірнаў-шпікняроў. Справіўшыся з перагрузкай, мужчыны заходзілі ў «гарбаця́рню», чайную, пагрэцца. Неяк сусед наш, вясёлы ды нестары здаравяк, сказаў афіцыянтцы: «Ну ж ты, дзеўка, і насаладзіла мне, ажно ў мяне...» А яна, мясцовая дульцынея: «Ну пакажы!» І хап яго за подшаг!..

Такое пісалі яшчэ ў сярэднявеччы. А мы толькі смакуем употайку.

* * *

Праз акно ў ашчаднай касе любуюся, як маладая, мілая з выгляду, даўнавата ўжо знаёмая маладзіца расцвіла цяжарнасцю.

* * *

Ножкамі можна захапіцца нібыта і незалежна ад усяго іншага. Убачыў такую на аўтобусным прыпынку, калі заходзілі, а потым яшчэ раз, калі разам выйшлі і яна пайшла перада мной. Высокая, элегантная, ножкі ў белых туфельках стройныя, зназаўсёды правільнай, як пад нячутную музыку, хадой.

* * *

З аднаго боку чыстае каханне, з другога — разбэшчанасць, а ўсё разам цяпер называецца секс. Нават і «сіняя панчоха», даруй Божа, уся ў сваіх нудных «творчых» пошуках, знаходзіць тут вельмі новае, навукова-культурнае асэнсаванне. Сам чуў, як яна перад пачаткам нарады гутарыла з яшчэ старэйшым навукоўцам і трошкі заслінена шапялявіла пра тое, якія сёння ў свеце найважнейшыя праблемы: міру, дэмакратыі і шэксу...

* * *

Позні вечар перад тэлевізарам. Чакаеш чаго-небудзь цікавага, а дыктарка, сімпатычная маладзіца, аб'яўляе з дзяжурнай усмешкай:

— А цяпер, паважаныя таварышы, мы вам пакажам...

І называе другую ці трэцюю серыю нейкага нуднага кінафільма. Пакуль выключыць тэлевізар — само сказалася:

— Паказала б ты, дарагая, што-небудзь іншае!..

Бо і ёсць жа што паказаць.

* * *

Маладзенькая, прыгожанькая тэледыктарка гаворыць завучанае хутка і чотка. Закончыла доўгі, сухі інфармацыйны сказ гулліва — словам **Бан-Кок**, ды з клічнікам і падлеткавай усмешкай, слова тое раздзяліўшы і падкрэсліўшы, асабліва **Кок.** Магла б тут і пальчык узняць.

* * *

«Што ты скалішся, слова не прылажыўшы?!» Хоць ты вазьмі ды так, па-вясковаму, спытайся ў здаравеннай музыказнаўчыхі, якая, абы з'явілася на тэлеэкране — адразу шырокая ўсмешка.

Можа, такое з вучобы, дзе вымуштроўваюць і так. Некаторыя дыктаркі так гэта моцна засвоілі, што і некралог, здаецца, гатовы пачынаць з выдатна засвоенай усмешачкай: «Савет Міністраў з глыбокім жалем паведамляе, што...»

* * *

Суседава нявестка, руская маладзіца, дзякуючы за паслугу:

— Иван Антонович, миленький, выйду на пенсию — прочитаю все ваши произведения!

А самой трыццаць, і здаровая, аж свіціцца.

Што ж, пачакаем.

* * *

Энтузіястка арганнай музыкі на канцэрце. Апладзіруе і крычыць: «Біс!» — проста як у гарачцы якой. І зноў, і зноў... За свой рубель і душу з таго маэстра выняла б!..

А ў нас, відаць, наогул першае месца па воплесках?

Пры Брэжневе кожны дзень амаль уся тэлепраграма «Час» складалася з масавых апладысментаў. Ва ўсёй краіне толькі засядаюць, толькі ў ладкі пляскаюць...

* * *

Старая пані Генавефа, хатняя работніца ў вядомага пісьменніка. Дзеці гаспадара, вясёлая малеча, паігралі ў карты на яе ложку, ды яшчэ ж у час святое імшы, пакуль яна была ў касцёле. І вось усю ноч ёй не давала спаць нячыстая сіла. Пакуль яна добранька не памалілася.

* * *

У міжгароднім аўтобусе маладзенькая, худая, быстрая, шыракаротая дзяўчына энергічна, размашыста жуе амерыканскую жвачку. Так плямкае, што цётка, якая сядзіць побач са мною, не вытрымала: «Во, як сячкарня якая!» Вёска наша сіганула па культуру аж за акіян. Плям, плям, плям... А потым яшчэ тую жаванку-недажаванку белым пухірам пакажа ў губах. Хоць ты блюнь у адказ. А яна ўсё жуе — за ўвесь білет не даплямкае...

* * *

І сярод нямкіняў ёсць пляткаркі. Таксама спяшаюцца,— бачыў я неяк,— і мімікай, і жэстамі, і смехам.

* * *

Немаладая ўжо выкладчыца так забегалася пасля інстытута па гастраномах, што, зайшоўшы ў кафэ пры хлебным магазіне ўзяла шклянку кавы з аўтамата, булачку, прыладзілася да круглага, высокага стала, а тады — замест цукру — апусціла ў шклянку з рукі... другія пяць капеек. Засаромелася, што нехта ўбачыў такое, і пайшла, не перакусіўшы,— на яшчэ адну лекцыю.

Расказвае мне пра гэта і смяецца.

* * *

У аўтобусе, пакуль ён стаіць на вясковым прыпынку.

Пад белай кофтачкай — пяшчотныя грудзі і плечыкі. Валасы сабраныя ў акуратны «хвост». Носік курносы. На скроні — прышчыкі невыкарыстаных магчымасцей. І дзве дзяўчынкі, па маме міла курносенькія.

Старая спрацаваная свякроў просіць у меншай унучкі яшчэ адну «буську». А мама-нявестка не толькі вельмі сур'ёзна не звяртае на гэта ўвагі, але вось-вось, здаецца, скажа: «Хопіць ужо, наразвіталіся...» І чытай у гэтым яе валявую зацятасць, нейкую незадаволенасць мужавай маткай...

А муж — прасцецкі, светлы здаравіла. Пацалаваўся са старэнькай і зайшоў, калі аўтобус ужо загыркаў маторам.

* * *

Западозрыла, што Коля яе ходзіць да другое, да Ганны, скучкі гэтай. Клуб якраз падмятала, а тут прыбягае суседка дый кажа: «Твой да Ганны пайшоў, сама на свае вочы бачыла! Дальбожачка!..» Пабегла яна з венікам туды. А яны там і праўда — у ложку, без агню. Ганна ўсхапілася першая, дык яна ёй тым венікам па мардах, па мардах!.. А той уцякаць, хап-лах адзеўшыся. Жонка і выехала на ім. Ён спатыкнуўся ў градах, упаў. Ну ж і давала, і венікам, і нагамі. Ажно самой стала страшна, што ён жа дома яе за гэта заб'е. Кінула і пайшла дахаты. Прыходзіць, а Коля яе — сядзіць сабе ды з дзецьмі забаўляецца...

«Каго лупіла — і сама не ведаю... І той жа любоўнік маўчаў, каб я не пазнала, хто гэта... Ну, а з Ганнай мы — хоць бы што, падругі, як і былі. Яна ўжо рада, што я хоць маўчу. І мне казаць няма чаго. Гэта я толькі, дзядзечка, як вам гаворачы...»

* * *

Бабка на рынку вельмі ж старанна важыць свае яблыкі. Гарадская пакупніца ўсміхаецца:

— Ну, вы ўжо, цётачка, як у аптэцы!

— А што ж, мілая, свая ручка — не сучка, за так не даець!..

* * *

Модна рыжая і распатланая артыстачка два тыдні прадстаўляла ў далёкай братняй рэспубліцы наша беднае кінамастацтва.

Толькі ўсмешачкай, маладосцю ды кожны раз свабоднымі расказамі пра свае, нікому там не вядомыя, дэбюты ў слабых фільмах.

Начальства любіла гэтага коціка — і прыезджае, наша, і мясцовае.

У апошні дзень да самалёта яна прыехала не разам з

усімі ўдзельнікамі выступленняў, а ў машыне начальства.

Ужо развіталіся госці з гаспадарамі, гаспадары з гасцямі, яшчэ раз, і яшчэ, сядзім у самалёце, а ён чамусьці марудзіць са стартам.

Артыстачка звяртаецца да мужа, таксама модна прыгожага, але маўклівага і нібы лішняга пры ёй:

— Ты посиди, а я пойду еще немножко попрощаюсь.

Але дзверы нарэшце зачыніліся. Самалёт пашумеў, патрашчаў і крануўся.

Артыстачка паспела толькі вылузаць у акно яшчэ адну завучаную ўсмешачку. Потым села. І задрамала, даволі кісла развесіўшы свае пухлыя губкі.

Да новага сігналу.

* * *

Лістапад восемдзесят трэцяга, Польшча.

Сакратарачка ваяводскага партыйнага камітэта — жанчына не толькі крывароценька сімпатычная, але самаадданая, шчырая ў працы, пра што на ўрачыстым абедзе расказаў мне адзін з ветэранаў вайны. «Толькі сынок у яе, дый таго няма калі глядзець. Ідзе раз малы па калідоры, на яе рабоце, і плача: «Ма-му-ся!» — «А хто твая мамуся?» — пытаюся ў яго. А ён адно толькі: «Бася!..»

У пані Басі сястра, што чакала яе, калі мы развітваліся на выхадзе. Таксама сімпатычная, нават больш, бо з незалежным выглядам. І мне зусім па-польску падумалася, што яна сваёй Басі ў спрэчцы можа сказаць і так: «Я ў дупе мам твон парт'ен!» Вельмі па-сучаснаму, тым больш па-нядаўняму, да ваеннага становішча.

* * *

Улетку сорак сёмага мне прапанавалі «творчую камандзіроўку» на граніцу з Польшчай, каб напісаць для часопіса «Пограничник» нарыс пра камандзіра аднаго з пагранучасткаў. Згадзіўся,— і цікава ж гэта, і лепш, чым сядзець у спёку ў горадзе, штодня хадзіць у свой «Вожык».

У адзін з тых пагранічных дзён давялося, між іншым, папрысутнічаць і на перадачы з таго боку рэшткаў нейкай

«банды», якая прарвалася з боем глыбей у Польшчу, але і там была ліквідавана савецкімі ўнутранымі сіламі. З нашага боку маёр Васільеў, што павінны быў стаць героем майго нарыса, [redacted] з польскага — падпаручнік Барбурскі цырымонна сустрэліся каля пагранічнага шлагбаума на гасцінцы, а неўзабаве ад Кузьніцы падышоў «студэбекер» з салдатамі і аўчаркамі, сярод якіх сядзелі цывільныя, тры мужчыны і дзве кабеціны. Іх узялі на «джып», на якім мы прыехалі з заставы, пад ахову аднаго аўтаматчыка і адной аўчаркі. Калі ад'ехалі ад мяжы, «джып» спыніўся, мой герой дастаў з багажніка сырамятныя рамяні, а падпалкоўнік, што прыехаў надоечы з Гродна, сказаў мне: «Это — не для печати». Як толькі мужчынам пачалі вязаць рукі (сам маёр з вадзіцелем), адна з жанчын зусім па-вясковаму расплакалася. А другая, маладзейшая, устала і працягнула рукі, склаўшы іх накрыж запясцямі. «Сядьте,— сказаў маёр,— мы женщин не вяжем». А яна ўсё стаіць. Сама прыгожая і поза гістарычная, няхай сабе толькі на фоне даўно не аранай пустэчы.

І так стаіць у маёй памяці — вось ужо больш за дваццаць гадоў.

У той невялікай групе вайскоўцаў я тым «бандытам», [redacted] перш за ўсё, хочацца думаць, дзяўчыне той бачыўся найбольшым ворагам: адзін толькі не ў форме і маўчыць... Куды там падумаць, што я — былы абаронца яе радзімы і чалавек, якому найдаражэй штосьці іншае, чым уся гэтая варажнеча...

* * *

У вестыбюлі падмаскоўнага Дома творчасці добра-такі пажылы пісьменнік звоніць у горад сыну ад папярэдняй жонкі, віншуе з днём нараджэння.

Цяперашняя жонка, больш падобная на дачку, чуе — не чуе тую размову, пахаджаючы побач. Хрумсціць, трашчыць арэхамі ў моцных зубах — на ўвесь вестыбюль. Відаць, нават пасынак недзе там чуе...

* * *

Муж-настаўнік пасля лагера быў у ссылцы і займеў там, на Урале, сына. Паспеў і аўдавець, пакуль прыйшла, ужо і не чаканая, воля. Вярнуўся туды, адкуль быў узяты, з хлопчыкам. Жонка тутэйшая, што столькі чакала яго, таксама настаўніца, нават з ордэнам за сумленную працу, зразумела мужа, даравала яму, аднак усё роўна жыве ў ёй прыкрая бабская рэўнасць.

— Дзеці,— пытаецца цераз акно на вуліцу, дзе чуваць дзетвара,— а ці там наш касавокі?..

Хоць хлопчык той і падобны на бацьку. Хоць сама яна і бяздзетная.

* * *

Чалавеку сорак шэсць гадоў, а ён, выпадковы сусед па купэ, расказвае мне ветліва, няпрошана, як бацьку яго зрабілі інтымную аперацыю. І заключае: «Зрэшты, у семдзесят гадоў яны яму ўжо не патрэбны».

Прыкра такое чуецца — ад сына.

А вось і яшчэ падобнае.

Разведзеная ці пакінутая дамачка, у якое малы сын, шэрая журналістка, хоча быць перада мною сучасна свецкай. Расказвае, як была на нейкай сустрэчы з касманаўтамі. На пытанне, што чалавек адчувае пасля бязважкасці, адзін з іх сказаў: «Ну, як жанчына, якая толькі што пабыла з мужчынам, але разоў у дзесяць мацней!..» Ідзем мы па талым снезе, яна такая тоўста-няруслая, нехлямяжа апранутая і, спяшаючыся, расказвае такое старому і, калі верыць ёй, паважанаму чалавеку.

* * *

Дзяўчыну выдалі за нялюбага. У наш час, пасля вайны, ды ў горадзе. Яна нарадзіла дзве дачкі. Старэйшая падобная да бацькі, і маці яе за гэта неўзлюбіла. Глядзела толькі меншую, падобную да яе.

І старэйшая вырасла з адчуваннем затоенай крыўды і злосці... нібы нават на ўсіх людзей. Ужо і ў самое дзеці,

жыве ў добрай, прыязнай сям'і, а да ўсіх насцярожаная, з недаверам, ад усіх чакае дрэннага.

І выраз твару такі.

* * *

Добры хлопец узяў нядрэнную дзяўчыну. Жылі, жылі сабе, і раптам ён стаў... ну, няхай не начальнікам, але ж пры вялікім начальстве. А яна — у душы — падраслападскочыла да рангу начальніцкай жонкі. Такою і ўзялі яе ў выдавецтве рэдактарам. Слабенькая, аднак...

Аднак вось на працу прыйшла не ў 8.30, як усе, а недзе каля дзесяці, і ўжо ў адзінаццаць з мінутамі апранаецца, выходзіць.

Старшы рэдактар, таксама жанчына, што часова замяняе загадчыка рэдакцыі, пытаецца:

— Вы яшчэ будзеце?

Тая — томна, з прыкрытай важнасцю:

— Хутчэй за ўсё не.

І сама ўжо не ведае.

* * *

У адным з дакументальных фільмаў па кнізе Святланы Алексіевіч «У вайны не жаночы твар» ваенная баба хваліцца з экрана, як яна перад строем расстраляла «труса». Мужчыны не захацелі, а яна выступіла сама. Хваліцца гэтым подзвігам і выпендрываецца перад вялікім люстрам ды перад уяўнымі гледачамі, надзеўшы пранафталіненую форму з калодкамі на старое, ужо бясформеннашчодрае сала.

Чаму ж, аднак, тыя мужчыны, салдаты — «не захацелі»?..

* * *

У жніўні пяцьдзесят чацвёртага, у Адэсе, калі мая Ніна, ратуючы дачку, утапілася сама, а потым, выратаваная двума студэнтамі і, на беразе, лекарам, які шчасліва трапіўся, вельмі хацела спаць, я ўсё прасіў, не даваў ёй заснуць, бо сказана было, што гэта вельмі небяспечна. Мы з ёю сядзелі

на лаўцы пад дрэвамі, чакалі выклікаavanую з горада «хуткую дапамогу».

І тут падышла незнаёмая курортная, кажучы па-адэску, мадам у яркім халаце, пад шырокім капелюшам, спынілася каля нас і выдала:

— Обычно в таком случае умирают на третий день.

У адказ я змог выдушыць толькі два словы:

— Пошла вон!

Пазней даведаўся, што гэта жонка саліднага, ветлага рамаwhich. А ён, відаць, не ведае пра той наш абмен думкамі, бо колькі ўжо разоў за трыццаць год запрашае мяне ў госці. І свой вялізны раман прыслаў, ужо таксама даўно. Я быў пачаў яго — не пайшло. І ў госці таксама не пойдзеш.

* * *

Настолькі ўжо ва ўсім сама, што і пра смерць сваю гаворыць так:

— Не хачу я з нашымі маладымі жыць. Хіба што потым ужо буду пры сыне ці пры дачцэ.

Нібыта і мужавым адыходам таксама распарадзіцца яна: спачатку ён, а потым ужо сама.

* * *

Партызаны злавілі шпіёнку. Пасля допытаў расстрэльваць яе павёў бязносы гугніла, асобааддзелец, узяўшы з сабой байца.

Шпіёнка маладая, гладкая, і гугніла пачаў угаворваць яе... ну, даць. «Усё роўна ж табе гнісці, што ты шкадуеш!..» Яна згадзілася, легла, падрыхтавалася. Калі ён, аддаўшы свой аўтамат байцу і загадаўшы яму адысціся за куст, пачаў апускацца на калені — яна спрытна і моцна кашканула яго нагамі ў жывот, а сама прыпусцілася лесам наўцёкі...

Каб не баец — уцякла б.

Як ні страшыў начальнік байца, той усё-такі не вытрываў, расказаў пасля. А да мяне гэта дайшло праз трыццаць гадоў.

* * *

Прадвесне сорак пятага, драўляная ацалелая ўскраіна Мінска. Сусед па кватэры — капітан тылавое службы, мужчына пажылы, трохі вахлакаваты, як на афіцэра, хоць і з белымі пагонамі. А жоначка... іменна жоначка, так хочацца сказаць, была зусім маладая, бялявая, усмешлівая красуня. Разы са тры было так, што мы выпадкова сустракаліся з ёю на двары, я ішоў у дом, яна выходзіла... з тазікам зафіялечанай марганцоўкай вады. Міла ўсміхалася, без аніякай збянтэжанасці або якога-небудзь сораму...

Недаўменне праяснілася, калі гаспадыня дома нашаптала маёй жонцы тое, што капітан, таксама па сакрэце, расказаў ёй.

У красуні быў... «толькі трыпер», капітан не жыў з ёю сам, а бярог яе для сына... А ў пакойчыку, які яны займалі, стаяў толькі вузкі жалезны ложак, квадратны столік і табурэтка.

* * *

І ў раі, і ў пекле анёлы і чэрці, «падшие ангелы»,— адны мужчыны. Поўны патрыярхат.

## Поле пераходзячы

Такога сюжэту як быццам і не прыдумаеш.

Швагерка — баба не проста звяглівая, шкодная, але атрутна варожая да яго, нашмат старэйшага, паважанага чалавека, у мінулым сталінскага пакутніка,— цяжка захварэла. Камусьці трэба неадступна быць каля яе. І сястра яе, энергічная жонка гэтага неаднойчы аблаянага швагеркай, абрыджанага ў вочы і за вочы чалавека, у сумленнасці сваёй безабароннага, як малое, вырашыла, што на сядзелку найбольш падыходзіць ён. І ён сядзіць, пакуль жонка на дачы,— і цэлы дзень, і цэлымі днямі...

* * *

Госць мой успамінае чалавека, які мне не без падстаў непрыемны, таксама нашага партызана. Учора ўспамінаў яго, сёння зноў. І ясна стала, нарэшце, чаму.

— Дзяцей у нас было ўжо трое,— расказвае ён,— а зарплата ў абаіх малая. Беднасць такая, браце. А заедзеш да яго, у млын, дык ён загадчыцкай рукой і мукі табе ціхачом насыпле, і крупы якое. І кажа: «Трэба будзе — не саромейся, гавары». Во хлопец!..

* * *

Гадоў ужо, мусіць, са тры не выходзяць з памяці дзве маладзіцы, якіх выпадкова пабачыў на тралейбусным прыпынку.

Здаровыя, спраўныя, у аднолькавых плашчыках, абедзве модна, у гнеды колер пафарбаваныя, адна з «хвастом», другая нашантырыла валасы капою. «Сёстры»,— падумалася, бо і падобныя, і дружныя неяк па-асабліваму. Працуюць, можа, на адным з заводаў, жонкі рабочых, добрыя мамы і гаспадыні.

Словам, выдатны доказ, што не так гэта і складана — пакінуць вёску, поле, стаць гараджанкай. Таксама ж мода.

Запісаў гэта ў шэсцьдзесят дзевятым, а яшчэ праз год у вагоне назіраў такое. Ужо з маладымі мужчынамі.

Селі яны ў купэ абапал століка і галасна, не звяртаючы ўвагі на двух іншых пасажыраў, расказвалі адзін аднаму пра сябе. Блізкія землякі, што даўно не бачыліся, хоць і жывуць у адным горадзе, а тут вось сустрэліся выпадкова. Само па сабе гэта ўжо весела. Пра ўсё гаворыцца — і што ў каго на рабоце, у Мінску, і што там дома, у вёсцы. Рабочыя. Маладыя, нядрэнна абжытыя і шчасліва сямейныя. Нагаварыўшыся пра ўсё, адзін, як на дэсерт, спытаўся пра хакей:

— Ты за каго балееш? Я за «Спартак».

— А я за «Дынама».

І ўсмешкі ў абодвух, і даўгаватая паўза шчасця, нібы замерлі з тымі ўсмешкамі, як выпускніцы ў белых сукнях, што выйшлі вальсаваць, і ўсё ў іх так добра, і самі яны такія харошыя, што проста па-чэхаўску «окоченели от счастья»,— так павольна, асаладзела кружацца ў танцы...

І дзяўчаты, і хлопцы — гараджане ў першым пакаленні.

* * *

Сціплая рэдакцыйная машыністка і славуты прафесар-хірург.

Ляжала яна ў бальніцы два месяцы, і ўсё ёй неабходнай аперацыі не робяць. Падказалі жанчыны, што трэба падсунуць. Асмелілася — палажыла ў канверт пяцьдзесят рублёў, адной паперкай, і панесла яму ў кабінет. Браў ён персанальна. І дзелавіта. Выняў тую паперыну і спытаўся, кім хворая працуе, якая ў яе сям'я. І заключыў гуманна:

— Што ж, вам і самой, вядома, грошы трэба.

На аперацыю палажылі праз дзень.

Потым ёй у палаце сказалі, што малавата дала. Даюць звычайна па сто, па сто дваццаць.

* * *

Ці прачытанае, ці па радыё пачутае — на сацыяльную тэму, пра наша горкае, сельскую гаспадарку. Якая форма землеўладання лепшая? Спыніліся аж на кітайскай. І тут хтосьці мудра дадаў: усё выдатна, толькі няма ў нашай вёсцы кітайцаў. І па колькасці, і па сумленнай працавітасці няма або вельмі мала!

* * *

І на велічна-сумных фігурах Саласпілса гаспадарнікі «зарабілі»? Далі менш, чым трэба, цэменту, і постацісімвалы прыкра абкрышваюцца. Усяго толькі праз дваццаць пяць гадоў пасля вызвалення гэтага лагера смерці.

* * *

Ці будзе калі-небудзь друкавацца і такое?

Два чалавекі, наш кінарэжысёр С. і маскоўскі фатограф К., у розны час, абодва самахоць, шчыра і з жахам успаміналі мне пра... людаедства сярод палонных чырвонаармейцаў. Першы з расказчыкаў быў у аршанскім лагеры, другі ў Елгаве.

Фатограф К.: «Запросяць у сваю палатку, а там — нажом...»

Чуў падобнае і пра блакаднікаў ленінградскіх. Адразу пасля вайны ад ленінградкі, і потым, з таго, што чулі Адамовіч з Граніным.

І трупамі агонь у заводскіх печах падтрымлівалі. Хоць тут ужо іншае — з нейкай жудаснай эпічнай гістарычнасцю...

* * *

Старыя, нядошлыя ветэраны забаўляюцца мінулай славай. Гляджу фотаздымак: былы партызанскі камбрыг, добра ўжо адзядзе́лы, у танцы з нестарой загадчыцай вясковага клуба. Яна — у вайсковай форме, з мастацкіх меркаванняў, у яго — кальчуга з ордэнаў, медалёў, значкоў. На ёй пілотачка, у яго капронавы памяты капялюш. Подпіс на фота: «Вальс, прерванный войной». І неяк прыкра ад гэтай мляўкай сентыментальнасці.

* * *

Па тэлевізары — цудоўная французская кінакарціна пра Афрыку.

Ільвіная сям'я, з'еўшы ўпаляваную львіцай антылопу, калектыўна і са спакойным сумленнем дрэмле на санцапёку. То адно, то другое пазяхае на ўсю зяпу, дэманструючы чалавецтву страшэнныя зубы. І моладзь, і руплівіца-маці, і бацька, што можа вылежвацца па шаснаццаць гадзін у суткі, балазе яму — цару не толькі львінаму, але і ўсіх звяроў — часу на гэта хапае.

А потым — рэклама. Прыгожы раток шчаслівай, багатай дзяўчыны адкусвае, жуе, глытае тое, што рэкламуецца, і адпаведна чароўна ўсміхаецца ў бляску адборных здаровых зубоў.

Не раз і не два бачачы тое, успамінаю роцікі, якіх у нас, чым горш народу, тым усё больш ды больш, і жывуць яны ды глытаюць не абы-што...

* * *

Бляшанкі спецыяльнай яды для сабак, якія выратавальнікі прывезлі з Францыі, армянскія старацелі раскралі з іхніх палатак. Пяць тысяч гадоў гісторыі, спрадвечная высокая культура, усенароднае гора ад землятрусу — і такое, з бляшанкамі.

* * *

Зямляк, малады настаўнік, што прыехаў наведаць сваіх, расказвае:

— Ой, Антонавіч, у тым Воранаўскім раёне ўсё нейкія нядолі. Ну, па-нашаму можна сказаць — прыдуркі. Дровы возіць тачкай, гной тачкай, агарод капае матыкай. Хоць на ўсё ёсць коні. Самагонку на рынак возяць у грэлках. Да цягніка пачалі насіць у графінах. Лепш ад міліцыі. Наскочыць мільтон — дык той нядоля бразь свой графін аб рэйку — усё, ніякага доказу!..

* * *

Мястэчковы настаўнік-пенсіянер, здаецца, светлы чалавек, ■ вось жа купіў сто трыццаць чарак, столькі ж талерак, відэльцаў, нажоў, і ўсё гэта ляжыць запакаванае, чакаючы свайго прызначэння. Хто першы памрэ, сам ён ці жонка, невядома, а клопату тады не будзе ці самому, ці ёй...

Расказвае мне гэта дзелавіта і спакойна, а я няёмка думаю: народнае ў гэтым штосьці, а бо і тут проста славуты вясковы ідыятызм?

І найстрашнейшае,— усё тое незвычайнае начынне неўзабаве прыдалося гэтым добрым людзям на памінках... па адзіным сыне, што жыў у горадзе і памёр ад цырозу...

* * *

Каля крайняй хаціны — глыбейшая каляіна з ямай. Штодня возяць з завода торф, штодня тарфіну-дзве губляюць. Бабулі, якая жыве ў той хатцы адна, клопату з палівам менш. І такое яно — шчасце.

* * *

Дзевяностагадовы бацька, якога дзеці здалёк не кормяць, скардзіцца суседцы:

— Даўней жа, вы памятаеце, бедным людзям падавалі...

* * *

Пра сына, удзячна ды расчулена:

— З бальніцы мяне забраў, прыехаў на машыне са сваёй работы. Вынес мяне з машыны на руках, як які карчук, і кажа: «Пабудзеш, бацька, у мяне, у доглядзе».

Сын гэты жыве ў райцэнтры, а бацька, даўнавата аўдавеўшы, зімою жыве не ў вёсцы, а ў другога сына, у горадзе, а на лета вяртаецца ў сваю хату. Добра, каб усё ж было ладам. А то прыедзе гэты бацька з горада, зноў пачынае піць з такімі самымі. Нявесткі з'ехаліся, хату адмылі, апраталі пасля зімы, а праз два тыдні хто заедзе — тое самае, як свінушнік. З самага ранку п'яны, чырвоназызлы, гарай смярдзіць. Сынам — як сынам, а што ж нявесткам, таксама трэба любіць — і такога?..

* * *

Рэпатрыянт з Уругвая, засмуголены грукач, з якога за семнаццаць гадоў у роднай вёсцы сышло ўсё заакіянскае. Сорак чатыры гады, а толькі што ажаніўся. «Чаму ж ты такую задрыпу старую выбраў сабе?» Аказваецца, саматонкі многа напіў у яе напавер, дык і не стаў аддаваць — сам пайшоў прымаком. Ва Уругваі працаваў на мясакамбінаце, звалілася туша і трохі прыбіла яго. Як толькі вярнуўся сюды — лад у вёсцы хацеў навесці, ездзіў у ЦК, бо сам член уругвайскай кампартыі, аднак спакваля мясцовае начальства «асвойтала» яго. П'е, як і ўсе.

* * *

Суседаў старэйшы сын — лайдак і п'яніца, пасля арміі павалачыўся па свеце і вярнуўся да бацькоў зноў без жонкі, без дзяцей, без усялякай ахвоты да працы. Пайшоў

да дваюраднага брата ў госці, а там пасварыліся, і дваюрадны, на шэсць гадоў старэйшы калгасны шафёр, усадзіў яму кухонны нож «у саменькае сэрца».

На пахаванні бацька забойцы нёс пратэсу. Бо ўжо ж і на гэта мужчын у вёсцы няма. Во «сямейны падрад»!..

* * *

У раённай гасцініцы ўсю ноч пілі ды галаганілі праезджыя грузавыя шафёры. Уранні сталічны камандзіровачны зайшоў паскардзіцца дзяжурнай, што нельга ж так, каб не даць людзям заснуць, адпачыць. А яна якраз браскае бутэлькамі — несці здаваць. А з цябе, такі суддзя, што возьмеш?..

Такім убачыўся мне выраз яе маўклівага твару.

* * *

Прыгожы, спрытны хлопец. Каб жа яшчэ не ведаць, што бацька яго вялікі гаўнюк,— зусім быў бы прыгожы.

* * *

Маладыя турысты валакуцца прылясной дарогай са сваімі «гумнамі», а старая на хутарку — за бульбу, некім з такое брацii не адзін раз пачапаную ў яе агародзе,— дакарае з парога:

— Што ж ты рыешся сам, як свіння? Папрасіў бы, дык я хоць, можа, накапала б па-людску. Сволачы вы, сабакі валачашчыя!..

А яны — ані слова. Хоць і не тыя, хутчэй за ўсё, што лазілі ноччу па бульбу, бо дальнія, з другога берага.

* * *

Старэнькая настаўніца-пенсіянерка страшэнна апусцілася ў адзіноце. Жыла ў брудная хаце, разам са свіннямі. Газету чытала, а радыё, у самой, і тэлевізар, у людзей, не прымала зусім: «Ілгуць!» Памерла яна на печы, свінні

пішчалі ў каморы, там замкнутыя. Па гэтым піску людзі на трэці дзень і здагадаліся, чаму яна не выходзіць з хаты.

«Не дамыцца было — ажно лускою пакрылася. Два катлы кіпятку пайшло на яе...»

А хавалі ўсё роўна з кветкамі. Школа прыйшла.

* * *

Падсухі, злосны чалавек, былы царскі паштовы чыноўнік, пры Польшчы быў трохі дарожным майстрам на шаварках, драгомістшам. А потым, ужо і не служачы, не мог не скінуць каменя з дарогі на абочыну, крычаў на сялян, каб ехалі не пясчаным краем, хай сабе і мякчэй, а як паложана — па бруку. У трыццаць дзевятым савецкая ўлада паставіла яго ў мястэчку начальнікам пошты. Ды нервы ўжо былі зусім не тыя. Разбіраў ён аднойчы карэспандэнцыю, а тэлефон раз-поразу звоніць ды звоніць!.. Усхапіўся стары, падбег да сцяны і ўжо зусім не па-піцерску, а як баба, у трубку: «Пацалуй ты мне!..» Ну і далей. А там, на провадзе, як на тое — сам сакратар райкома партыі... Вось і канец кар'еры.

* * *

На сцэне — сямейная «капэля», бацька і сыны, два дарослыя і два «выскрабкі». Калі па значнасці браць, дык скрыпка ў самога бацькі, тады гармонік і кларнет — у старэйшых, а ў падшыванцаў два барабанчыкі, трохі навейшы, з бразгатушкамі, і зусім стары, відаць, яшчэ з дарэвалюцыйнага цюцькі... А колькі ж радасці за ўсім гэтым — і дома, і тут, у людзях!

* * *

Нізашто, па п'янцы забітага дзецюка «партызаны» закапалі ў хляве ляснога хутара, прывезлі туды з вёскі. А хутаранца прыпалохалі смерцю, каб маўчаў.

Аднак пазней, пасля вайны, хлеў той ён перанёс на іншае месца, каб не стаяў над чалавекам. І пра такое маўчаў. Толькі нядаўна, праз сорак пяць гадоў, вестка пра гэта неяк усё-такі прасачылася і пацякла...

* * *

Гадоў дзесяць пасля вайны ў адной з мінскіх цырульняў працавалі два Грышы, маладыя яўрэі, абодва чарнявыя, вясёлыя і недурныя. Неяк адзін з іх, стрыгучы мяне, расказваў, як ён вызваляў Чэхаславакію. Як іхняя рота ішла па адной вёсцы, [redacted] «гэтыя чэхі» выносілі салдатам каву і булачкі.

— Дык мы завернемся ў канцы вёскі, пойдзем назад агародамі, тады зноў па вёсцы, а яны, вы разумееце, ізноў нам даюць!..

Прыемна ўспомніць. Смяецца.

* * *

На высокім узгорку — гасцінец, на абочыне якога мы стаім, а ў даліне вёсачка, і дзядзька адтуль, з якім мы цяпер сустрэліся, расказвае мне, нагадвае, як іхні паліцай, адзін на ўсю вёску дурань, не толькі сам ціхачом спадзяваўся, але і людзям хваліўся, што немец за службу дасць ім усім «па дваццаць актараў добрай зямлі»... І тут вось, на гэтым узгорку, ён падарваўся на міне. На партызанскай, вядома.

* * *

Без пары ссівелы, нервовы ад ранаў, няхай сабе і грубаваты, але ж і добры айчым, былы партызан. Калі нягодная, языкастая падчарыца, што моцна яму дапякала, не хочучы памятаць, як ён у лесе насіў яе на руках, вярнулася з далёкага замужжа, прагоненая сваім прайдзісветам, і прыціхла, нібы пабітая сучка, ён, айчым, памаўчаў, пераджаваў сваю крыўду і, як сказаў мне пасля, самнасам:

— Даў у хаце загад — падтрымаць яе фізічаскі і маральна.

* * *

Госць у мяне — малады ўзбек, аспірант ташкенцкага універсітэта. Традыцыйная ветлівасць: распытвае, як я сябе адчуваю, як сям'я, ці ўсе здаровы. Ведаючы, што ў ягоным народзе гэта ў звычаі, адказваю тым самым.

Гэта напомніла мне дзяўчат і хлопцаў, паненак і панічоў з ансамбля «Мазоўша», якімі мы з Максімам Танкам любаваліся ў шэсцьдзесят пятым годзе. Сядзелі мы ў фае канцэртнай залы варшаўскага Палаца навукі і культуры, чакаючы заканчэння канцэрта, пасля якога будзе прагляд кінафільма, на які ў нас запрасіны.

Маладыя людзі па адным, папарна, групкамі, змяніўшы яркія нацыянальныя ўборы на звычайную вопратку, выходзілі з дзвярэй і кожная — словам і ўсмешкай, і кожны — прыпадымаючы капялюш, развітваліся са старым швейцарам: «Довідзэня пану, довідзэня»...

Даўно ўжо гэта помніцца, бо ёсць прычыны ўспамінаць. Не ад дабра. «Нас бы трохі пацерці гэтай соллю!» — запісаў я тады ў блакноце.

* * *

Індыйскае: «Наіўны, як сланяня».

Так у нашым падарожжы па Паўднёвай Індыі доктар Шастры, які нас суправаджаў, гаварыў пра старшыню аддзялення індыйска-савецкай дружбы ў нейкім (не памятаю) гарадку. Той няраслы ціхоня, едучы ўвечары з намі па горадзе, вельмі захацеў, каб «рускія госці» пабывалі ў яго дома. А Шастры пакруціўся машынай з намі па вуліцах, нібы кагосьці або чагосьці шукаючы, а потым сказаў таму старшыні, што ўжо няма часу. А нам пра яго, калі мы развіталіся і паехалі ў гатэль,— пра наіўнасць сланяняці.

Аднаго такога, пакуль ён хрумстаў цукровай трысцінай, я пагладжваў па хобаце,— нібы на доўгі, любы ўспамін.

* * *

Касманаўт Клімук піша: «На вочы набегла сляза... Слёзы тут, у космасе, не капаюць і не цякуць па твары, а толькі набягаюць, напаўняючы сабой усю вачніцу». Праз гэтае тлумачэнне цёпла падумалася, што чалавек — і там, дзе высока ды самотна, чалавек.

## Малеча

Дачная кампанія, малыя з трэцяга і другога класа. Знайшлі каля лясной дарогі нежывога вожыка, пахавалі яго, магілку насыпалі, уваткнулі крыжык, нават пафарбаваўшы яго ў сіні колер. Мілы казачны Ёжка!.. А потым справілі дзевяты дзень. Пайшлі туды ў лес, магілку паправілі, наўтыкалі ў пясок галінак са свежымі лісточкамі. А тады, каля дачных сядзібаў, пры дарозе, паміж старым дубам і старою ліпай зварылі свайго «чаю» з лісцяў мяты і смародзіны — памянулі Ёжку. Сказалі дарослым, што і сорак дзён таксама адзна́чаць. Ёсць каму палічыць, ёсць каму і пачуць, нібы між іншым, як дарослыя гавораць пра жалобныя абрады.

Аднак пра сорак дзён забыліся,— прыйшлі іншыя гулі.

* * *

Унучка пацвельваецца са мною:

— А я тлёгала, я тлёгала тваю ляботу!..

І смех сардэчны, какетлівы, і з ножкі на ножку пераступае. А гэта яна чапала пішучую машынку, пакуль я выходзіў са свайго пакоя.

* * *

У трамваі — дзве дзяўчынкі гадоў па сем-восем з рудзенькімі, чарнапысенькімі ды чарнавокімі шчанючкамі на каленях. Міла няўрымслівых сябрукоў сур'ёзныя сяброўкі вязуць да ветэрынара на нейкую прывіўку. Спыталіся ў мяне, ці хутка будзе іхні прыпынак.

* * *

Пажылая жанчына расказвае:

— Мама наша рана памерла, і засталіся мы адны, як казяняты...

З мамінай казкі?

* * *

Суседка па санаторным стале, салідная дамачка, загадчыца атэлье. Успамінае, як у вайну ёй і дваюраднаму брату было па сем гадоў, як яны з бабуляй і суседзямі ў бамбёжку сядзелі ў сутарэнні і брацік прасіўся:

— Бабушка, ты молись! Молись!..

I плакаў.

* * *

На дачы. Малая ўнучка:

— Ой, у Мінск ехаць страшна! Там жыве баба-яга!

— Ну? — здзіўляюся.

— Жыве, жыве!

— Няўжо-такі?

— Я ведаю. Дануся сказала мне пра гэта шэптам!..

* * *

У Майданаку мітынг. Хмарны, халодны лістападаўскі поўдзень, восемдзесят трэці год. На гасцявой трыбуне, нават схаваўшыся ў густым начальніцкім гурце, золка, сцюдзёна.

А побач, на вальнейшым месцы, малая гарцэрачка сінее і дрыжыць на ганаровай варце.

Стоячы побач з самім таварышам люблінскім ваяводам, я шапнуў яму, паказаў на дзяўчынку — прастудзіцца... Ён загадаў паклікаць нейкага меншага кіраўніка у гарцэрскай «рагатывачцы», недарэчнай на яго вусатай ды патлатай галаве. «Змяніць малую!» Той пайшоў, даўгавата недзе тоўкся, а потым падышоў і далажыў, што «змяна варты ест пшэвідзяна» — прадбачыцца...

А дзяўчынка ўсё дрыжыць. Пакуль гучаць даўжэзныя, штампаваныя прамовы іхняй і нашай арганізаванай моладзі...

* * *

Маё маленства — як далёка гэта ад майго сына: на цэлае чалавечае пакаленне! Ад унучкі — на два пакаленні. І як гэта блізка,— у нашай агульнай любасці да прыроды, да жывых істотаў, у шчырасці раскрывання таямніцаў.

Як ён, мой сын, лавіў на траве маленькіх жабянят — у два гады, як пасвіў, летуючы ў любай цёткі, свіней — у чатыры, як злавіў першую рыбіну — у сем...

Як я яе, амаль трохгадовую ўнучку, пераносіў бродам цераз імклівую і чыстую раку. Як яна весела, шчасліва смяялася з мураша, што ўцякаў ад яе пальчыка на сыпкім беленькім пяску высокага надрэчнага адхону...

Шчасце дакрануцца старой, абветранай дарогамі шчакой да шчочкі дзіцячай, далучыцца да несмяротнасці, якая ў вечным абнаўленні пакаленняў.

* * *

У суседа па дачы непрыкметна для мяне вырас у горадзе ўнучак. Спыніўшыся каля чародкі малых на траве, працягваю яму руку:

— Здароў!

А ён вітацца не хоча. Чаму? Адказвае:

— У мяне і так ёсць свой дзед!

Асабліва гэтае «і так».

* * *

Бабуля і мама, якіх я ведаю больш за пятнаццаць гадоў, з тых дзён, калі бабуля была яшчэ саракагадова прыгожай, а маме было сем без хвосціка. Апоўдні, карыстаючыся перапынкам паміж дажджамі, яны капаюць бульбу. Каля іхняга поля, на прылясной дарозе, па якой я іду, зеўрае адна з найбольшых лужынаў. Знаёмы сабачка, чорны, і вушы смешна тырчаць, які так нядаўна быў шчанючком, цяпер

ужо на службе — заядла мяне абрэхвае. А да лужыны, каму вялікай, а каму вялізнай, як мора, пацешна тэпае тое казачна маленькае, пра каго я толькі чуў, якога яшчэ не бачыў. І паліцечка, і шапачка, і боцікі — усё маленькае, чыстае, а тое ступае сабе, тэпае проста да лужыны, за якой — вялізны дзед, ці як ёй мяне назваць. Я нахіляюся са свайго паднябесся, прашу даць мне ручку. Тое дае мне цёпленькія пальчыкі, і я вяду яе да бабулі і мамы. Падлетку цюціку ўжо сорамна на нас брахаць, і ён разгублена матлошыць хвастом. А мне прыемна яшчэ і таму, што ў лялькі імя маёй маці — Настуля.

* * *

— Дзед, а што гэта айсберг?
— Вялікая ледзяная гара.
— Дзед, а што гэта акіян?
— Вельмі вялікае мора.
— Ну, ёсць рэчка, возера, мора, а навошта яшчэ акіян?

Ёй трохі больш за чатыры гады. І яна хварэе. А мама доўга не вяртаецца з работы. Весялім яе з бацькам. Што мама едзе сёння не ў тралейбусе, а на восліку, які спыняецца каля гастраномаў. Булачку хоча, ды яшчэ і капрызнічае — то з макам яму нясі, то з разынкамі...

* * *

Маці расказвала, як нешта ў нас не даілася карова, дык малая Ганна, наша найстарэйшая, усё хныкала, прасіла малака. А потым параіла:

— Вы, мамо, наліце вады, а потым пакруціце збанком!

Бачыла ж, і не раз, як маці рабіла раней: круціла няпоўным збанком, каб не ліць ёй у кубак смятанку, вяршок, а каб усё малако было роўнае.

* * *

У шчаслівым местачковым доміку — першы сынок. Тры месяцы, а ён ужо сем кілаграмаў. Бабуля задаволена смяецца:

— Прыдсядацель калхоза!

* * *

У Мінску, на аўтобусным прыпынку,— суседка з поўнай сумкай.

— Да ўнучкі трэба,— кажа мне.

— І правільна,— адказваю.— Цяпер жа не Чырвоныя Шапачкі да бабуляў ходзяць, а наадварот.

Смяемся, падумаўшы і кожны пра сваё, і пра для ўсіх агульнае.

* * *

Калі пасля ад'езду малых пачынаю цешыцца цішынёй і парадкам у дачным доме і на двары, само па сабе, спакваля прыходзіць бачанне іх зводдаль, пачынаецца дзедаўскі сум...

Зноў тады ўспамінаецца наш даваенны казёл, якога трымалі каля коней з прычыны яго казлінага паху. Любіў ён забаўляцца з малечай на зімовай вуліцы. Як яны здзекаваліся з яго — і верхам ездзілі, і за бараду цягалі, і «кучку-невялічку» на ім рабілі, і ў санкі яго запрагалі... А назаўтра, калі яны былі ў школе, ён хадзіў па вёсцы адзін і сумна-жаласна мекаў, не могучы дачакацца...

## Літаратурнае

Петруся Броўку я ўпершыню ўбачыў у ліпені сорак чацвёртага, калі мы са Смолярам прыехалі на партызанскі парад, і Гірш, паколькі быў яшчэ час, павёў мяне да пісьменнікаў, якіх мы цэлы гурт знайшлі ў нейкім часовым доме ЦК партыі, куды іх склікалі на высокі прыём, што меўся хутка пачацца.

Потым у «Чырвонай змене», ужо ў сваім Міры, я прачытаў яго «Ясны кут», убачыў здымак аўтара ў вайсковым.

Гэта і дапамагло мне пазнаць паэта, ужо крыху знаёмага і па слове, калі неяк у жніўні перад разбураным касцёлам спыніўся грузавік, якому далей не трэба было, і з кузава на пыльны брук разам з іншымі выпадковымі пасажырамі злез цераз борт сам аўтар нядаўна прачытанай паэмы. У адзенні тым самым, што і на здымку, але без пагонаў, затое з пакоўным «сідарам» за плячыма.

I ён мяне пазнаў, бо я, вядома ж, быў у тых самых лясных неданосках і пад пілоткай, толькі без карабіна, як было тады, калі мы... от, паздароўкаліся за руку ў незнаёмым для мяне пісьменніцкім гурце.

Ён расказаў, што едзе ў Нягневічы, куды ў акупацыю пераехала з Мінска іх даваенная хатняя работніца, самотная, сумленная «баптыстка», якая захавала сёе-тое з іхняга набытку, пра што вось і паведаміла пісьмом. Трэба наведацца, бо сама яна, пажылая ўжо, занемагла там, у сваякоў, трэба больш распытацца і падзякаваць. (На гэта і «сідар», няцяжка было здагадацца.) Ужо быў адвячорак, ехаць яму кіламетраў пад сорак, а транспарту ніякага не відно... І я запрасіў шаноўнага госця пераначаваць.

У самым канцы доўгай вуліцы, ды яшчэ наводшыбе, у доме «святога Ката», як называлі гэтага чалавека ў мясцэчку, кватаравала нас чатырох: мой брат Міша, начальнік райканторы ЦСУ, загадчык райза Багамазаў, невельскі русак, аграном, у партызанах палітрук атрада, сакратар райгазеты Нікішын, разваротлівы прымак з акружэнцаў, і я, з лесу яшчэ «выконваючы абавязкі» рэдактара.

З гаспадаром, пажылым, рухавым Уладзімірам Андрэевічам, мы з Мішам былі прыязна знаёмыя больш за дзесяць гадоў. (На чвэртку веку пазней я напісаў пра яго эсэ «Добра быць маладым».) Гаспадыня, шматвопытная Марыя Іванаўна,— і па знаёмстве з намі, і з меркаванняў часу,— накрыла ніштаваты стол.

Прыемна пасядзелася, нават і з песнямі, да якіх наш госць, як аказалася, быў ахвочы і здатны, асабліва да родных-народных.

Пятрусь Усцінавіч умеў, любіў зблізіцца з людзьмі, на што ў мяне ёсць прыклады. Цяпер, пішучы гэта, успамінаю чырвона-цагляны, у вераснёвай пазалоце Торунь, дзе мы, Броўка, Пестрак і я, былі праездам у пяцьдзесят пятым годзе. Там нас сустрэў і суправаджаў па горадзе архітэктар Стэфан Нарэмбскі, пажылы прафесар родам з-пад Маладзечна. Многа было ўспамінаў пра Беларусь, прыгадваліся людзі, песні, анекдоты... Абедалі мы, і Броўка расказваў пра Кітай, у якім нядаўна быў. Як у краме стаіць чарга кітаянак, чакаюць, пакуль іх збярэцца дастаткова, каб прадавец пачаў секчы, па жаданні дзяліць на порцыі толькі што прывезенага ў магазін удава. Хтосьці спытаўся за нашым сталом:

— А што яны робяць з яго?

І прафесар з зямляцкай усмешкай, смачна па-беларуску адказаў:

— Доб-ру-ю верашчаку.

Мы толькі што ўспаміналі яе, гаворачы пра нашы сялянскія стравы.

У мяне захаваліся торуньскія фотаздымкі, найбольш удалы адзін: пан Стэфан і пан Пётрусь, весела размаўляючы, з натуральнымі жэстамі, у шчыра прыязных усмешках...

Успамінаецца і паездка па Наваградчыне, на два гады пазней, калі ён пасля смерці Коласа быў абраны там дэпутатам і папрасіў мяне паехаць з ім, пасустракацца з людзьмі ў маіх родных ды ненаглядных мясцінах. Асабліва вялікая вёска Ахонава помніцца, гутаркі з сялянамі і песні на хлебасольным застоллі...

Як і тады ў Міры, у хаце весела і талкова гаваркога гаспадара.

Уладзімір Андрэевіч, чалавек з дарэвалюцыйнай сярэдняй асветай, а яшчэ больш начытаны, між іншым расказаў тады, як у свой час да арганізацыі мірскай гарадской бібліятэкі (і вучылішча было тут «гарадское») прычыніўся сам Максім Горкі — і кніжак прыслаў, і пісьмо, якое з-за столькіх розных калатнечаў, на жаль, не захавалася.

Пазней, гадоў праз пяць, Броўка напісаў пра гэта ў «Советской Белоруссии»,— факт як-ніяк гістарычны, асабліва для міран.

Пасля вячэры на ганку спраўнага драўлянага асабняка ў малым дагледжаным садзе (руплівы гаспадар на ўсё меў залатыя рукі) мы не толькі яшчэ крыху пагаманілі, пасмяяліся, але, зусім нямнога выпіўшы, нават і «тыхотыхо постреляли», як у грузінскім анекдоце,— адзін, два стрэлы, балазе і пісталеты былі яшчэ не здадзены, і ноч спакойна-зорачная, і стральба такая тады людзей ужо не надта палохала, і радасць нядаўняга вызвалення як быццам зноў пасвяжэла...

З таго вечара Пётр Усцінавіч памятаў майго Мішу, сяды-тады перадаваў яму прывітанні, а неяк у Доме творчасці «Каралішчавічы», дзе брат наведаў мяне, здаецца, у пяцідзесятым годзе, яны даўгавата пагаманілі на верасьнёўскай золата-лясной дарозе. Пры мне, але я ішоў моўчкі, нібы любуючыся той зацікаўленай, спорнай гаворкай.

Неўзабаве, праўда, і характары суразмоўнікаў нечака-

на крыху праявіліся. Броўка, якому майго маўчання, відаць, было ўжо годзе, сказаў:

— А як жа, Міхаіл Антонавіч, наш Янка — няблага расце?

І мой Антонавіч адказаў таксама пытаннем, са сваім прыжмурам спадылба, з усмешкай сямейнай гордасці:

— А вы што думалі?

І тут наш старшыня Саюза пісьменнікаў нервануў:

— Я што думаў?! Ды я ж...

І штосьці гэтак далей. Так што і мне прыйшлося выйсці з маўчання з адчуваннем няёмкасці.

Прыхільнасць Броўкаву за паўтара дзесятка пасляваенных гадоў я, калі браць адно значнейшае, адчуў разоў некалькі. Ён і пра прэмію мне стараўся як член дзяржаўнага камітэта па тых справах, і на высокія пасады намерваўся вывесці. У канцы пяцьдзесят шостага настойліва ўгаворваў пайсці на галоўнага рэдактара «Літаратуры і мастацтва», праз год з нечым — стаць галоўным рэдактарам выдавецтва «Беларусь», і яшчэ праз год — яго намеснікам у Саюзе пісьменнікаў. У першым выпадку я проста адразу адмовіўся; у другім папрасіў два дні на роздум, а начальства, ад імя якога наш старшыня агітаваў мяне, само тым часам раздумала; а за трэцім разам я зноў жа ўзяў два роздумныя дні, а сам сказаў Шамякіну, што вось як Броўка хоча ад яго, свайго «распанелага» нама, пазбавіцца на з'ездзе, які меўся днямі пачацца. Іван Пятровіч паспяшаўся пакаяцца, дома запіць міравую, пра што мне назаўтра ўсцешана паведаміў, калі я ўранку чагосьці да яго па-суседску зайшоў.

Для адпаведнасці тым высокім пасадам мне патрэбна была б партыйнасць, на што ў майго спрыяльніка, трэба думаць, было спадзяванне. Нават намёкі рабіліся раз ці два, тактоўна асцярожныя. Аднак жа так далёка ў нас не пайшло...

* * *

У маі пяцьдзесят чацвёртага мы ўтрох, Глебка, Шамякін і я, былі на святце 300-годдзя ўз'яднання Украіны з Расіяй. Святкаванне ў расквітнелым Кіеве пачалося з дэкады рускай культуры, пасля чаго Івану Пятровічу спатрэбілася вярнуцца ў Мінск, а мы з Пятром Фёдаравічам засталіся.

Ідзем сабе па Крашчаціку з двума ўкраінскімі сябрамі, а за намі — нейкія кіеўскія энтузіясткі. Мы зойдзем у які магазін, яны чакаюць на панелі, мы выйдзем — яны шэпчуцца: «Він!.. Він!..» І далей за намі назіркам. Адзін з украінскіх сяброў крыху адстаў і неўзабаве высніў, што да чаго. Мяне ні больш ні менш, а палічылі за самога Лемешава, удзельніка рускай дэкады. І тут ужо наш найстарэйшы, Глебка, пачаў звяртацца да мяне, каб наша блізкае суправаджэнне чула: «Сергей Яковлевич, я полагаю... Не лучше ли, Сергей Яковлевич...» і гэтак далей. Пры адпаведным удзеле і ўкраінцаў. Пакуль гэта нам не апрыкрала і мы не затрымаліся ў кафэ-марозіва надаўжэй.

Потым Васіль Казачэнка павёз нас у Канеў. Спыніліся ў Васілёвага сябра, настаўніка. Раніца са спінінгамі на Дняпры. І трэба ж раптам — першы шчупак у мяне! Госця віншуюць, ён адпаведна рады. А неўзабаве — і другі шчупак таксама мой!.. Тут ужо мудрэц Пятро Фёдаравіч адвёў мяне трохі ўздоўж берага і нібы шэптам спытаўся:

— Ты што — прыехаў дружбу мацаваць ці разбураць?..

Шэпт, вядома, быў такі, каб і адразу, і потым, ужо за сталом, пасмяяцца. А там, каля берага, шчупакі, аднак, пачулі старэйшага госця,— больш у мяне не ўзялося нічога, як ні стараўся, ні спадзяваўся.

Так яно — хочацца штосьці добрае згадаць пра добрага чалавека... Хоць бы тое яшчэ, як мы праз месяц ці больш чакалі на мінскім аэрадроме рыжскі самалёт, які спазняўся з нашым Казачэнкам, што па дарозе дахаты меў тут прызямліцца на дзень-два. Каля пасадачнай паласы мужчыны з аэрапортаўскай службы касілі тым часам сеяную траву. І мы з Пятром Фёдаравічам папрасілі ў іх косы і, на здзіўленне тым касцам, пакасілі ўсмак, па старой памяці спраўна, нягледзячы на гальштукі і капелюшы. Акадэмік ішоў першы, я — следам, яму сорак дзевяць, мне трыццаць сем.

* * *

Не памятаю, калі гэта было, дый, можа, яно і не так важна, каб зусім дакладна пра час,— хапае і таго, што ўжо нямала гадоў стаіць у памяці гутарка з Пятром Панчам, удвух на познавячэрнім гасцінічным калідоры. У Маскве, у гасцініцы, што называецца аднайменна.

Пятро Ёсыпавіч сам пачаў гэтую гутарку. На дзесятым

паверсе, дзе мы з ім спыніліся, каля пралёту, у які зваліўся Купала. Ад успаміну пра гэта якраз і пачаў.

Утрох: Купала, Лынькоў і ён — стары, паважаны расказчык — выпілі, памятаецца ясна, палавіну паўлітра, колькі было ў бутэльцы. Захмяленне, такім чынам, выключаецца. Выйшлі на калідор. Ужо ў пакоі развітаўшыся, і яшчэ пастаялі, пагаварылі. Купала прысеў, прыткнуўся бачком на коўзкім мармуровым парапеце. А тут праходзіла з падносам афіцыянтка — з пустым ці з поўным посудам, [redacted] пакоя якога ці ў які пакой — ужо ні Панч тады, [redacted] я цяпер, у восемдзесят восьмым годзе, з яго расказу не памятаю.

Іван Дамінікавіч і ў шэсцьдзесят гадоў любіў, кажучы па-вясковаму, зачапацца з маладымі жанчынамі. Ветлым, вясёлым словам, з усёй кавалерскай тактоўнасцю. Так гаварыў мне і Панч. А сам я чуў ад цёткі Уладзі гордае: «Мой Янка быў еўрапеец!..» Не вытрымаў ён і тады, з таго злавеснага парапета. Ці то памкнуўся крышку гулліва: «Мая ж ты красунечка!», ці то вельмі прыблізна хацеў штосьці падобнае сказаць, зрабіць. А маладзіца — ці стомлена, са зразумелай нецярплівасцю, ці таксама з ветлым какецтвам — нібы хацела адмахнуцца ці адхіснуцца ад шаноўнага кавалера. Ён варухнуўся таксама. Як і куды: да яе, ад яе — у тыя секунды ў памяці Панча не замацавалася. Адбылося адно — вялікі паэт, жывы чалавек паляцеў у глыбока-каменны пралёт...

Афіцыянтка ў той жа вечар знікла.

Расказана яшчэ і так, да таго, што ўжо хутка паўвеку гаворыцца пра Яго заўчасную, трагічную смерць.

Некалькі сведак, нямала версій,— як быццам тут штосьці трэба было замоўчваць...

* * *

Сорак дзевяты год. Атака, што не паспела адбыцца перад самым пачаткам так званай барацьбы з касмапалітамі. Бэнда — супраць Багушэвіча, за ягоны антысемітызм, а Смолкін — супраць Багдановіча, за фармалізм... Такія артыкулы былі ўжо дасланы гэтымі абодвума грамiламі, на той час ленінградцамі...

* * *

— Вы сёння не прыходзьце. Адпачывайце, глядзіце горад. А заўтра ўжо, калі ласка, можаце прыйсці.

Увосень шэсцьдзесят дзевятага ў Вільнюсе маскоўскія арганізатаркі міжрэспубліканскай канферэнцыі па дзіцячай літаратуры так гаварылі пры мне Валянціну Берасгаву.

Яму было сорак адзін, на адзінаццаць менш, чым мне, на семнаццаць менш, чым Вітку... Дый не ў гэтым галоўнае. Сабраліся пісьменнікі з шасці рэспублік, а тут — выключэнне. Старэйшаму брату...

Дзень адпачыўшы з чарговай жонкай, назаўтра ён частаваў нас успамінамі пра сваё літаратурнае вундэрмаленства. Ласункі з барскага стала...

* * *

Што добра — тое добра, нават сям-там у нечым і выдатна. Аднак у міжраддзі добрага і выдатнага было і іншае. Як ён выслужваўся, як раскланьваўся перад тымі, ад каго залежала сытае, спакойнае жыццё, званні, узнагароды, кватэры, паездкі...

Не магу забыцца вось ужо больш за сорак гадоў, як ён, таленавіты чалавек, са здаровым адчуваннем смешнага, седзячы на стадыёне, раз-поразу азіраўся на ўрадавую трыбуну, дзе сядзеў вядомы аматар футбола — Цанава... Улавіў, нарэшце, момант ці проста здалося, што Лаўрэнцій Фаміч (быў жа Лаўрэнцій і ў нас!..) глядзіць на яго... І радасна прыпадняў капялюш. Пісьменнік — перад ка́там!..

* * *

У вёсцы многа дачнікаў, пад вечар асабліва шумна ад дзетвары. Госць наш з'явіўся тут, як з неба ці з Парнаса ўпаўшы, бо прыляцеў ён з Мінска самалётам, на пару з адным з дачных бацькоў, абодва пад добраю мухай. І госць пачаў той дзетвары расказваць пра сваё партызанскае «як было».

— У блакаду, дзеці, мы елі адну крапіву. Радзіма ска-

жа — будзеш есці яшчэ і не тое. Вось такую яе, вось такую!..

Сарваў пад плотам жменю жыгучкі, пачаў хапаць яе слінявымі губамі і жаваць.

— Вось так! Вось так!..

Жаваў і ўжо расчулена плакаў... пэўна ж, пякучымі слязьмі.

Спачатку дзеці як быццам смяяліся. Потым толькі глядзелі. Сямігадовы яўрэйскі хлопчык, звонкі няўрымста, стрыжаны пад машынку, зусім сур'ёзна гледзячы на незнаёмага, прастадушна спытаўся:

— Дядя, вы дугак?

* * *

Не назаву я, дарагі, твайго імя, бо ў гэтым, што хочаш — не хочаш успамінаецца, ад твайго галоўнага — не шмат, бо я і права не маю судзіць,— я толькі ўспамінаю, не магу забыцца, як ты крычаў на дзяжурную адміністратарку гасцініцы, куды мы разам прыехалі:

— Я паэт! Ты бачыш гэтую галаву? Яна працуе на ўвесь народ! Мне трэба поўная цішыня, каб яна працавала! А ты...

Перш за ўсё — чаму «ты»? Жанчыне. Стомленай начным дзяжурствам, а ўсё ж культурнай, разважлівай. І яшчэ — ты ж не адзін, усёй нашай групе сказана, што адзінарных нумароў, на жаль, няма, трэба сяліцца па двое. І ніхто не крычыць. А тут жа яшчэ і чарга тых людзей, якія цярпліва чакаюць, што вызваліцца...

Успамінаю цябе. Ужо з апошняй далячыні. Чытаю цябе, і ты цяпер гучыш яшчэ больш празрыста і важна. І забыцца пра тое, пра той ранні маскоўскі ранак, наш юбілейны прыезд з Ленінграда, пра тую тваю галаву — не магу...

* * *

Весела таварыскага Скрыгана, які ў сваіх кнігах быў то Янка, то Ян, прыемна было называць яшчэ і Ёганам. Гуляем на більярдзе. Ён прыцэльваецца, а мы, нашмат маладзейшыя, прыгаворваем з паўзамі:

— Ёган... Сэбасцян...— і нарэшце — Бах!

Луза — не луза, але смяецца і ён.

* * *

Канец лета пяцьдзесят трэцяга года. Рэдакцыя нядаўна створанай «Маладосці». Кулакоўскі ў адпачынку, я за галоўнага. Саша Дзітлаў штосьці забегаўся па іншых рэдакцыях, і на чарговую вокладку свайго часопіса ў яго знайшлася толькі такая сельскагаспадарчая ідылія: свіння-мацёра развалілася на саломе, а яе старанна ссуць беленькія дзюдзькі, якіх, як для нагляднай агітацыі, вельмі многа. Аднак чаму ж такое ды на каляровую вокладку маладзёжнага часопіса? Няхай сабе і справядліва, аднак і некарэктна на лятучцы я пытаюся:

— А што за дурань прыняў гэта?

Іван Грамовіч, адказны сакратар, налівaецца чырванню і праз зубы кідае мне:

— Я гэты дурань!

І выходзіць, бразнуўшы дзвярыма.

Сітуацыя, маўчанне... Ды вось ён вяртаецца, стоячы, глядзіць на мяне, і пад яго вялікімі і легкаслёзнымі вачыма, на тонкіх губах пачынае з'яўляцца ўсмешка.

— Ваня,— кажа ён нарэшце,— хай яна здохне, дзе яна там ёсць, каб мы з-за яе сварыліся!..

Мне засталося адно папрасіць прабачэння.

Выпадак гэты я прыгадаў у тосце на саракагоддзі часопіса,— быць нам вышэй над усякімі свіннямі!..

А Івана тым часам няма ўжо сем гадоў.

* * *

На адным паважаным застоллі стары, славуты матэматык увесь вечар даводзіў мне, што я павінны, абавязаны напісаць... оперу. Не музыку асобна, не лібрэта, а ўсё разам — оперу.

А сакратар ЦК партыі, прымаючы мяне па асабістым пытанні, кнігу маю «Сёння і памяць» (відаць, па дакладзе памочніка) назваў успамінамі і параіў мне (лепш?) напісаць сцэнарый.

У абодвух выпадках — зверху.

* * *

Пераведзены з Брэста ў ЦК, другім сакратаром, Машэраў, казалі, замяняў улетку пяцьдзесят дзевятага галоўнага ідэолага Гарбунова, калі той пайшоў у адпачынак. «Полымя» толькі што надрукавала маю аповесць «Расчараванне», пазней вымушана перайменаваную ў «Апошнюю адсустрэчу», і наверх паступіла, як мне цішком перадалі адтуль знаёмыя, ажно тры сігналы пра «расчараванне Брыля ў савецкай уладзе». Неяк пазней, сустрэўшы мяне на вуліцы, Пётр Міронавіч са сваёй абаяльнай усмешкай сказаў:

— Слушай, я сначала твою новую вещь не понял, а посмотрел еще раз — неплохо!..

А я не сказаў, як нехта другі сказаў бы: «Трэба ж было пазваніць пра гэта ў Ленінград».

Бо туды было пазвонена з нашай звышідэалогіі, аповесць знялі ў часопісе «Звязда» ўжо з другой карэктуры.

Праўда, пра «нелепый звонок из Минска» загадчык аддзела прозы таго часопіса напісаў мне толькі тады, калі таварыш Гарбуноў з сакратара ЦК пайшоў у акадэмію.

Вось і думай, хто з іх распарадзіўся быў пра той званок...

* * *

Зімой сорак пятага — сорак шостага гадоў мяне ўсё бракавалі ў галоўліце: што ні апавяданне, то й «занізка па якасці»... Пасля ўмяшаўся Лынькоў, старшыня Саюза пісьменнікаў, схадзіў «наверх», і галоўны цэнзар Феня Дадзіёмава паласкавела. Даручыла мяне ў сваім штаце нейкай старой Грынберг ці Гутэнберг, каб тая чытала маё перад здачай у часопіс. Улічыўшы тое, што ўсё тады цэнзуравалася двойчы, перад наборам і перад друкам, гэта была трэцяя чытка, а беручы па парадку — першая. Да тое Г. хадзіў я, здаецца, ці не адзін толькі раз, а больш ці сам не пайшоў, ці ў гэтым адпала патрэба — не памятаю.

Напісаўшы добры твор,
мы здаем яго ў набор.
Калі ж ёсць у нас сумненні —
адсылаем проста к Фені.
Наша Феня — Галоўліт.
знает, что в ему болит.

Так напісаў тады, у мой «вожыкаўскі» час, Крапіва. Не надрукавана гэта было, разумеецца, толькі ў рэдакцыі ведалі. Тут і намёк, апошнім радком, на пісьменнасць той вырашальніцы лёсу. Пра што ёсць і ў дзённіку Чорнага: «Яна гаворыць па-руску так, што трэба смяяцца». Ну, а пра веданне нашай мовы ўжо і казаць няма чаго.

Аднак жывучая цётка,— і сёння яшчэ, дзякуючы хапатлівай непераборлівасці Святланы Алексіевіч, трапіла на старонкі «Литературной газеты» як ледзь не пакутніца і змагарка за праўду ў сталінскае ліхалецце.

У эсэ пра Лынькова я пісаў пра яе безыменна, як пра бабулю, «якой найбольш да твару клопаты з авоськай». А тады, пасля вайны, яна была ў самай сіле. Ва ўсіх адносінах. Як і жонка яшчэ вышэйшага начальніка.

* * *

Рэалістычная, як мне здалося, і талстоўская дэталь. Камандуючы кастрычніцкім парадам аб'ехаў салдацкі фронт, сышоў з машыны і, перш чым узняцца на ўрадавую трыбуну і даць аптымістычна-стальную прамову,— я сам гэта бачыў,— па-старэчы закашляўся ды засмэркаўся за той трыбунай, пад вялікім дрэвам.

Дробязь. А мне гэта ў свой час, у шасцідзесятых, галоўліт зняў — як ачарненне кадраў абароны.

* * *

«Усердие не по разуму». У юбілейнай кнізе «А хто там ідзе?» мовы розных народаў ідуць пасля купалаўскага арыгінала па алфавіце. Высокаідэйная заўвага: «А чаму гэта ў вас руская мова ідзе пасля румынскай? Паправіць!» Пакуль кніжку перарабляць, нехта з адказных за яе складанне мог бы спытацца: «А можа, пусцім спачатку рускі пераклад, тым больш што ён горкаўскі, а тады ўжо арыгінал і іншыя пераклады?»

* * *

Жахлівая навела трыццатых гадоў.

Начытаўшыся ды наслухаўшыся пра подзвіг Паўліка Марозава, падлетак-піянер пачаў сачыць за сваім бацькам. Калгасны конюх, бацька прыносіў часамі кішэню аўса, з якога, растоўкшы ў ступе, маці варыла нейкую поліўку. І вось аднойчы, прыйшоўшы са школы, малы сеў пісаць на бацьку заяву.

— Думаў, думаў,— успамінаў ён потым, у пяцідзесятых,— а пасля як стала мне страшна, як расплакаўся я за сталом!..

У першым варыянце «Птушак і гнёздаў», надрукаваным толькі ў часопісе, я аддаў тое апавяданне прыдуманаму герою. Можа, і лепш яно там пададзена, аднак і застаўся той першы варыянт маёй кнігі толькі ў архіве,і захацелася тую сяброўскую споведзь вярнуць да імені маладзейшага сябра, які мне сам-насам прызнаўся. Гэта — Алесь Рылько, шчыры, таленавіты хлопец, які і цяжка жыў, і страшна, заўчасна пайшоў з жыцця...

* * *

Маладыя ўзбекі, франтавікі, з Германіі павярталіся некаторыя з арыгінальнымі трафеямі. Зухавата едуць у горад на ішаках, панадзяваўшы... чорныя канцэртныя фракі і падперазаўшыся салдацкімі рамянямі з надпісам на спражцы: «Гот міт унс».

Расказаў мне пра гэта на лясной зімовай праходцы Мікола Хведаровіч.

Як і пра тое, што на пачатку трыццатых гадоў у Саюзе пісьменнікаў была свая сталоўка, дзе кармілі асобна актыў» і асобна «пасіў». Таварыш Левін чытаў па спіску прозвішчы і накіроўваў, каму куды ісці.

— А ў трыццаць сёмым векапомным і так яшчэ. Кілаграм маргарыну і пяць вяленых конскіх языкоў. У літфондзе давалі. На месяц. І то не ўсім, таксама актыву!..

* * *

Шматпакутны Бярозкін, калі мы з ім неяк праходжваліся ў парку, удала, весела прыкінуўся, што вось бяда — імёны па бацьку нашых правадыроў, усеагульнага і ўселітаратурнага, у яго міжволі, лёгка блытаюцца: то Леанід Макеевіч, то Георгій Ільіч...

Для нашчадкаў — заўвага: Брэжнеў і Маркаў, абодва лаўрэаты ў самым творчым росквіце.

Яго ж, Рыгорава, скарга:

— Уздыму якасць — падае ідэйнасць, уздыму ідэйнасць — якасць упала! Так, брат, і тузаюся апошнім часам.

* * *

У клубе Дома літаратара выступае старэнькая маці Юрыя Гагарына. Многа пытанняў. І такое — ад аўтара патрыятычных раманаў, высокага вайскоўца:

— Скажите, пожалуйста, какие чувства вы испытывали в день гибели вашего сына?

Во вівісекцыя!..

* * *

З мовы Міколы Засіма:

«Майму бацьку — абы многа і негарачае. Мог з'есці столькі, што ты не паднімеш».

«Кузьма Чорны, вядома, добры пісьменнік, калі ёсць час чытаць».

«Раздавалі ў нас партызанскія медалі сувязным. У бабоў слёзы — ажно сквірчаць! Старому даюць медаль, а ён кажа: «Не трэба. Дайце лепш сыну». Ну што ж, афармілі малому. І ходзіць ён цяпер, патрэсвае медалём».

На пісьменніцкім пленуме, абараняючыся ад крытыкі, таму крытыку, што піў і еў у іх у Брэсце, столькі наабяцаў, а цяпер яшчэ і тузае зверху, абураны Мікола пасвойму пекануў народным: «Локшыну з'еў і брэша!..»

Калі якая размова выходзіла больш на палітыку, ён асцярожна перапыняў:

«Давайце лепш пра бабоў!»

Хоць бабнікам яго ніхто не ведаў.

А словы тыя мне часта ўспамінаюцца: калі мы зноў пра палітыку.

* * *

У Якушоўцы, былым маёнтку Каліноўскіх, Дануся Бічэль, калі мы гуртам ішлі па даўняй дарозе ў прысадах, расчульвалася на хаду.

— Костусь і Вінцусь садзілі дрэвы на гэтай алейцы...

Можна было б і дадаць:

— А Чарнышэўскі і Серакоўскі дапамагалі ім...

Маёнтак быў — больш за дзвесце дзесяцін, трэба думаць, былі ж і парабкі, і наймічкі. Сыны, як-ніяк, панічы, вучыліся ў гарадах. А на канікулах, і зімовых, і летніх, дрэў і тады, відаць, не саджалі.

* * *

Калі на паседжанні прэзідыума Саюза пісьменнікаў па загадзе ЦК абмяркоўвалася мая крамольная падборка запісаў у «Немане» за люты семдзесят восьмага года, Танк, наш старшыня, быў прыкметна разгублены... Напярэдадні гэтага абмеркавання, калі мы з Максімам ішлі па парку, я сказаў, што мне непрыемна: каб не пашкодзіць яму гэтым з атрыманнем Ленінскай прэміі, бо якраз набліжалася канчатковае вырашэнне. Тыдні праз два ён пазваніў з Масквы Панчанку пра сваю аднагалосную перамогу і папрасіў перадаць мне, каб я не хваляваўся. А тады, на паседжанні, у яго разгубленасць, а ў мяне няёмкасць былі.

Шамякін затое быў празрыста прынцыповы. Яго раман «Вазьму твой боль» і наша кніга «Я з вогненнай вёскі...» былі тады, дарэчы кажучы, таксама вылучаны на прэмію, Дзяржаўную СССР... Гаворачы пра маё недаўменне ў запісах, як гэта Горкі згадзіўся, каб яго родны горад быў перайменаваны па прыкладзе іншых, па-бальшавіцку сціплых, перайменаванняў, Іван Пятровіч панёс мяне ажно да «белаэмігранта» Буніна, які, аказваецца, гаварыў таксама. Праўда, кампанія шаноўная, але прамоўцу прыйшлося перапыніць, ён нават і прабачэння папрасіў, таксама лёгка...

Макаёнак перад тым абмеркаваннем, на нейкім іншым сходзе, на хаду пацешыў мяне ў вестыбюлі: «Ты не хвалюйся!» А я нагадаў яму, як на Мядзельшчыне (Танк калісьці расказваў) здымалі нялюбага кіраўніцтву старшыню калгаса. Пясочылі яго і начальства, раённае і сельсавецкае, і тыя з калгаснікаў, з кім папярэдне было пагаворана. Рэшта людзей маўчала, як яно бывае найчасцей, хоць калгаснікі ў большасці паважалі свайго старшыню. Потым слова далі самому падсуднаму. Ён устаў, абвёў позіркам сцены клуба, спыніўся на правадырах і сказаў — толькі такое: «За исключением этих портретов, пошли вы все к... матери!» Андрэй зарагатаў, па-свойму падкрэслена гучна, аднак праз два ці тры дні на маё пясочанне не прыйшоў. І калі я спытаўся потым чаму, адказаў толькі, што «быў, браце, на дачы».

А ўсё ж пасля, калі я сустрэўся ў Маскве з Барысам Мажаевым, той мне сказаў: «Какой молодчина Андрей — такое напечатал!..»

Сапраўдным малайчынам быў іншы — Георгій Папоў. Калі рабіўся той нумар, Макаёнак практычна ўжо не быў галоўным рэдактарам, а Кудравец яшчэ не быў, і гаспадарыў у рэдакцыі намеснік, Папоў. З майго машынапісу ён сам выбраў запісы для публікацыі, сам пераклаў іх, а потым на паседжанні прэзідыума, выслухаўшы ўсе напады, спакойна і годна сказаў, што шкадаваць і каяцца не будзе, няма ў чым.

І за гэта яго неўзабаве паслалі на пенсію, балазе і час падышоў.

Не лішнім будзе сказаць, як дастойны намеснік Кірэенкі ў «Полымі» Генадзь Кляўко абгрунтаваў сваё выступленне: «Ну вось бачыце, да чаго даходзіць! А некаторыя ўсё кажуць, што не трэба так пільна рэдагаваць!..» А рэдагавалі тады ў «Полымі» куды пільней за саміх цэнзараў. З рукапісам «Ніжніх Байдуноў» я абмінуў аддзел прозы, паспадзяваўшыся на даўняе знаёмства з галоўным рэдактарам. Пагадзіліся на пэўных кампрамісах. Прачытаўшы потым першую карэктуру, я паехаў у Польшчу, а вярнуўшыся праз два тыдні, па звычаі перачытаў аповесць у свежанькім нумары часопіса, горка жахаючыся ледзь не на кожнай старонцы. Аказалася, што ўжо ў другой, падпісной, карэктуры таварыш Кляўко, самахоць ці па мудрай дамоўленасці, галоўнае — без аўтара, свабодна, спакойна, добра-такі накапыціў на свежых градах...

Пачаў я з таго, што той прэзідыум быў наладжаны па загадзе зверху.

Найбольшая крамола ў публікацыі была ў тым, што я там зачапіў пры ўсіх дварах прыдворнага Чакоўскага. Але адкрыта пра гэта не гаварылася. Яго намеснік па «Литературной газете» Сыракомскі і цяперашні перабудаваны рэдактар «Советской культуры» Бяляеў, у той час вельмі спраўны намеснік загадчыка аддзела культуры ЦК КПСС маўчуна Шауры, ці не штодня званілі ў мінскі ЦК,— пыталіся, як пакараны Брыль за яго... «выпады супраць дружбы савецкіх літаратур»... Энергічная масквічка К. Шавялёва, якая вельмі ахвотна падкрэслівала ў нас сваё, яшчэ камсамольскае, сябраванне з Машэравым, расказала мне тады, спецыяльна заехаўшы дахаты, што Пётр Міронавіч, як быццам па яе прапанове прачытаўшы маю публікацыю, сказаў нават, што «это по-белорусски честно». А нядаўна, калі святкавалася 70-годдзе Машэрава, Алесь Петрашкевіч, у семдзесят восьмым годзе загадчык аддзела культуры ЦК КПБ, у групавым выступленні па радыё, гаворачы пра гуманнасць ды прагрэсіўнасць Пятра Міронавіча, закрануў і яго адносіны да той публікацыі ў «Немане». Ён добра ведаў, што за тымі, што так настойліва званілі яму з Масквы, стаяць не толькі Чакоўскі і Шаура, і таму пакаранне мяне ўзяў на сябе, загадаўшы звесці яго толькі да абмеркавання. К. Шавялёва, помніцца, гаварыла, што ён, на жаль, публікацыю прачытаў толькі ўвечары таго абмеркавальнага дня, а каб такое здарылася раней, дык і прэзідыума не было б. Не ведаю. Хоць і прыемна думаецца пра гэта...

«Я з вогненнай вёскі...» не прайшла на прэмію стараннямі маскоўскіх літаратурных вяльможаў, сяброў пакрыўджанага. Мне было няёмка перад сааўтарамі, я ім сказаў, і яны мяне супакойвалі. Многа было чытацкіх пісьмаў і званкоў, з разуменнем і ўдзячнасцю. У саюзнай прэсе толькі «Литературное обозрение» выступіла з гадзенькай рэдакцыйнай рэплікай пра мой «суб'ектывізм». Вернасць гэтай, зверху зададзенай, пазіцыі рэдакцыя потым засведчыла двойчы, адхіліўшы станоўчыя рэцэнзіі на маю кнігу «Поиски слова», дзе пра Чакоўскага, хоць і прыгладжана, але засталося (толькі без такога: «Есть и Сталин и Гитлер, и иже с ними...»). Адну рэцэнзію прыслаў ім бакінскі журналіст М. Плескачэўскі, дваюрадны брат А. Твардоўскага, а другую прапанаваў кры-

тык І. Залатускі, член іхняй рэдкалегіі, ужо зусім нядаўна, калі і тугавухі «Литобоз» таксама падключыўся да перабудовы. Задоўга да яе, у пачатку васьмідзесятага, галоўны рэдактар «Дружбы народов» С. Барудзін, згадзіўшыся на выданне ў «Бібліятэцы» гэтага часопіса майго аднатомніка «Стежки, дороги, простор», палічыў патрэбным сказаць наўздагон, калі я ўжо выходзіў з яго кабінета, дзе ён, дарэчы, быў не адзін, а з намеснікам: «Иван Антонович, только не делайте больше ошибок, и политических, и других...» Шматкроп'е чулася ў яго недагаворанасці наконт чагосьці, што ён ведаў, што заўсёды ведае. У нас з ім было ўсё-такі больш за дваццаць гадоў карэктнага знаёмства, і сказанае ім трэба было прыняць за добразычлівую перасцярогу.

На трэцім годзе пасля таго нумара «Немана» да мяне прыехала з «Литературной газеты» маладая супрацоўніца Галя Грыбоўская і ўгаварыла на інтэрв'ю. Потым яна расказала, што, убачыўшы ў апошняй карэктуры газетнай паласы тое, даволі вялікае, інтэрв'ю, Чакоўскі абурыўся: «Як?!» Яно было знята, але шэфа пераканалі, што якраз будзе лепш «стаць вышэй», і матэрыял вярнуўся ў нумар. Галя пайшла на большае: тое, што не ўдалося адстаяць у сваёй газеце, месцы вастрэйшыя, яна аформіла ў яшчэ адно інтэрв'ю, і яно было для мяне, калі я прыехаў у Маскву на вечар памяці Дзмітрыя Кавалёва, прыемным сюрпрызам. У выпадкова купленым нумары «Советской культуры», яшчэ не бяляеўскай.

На тым пакаральным абмеркаванні Шамякін сваё выступленне пачаў ідэйным пафасам: «Таварышы, Масква абурана бурліцы!..» Ніл Гілевіч, якому было яшчэ далекавата да нагоды замяніць на пасадзе Шамякіна, перапыніў яго: «Іван Пятровіч, няўжо так ужо і бурліць? Адзін хтосьці бурбалкі пусціў!..» Быў смех, бо частка прысутных ведала, што тут сёння да чаго. А вось ужо летась, у восемдзесят сёмым, той самы прыязна-дасціпны Ніл Сямёнавіч у сваім дакладзе сабраў ды падлічыў усе нашы крошкі ды крошачкі грамадзянскай пісьменніцкай мужнасці за ўвесь пасьлясталінскі час, але ж ніводным словам не ўспамянуў той спалохана-прававерны прэзідыум... Зрэшты, ніхто яго ў гэтым не папракнуў, не дапоўніў.

Што ж, можа, яно ў тым — як-ніяк грамадскім — толькі маё асабістае?..

* * *

У цікавай, патрэбнай кнізе нястомнага Яраслава Пархуты «Зямля бацькоў нашых» мацней кранулі два моманты.

На палях Шумілінштчыны вельмі многа валуноў. Той, хто расказваў аўтару пра гэтую спрадвечную бяду, як уздыхнуў:

«Магутанькі не было з камянямі тымі».

Слова, упершыню пачутае, падкрэсліць захацелася. Успомніўшы адразу двух сяброў, што так аддана служылі нашай роднай мове. Адзін, здалося, сказаў бы з усмешкай стрыманасці: «Хораша», а другі і прыцмокнуў бы: «Сма-ката!» Янкоўскі і Скрыган.

І другое, з Хоцімшчыны.

У 1919 годзе ў вёсцы Ліпаўка была створана камуна. Не проста, а з удзелам мясцовага памешчыка Смагаржэўскага. Сяляне яго паважалі. Удзельнік рэвалюцыі пятага года, быў у ссылцы. Кабыла здохне ў кагосьці — дасць грошай на другую. І лесу не шкадаваў, не караў парубшчыкаў. Выбралі старшынёй рэвізійнай камісіі. Яшчэ і дзетак вучыў, ходзячы па хутарах. Замёрз у полі, снегам замяло яшчэ жывога, дзяцюк падняў, занёс на печ, каб адышоў, але пад раніцу ён памёр.

«Мы так жалелі яго, так жалелі. Лапцейкі новыя сплялі і ў лапцейках пахавалі на кладбішчах, дзе ўсіх камунараў хавалі».

Так расказваў Пархуце дзед Арцёменка, удзельнік грамадзянскай, фінскай і Вялікай Айчыннай войнаў, колішні камунар.

Лапцейкі зноў жа захацелася падкрэсліць, з думкай пра чалавечны падтэкст.

* * *

«...Полными страха глазами встречал шагающую к нему смерть зайчик — этот смиренный христианин лесов и полей».

Як хораша гэта ў Пятраса Цвіркі ў яго рамане «Франк Крук», у раздзеле «Охота», і як я часта ўспамінаю гэта — пры кожнай сустрэчы з гэтым хрысціянінам на прылясной дарозе. Здалёк яшчэ спрытна ўцякае, то ў збожжа, то ў лес. Часцей за ўсё ўранні.

* * *

Выпадкова пачуў па радыё, як Паўстоўскі неяк сказаў, што чытаць трэба кожны дзень,— хоць трохі, але абавязкова.

Ну, а што рабіць, калі няма чаго чытаць? Тут, на дачы, у прылясной глухамані. Прыйшлося звярнуцца да вопыту падобных дзён амаль у кожным годзе. Яшчэ раз пераглядзеў літаратурную прэсу за апошні час, вылоўліваючы прапушчанае, а тады ўзяўся за «Науку и жизнь», якое тут нямала.

Некалькі добрых артыкулаў — пра эстонскія замкі, гербы і сцягі, пра рускія калодзежы, пра паходжанне «Татьяниного дня»... Але да запісвання пацягнула вельмі простае ды змястоўнае — «О пользе овса». Здалося нават тэмай апавядання, ды спакваля апусціўся, а можа, і падняўся да запісу.

Пакуль ішлі, стракацелі лічбы, працэнты, колькі ў аўсе крухмалу, тлушчу, бялкоў, амінакіслотаў, эфірнага масла і вітамінаў, мне раптам, з далёкай даўніны, спакойна, родна пачулася смакавітае жаванне ды папырхванне нашай рэзвай Каштанкі. Сечку мы рэзалі з неабмалочаных снапоў аўса, а яшчэ і вобмешку рабілі аўсяным вотруб'ем і вадой. Смачна гэта было нават збоку глядзець, як яна, наша руплівіца і ў ядзе, рассоўвала храпай тую тлустую мешанку і, дабраўшыся да белаватай, густаватай жыжкі, ласа смактала яе, прычмокваючы губамі... Пакуль тыя лічбы, працэнты, парады, кулінарныя ды медыцынскія, ішлі няспыннай, як заслужана шчаслівае жаванне, стракатлівай плынню на першай, другой, трэцяй часопіснай старонцы... Сярод парадаў лекавых увагу спыніла найбліжэйшае мне,— у аўсе, аказваецца, ёсць і сродак супраць утварэння ў венах тромбаў, а ў кухонных парадах — і наш колішні вясковы часты ды жаданы госць — аўсяны кісель, смачна чытаючы пра які — ледзь не крыўдна было, чаму ён называецца «исконно русским деревенским блюдом»,— хіба ж толькі рускім? Зрэшты, дробязь.

Дробязь таму, што пад бясконцае, мернае, апетытнае Каштанчына жаванне ярка ўспомнілася яшчэ і тое, як добра, лёгка было касіць авёс, значна лягчэй у параўнанні з касьбой жыта і пшаніцы, на бядовы дадатак яшчэ часамі і палеглых, пакручаных навальніцай. Нібы свята ў цябе аўсянае — такая работа на заканчэнне жніва. Паўвека ўжо не кашу, а памятаю, адчуваю зноў, як гэта было, і заўсёды люба гля-

дзіцца цяпер на поле аўса, што з сіва-зялёнага стаў залатым і так шчодра зярніцца гронкамі...

Звіні, каса, пад мянташкай, мякчэй хрумсці ў гусценькім, стромкім золаце! Жуй, фыркай, смакчы, вясёлая кабыліца!.. Бо гэта ж як на суровых сінайскіх скрыжалях навекі высечана ў неабвержнай, усмешлівай чэхаўскай прастаце:

«Лошади любят овес».

* * *

Даўняе, матчына: «Адзін застаўся, як тросць на пожары».

Успомніў, чытаючы ў Фёдара Янкоўскага: «Не адно, а два словы: пажар — гарыць будынак, вёска; пожар — гарыць лес, балота».

* * *

Чачотава, зямляцкае:

Едзеш, міленькі Адам,
Глядзеце, а онь, а онь...

На Карэліччыне нашай з ім яшчэ і так (пакуль што?) гаворыцца: «А оньдзека!»

* * *

Хваляць вянок санетаў крыху моднай паэтэсы.

Бог мой, часамі так доўга шукаеш, не можаш знайсці патрэбнае слова, а тут жа яшчэ і выкручвацца трэба чортведама як і навошта!..

Пяцігадовы хлопчык разам з бацькамі глядзеў па тэлевізары эстраднае, песні і танцы. Спаць хіліць, нагуляўся за дзень, ды аднаму не хочацца ісці ў пасцель. І ён пытаецца:

— Мама, і там, у Маскве, цяпер ноч?

— Ноч, сынок.

— Як і ў нас?

— Як і ў нас. А што?

— То чаго ж тыя дзядзі ды цёці не спяць, а душу сабе ламаюць?

Я спаць не заклікаю, але ж і душу дарэмна выкручваць, ламаць версіфікацыяй дарма не варта.

* * *

«Усёй душою, усім сэрцам!..»

Так часта чуецца такое, і не разабрацца, што паміж імі — душою і сэрцам — за розніца.

* * *

На жупранскіх могілках. Каталіцкае, польскае «Покуй его душы». Замест праваслаўнага, рускага «Мир праху его».

* * *

У апавяданні Талстога «Пасля балю» палкоўнік Карэйша — паляк. Не толькі іх ганялі цераз строй.

Не спатыкаў, што пра гэта пішуць палякі.

...Гасцюючы ў Варшаве, у сяброў, сказаў у гутарцы пра злыбеды часу, што і мне часамі хочацца, каб адпачыць, перабрацца на нейкую суседнюю планету. Толькі ж каб не здраджваць найраднейшаму. А посуд мыць у Амерыку, як там ні добра плоцяць за гэта, чым яны хваляцца, я не паеду.

* * *

Вясковы рыбак:

— Навалач якая толу ўкіне ў раку, аўса наробіць!.. Ну, як аўсяная мякіна, так драбяза ўсплыве...

На малькоў ды малёчкаў у нашым Загоры казалі аўсючкі.

* * *

На рыбу кажуць, што яна не здохла, а заснула. Каб не псаваць апетыту?

А пра карову-карміцельку, што яна мінулася. З удзячнай павагі?

* * *

З народнай песні пра балота — прастата, дакладнасць, вобразнасць:

> Дзе людзі не ходзяць,
> дзе птушкі не бродзяць...

* * *

Старая мінчанка, родам з-пад Пухавіч, калі яе ў гутарцы хто-небудзь пераб'е:

— Перабіў сабаку хвост — цяпер брашы сам!

* * *

У Мэндэле Мойхер-Сфорыма (аповесць «Маленькі чалавечак») такі вось класавы, сацыяльны, проста мудры народны падтэкст:

«Усё на свеце смачна з хлебам».

* * *

У газетах цяпер такія вострыя матэрыялы, столькі крутых сюжэтаў, драм, трагедый, што і белетрыстыкі не трэба,— цікавей, вастрэй не зробіш. Можна толькі глыбей. Хто зможа.

* * *

Акадэмік Радзім Гарэцкі, выступаючы на першым з'ездзе беларусаў свету, расказаў як ён, сын і пляменнік славутых Гаўрылы і Максіма, вучонага і пісьменніка, пасля нялёгкіх гадоў бадзяння па ўсім СССР, у пачатку сямідзесятых, маючы сорак тры гады, апынуўся ў Беларусі. З братам яны між сабой гаварылі на роднай мове, а ў іх пыталіся: «Вы, мусіць, пісьменнікі?»

Маладым нашым, асабліва гадоў пяць таму назад, у сваім тутэйшаўска-талакоўскім самазахапленні і агульным раскрытыкоўванні старэйшых літаратараў можна было б і дадумацца, на кім трымалася наша мова ў дні ліхалецця...

* * *

У зборніку «Шляхам гадоў» — добрая публікацыя Людмілы Мазанік пра Язэпа Пушчу, з пісьмамі да яго,— адно ад рэабілітаванага Дубоўкі, а то ўсё Бабарэкавы.— Калі абодва яны былі ў ссылцы.

Дзве Адамавы дачушкі сумавалі па дзвюх дачушках Язэпавых, што паўтаралася ў пісьмах крытыка да паэта. І гэта сказала мне штосьці новае: пакуты ссылкі і праз успрыняцце іх дзецьмі. Як ажыўляе, аціпляе тыя пісьмы Бабарэкі адно толькі слова — **бацік**! Так да яго звярталіся дочкі, «у краіне голаду і холаду» быўшы ў разлуцы з бацькам. Праца, служба бацькоў, бухгалтара і настаўніцы, раздзяляла сям'ю, жыць у адным горадзе не маглі, дзеці заставаліся пры маме, а «бацік» піша сябру:

«Знудзіліся былі без мяне. А яны вельмі ж ужо **ўбіваюцца па мне»**.

Ажно падкрэслілася — так добра гэта ў яго па-беларуску!..

Мы скардзімся на свае цяжкасці патрыётаў, а іхняе, тое, што перажывалі нашы пакутнікі, бачыцца нам здалёк, гістарычна. А гэта ж у іх рэчаіснасць была, штодзённшчына з усёй паслядоўнасцю пранікнення дзяржаўнага здзеку ў побыт сям'і, у душы паасобных людзей, дарослых і малечы. А што чакала іх усіх — пра гэта думалася і днём, і ноччу, з трывогай і страхам за сябе, за сваіх, за Беларусь. Сюды і ссылка, сюды і турма, і лагер, і «вышкі» — жахлівы канец тых, з кім расправіляліся ў трыццатых і пазней... А тое, што яны думалі, адчувалі ў перадсмяротнай самотнасці?..

* * *

Максім Гарэцкі — зноў.

І ў нядаўнія юбілейныя дні думаў пра гэта, і сёння над яго старонкамі яно паўтарылася. У жаху здзейсненага ў невядомай мне Вязьме намагаўся жыва ўявіць тую нікчэмна-страшную істоту, стрэлам якое не проста ў галаву, а ў **такую душу** было забрана ў народа **такое жыццё!..**

...Адразу, каб не забыцца:

Танк — пра «Скарбы жыцця», якія ён таксама прачытаў у «Полымі». Яны яму нагадалі «Ангэллі» Славацкага. І я

адразу ўспомніў з тэксту Максіма Іванавіч тое, што адзначыў на полі, чытаючы:

«Выехалі — сінь, гладзь, да Кіпарысаў... Санеты. Свяціла. «Смутно мі, Божэ!»

Пасля гутаркі па тэлефоне ўзяў першы том пана Юліюша і зноў перачытаў даўно знаёмае — магутны, велічны «Гімн» дваццацісямігадовага генія з тым рэфрэнам «Smutno mi, Boże!» пасля кожнай з васьмі несмяртных строф.

У паляка пад вершам паметка: «Пісаў на захадзе сонца на моры перад Александрыяй». Мора — Міжземнае. А ў беларуса — Чорнае, перад «Кіпарысамі» — Ялтай. А мне яшчэ і рускі прыгадаўся, з-над мора трэцяга — «Воспоминание» Пушкіна...

Пераклічка высокіх пачуццяў, повязь вялікага.

* * *

Факсімільнае выданне «Другога чытання для дзяцей беларусаў».

Недасканаласць... не, лепш — нераспрацаванасць нашай тагачаснай літаратурнай мовы нават расчульвае, як непісьменная, прастацкая гутарка нашых старых бацькоў. Свежая назіральнасць, веданне прыроды, любоў да яе, веданне працы (які пажар лесу!), пашана да тых, што цяжка працуюць — сапраўды народныя. Прабіваецца, чуваць падтэкстам «нравственность» семінарскага выхавання, начытанасць вялікай літаратурай.

Нават і памылкі друку, якіх мноства, гавораць пра хвалюючую беднасць роднага.

А ўсё ж і раздражняе месцамі тая мова, з якое пачыналася літаратурная, сучасная. Хоць і сёння часамі, і часта, сумна і прыкра бывае. Ды гэта ўжо ў паасобных выпадках, у таго ці іншага аўтара, дзе невуцтва ці недахоп таленавітасці.

* * *

Робэрт Кіршган, «Клан Камеронаў». Шатландскае на польскай мове, два томікі кішэннага фармату. Добрыя два дні і сёнешняя раніца ўдзячнага чытання.

Учора званіў Вітка і, між іншым, спытаўся, што я чытаю. І мы пагаварылі пра тое, як многа на свеце добрых пісьменнікаў і кніг, і як шкада (тут мы і засмяяліся), што ўсіх іх не прачытаеш, і як добра так пашыраць сваё ненаежнае веданне сапраўднай літаратуры чалавецтва.

Паглядзеў на карце Шатландыю, радзіму тых шахцёраў, з іх нялёгкім, складаным жыццём на зямлі і пад зямлёй, і яшчэ раз прыемна стала ад бясконцага па часе і разнастайнага па геаграфіі папаўнення сваёй чытацкай касы. Ад чаго не проста абагачаешся, але і дапрацоўваеш самога сябе для належнай службы роднай справе.

* * *

У «Литературной газете» — пісьмо дачкі Караленкі да Н. К. Крупскай пра голад на Украіне. Уяўлення і сэрца не хапае ўжо на глыбейшае ўспрыманне тых жахаў...

І яшчэ такое ўражанне ад пісьма Соф'і Уладзіміраўны,— глыбокая ў прастаце і душэўная без натугі розуму здольнасць пранікаць у галоўную сутнасць рэчаў, што ідзе ў яе, безумоўна, і ад высакароднага бацькі, і ад яго старэйшага сябра, Талстога,— ад тых глыбіняў чалавечнасці, якія так нялюдска, ганебна тапталіся крыважэрнымі хамамі...

* * *

Герман Гесэ. «Гульня шкляных перлаў».

Сапраўдны, а тут можна сказаць і вялікі, пісьменнік мала, а то і вельмі мала цікавіцца тым, цяжка ён чытаецца ці не цяжка,— піша сваё, як хоча, і застаецца самім сабою.

...Тое, што Сёмуха перакладае не з рускіх перакладаў, як многія «некаторыя», а заўсёды з мовы арыгінала, тут — з нямецкай, дапамагае яму не скочвацца да найлягчэйшага, а шукаць і знаходзіць чыста беларускія словы, звароты ды выверты, бяручы з народнага і месцамі ўздымаючыся да плённай словатворчасці.

(А ўсё ж і паланізмаў трохі ёсць, і ўкраінізмаў, нібы па дружбе з Караткевічам, да моднага байстручка аповяда ўключна. Праўда, толькі ў двух ці трох выпадках, з чаго мы разам па тэлефоне пасмяяліся.)

...Яшчэ калі Ёзаф Кнэхт уздымаўся, я прадчуваў у яго

далейшым лёсе падабенства да лёсу талстоўскага айца Сергія, да заканчэння той аповесці. Яшчэ жывей пра гэта нагадала цудоўнае апавяданне «Спавядальнік».

Сіла прастаты і мудрасці.

* * *

Швед Вільгельм Мобэрт, «Эмігранты», зноў жа папольску.

Палякі выдалі толькі першую кнігу гэтай тэтралогіі, тое, дзе шведская вёска мінулага стагоддзя і марское падарожжа сялян у Амерыку. Можа, пакуль што толькі першую, а можа, і так, як у іх атрымалася з Мележам: выдалі толькі «Людзей на балоце». Так думаю цяпер, пішучы, а чытаючы ўспамінаў Іванаву першую кнігу «Палескай хронікі», якая сваёй таленавітай грунтоўнасцю, душэўнай насычанасцю належна расказвае сусветнаму чытачу пра нашу часціну бязмежнага свету так, як і трэба гаварыць ад кожнага народа, ад кожнай краіны, робячы тое, што самае галоўнае— «садзейнічаць умацаванню чалавечай агульнасці, умацаванню міру і дружбы», як я днямі чуў працытаванне з Талстога.

* * *

Пра неваяўнічасць у Чорнага я ўжо даўнавата друкаваў. Не памятаю, ці запісаў дзе пра Кулакоўскага, афіцэра-франтавіка, які, як баталіст, неяк па-сялянску вяла-недалужны, што мне калісьці прыкла адчулася, як рэдактару яго рамана «Расстаемся ненадоўга».

А цяпер — даўно не ўпершыню — зноў успомнілася пацешна неваяўнічае ў дарагога дзядзькі Якуба:

Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!

Нібыта на зайцоў ісці склікае.

* * *

Артыкулы Бёля пра Салжаніцына.

З нагоды 60-годдзя рускага немец піша: «Шлю прывітанні ў Вермант — яму, яго жонцы Але, дзецям і цешчы». І гэтая ў яго, калі падумаць пра арыгінал, die Schwiegermut-

teг нагадала мне верш Ружэвіча, здаровы, мужны дыфірамб teściowej, на які я калісьці звярнуў увагу Юзіка Семяжона, і ён той верш удала пераклаў.

І такі (мой) удзел у літаратурным жыцці патрэбны, важны і прыемна ўспамінаецца.

* * *

Жывучасць, таемнасць смеху ў Гогаля!.. Уранні на свежую галаву, як зусім, зусім новае прыгадалася, што унтэр-афіцэрская ўдава «сама себя высекла», і ад такой геніяльнай недарэчнасці я молада зарагатаў у ванным пакоі, напалохаўшы гэтым сваіх.

* * *

Пасля XX з'езда партыі зусім не проста было пакідаць у перавыданнях імя Сталіна, калі хто нават і шчыра славіў яго. Рэкамендавалася замяняць тое, раней па сутнасці абавязковае, імя іншым — Леніным ці Партыяй, і рэкамендацыі такія ішлі ад рэдактараў, за якімі грозна маячылі загранатрады цэнзараў без двукосся і з імі...

Уладзіслаў Бранеўскі друкаваў сваю паэму пра Сталіна, апраўдваючыся тым, што пісаў яе — нават і пасля сваёй Лубянкі — шчыра. Аднак, гэта было не ў нас, а ў Польшчы, дзе павады і лейцы папускаліся вальней.

Тое не зусім проста сёнешнія крытыкі павінны былі б разумець і пры ўсёй сваёй бескампраміснасці ды суперпаслядоўнасці... у адносінах да іншых.

* * *

Ян Павел Другі, выступаючы ў Вільні па радыё, па-беларуску і асабліва па-руску гаварыў з выразна польскім акцэнтам. Бог тут не выручае,— папу, і літаратара ды навукоўца па сумяшчальніцтву, ратуе таленавітасць і праца над сабой, чаго яму, аднак, на ўсіх усюды не хапае.

У Польшчы чуў я ў восемдзесят сёмым: «Пан Буг ест ўшэндзе, а ойцец свенты был ўшэндзе». Толькі, на жаль, не ў нас.

Хай бы ж прыехаў, засведчыў павагу да братняй мовы — хоць і з акцэнтам! У прыклад меншым айцам.

* * *

Добра думалася, як шчыра і плённа працуе для нашай літаратуры рускі Генадзь Кісялёў, як працавалі татарын Сцяпан Александровіч, яўрэй Рыгор Бярозкін...

* * *

«Молодежь хороша как молодежь скромная, но когда она гордится собой — противна».

Прачытаўшы ў дзённіку Макавіцкага гэтыя словы Талстога, жыва пачуў бойкае шматгалоссе яшчэ аднаго пакалення моладзі, часам, здаецца, найбольш задаволенай сабою ў параўнанні з ранейшымі пакаленнямі.

* * *

На сустрэчы з чытачамі, якія часам вельмі ж любяць экзаменаваць «жывога пісьменніка», на не надта тактоўнае, а то і зусім недарэчнае пытанне можна адказаць і так:

— Дазвольце мне проста ўздыхнуць.

* * *

У «Галасах» аргенцінца Антонія Порк'я, надрукаваных «Литературной газетой» ад 22.IX.93, найлепш спыніла ўвагу такое выказванне, такі, як аўтар кажа, «спяваючы голас думкі»:

«Таго, што не стала ўспамінам, не было...»

*1949—1993*

# ЗМЕСТ

**Брыль Я.**

Б89 Вячэрняе: Лірычныя запісы і мініяцюры.— Мн.: Маст. літ., 1994.— 350 с.

ISBN 5-340-01457-6.

**У новую кнігу Я. Брыля, народнага пісьменніка Беларусі, лаўрэата Дзяржаўных прэмій увайшлі лірычныя запісы і мініяцюры, напісаныя ў розныя гады. Большасць іх у свой час не пабачыла свету з меркаванняў ад аўтара не залежных. Лірычныя запісы — гэта роздум аб часе і чалавечых лёсах, роздум над самымі вострымі праблемамі сучаснасці. Яркая народная мова, назіральнасць, уменне адбіраць трапныя дэталі — усё гэта робіць кнігу цікавай для чытачоў.**

**Б $\frac{8820600000—129}{М\ 302(03)—94}$ БЗ 23—94**

**ББК 84(4Беи)6**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**БРЫЛЬ ЯНКА (Іван Антонавіч)**

*Вячэрняе*

Лірычныя запісы і мініяцюры

Рэдактар *Т. М. Турчыняк*
Мастак *М. Р. Казлоў*
Мастацкі рэдактар *А. І. Дрозд*
Тэхнічны рэдактар *І. І. Дуброўская*
Карэктар *Я. Ф. Харко*

Здадзена ў набор 20.01.94. Падп. да друку 11.10.94. Фармат $84 \times 108^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура тып Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 18,48. Ум. фарб.-адб. 18,48. Ул.-выд. арк. 16,75. Тыраж 9000 экз. Зак. 748.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.